ЯНКА САЛАМЕВІЧ

# МІХАЛ ФЕДАРОЎСКІ

Выдавецтва «Вышэйшая школа». Мінск 1972

8С Бел
С 16

На белорусском языке

*Соломевич Иван Владимирович*

МИХАЛ ФЕДЕРОВСКИЙ

Рэдактар Ж. Васюк
Афармленне А. Шэверава
Мастацкі рэдактар В. Валянтовіч
Тэхнічны рэдактар М. Кіслякова
Карэктар В. Ганестава

АТ 12349. Здадзена ў набор 14/IV 1972 г. Падпісана да друку 22/XI 1972 г. Папера 70×90 1/32 друк. № 1. Друк. арк. 12 (14,04). Ум.-выд. арк. 12,74. Выд. № 70-113. Зак. 895. Тыраж 1000. Цана 1 руб. 47 кап.

Выдавецтва «Вышэйшая школа» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Рэдакцыя мовы, літаратуры, мастацтва. Мінск, вул. Кірава, 24.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. Мінск, Ленінскі пр., 79.

7-2-2
61-72

# УСТУП



ярод людзей, якія паклалі тытанічную працу над выяўленнем мастацкіх здабыткаў беларускага народа і тым самым прычыніліся да паўнейшага раскрыцця духоўнага вобліку беларуса перад усім светам, адно з пачэсных месц належыць Міхалу Федароўскаму.

Вядомы польскі пісьменнік Яраслаў Івашкевіч назваў яго «беларускім Кольбергам». Гэта сапраўды быў збіральнік і даследчык кольбергаўскага размаху. Выхаваны на літаратуры польскага рамантызму, захоплены ідэямі пазі-

тывістаў, ён з энтузіязмам узяўся за работу на ніве польскай этнаграфіі і фалькларыстыкі. І калі лёс праз некалькі гадоў закінуў яго на Беларусь, М. Федароўскі, заахвочаны О. Кольбергам, З. Глогерам, Я. Карловічам, усебакова і грунтоўна даследуе гэту краіну, збіраючы звесткі пра яе духоўную і матэрыяльную культуру.

Ідэяй жыцця Федароўскага стала стварэнне кнігі пра беларускі народ, вывучэнню якога даследчык аддаў больш за 30 гадоў. Першыя тры тамы фундаментальнай працы Федароўскага «Люд беларускі» выйшлі яшчэ пры жыцці фалькларыста. У іх змешчана больш за 500 казак, каля 3500 народных павер'яў, забабонаў, прымхаў, парад па народнай медыцыне і г. д. У IV том увайшло каля 10 000 прыказак, 520 загадак, каля 3000 фразеалагізмаў, тостаў, пажаданняў, кленічаў і іншых запісаў, у V і VI тамы — 4171 песня і прыпеўка. Такога багацця фактычнага матэрыялу яшчэ не ведала беларуская фалькларыстыка. Аднак лёс рукапіснае спадчыны М. Федароўскага склаўся так, што і цяпер яшчэ значная частка яе не апублікавана. Да апошняга часу ўсебакова не даследавалася і жыццё самога збіральніка — фалькларыста, этнографа, лінгвіста-лексікографа, дыялектолага, гісторыка і археолага.

Болей за дзвесце тысяч запісаў было зроблена Федароўскім — фалькларыстам і этнографам. У дваццаці тамах разлічваў выдаць іх збіральнік. Выйшла дасюль сем — ёмістых, капітальна закроеных: першы — у 1897 г., другі — у 1902, трэці — у 1903, чацвёрты — у 1935 г. Пяты том убачыў свет толькі пасля Вялікай Айчыннай вайны, у Народнай Польшчы,

у 1958 г. Затым выйшлі шосты (1960) і сёмы (1969) як дадатак да пятага і шостага тамоў. Велічная фігура Федароўскага, хоць і была запрыкмечана з выхадам першага тома, яшчэ і сёння ва ўсёй сваёй шматграннасці застаецца нераскрытай. Да крыўднага мала напісана пра гэтага выдатнага вучонага і чалавека.

Трэба адзначыць, што па заслугах важкімі былі ўжо і словы першага прызнання. Ды гаварыліся яны, аднак, не столькі пра чалавека, які даваў навуцы выключна каштоўны матэрыял, колькі пра самыя гэтыя матэрыялы [1].

Першыя ж спробы ацэнак дзейнасці М. Федароўскага з'явіліся толькі ў 50-я гады [2]. Цікавым быў біяграфічны нарыс Гэлены Казэрскай «Міхал Федароўскі, этнограф і збіральнік гістарычных дакументаў у Заходняй Беларусі (1853—1923)» [3], які напісаны на падставе пераважна архіўных матэрыялаў. Значную ўвагу ўдзяліла яна гістарычным дакументам XVII—XIX стст., што былі сабраны фалькларыстам у шляхецкіх засценках, памешчыцкіх дварах і маёнтках на Беларусі.

Некалькі артыкулаў прысвяціў Федароўскаму этнограф Ежы Дамраш, які ўваходзіў у камісію па выданні песеннай спадчыны збіральніка і пасля стаў галоўным рэдактарам V тома «Люду беларускага». Так, у артыкуле «Заўвагі на палях выдання рукапісных матэрыялаў Міхала Федароўскага» ён пісаў: «...істотнае значэнне мае пытанне, ці матэрыялы Федароўскага дакладныя і ці на тагачасным этапе развіцця польскай навукі даследчык выкарыстаў даступны яму арсенал навуковых сродкаў і метадаў, што дазвалялі сабраць і апрацаваць гэтыя матэрыялы як найлепш. Інакш кажучы,

ці этнаграфічныя крыніцы са збораў Федароўскага могуць быць гістарычным дакументам у шырокім значэнні гэтага слова, ці не»[4]. Менавіта са станоўчым адказам на гэта пытанне рэдакцыйны камітэт і прыступіў да друку песеннай спадчыны Федароўскага.

Шырэй была даследавана Е. Дамрашам навуковая праца М. Федароўскага ў артыкуле «Навуковы воблік Міхала Федароўскага (1853—1923)»[5]. Асабліва каштоўнае сцверджанне аўтара, што «дыскусія пра абагульненні Федароўскага ўяўляецца... беспрадметнай у сувязі з чыста фактаграфічным характарам яго работ», бо сапраўды М. Федароўскі быў далёкі ад тэарэтызавання.

У 1963 г. у часопісе «Literatura ludowa» (R. VII, № 1, s. 19—28) з'явіўся цікавы артыкул Рышарда Вайцяхоўскага «Беларускія народныя песні ў зборы Федароўскага і польская народная песня», напісаны ў сувязі з выхадам V і VI тамоў «Люду беларускага».

Шэраг надзвычай цікавых артыкулаў, звязаных пераважна з выданнем песень М. Федароўскага, апублікавала праф. А. Абрэмбская-Яблонская — нястомны арганізатар і кіраўнік публікацый рукапіснай спадчыны Федароўскага[6].

Некаторыя названыя даследаванні (Г. Казэрскай, Е. Дамраша, Р. Вайцяхоўскага) увайшлі ў VII том «Люду беларускага», у якім апублікаваны этнаграфічныя (Е. Дамраш), музыказнаўчыя (Я. Станшэўскі), мовазнаўчыя (С. Глінка) каментарыі, слоўнік цяжэйшых беларускіх выразаў, якія сустракаюцца ў песнях V і VI тамоў (Г. Турская), карта тых населеных пунктаў Заходняй Беларусі, дзе М. Фе-

дароўскі запісваў песні (склаў М. Кандрацюк), індэксы інфарматараў, мясцовасцей. Такім чынам, выхад VII тома меў істотнае значэнне ў больш шырокім вывучэнні багатай спадчыны Федароўскага.

Даследавалі спадчыну Федароўскага і рускія савецкія вучоныя [7]. Імя М. Федароўскага не заставалася па-за ўвагай і беларускіх вучоных, хоць спецыяльнага манаграфічнага даследавання да апошняга часу мы яшчэ не мелі. Працу нястомнага збіральніка высока ацанілі Я. Карскі ў сваіх рэцэнзіях і М. Гарэцкі ў «Гісторыі беларускае літаратуры» (Вільня, 1920, стар. 131). У 1926 г. часопіс «Полымя» (№ 5, стар. 149) паведамляў, што Інстытут беларускай культуры зацікавіўся рукапіснай спадчынай Федароўскага і вядзе перагаворы з Акадэміяй навук у Кракаве наконт яе выдання на Беларусі. Намер гэты, на жаль, не быў ажыццёўлены.

Цікавасць да асобы М. Федароўскага асабліва вырасла пасля выхаду ў Варшаве V і VI тамоў «Люду беларускага». З рэцэнзіямі на іх выступалі В. Ялатаў [8], У. Дубоўка [9], К. Кабашнікаў [10]. Пра Федароўскага ў сваіх кнігах пісалі С. Александровіч [11], В. Бандарчык [12], К. Кабашнікаў [13], Ф. Янкоўскі [14], Н. Гілевіч [15], Л. Бараг [16]. Спецыяльныя артыкулы яму прысвяцілі А. Жураўскі [17], Ф. Янкоўскі [18]. Пісала пра яго і Н. Янголь [19].

Беларускія фалькларысты, этнографы, мовазнаўцы ўсё часцей выкарыстоўваюць матэрыялы «Люду беларускага» пры даследаванні народнай творчасці, пры складанні хрэстаматый, зборнікаў і г. д. Такім чынам, даўно наспела неабходнасць шырокага, грунтоўнага вывучэн-

ня шматграннай дзейнасці Федароўскага.

У гэтай працы аўтар спрабуе разгледзець і прааналізаваць жыццёвы шлях і навуковую дзейнасць Міхала Федароўскага, звяртаючы ўвагу не толькі на яго песенную спадчыну, як гэта рабілася дасюль польскімі вучонымі, але і на казкі, прыказкі, загадкі, паданні, легенды, замовы, анекдоты. Аўтар імкнецца акрэсліць агульныя прынцыпы работы Федароўскага-фалькларыста, методыку яго палявых даследаванняў, спосаб збораў і запісаў розных фальклорных жанраў, прынцыпы падрыхтоўкі рукапісу да выдання, спецыфіку вядзення карэктуры і шматлікія іншыя пытанні збіральніцкай і выдавецкай працы Федароўскага.

Дзеля гэтага, акрамя вывучэння прац самога Федароўскага і літаратуры пра яго, давялося абследаваць 14 архіваў і рукапісных аддзелаў бібліятэк Польшчы і Савецкага Саюза.

Калі аўтар працаваў у архівах і бібліятэках Польскай Народнай Рэспублікі, яму шмат памагалі супрацоўнікі кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта на чале з праф. А. Абрэмбскай-Яблонскай, загадчыца рукапіснага аддзела бібліятэкі Варшаўскага універсітэта доктар Г. Казэрская, магістр М. Чурак, супрацоўнікі бібліятэк і архіваў Кракава, Вроцлава. Шмат памагаў і сын М. Федароўскага Мечыслаў Міхайлавіч. Усім ім, а таксама Л. Р. Барагу, Н. С. Гілевічу, В. Я. Гусеву, У. А. Калесніку, Г. В. Кісялёву, М. Р. Ларчанку, А. С. Лісу, А. А. Лойку, А. І. Мальдзісу, Ю. С. Пшыркову, І. П. Чыгрыну, Ф. М. Янкоўскаму за іх парады і дапамогу аўтар выказвае шчырую падзяку.

# ЖЫЦЦЁВЫ ШЛЯХ І НАВУКОВАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ



Буйнейшы збіральнік і даследчык духоўнай культуры беларускага народа Міхал Федароўскі нарадзіўся 1 верасня 1853 г. ў Варшаве ў мяшчанскай сям'і. Бацька яго Адольф, кашуб па паходжанні, сям'я якога ў першай чвэрці XIX ст. асела ў Княстве Варшаўскім, прымаў актыўны ўдзел у паўстанні 1863 г. і пасля мусіў эміграваць; маці — Элеанора з роду Гонсавічаў. Шлюб бацькоў Федароўскага не быў шчаслівы. Ужо ў 1866 г. бацька пакінуў сям'ю, а ў 1870 г.

як салдат-вольнанаёмнік французскай арміі загінуў у бітве пад Арлеанам.

Першапачатковую адукацыю і выхаванне Міхал атрымаў дома. Расказы дзеда пра даўнейшыя часы, пра паўстанне 1830 г. спрыялі выхаванню патрыятызму ўнука. Дзед зацікавіў яго і старымі польскімі народнымі песнямі. Здароўе малога Міхала было слабое. Вось што пісаў пазней сам Федароўскі: «З 13 гадоў, захварэўшы на туберкулёз лёгкіх, навуку я асільваў з вялікімі перапынкамі і несістэматычна, большую частку часу праводзячы на вёсцы, чым за школьнай партай. Атрымаў, аднак, не толькі грунтоўную, але і шырокую адукацыю...»[1] Вучоба выявіла выразную цягу хлопца да гуманітарных навук.

У 1870 г. М. Федароўскі скончыў чацвёрты клас мужчынскай прагімназіі з рускай мовай навучання на Лешні ў Варшаве. На гэтым фактычна кончыўся сістэматычны курс яго вучобы.

Тут варта зазначыць, што час вучобы ў гімназіі — пара самага ранняга захаплення Федароўскага фальклорам, у прыватнасці прыказкамі і фразеалагізмамі, якія ён запісваў ад варшавян[2].

Пакліканы бацькам, у 1870 г. Федароўскі спрабуе выехаць у Францыю. На граніцы яго арыштоўваюць, вяртаюць у Варшаву, устанаўліваюць над уцекачом паліцэйскі нагляд. Тым не менш гэта па-свойму актывізуе Федароўскага: узмацняе яго імкненне да ведаў. Пад кіраўніцтвам Ф. Крупінскага, былога свайго настаўніка па школе на Лешні, сцяганосца варшаўскага пазітывізму таго часу, аўтара дзвюх вядомых прац — «Будучае філасофіі» (1864) і

«Пазітыўная школа» (1868),— Федароўскі пачынае паглыблена вывучаць філасофію, літаратуру.

Маладосць Федароўскага супала з важнымі падзеямі ў гісторыі Польшчы і Беларусі. 40—50-я гады прыносяць з сабой новую магутную хвалю нацыянальна-вызваленчага руху, які, паводле слоў У. І. Леніна, меў вялікі ўплыў на абуджэнне рэвалюцыйнай свядомасці іншых народаў: «Пакуль народныя масы Расіі і большасці славянскіх краін спалі яшчэ непрабудным сном, пакуль у гэтых краінах н е б ы л о самастойных масавых, дэмакратычных рухаў, ш л я х е ц к і вызваленчы рух у Польшчы набываў гіганцкае, першаступеннае значэнне з пункту гледжання дэмакратыі не толькі ўсерасійскай, не толькі ўсеславянскай, але і ўсееўрапейскай» [3].

Міхалу Федароўскаму было дзесяць гадоў, калі ў моры крыві было ўтоплена паўстанне 1863 г. Тысячы яго ўдзельнікаў былі сасланы ў Сібір. Рамантычна-палітычныя канцэпцыі выявілі сваю неажыццявімасць, вера ў хуткае атрыманне Польшчай незалежнасці была зламана. Усё гэта стала глебай для развіцця пазітывісцкай праграмы. Пазітывісты прапагандавалі так званую «арганічную працу» ў мэтах умацавання культурна-інтэлектуальных і эканамічных сіл народа. Яны заклікалі да стварэння аграрных школ, гурткоў, да працы сярод народа і на карысць яго. Культ факту, канкрэтнай справы, эмпірычнага стаўлення да жыцця прыйшоў на змену рамантычнаму гераізму, рамантычным надзеям.

Ідэі пазітывістаў мелі ўплыў і на маладога Федароўскага. «Еўрапейскі пазітывізм,— пі-

ша Т. Вейс,— гэта перш за ўсё філасофскі кірунак. Пазітывізм у Польшчы — гэта перыяд станаўлення палітычнай, сацыяльна-эканамічнай і культурнай праграмы ў сувязі з сітуацыяй пасля паражэння студзеньскага паўстання і кампраметацыяй т. зв. палітычнага рамантызму. Таму адносіны польскага пазітывізму да заходнееўрапейскага філасофскага пазітывізму пазначаны своеасаблівым эклектызмам. Пераймалі і прыстасоўвалі да патрэб палітычнай, грамадскай, эканамічнай і агульнакультурнай праграмы тыя тэзісы пазітывісцкай філасофіі захаду Еўропы, якія маглі быць будаўнічым матэрыялам для гмаху новай культуры, які тады ўзводзілі, у адпаведнасці з гэтым вызначалі прынцыпы арганізацыі новага тыпу грамадскіх адносін і палітычнай праграмы.

Сямідзесятыя гады для польскага пазітывізму з'яўляюцца «перыядам буры і націску». У прыватнасці, захапляліся пазітывісцкай навуковасцю, эмпірызмам, індукцыянізмам. Культ дакладных навук стаў прычынай адыходу ад усялякай метафізікі, а інфільтрацыя матэрыялістычнай філасофіі, што ішла паралельна з умацаваннем філасофіі пазітывісцкай, падрыхтавала глебу для прапаганды свецкасці. Свабода сумлення, і ў прыватнасці павага да свабоды навуковых пошукаў — адна з заваёў гэтага перыяду... Культ факту, які можна праверыць эмпірычна, хуткае развіццё прыродазнаўчых навук прывяло да прызнання прымату метадалогіі гэтых навук, да спробы прыстасаваць метадалогію прыродазнаўчых навук да іншых...» [4]

М. Федароўскі, зразумела, не стаў філосафам-тэарэтыкам, не стаў ідэолагам пазітывіз-

му. Уплыў ідэй пазітывістаў на гэтага юнака (трэба мець на ўвазе, што Федароўскаму тады было ўсяго 16 гадоў!) выявіўся ў тым, што ён стаў займацца канкрэтнай справай — агратэхнікай, што ён пайшоў у народ, пачаў даследаваць рэальнае жыццё працоўных мас, іх духоўную і матэрыяльную культуру — стаў фальклярыстам і этнографам. Вось тут і праявіўся той культ працы, культ канкрэтнай справы, любоў да навукова ўстаноўленых фактаў, якія прапагандавалі польскія пазітывісты. Менавіта таму ў 1873 г. ён запісваецца вольным слухачом агранамічнага факультэта Пятроўска-Разумоўскай Акадэміі пад Масквой. Вучоба была нядоўгая. Паўторнае запаленне лёгкіх вымусіла Федароўскага праз пяць месяцаў пакінуць заняткі.

Маці і сваякі настойліва раілі хваравітаму Міхалу выбраць такую працу, якая дала б мажлівасць больш быць на свежым паветры. Яшчэ ў 1870 г. ён праходзіў сельскагаспадарчую практыку ва ўзорнай гаспадарцы Францішка Лютаслаўскага ў Драздове пад Ломжай [5], пасля ў доме прыяцеляў маці маршалкаў Швыкоўскіх на Беларусі. Тут ён упершыню сутыкаецца з беларускім насельніцтвам, яго звычаямі, абрадамі, фальклорам, а наведваючыся ў Вільню, знаёміцца з такімі збіральнікамі фальклорных і этнаграфічных матэрыялаў, як Яўстафій Тышкевіч, Вандалін Шукевіч, Люцыян Марачэўскі. Але на гэты раз на Беларусі ён быў нядоўга і хутка вярнуўся ў Варшаву.

Федароўскі падарожнічае па Польшчы, наведвае буйнейшыя гарады, аглядае старажытныя замкі, могільнікі, цікавіцца жыццём і бы-

там народа. У Кракаве ён пазнаёміўся з Адрыянам Баранецкім, стваральнікам і хавальнікам фондаў Прамыслова-тэхнічнага музея. У яго Федароўскі сустракаецца з вядомым ужо этнографам Зыгмунтам Глогерам. Яны вельмі хутка пасябравалі і пачалі рабіць сумесныя фальклорна-этнаграфічна-археалагічныя экспедыцыі па розных раёнах Польшчы.

На больш працяглы час Федароўскі затрымаўся ў Олькушскім павеце, у маёнтку Уладавіцы Міхала Палескага, спачатку як вучань і практыкант агранамічных курсаў, арганізаваных Палескім, пасля як упраўляючы яго фальварка Здоў [6].

У маёнтку М. Палескага былі добра абсталяваныя хімічныя і фізічныя лабараторыі, багатыя мінералагічныя калекцыі, збор кракаўскай флоры, 10-тысячная бібліятэка. Федароўскі скаталагаваў кнігазбор Палескага, працаваў у лабараторыях, вучыўся рабіць метэаралагічныя назіранні, выязджаў у навуковыя экспедыцыі да Заглэмбя, пад Кельцы, у Свентакшыскія горы.

Спецыяльныя веды па батаніцы, біялогіі, заалогіі, набытыя Федароўскім падчас яго заняткаў агратэхнікай, прыдаліся яму пасля, калі этнограф збіраў на Беларусі флору, рабіў зельнікі і пасылаў іх у Кракаўскую Акадэмію навук [7].

У Уладавіцкі палац з'язджаліся, пераважна з Кракава, літаратары, мастакі, артысты. Атмасфера гэтых сустрэч неўзабаве абудзіла цягу да пяра і ў самога Федароўскага. Першыя спробы, праўда, датуюцца ранейшым часам. Захаваўся, напрыклад, рукапіс «Пабудовы для свойскай жывёлы», датаваны лістапа-

дам 1870 г., калі Федароўскаму было 17 гадоў [8].

Будучы этнограф сутыкаецца з Фаустынам Свідэрскім, адным з былых рэдактараў часопіса «Wolne żarty», што выходзіў у Варшаве ў 1858—1859 гг. У 1869 г. Свідэрскі заснаваў у ваколіцах Олькуша вясёлае таварыства сатырыкаў «Кляштар бярнахаў» дзеля ажыўлення суцiхлага пасля 1863 г. у сувязі з царскімі рэпрэсіямі грамадскага жыцця, дэбатаў па справе развіцця народнай асветы, выдання часопісаў, кніг і г. д. Федароўскі стаў членам гэтай арганізацыі. Разам з З. Глогерам, таксама членам «Кляштару бярнахаў», ён удзельнічаў у краязнаўчых экскурсіях. У 1873 г. яны разам наведалі Вільню, дзе Федароўскі меў ужо добрых знаёмых. Успамінаючы маладыя гады, Федароўскі пазней пісаў: «Ад нараджэння я быў і ёсць заўсёды тыповы халерык. Сапраўдны Везувій палымнеў ва мне ў маладосці, нешта ўнутранае штурхала вечна да дзеяння, на адным месцы не мог доўга ўседзець, заўсёды несла мяне далей і далей» [9].

У 1875 г. Федароўскі разам са сваім сябрам Гадомскім, наслухаўшыся ад аднаго з афіцэраў галандскай каланіяльнай арміі экзатычных апавяданняў пра Яву і Суматру, вырашыў ехаць на гэтыя астравы. Перад ад'ездам Федароўскі едзе развітацца з Свідэрскім, які жыў непадалёку ў Мзурове. У Свідэрскага яму трапляецца невялікая (на 13 старонак) брашурка Яна Карловіча «Параднік для збіральнікаў народных твораў» [10]. Кніжачка Карловіча і вырашыла далейшы лёс Федароўскага. «Калі зараз жа ва ўступе трапілі на вочы словы пра тое,— напіша пазней Федароўскі,— што

плады народнай творчасці штодзень гінуць, што іх трэба як найхутчэй, як найлепш фіксаваць, у галаве адразу прасвятлілася і адразу прыйшла думка: якога д'ябла таўчыся па Суматрах, калі тут такое велізарнае поле для дзейнасці, столькі працы; і ўмомант выезд на каланіяльную службу быў закінуты, з дапамогаю каштоўнага «Парадніка» прыступіў да сістэматычных даследаванняў...» [11]. Так аграном зрабіўся этнографам.

Першыя самастойныя пачынанні Федароўскага на ніве этнаграфіі былі не ва ўсім удалыя. Малады даследчык разгубіўся, калі натрапіў на «звычайную скрытасць селяніна і сарамяжную нясмеласць... жыхарак сёл» польскіх. Перамагчы гэтыя цяжкасці яму памаглі парады З. Глогера, які ўжо меў вопыт работы на вёсцы. «Але на шчасце засвяціла мне зара надзеі,— піша М. Федароўскі,— калі падчас тых няўдач я атрымаў словы заахвочання ад нястомнага даследчыка мінуўшчыны і народа Зыгмунта Глогера. Ясныя і дасведчаныя яго парады былі для мяне, калі так можна сказаць, пуцяводнай зоркай, якая давяла мяне, нягледзячы на шматлікія цяжкасці, да вызначанай мэты» [12]. Міхал Федароўскі цвяроза ацаніў сістэму сваіх даследаванняў, змяніў тактыку і пачаў паволі, без спешкі, якая якраз і была прычынай першых сумнаватых вынікаў, пасоўвацца ў збіральніцкай рабоце наперад. З самага пачатку ён звярнуў асаблівую ўвагу на абрады мясцовага насельніцтва, на яго паданні. Каб лепш іх зразумець, каб запісаць аўтэнтычна, стараўся быць у самай народнай гушчы. «Што датычыцца абрадаў і паданняў,— пісаў пра гэта ён сам,— то на іх я звяр-

нуў пільную ўвагу, часта бываючы то на вечарніцах (попрадках, як іх тут называюць), то на вяселлях, хрэсьбінах, дажынках і да таго падобных аказіях»[13].

Праз два гады нястомнае працы Федароўскі даслаў на ацэнку З. Глогеру двухтомны рукапіс. Гэта была першая спроба сістэматычных даследаванняў маладога працаўніка на ніве этнаграфіі і фалькларыстыкі. Выхаду ў свет яна дачакалася толькі ў 1888—1889 гг., як I і II тамы «Бібліятэкі «Віслы» пад тытулам «Люд ваколіц Жарак, Севежа і Пiліцы, яго звычаі, лад жыцця, абрады, паданні, чары, забабоны, песні, забавы, прыказкі, загадкі і ўласцівасці мовы». З самой назвы гэтае кнігі можна заўважыць, што Федароўскі стараўся ахапіць самыя разнастайныя праявы народнага жыцця, яго быту і духоўнай творчасці, каб перад чытачом паўстаў яскравы воблік пэўнага раёна ва ўсёй яго самабытнасці. Вопыт, набыты пры збіранні матэрыялаў для гэтай манаграфіі, этнограф скарыстаў і нязмерна ўзбагаціў пры вывучэнні жыцця народа ў Заходняй Беларусі, куды ён неўзабаве трапіў. Было гэта пры такіх акалічнасцях.

У 1877 г. пасля паўгадавой службы ў арміі Федароўскі пераехаў у маёнтак Швыкоўскіх, што каля Шарашова на Пружаншчыне. Курныя хаты, селянін з драўлянай прадзедаўскай сахою, нэндза, галота і цемра, хваробы і голад, вакол балоты, дрыгва і адвечная старасвецкая пушча,— такою паўстала тагачасная Беларусь перад яго вачыма. Тут усё ішло па законах сівое мінуўшчыны, людзі жылі, строга трымаючыся няпісанага звычаёвага кодэксу, складзенага з тысяч формул, засцярог, забабонаў,

абрадаў, падпарадкоўваючыся адвечнаму правілу прашчураў «следам за дзедам». Па вёсках буялі пышным цветам цудоўныя казкі і легенды, дзівосныя паданні, вераванні, якія ў народнай памяці захаваліся яшчэ з далёкіх чассў язычніцтва. Заахвочаны О. Кольбергам і асабліва З. Глогерам, М. Федароўскі адразу ўзяўся запісваць этнаграфічныя, фальклорныя, статыстычныя матэрыялы, збіраць археалагічныя экспанаты і інш. Ва ўступе да І тома «Люду беларускага» збіральнік піша, што заходняя частка Беларусі ў тагачаснай польскай этнаграфічнай літаратуры была апісана слаба. Гэта і наштурхнула яго на думку ўзяцца за такую працу. «...Апроч нешматлікіх артыкулаў, змешчаных у «Zbiorze wiadomości do antropologii krajowej» і некаторых часопісах, а таксама некалькіх зборнікаў песень, выдадзеных раней, у нашай літаратуры больш нічога знайсці немагчыма». І ён намерыўся сам запоўніць гэты прабел.

Ужо праз некалькі месяцаў Федароўскі паведамляў З. Глогеру: «(Літоўская) Русь — гэта невычарпальная капальня старажытных песень і паданняў, а таксама адвечных абрадаў, пакрытых пылам дагістарычных часоў. Што гэта так, то больш, чым пэўна, бо калі некалькі месяцаў таму назад я прыступаў да вывучэння мясцовага люду, ужо тады падумаў, што праца мая будзе не меней, чым у тры разы абшырнейшая за тую, якую Вам уручыў (гаворка ідзе пра рукапіс «Люд ваколіц Жарак, Севежа і Піліцы».— **Я. С.**). Сёння, пазнаўшы лепш, якія гэта скарбы творчасці духу крыюцца пад шэрай світкай тутэйшага селяніна, я ўпэўнены, што калі бог здароўя і сіл

мне ўдзеліць, то гады праз два завязу Вам немалы кавалак пісаніны: дэталёвую манаграфію каралёўшчанцаў (з-пад Пружанаў), шарашоўцаў, матылянцаў (з-пад Мальча), гідуноў (з-пад Кобрына), лытвынаў (з-пад Свіслачы)» [14]. У гэтым лісце Федароўскі выкладае Глогеру свае шырокія планы этнаграфічна-фальклорных даследаванняў Беларусі: «Калі праз некалькі гадоў тутэйшыя мясцовасці даследую наскрозь, то маю непарушны намер пусціцца ў глухую Піншчыну».

З якім велізарным запалам і натхненнем Федароўскі браўся за работу, сведчыць той факт, што ўжо ў верасні — кастрычніку 1878 г. ён закончыў апісанне вясельнага абраду ў Ваўкавыскім павеце [15]. Гэта цэлая манаграфія на 144 старонках, якая паказвае вяселле беларусаў ад пачатку да канца з усімі яго рытуальнымі падрабязнасцямі. Апісанне ілюструюць 208 беларускіх вясельных песень. Чытаеш гэты манускрыпт Федароўскага, і на памяць прыходзяць словы вядомага беларускага этнографа і фалькларыста Е. Р. Раманава: «Хто быў на народным вяселлі ва ўсіх яго складаных архаічных падрабязнасцях, той з такім жа правам можа сказаць, што кожнае народнае вяселле ёсць своеасаблівая опера» [16]. Апісанне, зробленае Федароўскім, як найлепш паказвае нам гэтую «оперу» з сялянскага жыцця на Беларусі ў 70-х гадах XIX ст.

Пачаўшы работу на Беларусі, Федароўскі перш за ўсё вывучыў мову народа, з сялянамі гаварыў па-беларуску. Ён збіраў адначасова прадметы матэрыяльнай культуры (купляў іх у сялян па вёсках або на кірмашах, даставаў праз знаёмых) і рабіў запісы твораў духоўнай

культуры — беларускага фальклору. Амаль усе сабраныя матэрыялы (фальклорныя, этнаграфічныя, археалагічныя)[17] спачатку дасылаў Глогеру ў яго маёнтак Яжэва на Беласточчыне. Вандруючы з павета ў павет, Федароўскі аб'ездзіў Заходнюю Беларусь удоўж і ўпоперак. Час ішоў, папкі поўніліся новымі матэрыяламі. І амаль усе запісы рабіліся ўласнаручна. Пачынаючы з 1877 г. Федароўскі даследаваў Пружанскі, Ваўкавыскі, Лідскі, Слонімскі, Сакольскі, Беластоцкі, Бельскі, Аўгустоўскі (чатыры апошнія цяпер у межах ПНР), Гродзенскі, Вілейскі, Навагрудскі і Слуцкі паветы. Выбар павета ці ваколіцы быў найчасцей справай выпадку — вывучалася тая мясцовасць, куды закідаў збіральніка жыццёвы лёс. Але ў выніку аказалася, што ахоплена вельмі многа і нібыта планамерна. У кожным з паветаў ён знаходзіў апорныя пункты — фальваркі і маёнткі, уладальнікі якіх спрыялі даследчыку. У Слонімскім павеце Федароўскаму памагаў Канстанцін Гнаінскі — уладальнік Вішава; у Навагрудскім (ваколіцы Гарадзішча і Сталавіч) — Браніслаў Шалава-Шалевіч; у Слуцкім каля Ляхавіч — Казімір Чарноцкі, пляменнік вядомага Зарыяна Даленгі-Хадакоўскага; у Сакольскім — Ян Дзежка і інш. Да таго ж сам М. Федароўскі пры любым зручным выпадку стараўся трапіць да сялян на вяселле ці хрысціны, дажынкі або каляды, вялікдзень і г. д. Вельмі часта запрашаў ён казачнікаў і спевакоў дадому і там рабіў запісы. Федароўскі меў здольнасць прыцягваць да сябе людзей, выклікаць іх на шчырую гутарку. Гэтая рыса — вельмі важная ў рабоце збіральніка яшчэ і таму, што кожны селянін глядзеў на яго як

на пана, які «невядома для чаго» запісвае «мужыцкія» песні і казкі.

Гэтыя якасці этнографа падкрэсліваў і Глогер у адным з пісем да Яна Карловіча: «Днямі я атрымаў ад п. Міх. Федароўскага ліст з Косіна, што ў Ваўкавыскім павеце, у якім ён надзвычай сардэчна запрашае абодвух нас да сябе на цэлы месяц! Столькі часу, як ён сцвярджае, займуць археалагічныя і этнаграфічныя пошукі ў той старане... Дужа раіў бы шаноўнаму пану зрабіць экскурсію ў Яжэва, а з Яжэва разам у Косін, дзе я пару дзён, а шан. пан мог бы прабыць даўжэй. Федароўскі чалавек вельмі гасцінны і мае дар аб'ядноўваць вакол сябе людзей. На кожнае запрашэнне акружае сябе чарадою маладых і старых спявачак. Такая экскурсія прынесла б неацэнныя скарбы для музыкі з ваколіц, у якіх ніхто ніколі ўмела ані адной мелодыі не запісаў» [18].

Пры зборы матэрыялаў Федароўскі, як правіла, звяртаўся непасрэдна да сялян. У III томе «Люду беларускага» змешчаны спіс асоб, ад якіх зроблены запісы (стар. 308—310). Сярод 148 прозвішчаў, пададзеных тут, 125 асоб з сялянскага асяроддзя і толькі 23 чалавекі са шляхты ці мяшчан.

Лічачы, што толькі тыя творы народнай паэзіі маюць высокую навуковую вартасць, якія запісваюцца непасрэдна, з дакладным захаваннем усіх адценняў і асаблівасцей мясцовых гаворак, Федароўскі ў II томе «Люду беларускага» крытыкаваў сваіх папярэднікаў — М. Дзмітрыева і П. Шэйна — за няўвагу да мовы народа і шырокае выкарыстанне не зусім падрыхтаваных для гэтай справы карэспандэнтаў. Сярод славутых казачнікаў і спевакоў, ад

якіх Федароўскі запісаў сотні твораў, вылучаюцца Ян Дзежка з Сакольскага павета, Тадэвуш Мацвейчык з в. Кусінцы, Зося Жаваранак з в. Дыхнавічы, Настуля Новік з в. Навасады ў Ваўкавыскім павеце, Ян Ткачук са Студзераўшчыны, Клеменс Грыб з-пад Казлоўшчыны, таленавітая 20-гадовая спявачка Ганна Сладка з в. Спадзвілы на Гродзеншчыне і інш. З вялікай павагай гаворыць Федароўскі пра Паўліну Керсноўскую з в. Рудзевічы Ваўкавыскага павета, якую Ян Карловіч назваў «беларускай Шахеразадай». «Усебакова ведаючы вусную літаратуру народа з ваколіц Ваўкавыска, Слоніма і Пружан, яго паняцці, звычаі, вераванні і гаворкі, надораная фенаменальнай памяццю... яна была для мяне ў беларускіх справах праўдзівай энцыклапедыяй,— піша ён у I томе сваёй працы,—...а каб пахваліць яе незвычайную памяць, тут толькі ўспомню, што падала ўжо д-ру Карловічу да 300 мелодый, а гэта ледзь палова тых, якія яшчэ маюцца ў яе галаве».

Задумаўшы напісаць усебаковае даследаванне пра беларускі народ, Міхал Федароўскі запісваў усё: паданні і казкі, вераванні і забабоны, жарты і анекдоты, прыказкі і загадкі, песні і прыпеўкі, не цураўся нават фрывольных песень, прыпевак, анекдотаў, прыказак і загадак; занатоўваў самыя разнастайныя факты і здарэнні з мясцовага жыцця. Але першай любоўю Федароўскага-збіральніка з поўным правам можна назваць песню. За першае дзесяцігоддзе працы на Беларусі ён запісаў некалькі тысяч тэкстаў народных песень. Увесь гэты час ён шукаў сабе ў памочнікі музыканта, каб збіраць і мелодыі.

У 1888 г. у сувязі з выхадам у свет працы «Люд ваколіц Жарак, Севежа і Піліцы» Федароўскі завёў перапіску з Янам Карловічам. Даведаўшыся, што Федароўскі шукае музыканта для запісвання беларускіх народных матываў, Карловіч абяцае памагчы: «Знайду музыку для запісвання мелодый. Але гэта будзе да ліха каштаваць!.. Калі б пан згадзіўся пачакаць з гэтым да лета (пра што вельмі прашу), то тады гэтым заняўся б я сам, маючы прытым мілую магчымасць знаёмства з шаноўным панам» [19]. Верны свайму абяцанню, Карловіч першы раз прыехаў у Косін [20] у чэрвені 1889 г. разам з Глогерам. «Шумна і весела было ў той час,— успамінаў пазней Федароўскі,— у старасвецкіх сценах Косінскага двара. Паважны Глогер вывучаў старажытныя паселішчы і раскопваў курганы; заўсёды актыўны і так сімпатычны Юльян Талька-Грынцэвіч (Ілгоўскі) па заданні Акадэміі навук рабіў антрапаметрычныя вымярэнні; мастацтва мела свайго прадстаўніка ў асобе Ігнація Урублеўскага, ...які шмат ілюстраваных выданняў аздобіў малюнкамі тыпаў і помнікаў з наднёманскіх ваколіц» [21]. Карловіч запісваў мелодыі беларускіх народных песень. Дружба з ім працягвалася ў Федароўскага доўгія гады. Карловіч шмат памагаў этнографу, заахвочваў яго да працы, друкаваў у часопісе «Вісла», які сам рэдагаваў, фальклорна-этнаграфічныя працы Федароўскага.

З 16 да 21 ліпеня 1891 г. ў Кракаве праходзіў з'езд прыродазнаўцаў і дактароў. Запрошаны Янам Карловічам, Міхал Федароўскі прыехаў туды толькі 20 ліпеня на агульнае пасяджэнне і закрыццё з'езду. Карловіч пас-

ля з'езду на пяць дзён астаўся ў Кракаве і пазнаёміў Федароўскага з многімі вядомымі людзьмі. Яны разам аглядалі музеі, Ягелонскую бібліятэку, дзе сам яе дырэктар Эстрайхер даваў тлумачэнні, любоўна паказваў рэдкія кнігі, каштоўныя творы мастацтва; наведвалі многія грамадскія ўстановы, штодзённа хадзілі ў Акадэмію навук. На адной з сустрэч у Акадэміі навук, удзельнікамі якой былі Карловіч, Дзікштайн, Быстрань, Маліноўскі, Асоўскі, Міхал Федароўскі пазнаёміўся з Францішкам Багушэвічам. У 1891 г. Багушэвіч выдаваў у Кракаве сваю першую кніжку вершаў «Дудка беларуская». Магчыма, што ён і быў у гэты час у старажытным польскім горадзе менавіта па справах, звязаных з выданнем гэтага зборніка.

З Кракава Федароўскі накіроўваецца ў падарожжа па Польшчы. У гэты час ён і сустракае музыку, які згаджаецца, па словах фальклэрыста, быць яго «неадступным таварышам у пагоні праз лясы, бары і заполлі Беларусі за беларускай песняй, што ўцякае ў краіну забыцця». Музыкам гэтым быў Іаахім Трачык. Пазней пра яго Федароўскі пісаў: «З паходжання гураль... аблічам вельмі нагадваў украінскага паэта Тараса Шаўчэнку... Музыка-самавук, кампазітар, які іграў літаральна на ўсіх інструментах, акрамя таго літаратар, паэт, спявак, мастак, фатограф па прызванні, незраўнаны жартаўнік... Да ўсяго гэтага трэба дадаць, што дзякуючы сваёй фенаменальнай памяці быў сапраўднай скарбніцай вуснай літаратуры народа з родных старон. ...Сын бедных каморнікаў, да 15-га года жыцця непісьменны, пасвіў у гарах скаціну. На-

патканы неяк пробашчам, калі выцінаў свае творы на выструганай самім скрыпачцы, і ўзяты ім у клябаню, ужо праз некалькі месяцаў ён замяніў памерлага арганіста. Праз год, прагны вучыцца, едзе ў Кракаў з пляменнікамі ксяндза, якія яго за канікулы навучылі чытаць, і там, абслугоўваючы на станцыях багатую моладзь, з яе падручнікаў горача хапае веды. І вось праз 6 гадоў, пераскокваючы часам па 2 класы, здае экзамен на атэстат сталасці і канчае семінарыю як настаўнік. Стаўшы нарэшце студэнтам Львоўскага палітэхнічнага інстытута, праз 4 гады, ужо як інжынер, выязджае за мяжу на кошт дзяржавы.

Я спаткаўся з ім першы раз зусім выпадкова, у Пінчоўскім (павеце), дзе ён быў хатнім настаўнікам. Заахвочаны мною, ён цэлымі гадамі пастаянна як семінарыст і студэнт палітэхнікі прыязджаў у час святочных або адпускных канікулаў і, ездзячы са мною, ...запісаў каля 2-х тысяч мелодый на прасторах сямі паветаў, пачынаючы ад граніц Кангрэсоўкі ажно да брамаў Слуцка» [22]. Паўторна Карловіч прыехаў у Косін у кастрычніку 1891 г. з І. Трачыкам. Мелодыі запісвалі разам. З гэтага часу Трачык, пакуль вучыўся ў Львове, прыязджаў да Федароўскага летам і ў дні канікул. Вандруючы па беларускіх вёсках, яны збіралі і тэксты песень і народныя матывы.

* * *

Размах збіральніцкай працы Федароўскага быў сапраўды грандыёзны. Разам са зборам фальклорных і этнаграфічных матэрыялаў, адначасова з даследаваннем духоўнай і матэ-

рыяльнай культуры народа і засцянковай шляхты ён, будучы ў пастаянным кантакце з Кракавам, адразу як супрацоўнік Фізіяграфічнай, а пасля Антрапалагічнай камісіі Акадэміі навук вывучаў флору Беларусі, а складзеныя зельнікі і апісанні дасылаў у Акадэмію навук. Як прадстаўнік Кракаўскага Таварыства аховы помнікаў культуры і мастацтва на Беларусі Федароўскі аглядаў касцёлы, палацы, бажніцы, збіраў кнігі, дакументы з старых родавых архіваў, раскопваў курганы, старажытныя паселішчы, могільнікі, сістэматызаваў шматлікія матэрыялы да археалагічнай карты дагістарычнай Беларусі. Здабытыя экспанаты — археалагічныя, этнаграфічныя, прыродазнаўчыя, графічныя, розныя прадметы з паўсядзённага жыцця беларускага селяніна — перасылаліся звычайна ў тагачасны дэпазіт З. Глогера ў Яжэва (археалагічных экземпляраў каля 11 тысяч[23], этнаграфічных — каля 1000 і г. д.), а дублеты складваліся ў Музеі Дзедушыцкіх у Львове (этнаграфічныя)[24], у Варшаўскім Музеі прамысловасці і сельскай гаспадаркі (этнаграфічныя і археалагічныя), у Краязнаўчым таварыстве (этнаграфічныя і палеанталагічныя), ва Ураніі (графіка), у Публічнай бібліятэцы (кнігі і графіка), у Нацыянальным музеі ў Кракаве (археалагічныя), у Музеі Таварыства сяброў навук у Вільні. Археалагічную калекцыю з часоў каменнага веку Федароўскі перадаў у аддзяленне Этнаграфічнага музея Рускага Геаграфічнага таварыства ў Троіцкасаўску (цяпер г. Кяхта ў Бурат-Мангольскай АССР).

З часам, аднак, Федароўскі абмежаваў абсяг сваіх навуковых даследаванняў. Па-пер-

шае, неставала часу, па-другое — матэрыяльных выдаткаў. Этнограф усе даходы, якія давала яму гаспадарка, траціў на паездкі і навуковыя даследаванні. Матэрыяльную ж падтрымку ад дзяржаўных навуковых устаноў атрымліваў рэдка[25]. У 1902 г. ён пісаў да Вандаліна Шукевіча: «Калі ж, нарэшце, пасля доўгіх год агляну ўся, што археалагічныя даследаванні забіраюць у мяне нязмерна многа часу, сіл і сродкаў без якіх-небудзь відочных вынікаў, то астыў і цяпер не з ранейшым запалам, а толькі пры выпадку збіраю матэрыялы да археалагічнай карты і больш нічога на гэтай ніве не раблю»[26].

Яшчэ ў 1891 г. М. Федароўскі здаў у выдавецтва Акадэміі навук у Кракаве рукапіс I тома «Люду беларускага». Канец гэтага года і ўвесь наступны ён аддаў далейшаму збору і падрыхтоўцы да друку беларускіх народных казак. Ужо ў канцы 1892 г. ён паслаў Я. Карловічу рукапіс II тома, а пасля III, якія былі перададзены ім у Акадэмію навук. Выданне іх з-за нястачы сродкаў зацягнулася.

У 1892 г. Міхал Федароўскі ажаніўся са Стафаніяй Бітнер, дачкою памешчыка з Келецкага ваяводства. Жаніцьба звузіла размах збіральніцкай працы этнографа. Яго цесць, Здзіслаў Бітнер, спадзяваўся, што Федароўскі, ажаніўшыся, закіне этнаграфію і зоймецца гаспадаркай. У адным з лістоў[27] ён настойліва адгаворваў «каханага Міхася» ад яго ранейшых заняткаў, якім той ужо аддаў 15 гадоў, у якіх бачыў увесь сэнс свайго жыцця. Была яшчэ адна прычына адмоўнага стаўлення да маладажона: «Жонка з цесцем,— як піша Г. Казэрская,— пагардліва і непрыязна адно-

сіліся да беларускага народа, ім былі ненавісны навуковыя працы Федароўскага»[28]. Але Міхал Федароўскі адступіцца ад улюбёнай справы не мог. Свайго часу ў папках Федароўскага чакала яшчэ мноства самых разнастайных матэрыялаў: не былі апублікаваны песні, прыказкі, загадкі; матэрыялы з лексікі дыялектаў беларускай мовы, якім збіральнік надаваў вялікае значэнне і якія ён намерваўся выдаць як дапаўненне да вядомага слоўніка І. Насовіча; чакалі свае чаргі шматлікія апісанні абрадаў і звычаяў, пабудоў і сялянскага гаспадарчага інвентару, хатняга начыння, розных прылад працы і іншыя, не гаворачы пра этнаграфічныя і археалагічныя экспанаты Федароўскага, якія маглі аздобіць залы любога музея. Пакуль Варшава не мела такога музея, яны адлежваліся ў глогераўскім маёнтку. Але ў 1888 г. ў Варшаве адкрыўся Этнаграфічны музей[29]. Сабраныя матэрыялы ўжо было дзе размяшчаць.

Яшчэ ў 1889 г. пасля наведання Косіна Ян Карловіч пісаў: «Я меў магчымасць навочна пераканацца ў мностве этнаграфічных матэрыялаў, сабраных Федароўскім з паветаў Ваўкавыскага, Кобрынскага, Пружанскага, Сакольскага, Слонімскага, Слуцкага, Навагрудскага і Лідскага. Ён сабраў некалькі тысяч беларускіх песень, якія спявае тамтэйшы люд, запісаў сотні паданняў і казак, вераванняў і забабонаў, прыказак і мясцовых выразаў, а апрача гэтага, сабраў калекцыю, якая налічвае некалькі соцень розных этнаграфічных экспанатаў (убранне, абсталяванне, прылады, аздобы, забаўкі і г. д.) і якія ён ахвяраваў шаноўнаму З. Глогеру. Калі мы ў сваіх надзеях

не памыляемся, цудоўная гэта калекцыя ў хуткім часе аздобіць залы Этнаграфічнага музея ў Варшаве.

Апрача гэтага,— прадаўжаў Я. Карловіч,— п. Федароўскі ад некаторага часу рупліва раскопвае дагістарычныя насыпы і магілы і шукае так званых крэмневых стаянак. Яму ўжо ўдалося назбіраць немалую колькасць археалагічных знаходак, якія ён таксама ахвяраваў пану Глогеру»[30].

Надзеі Карловіча апраўдаліся. 12 лютага 1893 г. Федароўскі выслаў у Варшаўскі Этнаграфічны музей багацейшую калекцыю паясоў, сабраных ім на тэрыторыі трох паветаў Заходняй Беларусі[31]. Яна налічвала 147 экземпляраў: з Ваўкавыскага павета — 126, з Сакольскага — 18, Слонімскага — 3.

90-я гады XIX ст. былі ў Федароўскага перыядам інтэнсіўнай збіральніцкай і даследчыцкай працы. Перасяліўшыся на Слонімшчыну, ён глыбей вывучае мясцовыя і суседнія ваколіцы. Збіральнік запісвае разам з І. Трачыкам мелодыі народных песень, апісвае мясцовае ткацтва і ганчарства, народныя музычныя інструменты, рыбалоўства, паляванне, цяслярства, гадоўлю свойскай жывёлы, кавальства, вясковае будаўніцтва, занатоўвае лексіку мясцовых гаворак, запісвае некалькі батлеечных спектакляў на Слонімшчыне і ў Ваўкавыскім павеце[32], робіць фатаграфіі беларускіх тыпаў, выступае ў друку[33].

У другой палове 90-х гадоў Федароўскі выбіраецца членам шматлікіх навуковых устаноў і таварystваў: Этнаграфічнага таварыства ў Львове (1896)[34], Антрапалагічнай камісіі Акадэміі навук у Кракаве (1899), Польскага края-

знаўчага таварыства, Нумізматычна-археалагічнага таварыства ў Кракаве, Таварыства прыгожых мастацтваў у Вільні [35] і інш.

Інтэнсіўная збіральніцкая, навуковая і выдавецкая праца прывяла да таго, што Федароўскі поўнасцю занядбаў гаспадарку і апынуўся перад фактам разарэння. Гады на пераломе XIX і XX стст. не былі шчаслівыя ў жыцці Федароўскага. Акрамя няшчасцяў у сям'і — ад заразных хвароб паміраюць трое яго дзяцей [36], на некалькі гадоў ён разыходзіцца з жонкаю [37],—на галаву Федароўскага спадаюць яшчэ і гаспадарчыя беды: вада залівае палі і сенажаці маёнтка Падоль. Можна толькі здзіўляцца, як у такім стане этнограф працягваў працаваць, даследуючы «каханую Беларусь».

У 1902 г. да Федароўскага ў Падоль прыехаў Юзаф Такаржэвіч, які пражыў тут паўтара года. Такаржэвіч — удзельнік студзеньскага паўстання, эмігрант, які ў 1870 г. у Парыжы зрабіў цікавую спробу выдаваць польска-беларуска-літоўскі часопіс «Змова» [38], рэдактар левага эміграцкага часопіса «Гміна», стаў сардэчным другам Міхала Федароўскага. Яны пачалі супольныя этнаграфічныя даследаванні. Але гаспадарка ішла да заняпаду, і Федароўскі павінен быў прыняць канчатковае рашэнне. Ужо ў 1903 г. ён збіраецца выехаць на Шлёнск або ў Варшаву, пра што паведамляе ў лісце да Гераніма Лапацінскага [39]. Як цяжка было яму расставацца з Беларуссю, з любімай прафесіяй этнографа-збіральніка, сведчаць лісты, пісаныя ў гэты перыяд. «Цяпер, карыстаючыся з нядоўгага ўжо побыту ў гэтых краях, я ўсе вольныя хвіліны аддаю папаўненню маіх этнаграфічных нататак» [40],—

піша ён 24 лістапада 1903 г. з Падоля. А на прапанову Г. Лапацінскага астацца на Беларусі, каб закончыць «Люд беларускі», піша: «Клапоцячыся пра лёс мае «Русі Літ(оўскай)», радзіць мне пан надалей астацца над Нёманам. На жаль, гэта немагчыма — ходу назад няма. Падольскія лугі і нівы на прасторы некалькіх міль ужо два гады, як пад вадою: Страціўшы больш дзесятка тысяч, не магу, маючы дзяцей, рызыкаваць больш: каб уратаваць рэшткі, выбірацца трэба як найхутчэй. Калі лёс не паскупіцца мне на жыццё, манаграфія будзе закончана: гэта ідэя, да якой я прывязаўся болей, чым да жыцця. Для мае працы не будзе з-за гэтага найменшай школы: наадварот, развітаўшыся з гэтым пеклам без агню, я буду магчы з большым напружаннем працаваць у замілаванай галіне. З фазы збірання я выйшаў некалькі гадоў таму, а з нататак можна будзе апрацаваць найменш як яшчэ дзесяць ёмістых тамоў «Люду»[41].

У 1904 г. Міхал Федароўскі мусіў пакінуць Беларусь, дзе пражыў 27 гадоў. «Прыйшлося яму развітацца з краем, з якім сябе так моцна звязаў, так як не жыў па-за народам, а ўвайшоў у яго. На народ заўсёды глядзеў са становішча інтэлігента і памешчыка, аднак меў глыбокую павагу да самабытнасці беларусаў як народа, далёкі ад якіх-небудзь намераў паланізацыі яго»[42],— піша Г. Казэрская.

* * *

У канцы 80-х гадоў праз Яна Карловіча Федароўскі наладзіў сувязь з Акадэміяй навук у Кракаве, якая выказала гатоўнасць надру-

каваць сабраныя ім матэрыялы. Збіральнік разлічваў, што яго праца будзе складацца з 10 вялікіх тамоў. Ужо ў 1886 г. ён меў падрыхтаваныя да друку чатыры серыі (шэсць тамоў), кожная з якіх на ўзор вядомых прац Кольберга змяшчала ўсебаковую манаграфію аднаго павета (Ваўкавыскі, Слонімскі, Лідскі і Сакольскі), пачынаючы ад фізіяграфіі, прагісторыі, характарыстыкі фізічных і духоўных рысаў народа, асаблівасцей пабудоў, сельскагаспадарчага інвентару сялян, абрадаў, фальклору і канчаючы асаблівасцямі мовы.

Ад прафесара Ягелонскага універсітэта Ізідара Капярніцкага з Кракава ў 1889 г. Федароўскі атрымлівае пісьмо з паведамленнем, што Акадэмія навук згодна, нягледзячы на колькасць тамоў, выдаваць штогод па чарговым томе яго працу. Але выдавецтвам, у прыватнасці І. Капярніцкім, была пастаўлена ўмова: асобныя тамы павінны змяшчаць не пэўныя правінцыі, паветы, губерні, як у Кольберга, а канкрэтныя раздзелы матэрыялаў з усёй тэрыторыі Заходняй Беларусі, даследаванай і апісанай этнографам. Напрыклад, т. I: Фізіяграфія, гісторыя, фізічныя і духоўныя рысы беларускага народа; т. II: Вера і вераванні; т. III: Паданні, казкі і г. д. і апошні том — моўныя асаблівасці і слоўнік.

І. Капярніцкі, хоць і атрымаў ад Федароўскага падрабязны план 10-томнай манаграфіі, але не ўяўляючы сабе, якія шматлікія матэрыялы сабраў этнограф, пісаў 7 лістапада 1889 г. Яну Карловічу: «Колькасць тамоў гэтай працы, хоць бы і была адпаведных памераў у рукапісе, як мне здаецца, далёка не дойдзе да дзесяці тамоў, а абмяжуецца 4-ма ці 5-цю най-

больш. П(ан) Федароўскі, здаецца, разлічвае на друк буйнейшы і меншы фармат, а мы не будзем выдаваць інакш, як у фармаце «Zbioru wiadomości...» і тым жа сціслым шрыфтам боргес. Прытым, як мы ўжо пастанавілі выдаваць тамы не менш за 20 і не больш або мала што большыя за 30 аркушаў, то, здаецца мне, што ўся праца можа зменшыцца да трох ёмістых тамоў, кожны як асобнае цэлае пад тытуламі больш ці менш такімі:

1-шы. Люд беларускі з ваколіц NN, яго быт, абрады і звычаі. У яго ўвайшлі б запраектаваныя Федароўскім... тамы 10-ты, 5-ты і 6-ты.

2-гі. Люд бел. з ваколіц NN, яго вераванні, варажба, чары і паданні... У яго ўвайшлі б прапанаваныя тамы 4-ты, 2-гі, 3-ці.

3-ці. «Люд беларускі і г. д., яго песні, прыказкі, загадкі і мова» змесціць тамы: 7-мы, 8-мы, 1-шы і 9-ты»[43]. У канцы пісьма Капярніцкі гаворыць, што ўсе матэрыялы, якія адносяцца да папярэдніх тамоў і будуць сабраны аўтарам пасля іх надрукавання, можна будзе змясціць у дадатку да апошняга тома. Час паказаў, як памыляўся Капярніцкі ў сваіх прагнозах. Але іншага выйсця не было, і трэба было прыняць прапанову выдавецтва.

Падрыхтаваныя да друку шэсць тамоў трэба было перарабляць. І Міхал Федароўскі засеў за гэтую нялёгкую працу адразу. Вось што піша ён сам: «Пачасаў я лабаціну, бо работа была не абы-якой, але ж у той час я яшчэ не меў на карку сарака (гадоў), а на мяне працавалі парабкі, конюхі, коні, валы... адразу ж тады засеў за гэтую працу і праз два гады манаграфіі, якія складаліся з шасці тамоў, да рэшты перарабіў. Аднак два першыя тамы, якія

змяшчалі ўсебаковыя звесткі тапаграфічна-этнаграфічна-статыстычныя і г. д., што датычыліся Русі Літоўскай, з-за недахопу ілюстрацыйнага матэрыялу... былі адкладзены на заканчэнне выдання, але затое было вырашана друк пачаць з Веры і Вераванняў» [44]. Першы том, рукапіс якога Федароўскі даслаў у Акадэмію навук ужо ў 1891 г., убачыў свет толькі праз сем гадоў, называўся ён — «Люд беларускі на Русі Літоўскай. Матэрыялы да славянскай этнаграфіі, сабраныя ў 1877—1891 гг. Міхалам Федароўскім. Т. І. Вера, вераванні і забабоны люду з ваколіц Ваўкавыска, Слоніма, Ліды і Саколкі». Пасля ўступу, дзе аўтар расказвае пра сваю збіральніцкую працу, характарызуе заходнюю групу беларускага народа, апісвае асаблівасці мясцовых гаворак, падаецца бібліяграфічны спіс прац па беларускай міфалогіі на рускай і польскай мовах храналагічна ад 1816 да 1896 г. Том распадаецца на дзве часткі.

Частка першая складаецца з дзвюх кніг. І. Вераванні ўвогуле: а) боствы (бог і святыя); б) дэманы: чорт і відмы, людзі, якія валодаюць дэманічнымі ўласцівасцямі, і міфічныя звышнатуральныя істоты, розныя персаніфікаваныя з'явы, метамарфозы. II. Вераванні, звязаныя з прыродай і чалавекам.

Другая частка — «Культура» — разбіта аўтарам на тры раздзелы: 1. Рэлігія: а) этыка (адносіны чалавека да прыроды, духоўнага свету, да людзей і сябе самога), б) культ (ушанаванне прадметаў і багоў); 2. Звычаі (сямейныя, таварыскія, юрыдычныя); 3. Гаспадарчы і прамысловы занятак насельніцтва. У канцы Федароўскі дае спіс 217 лекавых раслін, пры-

WYDAWNICTWO KOMISYI ANTROPOLOGICZNEJ
Akademii Umiejętności w Krakowie.

# LUD BIAŁORUSKI

## NA RUSI LITEWSKIEJ.

MATERYAŁY DO ETNOGRAFII SŁOWIAŃSKIEJ
[illegible]

PRZEZ

MICHAŁA FEDEROWSKIEGO.

TOM I.
Wiara, wierzenia i przesądy ludu z okolic Wołkowyska, Słonima, Lidy i Sokółki.



W KRAKOWIE.
NAKŁADEM AKADEMII UMIEJĘTNOŚCI.
[illegible]
1897.

Тытульны ліст першага тома «Люду беларускага»

водзячы іх назвы па-латыні і мясцовыя. Алфавітны прадметны паказальнік дае магчымасць лёгка арыентавацца ў велізарным матэрыяле. Усіх запісаў у першым томе 2835.

Як піша аўтар у прадмове да першага тома (стар. X), «да гэтай працы ўпершыню... дастасавана ўкладанне (матэрыялу), якое грунтуец-

ца на філасофскай класіфікацыі і вывадах Яна Карловіча, выкладзеных на з'ездзе фалькларыстаў у Стакгольме ў 1889 г.» Што ж гэта за класіфікацыя?

Сфера філасофіі і міфалогіі, гаворыць Я. Карловіч, супольная. Міфалогію ён акрэсліваў як збор адказаў першабытнага чалавека на пытанні пра пачатак, узаемасувязі, мэту і прызначэнне ўсіх рэчаў пачуццёвых і разумовых. Таму ён раіў класіфікаваць міфалогію, узяўшы за ўзор якую-небудзь філасофскую сістэму. Не ад багоў пачаўся перыяд міфічнага мыслення чалавецтва. Паняцце бога і боства з'яўляецца адносна познім. Апярэдзілі яго ўяўленні значна прасцейшыя, грубейшыя, прымітыўнейшыя,— даводзіў Я. Карловіч.

Як бачым з пададзенага зместу першага тома «Люду беларускага», М. Федароўскі адразу таксама пайшоў за традыцыйнымі поглядамі на міфалогію. У самым пачатку ён змясціў раздзел «Бог і святыя». І толькі пад уплывам рэферата Карловіча з другой паловы першага тома ён пачаў увесь матэрыял размяркоўваць паводле новага прынцыпу, трымаючыся «філасофскай класіфікацыі». Матэрыялы Федароўскі падае амаль без тлумачэнняў, абмяжоўваючы сваю задачу роляй «прадметнага ўкладальніка». Каб чытач мог рабіць параўнанні, аўтар усе варыянты паданняў, вераванняў, звычаяў ставіць побач, адзначаючы мясцовасць, адкуль яны паходзяць. Некаторыя рэцэнзенты гэта нават ставілі яму ў заслугу. Напрыклад, вядомы ўкраінскі этнограф і фалькларыст У. Гнацюк пісаў: «Аўтар не робіць у ёй (у сваёй працы.— **Я. С.**) розных галаваломных штук, як гэта рабіла багата этнографаў, асабліва ка-

лі яны паглыбляліся ў тлумачэнне народных вераванняў, сядаючы кожны на свайго асабістага коніка фантазіі...»[45] Аднак падзел матэрыялаў у першым томе атрымаўся не зусім удалы. Назваўшы матэрыялы тома вераваннямі і забабонамі, аўтар змясціў тут шмат разнастайных казак, бо героямі ў іх з'яўляюцца чараўнікі, розныя міфічныя істоты; трапляюцца ў томе таксама замовы, легенды, народныя апавяданні і г. д. Зразумела, што меркаваць пра народныя вераванні на падставе казак можна не заўсёды, бо казкі не з'яўляюцца прадметам народнай веры. Яны былі для народа пераважна фантастыкай, тады як павер'і з'яўляліся сапраўднасцю, у рэальнасць якой людзі шчыра верылі.

У казках аднолькавага тыпу дзейныя асобы мяняюцца, а таму М. Федароўскі мусіў змяшчаць іх у розных раздзелах. Напрыклад, у казцы 489 мароз дае чалавеку дзівосную торбачку, якая ўсіх карміла. Калі яе забраў пан, то мароз дае другую, з якой выскокваюць хлопцы з бізунамі і правучваюць пана і яго гасцей. Гэта казка змешчана Федароўскім у раздзеле «Прырода» толькі таму, што яе героем з'яўляецца мароз. Але такога ж тыпу казка 287 змешчана ў раздзеле «Чараўнік», бо ў ёй выступае вядзьмар. Як пісаў у сваёй рэцэнзіі Я. Ф. Карскі, «пра погляды збіральніка на тыя ці іншыя прадметы мы можам часткова меркаваць па тых рубрыках, у якія ўстаўлены здабытыя звесткі. У гэтых адносінах п. Федароўскі, відаць, мала знаёмы або зусім не знаёмы з рознымі даследаваннямі па народнай паэзіі і вераваннях, якія паявіліся ў Расіі, напрыклад з работамі Патабні, Сумцова, акад. Весялоў-

скага і інш.: інакш ён не змясціў бы ў аддзеле беларускіх бостваў наступных: Каляда, Лада, Купала, Яшчур (стар. 106—107) ці ў ліку міфічных асілкаў не назваў бы Кацігарошка (110), Нязнайку (113), Адзінюка (116) і інш.»[46]

Першы том «Люду беларускага» атрымаў высокую ацэнку ў навуковым свеце. Пра яго пісалі ў польскім, рускім, украінскім, чэшскім перыядычным друку. Антрапалагічная камісія пачынае шукаць сродкаў, каб прадоўжыць выданне. 30 снежня 1899 г. за подпісам кіраўніка Антрапалагічнай камісіі праф. Н. Цыбульскага ў Галоўнае Праўленне Кракаўскай Акадэміі навук было пададзена прашэнне з просьбай знайсці адпаведныя фонды для надрукавання наступных тамоў працы Федароўскага. Гэтыя захады мелі свой вынік: другі том выйшаў з друку ў 1902[47], а трэці ў 1903 г.

Змест другога тома складаюць казкі. Усіх запісаў тут 410 з тых самых, што і ў першым томе, паветаў. Размешчаны яны наступным чынам. I. Жывёльны свет (Thierepos). Казкі, у якіх выступаюць: а) толькі жывёлы: муха, шэршань, сава, мыш, заяц і жаба, каза і воўк, певень, кот і ліса, певень, баран і вол (1—13); б) жывёлы і людзі: верабей, певень і курыца, каза, ліса і воўк, ліса і вуж, сабака, мядзведзь, леў, голуб, камар (14—36, 385—388); в) жывёлы і духі: чорт і кот (37). II. Свет фантастычны (міфічныя істоты і звяры са звышнатуральнымі ўласцівасцямі): а) жывёлы, што гавораць (38—46); б) жывёлы, што гавораць, і міфічныя істоты (47—60, 389); в) звяры, міфічныя істоты і асілкі (61—68, 390); г) сумесь: дрэвы, што гавораць, дудка, што спявае, гаючая, жывая і

мёртвая вада і г. д. (69—83, 391—393). III. Духоўны свет: а) чалавек (84—93, 394—400); б) персаніфікаваныя істоты — хваробы, смерць і г. д. (94—103); в) людзі-духі (чарадзейства: знахары, ведзьмы) (104—170); г) духі, відмы, боствы (171—300, 401—403); д) бог, святыя, папы і ксяндзы (301—349, 404); е) паданні пра пэўныя мясцовасці (350—384, 405—410).

Як піша Федароўскі ў прадмове да другога тома (стар. VIII), «паданні, змешчаныя тут (за выключэннем хіба тых наіўных баек, якія ў 1-м раздзеле ўтвараюць звярыны эпас), што ахопліваюць свет, поўны цудаў і незвычайнасцей, з'яўляюцца ўласна дапаўненнем да першай часткі папярэдняга тома. Многія з іх, а ўласна ўсе без выключэння легенды і міфы, аж прасяцца, калі можна так сказаць, каб іх туды паўсоўвалі; што я гэтага не зрабіў, тым толькі тлумачыцца, што ўсе яны былі запісаны ўжо пасля апрацоўкі 1-га тома». Так, расказы пра знахароў, ведзьмаў, чараўнікоў (аддзел III, раздзел 3) павінны былі б быць у першым томе, дзе ішла гаворка пра людзей, якія валодаюць дэманічнымі ўласцівасцямі. Таксама прыводзіліся ўжо ў першым томе расказы пра бога, святых, чорта і казкі пра міфічныя звышнатуральныя істоты. Няўдала размешчаны і асобныя казкі. Так, да раздзела пра звяроў невядома чаму трапілі казкі пра людзей (36—37). У трэцім аддзеле казка 150 абсалютна аналагічная 49 з другога аддзела, што адзначае і сам Федароўскі.

Прафесар І. Поліўка, вядомы чэшскі славіст, зазначыў, што сама назва казак другога тома («фантастычна-міфічныя») недастатковая для адрознення гэтых казак ад простых наве-

лістычных апавяданняў [48]. Я. Карскі [49] раіць увесь матэрыял размяшчаць па казачных сюжэтах, што найбольш рацыянальна. Тады жывёльны эпас выдзеліўся б у адну групу, казкі з неадушаўлёнымі прадметамі — у асобную, духі — у асобны аддзел, а казкі пра чалавека склалі б адно цэлае, злучыўшыся разам. І. Поліўка ўказаў на яшчэ адзін недахоп запісаў М. Федароўскага: адсутнасць звестак пра інфарматараў. Паведамленне імён і месца запісу яшчэ нічога не гаворыць чытачу і даследчыку. А звестак пра ўзрост апавядальнікаў, іх пісьменнасць, заняткі, адлучэнне з пэўнае мясцовасці на працяглы час Федароўскі не дае.

У трэці том увайшлі гістарычныя і мясцовыя паданні, апавяданні з паўсядзённага жыцця і гумарыстычныя. Ёсць тут і казкі, і анекдоты. Сюды этнографам былі далучаны матэрыялы, сабраныя, акрамя пералічаных паветаў, у Слуцкім і Навагрудскім.

У кастрычніку 1885 г. М. Федароўскі пісаў: «Нельга мне твораў хоць бы на першы погляд малаважных і нязначных апускаць, а тым больш зацямняць іх змест і ўвогуле характарыстычныя бакі падпраўленнем і падгладжваннем выразаў» [50]. Гэтага правіла ён трымаўся. Таму метады запісаў Федароўскага былі перадавыя ў параўнанні з метадамі яго папярэднікаў і сучаснікаў. Этнограф не перадрукоўваў ужо апублікаваных тэкстаў, што рабілі многія тагачасныя фалькларысты і этнографы, напрыклад О. Кольберг, П. Шэйн; у яго не сустракаем няправільных тлумачэнняў асобных беларускіх слоў і выразаў, чаго ў працах таго часу ёсць нямала.

Праўда, работа Федароўскага мела і шэраг

недахопаў. Мы ўжо гаварылі пра недахопы класіфікацыі, няпоўную пашпартызацыю запісаў. Мала знаходзім у «Людзе беларускім» указанняў на ступень распаўсюджанасці асобных твораў, на варыянты ў другіх зборніках. Гэтыя недахопы тлумачацца станам развіцця тагачаснай этнаграфіі і фалькларыстыкі. Нягледзячы на іх, праца Міхала Федароўскага не страціла сваёй каштоўнасці і да сённяшняга дня.

Чацвёрты том «Люду беларускага» выйшаў з друку ў 1935 г. ужо пасля смерці Федароўскага. Яго падрыхтаваў Чэслаў Пяткевіч — вядомы этнограф, даследчык рэчыцкага Палесся [51]. Да апошняга часу чацвёрты том з'яўляецца найбольшым зборнікам беларускіх прыказак. Пасля выхаду ў свет гэтага тома Ч. Пяткевіч і С. Панятоўскі ўзяліся за падрыхтоўку да друку песень, запісаных на Беларусі М. Федароўскім. Але ў 1936 г. памёр Пяткевіч. А праз некалькі гадоў пачалася вайна. Ёсць звесткі, што над амаль пяцітысячным зборам беларускіх народных песень Федароўскага Панятоўскі працаваў яшчэ ў першыя гады акупацыі. Пяты і шосты тамы «Люду беларускага» выйшлі ў свет толькі ў 1958 і 1960 г.

* * *

10 мая 1904 г. «Gazeta Polska» (№ 129, стар. 2) паведамляла, што ў Варшаву пераехаў «вядомы этнограф і археолаг, аўтар вялікай працы пад назвай «Люд беларускі» Міхал Федароўскі. Збіральнік прывёз з сабой багатыя калекцыі археалагічных экспанатаў, сабраных на Беларусі, некалькі тысяч навуковых кніг пе-

раважна з XVIII і XIX стст., больш за 5000 гравюр, велізарнейшую колькасць гістарычных дакументаў і прыватных пісем XVII і XVIII стст. з архіваў Пацаў, Пацеяў, Храптовічаў, Сапегаў, сабраных ім на застрэшшах і ў куфрах шля-




Экслібрыс М. Федароўскага

хецкіх двароў і засценкаў. Каб знайсці сродкі для існавання, Федароўскі пачынае прадаваць свае калекцыі, трапляе ў кола варшаўскіх бібліяфілаў, антыквараў, калекцыянераў кніг і карцін, гандляроў старажытнасцямі, становіцца пасрэднікам у іх гандлёвых здзелках. Многія рэчы ён прадаваў па вельмі памяркоўных

цэнах, што выводзіла яго канкурэнтаў з раўнавагі. «Трэба зазначыць,—піша вядомы варшаўскі бібліяфіл Ян Міхальскі,— што Федароўскі прадаваў рэчы па цане памяркоўнай. Не ведаў добра ані іх рэдкасці, ані вартасці, і можна было ў яго набыць за грашы рысункі Норвіда, рэдкія гравюры і кнігі. Задужа часу і энергіі ён аддаваў на дробязі: рабіў выразкі з газет, друкаваў у розных колерах і на рознай паперы экслібрысы з пячатак і друкаваных надпісаў..., аздабляў экземпляры прыпіскамі пра іх уладальнікаў або аўтараў, прыстасоўваючы да густаў сваіх кліентаў» [52]. Думаецца, што закіды пра недасведчанасць Федароўскага не маюць цвёрдых падстаў.

У 1909 г. М. Федароўскі наладжвае кантакт з Казімірам Пшыбыслаўскім з Уніжа на Украіне — калекцыянерам старых друкаў, мастацтва і нумізматыкі, з якім супрацоўнічае доўгія гады. Ён памагае Тышкевічам з Чырвонага Двара каля Коўна папаўняць іх кнігазбор. Як пісаў Я. Міхальскі, з дапамогай Федароўскага «Тышкевічы сабралі добрую бібліятэку з старадрукаў. Пра запасы гэтай бібліятэкі можна пераканацца хоць бы з бібліяграфіі Эстрайхера» [53]. Вядомая ж калекцыя Д. Вітке-Яжэўскага, у якой былі графіка і карціны, абразы і рысункі, рукапісы і кнігі, была сабрана амаль цалкам пры пасрэдніцтве Федароўскага. Пра гэты збор Федароўскі нават напісаў кнігу [54]. Калекцыя Вітке-Яжэўскага ўключала карціны з беларускімі пейзажамі, партрэты беларускіх народных тыпаў.

Пераехаўшы ў Варшаву, Федароўскі не забывае Беларусь. Ён збірае пра яе матэрыялы на месцы ў Варшаве, просіць знаёмых дасы-

лаць літаратуру, якая датычыцца Беларусі [55], а летам часта адведвае знаёмыя краі, каб папоўніць свае этнаграфічныя папкі новымі запісамі [56]. Пра цесную і непарыўную сувязь Міхала Федароўскага з Беларуссю ў гэты перыяд гавораць многія матэрыялы, якія захаваліся ў яго архіве,— напрыклад, аб'ява беларускай выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца» (Пецярбург) пра падрыхтоўку выдання альманаха «Маладая Беларусь» (зіма 1911—1912 гг.); аб'ява Беларускага музыкальна-драматычнага гуртка ў Вільні пра тое, што ў ноч з 23 на 24 чэрвеня 1913 г. адбудзецца святкаванне Купалля; просьба каталіцкай газеты «Biełarus» памагчы грашыма (на адвароце яе знізу М. Федароўскі напісаў алоўкам: «Адказаў 15/IV/1913, дакляруючы, акрамя падпіскі, па рублю квартальна. М. Ф.») [57]. М. Федароўскі меў сувязь і з беларускай газетай «Наша ніва». Так, 16 чэрвеня 1909 г. сакратар рэдакцыі газеты прасіў этнографа даслаць трэці том «Люду беларускага» [58]. У адказ рэдакцыя атрымала ад Федароўскага пісьмо: «6.7.09. Варшава, Тамка, 48, кв. 3. Далучаючы адзін руб., прашу ласкава і надалей дасылаць «Ніву» на адрас: Варшава, вул. Тамка, 48, Міхал Федароўскі. Што ж датычыць «Люду беларускага», дык напісаў я ў Кракаў, і як толькі атрымаю, зараз жа яго прышлю» [59]. А 10 лістапада 1909 г. ад супрацоўнікаў рэдакцыі «Нашай нівы» Міхал Федароўскі атрымаў наступнае пісьмо: «Шаноўны пане Федароўскі! Сабраўшыся грамадой і спраўляючы юбілей 3-гадзічны «Нашай нівы», успомнілі Вашу мнагалетнюю працу над этнаграфіяй беларушчыны, шчыра вітаем Вас». Сярод падпісаўшых гэтае віншаванне

прозвішчы Янкі Купалы, Сяргея Палуяна, Ядвігіна Ш. (А. Лявіцкага), А. Бурбіса, Л. М. Рагоўскага, А. Уласава і інш. Праз «Нашу ніву»

Ліст з «Нашай нівы» да М. Федароўскага

Федароўскі меў магчымасць набываць патрэбныя яму беларускія кнігі, календары і ўвогуле розныя беларускія выданні. «Выказваючы маё шанаванне,— пісаў ён у рэдакцыю газеты

10 студзеня 1910 г.,— маю гонар пераслаць: суму за паўгадавую падпіску на «Нашу ніву» — 1.25, на «Каляндар» — 20, на Грыневіча «Зборнік белар. песень» — 20 — разам руб. 1,65» [60].

«Люд беларускі» М. Федароўскага адразу ж пасля выхаду ў свет быў высока ацэнены вучонымі. Вось што, напрыклад, пісаў М. Янчук да Федароўскага: «Шаноўны пане! Вашы этнаграфічныя працы, да гэтага часу апублікаваныя ў друку, настолькі сур'ёзныя, што з імі павінна лічыцца вучоная ўстанова, такая, як наш Музей, асабліва ж яго этнаграфічны аддзел, пры якім ёсць спецыяльная этнаграфічная бібліятэка для вучоных заняткаў. На жаль, Вашых прац у нас няма, і набыць іх мы не можам, бо на выпіску кніг казна нам грошай не дае. Між іншым, у гэтым годзе паступіла ўжо некалькі запатрабаванняў на Вашы кнігі ад спецыялістаў, якія займаюцца ў Музеі. Ці не будзеце таму ласкавыя прысланць для нашай бібліятэкі Вашы працы, каб папоўніць гэты адчувальны прабел.

Другая мая просьба заключаецца ў наступным. Па даручэнні II Аддзялення Імп. Акадэміі навук я рыхтую для выдання збор помнікаў беларускай народнай творчасці, куды павінны будуць увайсці:

1) беларускія тэксты (песні, казкі, прыказкі, загадкі і т. п.), якія паявіліся ў розны час у розных польскіх выданнях, для многіх рускіх даследчыкаў недаступных;

2) зборы, яшчэ нідзе не апублікаваныя, што маюцца ў розных асоб, якія згадзіліся б прадаставіць свае матэрыялы для гэтага акадэмічнага выдання.

Звяртаючыся таму да Вас, як да асобы, дасведчанай у гэтых пытаннях, ці не можаце даць указанняў на вядомыя Вам крыніцы па 1-м пункце (выключаючы выданні Кракаўскай Акадэміі), а, па-другое, ці не можаце ўдзяліць частку Вашых ненадрукаваных яшчэ матэрыялаў, якія сюды адносяцца, уключаючы сюды не толькі чыста народныя, але і паўнародныя творы ў выглядзе розных сатырычных паэм, вершаў (на бел. м.) на гістарычныя і бытавыя сюжэты і г. д.

Пасылаю Вам для першага азнаямлення адну з сваіх нядаўніх работ пра белар. песні.

Гатовы да паслуг М. Янчук»[61].

У гэты перыяд М. Федароўскі ахвяруе многім варшаўскім і перыферыйным музеям сабраныя ім на Беларусі прадметы матэрыяльнай культуры. «Goniec Poranny» (1905, № 285) паведамляў, што ў дар ад Федароўскага Музей прамысловасці і сельскай гаспадаркі атрымаў 2 мадэлі хат, 4 пастухоўскія трубы, кошыкі, лыжкі, меркі і іншыя прадметы агульнай колькасцю больш за 50 штук, апроч гэтага, 95 узораў шарсцяных і палатняных тканін беларускага народа. У верасні 1913 г. этнограф дарує гэтаму ж музею «дзве беларускія шапкі з Вілейскага пав. Віленскай губ.» 26 лістапада 1911 г. музейная секцыя Польскага краязнаўчага таварыства прымае ад Федароўскага як дар для Пётркаўскага краязнаўчага музея 525 прадметаў, сярод якіх кнігі і фатаграфіі, гравюры і макеты, карты і медалі, паштоўкі і г. д.[62] Музей Таварыства сяброў навук у Вільні ў маі 1908 г. атрымлівае ў дар ад Федароўскага вялікую колькасць кніг, археалагічных і этнаграфічных экспанатаў з розных мясцін

Беларусі[63], у ліпені 1912 г.— 52 гравюры Г. Қ. Вільчынскага з яго вядомага «Віленскага альбома»[64], Польскае краязнаўчае таварыства ў 1912 і 1913 гг. — больш за паўтары сотні фатаграфій, рысункі, кнігі, рукапісы.

У Архіве Польскай Акадэміі навук у Варшаве захоўваюцца карткі з вопісамі (ад № 4 да 293) этнаграфічных экспанатаў, сабраных Федароўскім у розных раёнах Беларусі. Тут і сялянскае адзенне для розных пор года, і гаспадарчае начынне (лыжкі, міскі, збаны, нажы), паясы, ручнікі, фартухі, табакеркі, вясельныя ўборы маладой, розныя прылады працы і т. д. Сотні гэтых прадметаў атрымлівалі ад Міхала Федароўскага розныя музеі.

У першыя гады жыцця ў Варшаве Федароўскі не расстаецца з «Людам беларускім». У ліпені 1905 г. ён паведамляе Г. Лапацінскаму: «12-га г(этага) м(есяца), перакінуўшы шаты і пенаты на Тамку... назаўтра ж рана я пакінуў разам з паданнем пачатак рукапісу ў Касе Мяноўскага, а пасля палудня з напакаваным прыказкамі чамаданам ужо быў у Цэлестынаве, дзе ў нанятым пакоіку наперамену то адпачываю, то зачарняю паперу»[65]. Работа над прыказкамі была ў хуткім часе, як відаць, перапынена, бо ўжо ў жніўні гэтага года М. Федароўскі разам з Ю. Такаржэвічам пачынае вывучаць Замойшчыну.

Наступныя гады былі прысвечаны класіфікацыі, апрацоўцы і падрыхтоўцы да друку велізарнага збору беларускіх народных песень. Каля пяці тысяч песень перапісаць з чарнавікоў было не так лёгка, таму ён шукаў памочнікаў. Адной з іх стала беларуская шляхцянка родам з Лідскага павета, студэнтка кансерва-

торыі Лідзія Патул, якая некаторы час нават жыла на кватэры ў Федароўскіх. Прымалі ўдзел у гэтай рабоце і яшчэ некаторыя перапісчыкі: у чыставіках беларускіх народных песень, якія захоўваюцца ў Рукапісным аддзеле бібліятэкі Варшаўскага універсітэта, назіраецца почырк некалькіх розных рук. Вядома, напрыклад, што некаторы час дапамагаў у гэтай справе Рамуальд Зямкевіч, які ўдзельнічаў і ў антыкварскай дзейнасці Федароўскага. Частым госцем у доме Федароўскіх, як успамінае сын этнографа, быў беларускі паэт Гальяш Леўчык (Ляўковіч), які ў той час жыў у Варшаве.

Пасля смерці З. Глогера ў 1910 г. М. Федароўскі разам з Т. Корзанам паўтара года працуе ў так званай глогераўскай камісіі над інвентарызацыяй, упарадкаваннем і перадачай адпаведным установам збораў нябожчыка. У 1911 г. ён друкуе ў краязнаўчым часопісе «Ziemia» ўспаміны пра Глогера, з якім сябраваў каля 40 гадоў. У 1912 г. гэтыя ўспаміны выйшлі ў Варшаве асобнай кніжкай.

У гэты ж час М. Федароўскі друкуе ў часопісах шэраг артыкулаў [66], выдае некалькі сваіх брашур, а таксама прац іншых аўтараў. Так, у часопісе «Ziemia» амаль увесь 1912 г. друкавалася даследаванне Федароўскага «Віцебск і Віцебшчына» — этнаграфічна-гістарычны нарыс не толькі пра Віцебшчыну, але пра Беларусь увогуле, пра характар, вераванні, забабоны, нацыянальныя асаблівасці беларусаў. Як гэты нарыс, так і некаторыя іншыя працы сведчаць, што ў грамадска-палітычных поглядах Федароўскі не змог узняцца вышэй буржуазнага лібералізму, хоць у многіх пытаннях заставаўся на агульнадэмакратычных пазіцыях.

Любоў да беларускай зямлі, замілаванне і прывязанасць да народа, сярод якога збіральнік пражыў столькі гадоў, засталіся ў яго душы назаўсёды. Гэта пацвярджаюць і словы Ю. Талька-Грынцэвіча, звернутыя да М. Федароўскага ў адным з пісем: «Будучы чужым таму краю нават крывёй, Вы пакахалі яго і народ, сярод якога жылі, усёй душою» [67], а таксама словы-роздум самога Міхала Федароўскага: «Ці беларускі народ прыйдзе калі-небудзь да самасвядомасці? Як паляк я сардэчна гэтага яму жадаю» [68].

У гады першай сусветнай вайны, цяжкія і складаныя, палітыка ўцягвае Міхала Федароўскага ў свой бурлівы вадаварот. Не здолеўшы адразу цвяроза разабрацца ў абставінах,— ды гэта ў той час было зрабіць не так проста,— паверыўшы прапагандысцкім абяцанням і лозунгам некаторых тагачасных палітычных дзеячоў, Федароўскі ў 1916—1919 гг. супрацоўнічае з польскімі нацыяналістычнымі арганізацыямі, з Колам Вялікага Княства Літоўскага, Беларускім Камітэтам, Лігай Усходніх зямель. Ён становіцца праваднікам буржуазнай ідэалогіі. Але гэты крызіс, на шчасце, хутка мінуўся. Яго цягнула да літаратурнай работы, да перарванай на некаторы час працы над «Людам беларускім».

У 1921 г. М. Федароўскі становіцца навуковым супрацоўнікам аддзела этналогіі Інстытута антрапалагічных навук. Тут ён зноў вяртаецца да сабраных раней матэрыялаў, пераносіць частку іх у свой кабінет у Інстытуце і апрацоўвае, каб далей працягваць выданне «Люду беларускага» [69], пачынае выступаць у друку [70]. У канцы 1921 — пачатку 1922 г. у Вар-

шаўскім навуковым таварыстве ён прачытаў шэраг рэфератаў, якія мелі характар успамінаў пра этнаграфічную працу на Беларусі. У адным з рэфератаў 10 мая 1922 г. Федароўскі расказваў, што працуе над вялікай кнігай вераванняў беларускага народа. «Матэрыял, сабраны мною,— пісаў ён,— запоўніць, відаць, том на 20—25 аркушаў друку. Ён будзе дадаткам да І тома выдадзенай Акадэміяй навук у Кракаве ў 1897 г. працы «Люд бел(арускі) на Р(усі) Літ(оўскай)». Усе факты, якія прапаную цяпер, сабраны за 15-годдзе паміж 1890 і 1905 гг., г. зн. тады, калі І том ужо выйшаў з друку» [71].

З паловы 1922 г. стан здароўя М. Федароўскага пагаршаецца. Адчуваючы, што жыць ужо асталося нядоўга, у маі 1923 г. ён складае завяшчанне. Спачатку ён хацеў надзяліць матэрыяламі са свае спадчыны тыя навуковыя арганізацыі, з якімі меў кантакт пры жыцці: Акадэмію навук у Кракаве, Ossolineum у Львове, Варшаўскае навуковае таварыства. Але пасля бібліятэку, карты Літвы і Беларусі, выразкі з газет і часопісаў, аднадзёнкі, частку графічных збораў, гістарычныя дакументы і амаль усе рукапісы завяшчаў Варшаўскаму навуковаму таварыству, абавязаўшы яго апрацаваць і выдаць наступныя тамы «Люду беларускага» — галоўнай працы ўсяго жыцця этнографа. Матэрыялы ж аўтабіяграфічныя, свой дзённік з 1898 да 1904 г., бібліяграфічныя нататкі да сваіх прац адпісаў Стэфану Дэмбаму, заснавальніку Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве. На жаль, матэрыялы, завешчаныя С. Дэмбаму, загінулі ў час Айчыннай вайны. Рукапісную спадчыну свайго прыяцеля Ю. Та-

каржэвіча ён завяшчаў Мар'яну Абрамовічу, збор кніжак і легіянерскіх брашур, а таксама медальёны і гіпсавыя профілі — Яну Гамаліцкаму. Выканаўцамі запавету Федароўскі назваў Яна Гамаліцкага і Мар'яна Абрамовіча [72].

10 чэрвеня 1923 г. Міхала Федароўскага не стала. Пахаваны ён на Павонзкаўскіх могілках у Варшаве. Варшаўскае навуковае таварыства на яго магіле ўстанавіла пліту з надпісам: «Міхал Федароўскі, этнограф, аўтар «Люду беларускага». 1853—1923».

# «ЛЮД БЕЛАРУСКІ»

## ПРЫНЦЫПЫ ЗАПІСУ І ПУБЛІКАЦЫІ



лічваючы вялікае значэнне фальклору ў жыцці народа, мы павінны ўважліва вывучаць і шырэй выяўляць яго скарбы. А для таго каб весці гэту работу на высокім навуковым узроўні, трэба сур'ёзна авалодваць методыкай збірання, запісу, спосабамі і таямніцамі экспедыцыйных пошукаў. Многаму можна навучыцца ў вядомых этнографаў і фальклярыстаў, практыка якіх — гэта як бы рэалізацыя іх адносін да фальклору, іх разумення сваёй справы. З асэнсавання яе

шмат у чым і вырастае сама навуковая фальклярыстычная тэорыя.

Як вядома, многія прафесіянальныя вучоныя-этнографы пакінулі шматлікія тэарэтычныя артыкулы і нататкі, успаміны, парады, разважанні і думкі, як запісваць і выдаваць фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы. Міхал Федароўскі ўсё жыццё лічыў сябе этнографам-аматарам. Ён не меў спецыяльнай адукацыі, этнографам і фальклярыстам стаў па волі сэрца. Будучы чалавекам сціплым, уважаючы сябе радавым працаўніком, ён і думкі не дапускаў, каб пісаць парады для збіральнікаў, спецыяльна апісваць метады і спосабы сваёй работы. Гэта не значыць, аднак, што ў Федароўскага не было сваёй «тэорыі», сваіх метадаў, спосабаў, прыёмаў. Калі Е. Р. Раманаў, напрыклад, сам раскрыў іх у шматлікіх рэцэнзіях, артыкулах, справаздачах на праведзеныя палявыя даследаванні і экспедыцыі, Федароўскі падобнага не зрабіў. Гэта работа асталася на долю яго даследчыкаў. Нялёгкая, тым не менш удзячная — выявіць сістэму падыходу, разумення фальклору, методыку збірання і публікацыі, ахопліваючы жывую практыку фальклярыста. Меркаваць жа больш канкрэтна пра методыку збораў экспанатаў матэрыяльнай культуры беларускага народа і гістарычных дакументаў са старых родавых архіваў, карцін і кніг, пра прынцыпы запісу і публікацыі фальклорных матэрыялаў М. Федароўскага мы можам хіба толькі па асобных фразах і абзацах яго друкаваных прац і па даволі мізэрных звестках, параскіданых у чарнавіках рукапісаў і пісем, што ўцалелі ў архівах фальклярыста.

Вывучэнне гэтых дакументаў дае магчымасць сцвярджаць, што шматтомная манаграфія «Люд беларускі» складзена з матэрыялаў, запісаных амаль выключна самім Міхалам Федароўскім. Для гэтага даследчык павінен быў прарабіць велізарнейшую работу: запісаць сотні тысяч разнароднейшых матэрыялаў можна было толькі за доўгія гады настойлівай, руплівай працы, маючы надзвычайную любоў і замілаванне да прадмета, якім займаешся.

М. Федароўскі рабіў назіранні над жыццём і бытам беларусаў пастаянна, дзень у дзень. Жывучы сярод беларускага сялянства, ён вывучаў праявы духоўнага жыцця народа комплексна, цікавіўся яго матэрыяльнай культурай цалкам, ва ўсіх аспектах. Тое, што Федароўскі доўгі час непасрэдна жыў сярод насельніцтва заходніх паветаў Беларусі, несумненна спрыяла яго фальклорна-этнаграфічнай дзейнасці. І сам гэты факт зыходзіў з разумення, што толькі непасрэдная, пастаянная штодзённая еднасць з носьбітамі фальклору можа даць плён. «Я заўсёды быў у непасрэдным сутыкненні з усімі акалічнасцямі і ўзаемаадносінамі народнага жыцця... Імкнуўся пазнаць мову і разумовыя і этычныя гарызонты тутэйшага селяніна»[1],— падкрэсліваў сваю зыходную пазіцыю Федароўскі.

Вучоны, які праводзіць даследаванні ў час экспедыцыі (а экспедыцыі звычайна абмежаваны ў часе), не можа наблізіцца да мясцовага насельніцтва настолькі, каб яму шчыра адкрывалі сваю душу асобныя людзі, не можа так дакладна заўважыць усе дэталі ў звычаях і быце, пабудовах і прыладах працы, адзенні і

іншым, як чалавек, які ўваходзіць у давер жыхароў пэўнай мясцовасці праз амаль штодзённы доўгатэрміновы кантакт з імі, які становіцца «сваім» у вёсцы. Федароўскі быў у такім кантакце, ён лічыў, што гэта аснова збірання і запісу, галоўная іх перадумова. Даследчык не прамінаў зручнага выпадку, каб не пабыць на вяселлях, хрэсьбінах і іншых сямейных цырымоніях, святах і ўрачыстасцях, фэстах, кірмашах. Адна справа распытваць пра абрад і запісваць расказанае, зусім іншае — самому прысутнічаць на ім і адразу ж занатоўваць свежыя і яркія ўражанні. У архівах этнографа захаваліся звесткі пра наведанне ім беларускіх вяселляў [2], хрэсьбінаў, юр'еўскіх і купальскіх ігрышчаў моладзі. Так, напрыклад, у дакладзе, прачытаным 8 студзеня 1922 г. ў Варшаўскім навуковым таварыстве, Федароўскі ўспамінаў, як ён разам з Тадэвушам Мацвейчыкам, селянінам з вёскі Кусінцы, што на Ваўкавышчыне, прысутнічаў на хрэсьбінах у в. Вялікія Азяркі. «Без старога,— піша ён,— не абыходзіліся ні адны хрэсьбіны або вяселле паблізу. Ведаючы, што мне гэтым дастаўляе прыемнасць, ён пры выпадку заходзіў у двор і забіраў мяне з сабою... Ніколі не забудуся пра хрэсьбіны ў Вялікіх Азярках у Баярчукоў, на якія, будучы свабодным, я ахвотна з ім паехаў» [3].

Этнограф з замілаваннем успамінае атмасферу гэтай сямейнай урачыстасці, у час якой яго папкі папоўніліся новымі матэрыяламі — апісаннем самога абраднага цырыманіялу, гумарыстычнымі і фрывольнымі песнямі і частушкамі, прыказкамі і прымаўкамі: «...захмялелыя жанкі, як звычайна на хрэсьбінах, спя-

ваюць, што ім сліна на язык прынясе (моладзь у хрэсьбінных абрадах удзелу не прымае), то рэпертуар складаецца з песенек архіжартоўных, словам, атмасфера для этнографа з алоўкам і нататнікам вельмі сімпатычная»[4]. «Ужо даўно пеўні поўнач абвясцілі,— заканчвае свой расказ М. Федароўскі,— калі мы з тых хрэсьбін, увекавечаных мною ў шматлікіх нататках, вярталіся са старым дадому»[5].

Міхал Федароўскі пільна прыглядаўся і да людзей, якія былі на службе ў яго двары. Так, у Федароўскага служыў 20-гадовы фурман, вельмі дасціпны, спрытны і камічны хлопец, які, як з рога, сыпаў жарты, анекдоты, пабрахушкі, апавяданні. Каб запісаць ад яго найбольш, Федароўскі рабіў хлопцу падарункі: «За адзін месяц вечаровых пасяджэнняў ён меў абяцаны новы гарнітур, а калі і гэта не мела вынікаў, і сярэбраны гадзіннік»[6].

Збор і запіс фальклорных і іншых матэрыялаў Федароўскі рабіў пераважна сам. Аднак ад памочнікаў не адмаўляўся. Яго прынцыпам было выбіраць толькі вартых таго людзей, не выпадковых. Пасля ён рэдагаваў дасланыя матэрыялы, адбіраў найбольш значныя і цікавыя. Да збору фальклорных і этнаграфічных матэрыялаў Федароўскі прыцягваў і знаёмых і перш за ўсё тых, якія добра ведалі быт народа, яго мову, звычаі, абрады, вераванні і забабоны, самі былі добрымі апавядальнікамі. Такім, напрыклад, быў Ян Дзежка. У архіве этнографа зберагліся дасланыя Янам Дзежкам апісанні павер'яў і забабонаў, шматлікіх дзіцячых гульняў і разнастайных каляндарных і сямейных абрадаў, запісы песень і прыказак. Пяро вельмі цяжка слухалася спрацаваных

пальцаў гэтага чалавека: Федароўскі, чытаючы яго каракулі, адразу надпісваў над невыразнымі словамі іх сэнс. Ян Дзежка ахвотна памагаў М. Федароўскаму з 80-х гадоў XIX ст. і аж да самай смерці — да 1908 г. Захаваўся нават рукапіс казкі пра коціка, пеўніка і лісічку, якую Ян Дзежка запісваў для Федароўскага ў Варшаве за некалькі тыдняў да свае смерці.

У Ваўкавыскім павеце шматгадовым памочнікам Федароўскага была сям'я Керсноўскіх, пра якую ён з сардэчнай цеплынёй успамінае ў прадмове да першага тома «Люду беларускага». Пляменнік Керсноўскай Антон Высоцкі дабіраўся ў самыя глухія закуткі, у самыя аддаленыя вёскі, куды не мог дабрацца сам этнограф, і дастаўляў Федароўскаму сотні вераванняў, казак, легенд, песень, народных апавяданняў. Ужо ў першыя месяцы працы на Беларусі М. Федароўскі атрымліваў ад шляхціца Калупайлы з засценка Боўблі (каля Свіслачы) беларускія народныя песні. Пасля кола яго знаёмых пашырылася. Павялічылася і колькасць карэспандэнтаў і памочнікаў. Дасылалі яму матэрыялы, мяркуючы па захаваных архіўных дакументах, чалавек шэсць-сем, не болей. Значна больш Федароўскі меў знаёмых, якія памагалі яму на месцы адшукваць спявачак, казачнікаў, апавядальнікаў, ад якіх збіральнік і рабіў запісы. Такімі добраахвотнымі памагатымі, акрамя названых, былі Людвік Ельскі ў Гродзенскім павеце, мешчанін Казімір Перашчака з Пружаншчыны, уладальнік Вішава ў Слонімскім павеце Канстанцін Гнаінскі[7] і інш. Тое, што добраахвотныя памочнікі папярэдне падшуквалі Федароўскаму па

яго просьбе выканаўцаў, трэба прызнаць станоўчым і перадавым, наватарскім у рабоце этнографа. Хто ж, як не мясцовыя жыхары, ведаў найбольш здольных апавядальнікаў, спевакоў, казачнікаў? Іх сам збіральнік мог бы і не знайсці. Дапамога знаёмых значна аблягчала работу, ды і інфарматары такім чынам падбіраліся надзейныя.

Якія ж інфарматары задавальнялі М. Федароўскага? Мог бы ён запісваць і ад людзей сярэдне адораных, выпадковых (гэта, праўда, здаралася часамі і ў практыцы Федароўскага). Але ці не прыніжаўся б гэтым талент народа, ці не было б у такой арыентацыі абыякавасці да яго, а галоўнае — няпраўдзівае, неаб'ектыўнае выяўленне аптымальнага патэнцыялу народнай творчасці! Федароўскі шукаў такіх людзей, якія былі надораны, па яго словах, добрай памяццю, дарам апавядаць цікава і займальна, досціпам, здаровым народным гумарам, пэўнай інтэлігентнасцю. Павага да мудрасці народа, да яго вопыту, імкненне раскрыць жыццё народа ў яго найвышэйшых праявах, талент народа вымяраць меркай самых адораных — гэта надзвычай плённы, глыбока дэмакратычны прынцып Федароўскага-фалькларыста. Федароўскі стараўся рабіць запісы ад людзей бывалых, ад старэйшага пакалення, такіх, якія мелі вялікі жыццёвы вопыт, якіх, як ён казаў, «XVIII век няньчыў і гадавала цяжкая паншчына». У памяці такіх людзей зберагаліся старажытныя творы вуснай народнай паэзіі, якіх маладзшае пакаленне ўжо не ведала. Імкненне ахапіць гістарычны вопыт народа, яго шматгадовую дасведчанасць — таксама не менш важны прынцып збіральніка.

Адным з метадаў падрыхтоўкі да збору інфармацыі, які практыкаваў М. Федароўскі, было папярэдняе складанне пытанняў, на якія павінны былі адказваць мясцовыя жыхары. Перад тым як накіравацца ў пэўную мясцовасць, М. Федароўскі загадзя рыхтаваў нешта накшталт анкеты, па якой пасля апытваў. Гэта давала магчымасць папярэдне абдумаць і дакладна сфармуляваць пытанні, якія цікавілі збіральніка і адказы на якія ён спадзяваўся атрымаць у час экспедыцыі. У працэсе работы самі пытанні ўдакладняліся, пашыраліся, канкрэтызаваліся, узнікалі новыя. Адказы на іх адразу запісваліся ў рабочы сшытак даследчыка. Прыкладам такіх папярэдне падрыхтаваных пытанняў могуць служыць рабочыя запісы, чарнавікі якіх уцалелі ў архіве М. Федароўскага:

«П ы т а н н і... 11) Які ячмень сеюць у 2, 4 і 6 радоў; 12) Як народ хавае на зіму гародніну, што квасіць, ...ці чаго не сушыць, ці гэта сушка не мае самабытных назваў... 35) Як робіцца макавае і канаплянае малако?.. 38) Па некалькі семечак розных гатункаў кавуна (дыні або гарбуза) (у сэнсе: сабраць для сябе.— **Я. С.**). Ці народ не гаворыць *гарбуз?..*» [8]

А вось адказ на адно з гэтых пытанняў, запісаны ўжо ў час экспедыцыі: «35. Мак альбо каноплі мочацца ў халоднай вадзе або заліваюцца гарачай і мелюцца ў макітры (церло, макацёрка, мяліца, макотра, вярцеха, вярцянка), патроху даліваючы ваду» [9]. Як бачым, этнограф не толькі занатаваў адказ на пытанне, але адначасова сабраў яшчэ сем назваў глінянай міскі, у якой малолі мак і льняное або канаплянае семя. Мабыць гэтыя дэталі і штры-

хі нямала сведчаць пра імкненне збіральніка да гранічнай вычарпальнасці інфармацыі пры даследаванні з'явы.

Ліст М. Федароўскага да Я. Карловіча

Ян Карловіч у сваім «Парадніку для збіральнікаў народных твораў» распрацаваў канкрэтныя парады, як запісваць розныя жанры вуснай народнай творчасці, як іх пашпартызаваць. Ён даў і ўзор карткі, на якой, на думку

Я. Карловіча, найлепш рабіць запісы; расказаў, як класіфікаваць набыты матэрыял. М. Федароўскі спачатку кіраваўся парадамі настаўніка. Праўда, ён крыху мадыфікаваў і дапоўніў узор карткі, змяніў яе памер. Карловіч раіў у левым верхнім кутку запісваць павет, у правым — парафію або вёску. Федароўскі яшчэ дабаўляў у правым верхнім кутку імя і прозвішча выканаўцы. Пасля, набіўшы руку, ён карыстаўся сваёй методыкай, а запісы рабіў на невялічкіх аркушыках, дзе нават запісваў па аднаму слову, якое яго цікавіла, або вялікіх аркушах з падрабязнейшымі, шырокімі апісаннямі абрадаў, звычаяў, разнастайных з'яў грамадскага і культурнага жыцця, прадметаў матэрыяльнай культуры беларускага народа.

Як і на першым этапе работы, так і праз гады Федароўскі практыкаваў метад франтальнага асваення фальклору. Ён паставіў перад сабой мэту запісваць усё, што дзе-небудзь пачуе ці даведаецца. Гэтае старанне ішло, відаць, і ад «Парадніка для збіральнікаў народных твораў» Яна Карловіча і ад капітальных прац Оскара Кольберга па польскай этнаграфіі, на якія М. Федароўскі арыентаваўся як на ўзор, варты пераймання. Што трэба запісваць, падказвала ўжо сама назва шматтомнага выдання О. Кольберга: «Lud. Jego zwyczaje, sposób życia, mowa, podania, przysłowia, obrzędy, gusła, zabawy, pieśni, muzyka i tańce».

Ці добра, што Федароўскі-фальклярыст рабіў такія запісы, занатоўваючы ўсё, што яму трапляла пад руку, што ён не рабіў ніякай селекцыі матэрыялу? Мы адказалі б на гэтае пы-

танне станоўча. Таму не можам пагадзіцца з некаторымі нашымі даследчыкамі[10], якія папракаюць М. Федароўскага ў тэндэнцыйнасці падбору матэрыялаў апавядальнага жанру.

Сацыяльны сэнс і значэнне фальклорнага матэрыялу можна да канца зразумець і ацаніць толькі ў супастаўленні з фактамі супрацьлеглага парадку. Ад збіральніка патрабуецца найбольшая паўната і характэрнасць фактаў, якія ён здабывае ў розных сацыяльных асяроддзях. Толькі тады, калі такога разнароднага матэрыялу сабрана дастатковая колькасць, можна прыйсці да адпаведных аб'ектыўных высноў. А ў Федароўскага такога матэрыялу дастаткова. Калі ім і былі зроблены запісы, напрыклад, ад шляхты ці мяшчан, то гэта адразу відаць, бо этнограф у алфавітным паказальніку інфарматараў адзначыў сацыяльнае паходжанне кожнага з іх. І мы можам адразу наглядна бачыць, адкуль ідуць тыя ці іншыя творы, можам вызначыць, сапраўды яны народныя ці паходзяць з іншай крыніцы. Такім чынам, твораў канкрэтнага зместу даследчык мае магчымасць даць належную ацэнку з пункту погляду марксісцка-ленінскай навуковай метадалогіі.

Калі паглядзець, што М. Федароўскі, чалавек набожны, змясціў у «Людзе беларускім» столькі яркіх антырэлігійных, антыпапоўскіх і антыксяндзоўскіх (а этнограф быў жа католікам!) твораў, што, будучы палякам, запісаў і надрукаваў беларускія народныя жарты і анекдоты пра мазураў, пра польскую шляхту і паноў і шмат іншых, то месца для размоў пра тэндэнцыйнасць, пра свядомы адбор матэрыялаў, якія маглі б кінуць цень на беларускі на-

род і яго вусную творчасць, не астаецца [11]. Урэшце нагадаем словы самога даследчыка, якія паказваюць яго адносіны да сабраных матэрыялаў, увогуле яго погляды на сваю нялёгкую працу, каб пацвердзіць і яшчэ раз падкрэсліць, што збіральніцкая дзейнасць Міхала Федароўскага мела сапраўды навуковую аснову: «Я стараўся падаць тут (у сваёй працы.— **Я. С.**) чыстае зерне фальклору, не змешанае з няпэўнымі тэарэтычнымі здагадкамі і не ўпрыгожанае ніякімі прадузятасцямі ані патрыятычнымі, ані ідэалагічнымі» [12].

Шукаючы найбольш цікавыя ў этнаграфічных адносінах мясціны, М. Федароўскі стараўся забірацца ў раёны, размешчаныя далёка ад гарадоў і чыгунак, ад фабрык і заводаў. Там, на думку даследчыка, можна было знайсці найбольш паданняў, легенд, казак, забабонаў і вераванняў, «пакрытых пылам дагістарычных часоў». Яшчэ ў пачатку свае працы на ніве беларускай этнаграфіі і фалькларыстыкі ён мяркуе: «Лідскае павінна быць цікавае; ваколіцы размешчаны здаля ад вялікіх трактаў, засеяна засценкамі, павінна захаваць многа рысаў з мінуўшчыны» [13]. Этнограф не памыліўся. Тут ён знайшоў многа цікавых вераванняў, абрадаў, песень, гульняў. Гэта можа пацвердзіць хоць бы апісанне свята Юр'я ў ваколіцах Ліды, Шчучына і Жалудка, якое Федароўскі неўзабаве даслаў З. Глогеру, а той надрукаваў яго ў часопісе «Pamiętnik fizjograficzny» (1888, т. 3).

Апісваючы абрады з розных мясцовасцей, М. Федароўскі трымаўся прынцыпу захавання асаблівасцей параўнання. Ён вылучаў і падкрэсліваў іх асаблівасці, паказваў, чым гэты

абрад арыгінальны і самабытны на данай тэрыторыі, якія рысы, дэталі, адрозненні сустракаюцца ў іншых раёнах. Гэта асабліва ярка відаць на апісаннях вяселляў, недрукаваныя рукапісы якіх да гэтага часу ляжаць у архівах, на апісаннях дзядоў, Юр'я, Купалля, каляд, дажынак. Для прыкладу возьмем апісанне вясельнай кветкі са Слонімскага павета, зробленае М. Федароўскім у 1879 г.: «Абрадавая кветка складаецца з жытняга каравайчыка, трохзубай *рагацэ́нькі*[14] і чырвонай хусткі. Такую кветку ўсё веселле, і да самага алтара носіць *сват*, які, трымаючы яе аберуч, звычайна ідзе на некалькі крокаў перад маладымі. У апошнія часы праваслаўнае духавенства забараняе насіць кветку ў час вяселля, таму вельмі можа быць, што ў недалёкай будучыні яна цалкам выйдзе з ужытку.

У *Ваўкавыскім* каравайчык (таксама жытні, вакол яго бачым паўтыканыя *гускі*, якія трымаюцца пры дапамозе драўляных завостраных шпілек) — пасярод яго, таксама, як тут, тырчыць *рагаценька*, аблепленая цестам і прыбраная рутай, зялёным аўсом і жычкай (чырв. істужка). Хустка над усім гэтым не чырвоная, як у Сл(онімскім) і Лідскім, а белая.

У *Пружанскім дружко* перад *маладымі кветкі* не носіць, яе там замяняе пшанічны каравайчык, накрыты белым падаркам»[15].

Такія ж супастаўленні рабіў Федароўскі і апісваючы адзенне жыхароў розных ваколіц, вясковае будаўніцтва, гаворачы пра разнастайныя прафесіянальныя заняткі насельніцтва заходніх паветаў Беларусі, пра мясцовае ткацтва, ганчарства і г. д. Вось як апісвае этнограф хаты беларускіх сялян: «Лідскі па-

вет. Хаты нябеленыя з дрэва, крытыя саломай найбольш распаўсюджаныя і зазвычай бываюць адвернутыя шчытом да вуліцы. Падлогі толькі ў заможнейшых, у астатніх іх замяняе ток.

Хаты ў Вілейскім ставяцца найчасцей з асінавага дрэва (прынамсі ад Вілейкі, Куранца і Будслава) і пераважна курныя; з боку ўнутранай планіроўкі нічым не адрозніваюцца ад жылых памяшканняў у пав. Ваўк(авыскім), толькі звонку можна заўважыць пэўную розніцу, а іменна — стрэхі на іх без параўнання ніжэйшыя і пераважна крытыя драніцаю.

У Сакольскім тып той самы, толькі што яны вышэйшыя, старанней будуюцца, чым у іншых мясцовасцях Літвы. Курныя хаты тут ужо ўвогуле не заўважаюцца.

У Пружанскім хаты амаль скрозь стаяць шчытамі да вуліцы. Крытыя пад стрыхоўку (гладка), разам з імі пад той самай страхой знаходзяцца: стайня, хляўкі, адрынка, гумно»[16].

Знаходзім у Федароўскага і заўвагі пра даматканыя паясы: «Слонім(скі) павет. Паясы. Жанчыны носяць тут пояскі ў $1^1/_2$—2 разы шырэйшыя, чым у Ваўк(авыскім), а мужчыны яшчэ шырэйшыя (у 2 разы за іх (жанчын.— **Я. С.**) шырэйшыя). Узораў меншая разнастайнасць, чым у Ваўк., найбольш улюбёныя і найбольш распаўсюджаныя: *грабелькі* і *очка* ці *гарэхі* — узоры ў Ваўк. невядомыя. Улюбёны колер мужчынскіх паясоў жоўты (таксама ў Ваўкавыскім павеце цалкам неўжывальны). 1.X.1896»[17].

Галоўным практычным прынцыпам, якога трымаўся М. Федароўскі ў час сваіх збораў,

быў уласнаручны запіс з вуснаў народа з захаваннем усіх мясцовых дыялектных асаблівасцей кожнай гаворкі. Запісы рабіліся непасрэдна ля вытокаў, з найбольш верагоднай і праўдзівай крыніцы інфармацыі — ад сялян. Таму кожны прызнае, што метады запісу Федароўскага ў параўнанні з яго папярэднікамі і сучаснікамі былі больш дасканалыя, перадавыя, навукова абгрунтаваныя.

Запісы фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў павінны весціся галоўным чынам самім збіральнікам. Тады будзе вытрымлівацца і адзінства запісу як з боку зместу, так і з боку перадачы моўных асаблівасцей. А мове даследчык надаваў вялікае значэнне. І сваіх карэспандэнтаў ён прасіў дасылаць апісанні мясцовых звычаяў і абрадаў, святаў і народных гульняў, фальклору на роднай мове, рабіць запісы так, як гавораць у іх дома. Вось для прыкладу апісанне дажынак на Пружаншчыне з захаваннем правапісу невядомага аўтара: «Дажынкі. Кажды гаспадар правіт дажынкі. Каторы наймаў цэло лето жанцоў, то ідзе да тых жанцоў і зноў просіт іх, каб воны ішлі да его жаці. З раня дае па чарцы гарэлкі і обедают, прослі обеда ідут жаці, жнут до самого вечора, вечором як дожынают і крышэчка оно зостанетса, то кідают серпы і рвут у жыці травы, «скубут бороду», каб на другі рок было жыто чыстэ без метліцы. Дожаўшы, вяжут велікого снопа, которого называют бабою, становятса наоколо бабы усе жэнцэ і смычут кветкі, а под бабою кладут крыжа на полі, коб поле не пустовало. Полуднают, сядают заўшэ на сваём полі, а не на чужом, коб поле не гневалосо. Зв'язаўшы кветку, ідут до дому спеваючы.

Прышоўшы до дому, продают кветку, господар повінен выкупіці ее за талер і, опрыч того, выдаці жэнцом госціну. На вечэру пекут еечню, пекут перогі альбо огладкі (аладкі), просяную кашу, прынесут гарэлкі і вечэрают. По вечэры ідут спаці» [18].

У зборніках Гільтэбранта, Дзмітрыева, Дамбавецкага, Шэйна і некаторых іншых фалькларыстаў і этнографаў XIX ст. тэксты беларускага фальклору падаваліся ў не зусім якасных запісах; аўтары перадрукоўвалі матэрыялы з апублікаваных раней зборнікаў (напрыклад, Яна Чачота і інш.), часта не спасылаючыся на крыніцу запазычання; вельмі мала было запісаў, зробленых добра ў лінгвістычных адносінах: асаблівасці беларускіх гаворак або ігнараваліся або скажаліся, многія беларускія словы і выразы ў тэкстах тлумачыліся няправільна, адвольна, што ішло ад вельмі слабога ведання збіральнікамі беларускай мовы, яе дыялектаў; некаторыя фалькларысты перадавалі тэксты, запісаныя ў розных мясцовасцях, адной гаворкай (напрыклад, Дамбавецкі) і г. д.

У «Людзе беларускім» мы не знаходзім многіх недахопаў і недакладнасцей, характэрных ранейшым выданням беларускай народнай творчасці. Тут дарэчы прыгадаць адзін запіс даследчыка, зроблены ім у час апрацоўкі беларускіх народных песень: «Мовы песень я не уніфікаваў паводле адной гаворкі», памятаючы, «што народную песню трэба запісваць з усімі ўласцівасцямі, хоць бы нават з дыялектнымі пачварнасцямі» [19]. Гэты запіс яскрава выяўляе погляды збіральніка на прынцыпы запісу народных твораў, перадае яго сапраўды

навуковы падыход да захавання асаблівасцей мовы народа.

Мы ўжо ведаем, што Федароўскі стараўся перадаваць мясцовыя гаворкі як найдакладней. У прадмове да другога тома сваёй працы (стар. XV) ён пісаў: «Усе без выключэння паданні ў гэтым зборы пададзены ў іх родным адзенні, так, як былі ўзяты з вуснаў народа. Натуральна, што запісаў фанографа замяніць немагчыма, аднак у кожным разе я стараўся запісваць як найдакладней, наколькі слых мяне не падводзіў. Таму ані галоўная думка не стала перакрыўленая, ані характэрныя рысы, ані таксама для лінгвіста не страчаны выражэнні, гучанні, адценні, як і не менш арыгінальныя тэрміны».

Федароўскі разумеў, што чалавечае вуха не можа схапіць абсалютна ўсіх адценняў у расказе апавядальніка або ў выкананні спевака, а тым больш цяжка зафіксаваць гэтыя адценні на паперы, асабліва пры нераспрацаванасці дыялекталогіі, адсутнасці універсальнай транскрыпцыі. Усё роўна ён стараўся адзначыць і данесці чытачу розныя асаблівасці апавядання ці спеву. Так, у казках ёсць паметкі: «апавядальнік суцішыў голас», «шэптам» і г. д. Федароўскаму вельмі хацелася, як гэта відаць з адной паметкі, не толькі перадачы «даслоўнасці гучання», а, калі можна так сказаць, перадачы акустычнага эфекту. Гэта відаць з яго шкадавання, што «патрэбен быў бы фанограф, каб перадаць мадуляцыі, жаласлівасць і праніклівасць або жартаўлівасць, з якімі яны расказваліся» [20].

«Парадні́к» Я. Карловіча быў той праграмай, якой Федароўскі карыстаўся на зары

сваіх этнаграфічных даследаванняў. Выкарыстоўваў ён яшчэ і «Інструкцыю для вывучэння народных асаблівасцей» (склаў І. Садоўскі), выдадзеную ў 1874 г. Кракаўскай Акадэміяй навук. У неапублікаванай прадмове да свае першае этнаграфічнае працы «Люд ваколіц Жарак, Севежа і Пііліцы» [21] малады даследчык раіць усім, хто хоча збіраць прадметы матэрыяльнай культуры народа і запісваць творы вуснай народнай творчасці, карыстацца гэтымі дапаможнікамі.

Свае адносіны да праграм і інструкцый этнограф выказаў і ў адным з рэфератаў, прачытаных у Варшаўскім навуковым таварыстве ў снежні 1921 г. Для таго каб развіваць фальклярыстыку і этнаграфію, патрэбны спецыяльныя інструкцыі і праграмы, якія памагалі б аматарам пачаць сістэматычныя зборы і даследаванні, падказвалі б, як гэта рабіць,— даводзіў у сваім выступленні Федароўскі. Такіх інструкцый і праграм, кажа ён, «ніколі не занадта» [22]. Каб заахвоціць шырэйшае кола людзей да заняткаў на ніве этнаграфічных і фалькларыстычных даследаванняў, інструкцыі па збіранні вуснай народнапаэтычнай творчасці і праграмы «трэба было б прадаваць па мінімальнай цане» [23].

Федароўскаму характэрны індывідуальны падыход да запісу розных жанраў вуснай народнай літаратуры [24]. На яго думку, лягчэй за ўсё запісваць песні: «Рытм і рыфма песні лёгка затрымлівае яе ў памяці кожнага». Найцяжэй — творы народнай прозы: казкі, паданні, легенды. «Няма нічога лягчэйшага для этнографа,— піша М. Федароўскі ў прадмове да другога тома «Люду беларускага» (стар.

IX),— як здабыццё песні. З паданнем жа, з байкай, казкай зусім інакш: падобныя творы бяздумна з галавы не выходзяць, для іх апавядання патрэбна добрая памяць, дар красамоўства, пэўны запас інтэлігентнасці і нават досціпу. Таму вядомыя апавядальнікі выходзяць звычайна толькі з асяроддзя найінтэлігентнейшых сялян, і што ў першай-лепшай беларускай вёсцы падобную асобу не так лёгка знайсці, ды прытым і гаспадарчая праца не заўсёды дазваляе яму засядаць на цэлыя гадзіны, таму без перабольшвання можна сказаць, што значна лягчэй дзе-небудзь на снапку ці на копцы сто песенек ад расспяваных сялянак запісаць, чым адну доўгую байку ці якое паданне. Найцяжэй урэшце запісваць ад здольнага апавядальніка анекдоты і сказы, таму што звычайна ў такога самароднага гумарыста брак цярпення. (Жанчыны з-за іх прыроджанай сарамяжлівасці рэдка творы гэтага роду расказваюць.)»

Міхал Федароўскі амаль не запісаў замоў, у той час як, напрыклад, Е. Р. Раманаў здолеў сабраць аж 949 узораў гэтага жанру. Што тут сказалася: няўмелы падыход Федароўскага да розных знахараў і шаптуноў — асноўных носьбітаў такіх твораў, як замовы,— ці што іншае? Адказаць цяжка. У архіве збіральніка захоўваецца цэлы сшытак замоў і медыцынскіх парад ад розных хвароб, напісаны на польскай мове, які яму ўдзяліў знахар са Слонімшчыны Караль Шышлоўскі.

Этнографам запісаны ўсяго некалькі ўзораў пахавальных галашэнняў. Зразумела, што гэта спецыфічныя творы, што часцей за ўсё яны — імправізацыя, якую выканаўцы не мо-

гуць паўтарыць у першасным варыянце. Ды і ўмовы запісу нібы неадпаведныя: няёмка ж у час пахавання рабіць запісы на вачах у прыбітых горам людзей. Сам абрад пахавання апісаны Федароўскім дакладна і вельмі падрабязна.

М. Федароўскі, як і іншыя збіральнікі беларускага фальклору, найбольш запісаў народных песень.

Методыка запісаў, спосаб перадачы на паперы асаблівасцей беларускіх народных гаворак удасканальваліся збіральнікам на працягу яго шматгадовай практыкі. Перадаць польскай графікай і арфаграфіяй характэрныя дыялектныя асаблівасці беларускай мовы было нялёгка. Таму ён уводзіў шматлікія дыякрытычныя знакі, выпрацоўваў спецыяльную транскрыпцыю, аднак не заўсёды дасягаў жаданых вынікаў. Гэта асабліва выявілася пры друкаванні сабраных матэрыялаў. Транскрыпцыя мянялася ад тома да тома. Таму аўтар мусіў пры канчатковай падрыхтоўцы матэрыялу да здачы ў друк вялікую ўвагу аддаваць карэктуры. З карэспандэнцыі этнографа мы яскрава бачым, што паміж ім і выдавецтвам узнікалі частыя непаразуменні якраз па пытаннях дакладнай фанетычнай перадачы беларускіх тэкстаў. Пры наборы ўзнікала шмат памылак і недакладнасцей, якія істотна мянялі, а часам нават скажалі беларускую фанетыку. Збіральнік усяляк стараўся не дапусціць скажэнняў, як гэта відаць, напрыклад, з ліста Федароўскага да Рамана Завілінскага ад 27 сакавіка 1897 г.: «Далучаючы ласкава дасланыя мне аркушы «Люду», з немалым здзіўленнем я заўважыў, што прыдыханне *i* ў

апошні час паддалося ў некаторых выразах поўнаму пераўтварэнню: так, напр., ciełуператварылася ў cyjely, harieć у haryjeć, trieski ў tryjeski і г. д. З гэтае прычыны асмелюся яшчэ раз запэўніць шаноўнага пана, што ў гаворках як сакалаў, цакалаў і сякалаў, так і секалаў, а нават у тых нешматлікіх выразах кароннай гаворкі (пераходнай польска-беларускай) і заблудаўскай (пераходнай украінска-беларускай), у якіх гэтае прыдыханне выступае, хоць яно і з'яўляецца для польскага вуха «фанетычна немагчымым», аднак чуецца як найвыразней і без найменшага змякчэння зычных r і c, якія звычайна стаяць побач з ім.

Таму ва ўсіх без выключэння выразах (іх ёсць каля 200) ці то: chly-eb, ly-eki, mhly-eu (але: mhleć), ці таксама: cy-euka, cy-ep, aczy-epnaho, kancy-e, sudy-e, ry-epa, szy-eść, udy-cryć, zaly-ezo(sic) і г. д. Spiryt. asp. y гучыць аднастайна і прынамсі не змякчае зычных. А раз няма ніякага выключэння з гэтага правіла, то скрозь, дзе толькі яно ні выступае, яго варта было б пісаць аднастайна, калі не праз *ye*, як гэта я праектаваў пачаткова, то хоць бы і праз *i*, але з выразным папярэджаннем у пачатку тома, што *i* не змякчае зычных, якія стаяць поруч з ім, і што яно павінна вымаўляцца не інакш як *ye*.

Калі ўжо ўводзіць якую-небудзь змену яшчэ ў гэтым томе, дык хіба такую, што над *e* варта было б ставіць гарызантальную рыску —, бо звычайна гэтая галосная гучыць падоўжана:

cy-ely, cy-ep, hary-eć i г. д. Ні ў якім выпадку нельга пісаць sujeły i haryjeć, бо тутэйшы селянін так аніколі не гаворыць. Нарэшце, заходнебеларускую тэрыторыю я вывучаю больш за дваццаць гадоў, таму прашу, узяўшы пад увагу такі адрэзак часу, выбачыць мне ласкава, што я так упарта настойваю на тым, што пазнаў грунтоўна...»[25]

Гэты ліст паказвае, якім прынцыповым быў Федароўскі пры публікацыі матэрыялаў, як ён адстойваў дакладнасць і правільнасць перадачы асаблівасцей і адценняў розных дыялектаў і гаворак беларускай мовы, якія ведаў дасканала, і сведчыць пра нераспрацаванасць тагачаснай дыялекталогіі, пра няўдалы выбар фалькларыстам знакаў для перадачы пэўных гукаў і іх спалучэнняў. Спецыялісты-рэцэнзенты не прамінулі гэта адзначыць. Так, Я. Ф. Карскі пісаў у рэцэнзіі на першы том «Люду беларускага»: «Асобе, якая стане карыстацца гэтым зборнікам для мэт лінгвістычных, варта асцярожна адносіцца да дыфтангічных напісанняў з *uo* і *ie*; асабліва падазронымі мне здаюцца такія напісанні, як ciely 307, z ciełaji muocy 37 (дзе мяккае *ц* на месцы агульнарускага *ц*, чаго звычайна ў беларускай гаворцы не бывае), trieba 307 (з *р* мяккім)...»[26]

Пры карэктуры набраных аркушаў «Люду беларускага» Федароўскі ўжо не карыстаўся сваімі палявымі запісамі, а меў звычку карыстацца нататкамі, якія адносіліся да ўласцівасцей мовы і былі раскласіфікаваны ў алфавітным парадку мясцовасцей, даследаваных аўтарам. Пра гэту асаблівасць свае методыкі ён прызнаваўся Завілінскаму ў адным з лістоў.[27]

Ад шматлікіх памылак у карэктуры цяжка было адбараніцца. Чым больш было правак, тым больш узрастаў кошт выдання. А пры недахопе грашовых сродкаў у Акадэміі навук гэта было непажадана. І ўсё ж даследчык прасіў выдавецтва даваць яму па некалькі карэктур, правіў, удакладняў, а часам і перадрукоўваў асобныя аркушы працы. Узрадаваны тым, што выдавецтва згадзілася перадрукаваць адзін з аркушаў «Люду беларускага», Федароўскі пісаў Завілінскаму: «Вялікую радасць прынесла мне паведамленне, што 3-ці аркуш пастаноўлена перадрукаваць нанова. Менавіта па гэтай справе я хацеў пісаць да шаноўнага пана, згаджаючыся ўрэшце рэшт кошт прыняць на сябе»[28].

Друкуючы сабраныя фальклорныя матэрыялы, М. Федароўскі стараўся іх адпаведным чынам пашпартызаваць. Так, у I—III тамах «Люду беларускага», дзе апублікавана народная проза, аўтар пазначаў месца запісу (павет, вёска), называў інфарматара. У канцы трэцяга тома ён змясціў агульны спіс інфарматараў з указаннем сацыяльнага становішча кожнага з іх, даў геаграфічны паказальнік і алфавітны прадметны паказальнік. Зусім не паведамляў Федароўскі ўзросту і пісьменнасці выканаўцаў, як гэта рабілі, напрыклад, Е. Р. Раманаў у «Беларускім зборніку» і іншыя фалькларысты. І гэта відавочнае яго ўпушчэнне.

Запісваючы песні, збіральнік спачатку зусім не адзначаў выканаўцаў. «30 год таму назад, калі я пачынаў збіраць песні на Русі Літоўскай,— пісаў ён пра гэта пазней,— за прыкладам Кольберга я не падпісваў прозві-

шчаў спявачак. Таму многа песень з таго перыяду непадпісаных. Кароткія 4-радковыя для змяншэння баласту таксама не падпісваю»[29]. Пад цынічнымі песнямі і прыпеўкамі ён таксама ў большасці не падаваў прозвішчаў выканаўцаў, бо, як сам тлумачыць, «па-першае, некаторыя пра гэта прасілі, а, па-другое, таму што гэта ў большасці 4-радковыя творы»[30]. У песнях пры запісе ён амаль не ставіў націску ў словах, таму што «націск у песні змяняецца вельмі часта ў залежнасці ад рытму мелодыі кожнай песні»[31]. Ужо ў Варшаве, перапісваючы песні начыста да друку, Федароўскі праставуляў націск.

Вялікае значэнне для разумення і навуковай інтэрпрэтацыі многіх фальклорных матэрыялаў, сабраных М. Федароўскім, маюць яго этнаграфічныя запісы. Да большасці вясельных песень можна знайсці адпаведны каментарый у грунтоўных апісаннях вясельных абрадаў. Яны надзвычай каштоўныя, бо памагаюць глыбей пранікнуць у сэнс многіх песень, зразумець іх паэтычную сімволіку, вобразнасць. Возьмем для прыкладу вясельныя песні са Слонімшчыны, змешчаныя ў пятым томе «Люду беларускага». Паводле зместу не заўсёды можна вызначыць, у які перыяд вясельнага цыклу кожная з іх выконвалася. На гэта нам дае адказ апісанне вясельнага абраду на Слонімшчыне. З яго мы даведваемся, што песні 979, 981, 983—985 спяваліся ў чацвер падчас запоін; у суботу вечарам, калі ў маладой або ў маладога памерлі бацькі, то ім спявалі песні 986, 987. Што песні 988—997 — каравайныя, лёгка здагадацца па іх змесце. Але апісанне вяселля дае нам дакладны і цікавы

малюнак вечара, калі месяць каравай і спяваюць гэтыя песні: 988 — перад тым, як мясіць; 989 — пачынаючы мясіць цеста; 990, 991 — калі месяць; 992—994 — замясіўшы каравай; 995 — калі гаспадар частуе каравайніц гарэлкаю; 996, 997 — жартоўныя песні да старшай каравайніцы,— як каравай у печ саджаюць.

Не ведаючы абраду, нельга зразумець, скажам, песню 1005, у якой гаворыцца пра незнаёмыя чытачу нейкія чаравічкі. Урывак з апісання вяселля ўсё высвятляе[32].

Праблема класіфікацыі сабраных матэрыялаў стаяла і стаіць перад кожным фалькларыстам. Да нашых дзён у сусветнай фалькларыстычнай навуцы яшчэ няма стабільнае класіфікацыі твораў розных жанраў вуснай народнай творчасці. Не створаны стабільныя і універсальныя схемы для размяшчэння казак, песень, прыказак. Не ўдаецца гэта зрабіць, па-першае, таму, што кожны народ мае свой спецыфічны фальклор, па-другое, таму, што сюжэты і матывы ўзаемапранікаюць, пераплятаюцца (з'ява так званай кантамінацыі) і таму кожны канкрэтны твор цяжка аднесці да адпаведнага якога-небудзь аднаго раздзела, бо ён мае сувязь і з другімі.

У XIX ст. перад Федароўскім таксама стаяла складанае пытанне, як размясціць сабраны матэрыял, як падаць яго чытачу, даследчыку. Прынцыпы класіфікацыі Федароўскага былі недасканалыя, мелі шмат недахопаў. Але этнограф імкнуўся знайсці выйсце з такога становішча: ён прыкладаў да кожнага тома «Люду беларускага» падрабязныя прадметныя паказальнікі, якія мелі даволі грунтоўны спіс сюжэтаў і матываў. Гэта кампенсавала многія

недахопы размяшчэння матэрыялу і дазваляла чытачу даволі лёгка арыентавацца ў велізарнейшым матэрыяле.

За грунтоўныя, кваліфікавана складзеныя прадметныя паказальнікі аўтара хвалілі рэцэнзенты. Так, акад. Я. Ф. Карскі пісаў: «А калі прыпомнім, што да выдання прыкладзены цудоўны алфавітны паказальнік, дык акажацца, што і карыстацца кнігай вельмі зручна»[33]. Не прамінуў Карскі ўспомніць пра паказальнікі і рэцэнзуючы другі том «Люду беларускага»: «Да абодвух тамоў зборніка прыкладзены цудоўныя паказальнікі тэм і прадметаў; апрача таго, перад кожным раздзелам ёсць падрабязнае пералічэнне сюжэтаў і загалоўкаў казак»[34]. Высока ацаніўшы работу Федароўскага, вядомы чэшскі славіст, казказнавец І. Поліўка таксама ўхваліў паказальнікі Федароўскага: «Было б вельмі пажадана, каб фальклярысты і этнографы рабілі такія змястоўныя сістэматычныя алфавітныя паказальнікі»[35].

Міхал Федароўскі ведаў, што вучоныя-парэміёграфы не маглі даць рады з размяшчэннем прыказак. Прымянялі алфавітны парадак іх падачы, размяркоўвалі па першай літары прыказкі. Такі прынцып быў самы пашыраны і самы няўдалы, бо не пазбаўляў ад паўтарэнняў, ды і практычна такімі зборнікамі карыстацца было нязручна. За мяжой, асабліва ў Германіі, некалі былі распаўсюджаны зборнікі прыказак на канкрэтныя тэмы: «Das Kind im Sprichwort», «Der Mann im Sprichwort», «Das Wetter im Sprichwort» і г. д.

Слоўнікава-энцыклапедычны па «галоўным», «апорным» слове тып публікацыі пры-

казак — пяцітомны збор немца Вандэра, зборнікі Дзюрынгсфельдаў, Ота, выдадзеныя таксама ў Германіі, у палякаў такі метад прымяніў у XIX ст. Самуэль Адальберг. За ім пайшоў і Федароўскі, укладаючы беларускія прыказкі. Заўважым, дарэчы, што чатырохтомнае выданне польскіх прыказак — «Nowa księga przysłów polskich»,— якое выходзіць у Варшаве зараз, мае такую самую сістэматызацыю. Недахоп такіх укладанняў не толькі ў непазбежнасці шматлікіх паўтарэнняў, але і ў тым, што прыказкі на аднолькавыя тэмы з-за метафарычнасці і шматзначнасці многіх з іх могуць быць размешчаны ў розных рубрыках. Адчуваючы недасканаласць класіфікацыі і ідучы следам за С. Адальбергам, які ў сваім зборніку польскіх прыказак змясціў і прадметны паказальнік, Федароўскі таксама рыхтаваў да сабраных ім на Беларусі парэміяграфічных матэрыялаў алфавітны паказальнік: «Беручы пад увагу, што адзіна філасофскі алфавітны паказальнік можа прыказкі рассартыраваць крытычна, аддаўшы апрацоўцы яго нямала часу, я падаю яго ў канцы працы» [36],— запісвае збіральнік у нататках.

Пры выданні парэміяграфічнай спадчыны Міхала Федароўскага Ч. Пяткевічам і С. Панятоўскім алфавітны паказальнік быў адкінуты. Ён, відаць, не быў завершаны Федароўскім, а выдаўцы не мелі часу на яго канчатковае афармленне. Таму, каб хутчэй выпусціць том у свет (яго выданне і так зацягнулася на некалькі гадоў), вырашана было прадметны паказальнік апусціць.

Высока цэнячы прадметныя алфавітныя паказальнікі, этнограф збіраўся зрабіць іх і для

беларускіх народных песень. У канчатковым чарнавым плане размяшчэння песень знізу рукою Федароўскага памечана: «Skorowidz»[37]. А на адной з картак, дзе ён запісваў свае думкі да прадмовы да песень, напісана: «На заканчэнне некалькі слоў пра аналітычны алфавітны паказальнік усяго матэрыялу, які падаю на канцы гэтае працы... Ён можа прынесці значныя паслугі. Бо ў такіх абшырных зборах нялёгка вылучыць і згрупаваць усе сюжэты (wątki) і ахапіць іх памяццю. Пры параўнальных даследаваннях змястоўны алфавітны паказальнік... аблягчае работу»[38].

Такім чынам, грунтоўна распрацаваным алфавітным прадметным паказальнікам Федароўскі надаваў вялікае значэнне. Яны значна аблягчалі карыстанне сабранымі матэрыяламі, давалі чытачу магчымасць лёгка і проста знайсці патрэбны сюжэт песні або казкі, звычаёвую з'яву ці вераванне. Яны, урэшце, кампенсавалі і недахопы класіфікацыі. Складанне паказальнікаў тэм і сюжэтаў трэба прызнаць як заслугу вучонага, як яго наватарскае дасягненне.

Падсумоўваючы нашу гаворку пра методыку запісаў, збору фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў і іх публікацыю Міхалам Федароўскім, можна зрабіць некаторыя кароткія вывады.

Найважнейшай мэтай і патрабаваннем, якія паставіў перад сабою этнограф, прыехаўшы на Беларусь, было: на аснове глыбокага вывучэння жыцця народа, ведання яго мовы, культуры, народнай творчасці стварыць абшырную манаграфію пра беларусаў — шматмільённы

славянскі народ, пра які ў навуковай літаратуры звестак было не вельмі багата. У той час, калі многія вучоныя ў XIX ст., як рускія, так і польскія, не прызнавалі беларускай мовы, адносіліся да яе пагардліва, лічылі яе дыялектам рускай або польскай мовы (успомнім, што нават Я. Карскі называў яе «наречием»), Федароўскі на аснове глыбокага і дэталёвага вывучэння заходнебеларускіх гаворак сцвердзіў, што беларуская мова — самастойная старажытная мова вялікай групы ўсходніх славян, якая мае свае ўнутраныя законы развіцця, свае індывідуальныя рысы і ўласцівасці ў фанетыцы і сінтаксічнай структуры. Вучоны на свае вочы ўбачыў жыццё беларускага народа; пражыўшы доўгія гады сярод беларусаў, ён пераканаўся ў самабытнасці беларускага народа, у яго таленавітасці, захапляўся беларускай народнай творчасцю, духоўнай і матэрыяльнай культурай, вывучэнню якіх фактычна аддаў усё сваё жыццё, адносіўся да беларусаў з любоўю і сімпатыяй, з глыбокай і шчырай пашанаю.

Запісы Федароўскі рабіў пераважна сам. Запісваў усё, што мог пачуць з вуснаў народа. Матэрыял збіраў галоўным чынам сярод сялян. Дбаючы пра дакладнасць запісаў, іх навуковую вартасць, этнограф старанна захоўваў дыялектныя асаблівасці мясцовых гаворак: стараўся не падгладжваць і не перараблядь тэкстаў; правільна тлумачыў словы і выразы, бо добра ведаў мову народа, сярод якога жыў і працаваў. Ён меў у розных паветах Беларусі свае базы, дзе з дапамогаю знаёмых збіраў шматлікіх спевакоў і апавядальнікаў, каб запісаць ад іх фальклор, розныя

іншыя звесткі, карэспандэнтаў выкарыстоўваў вельмі мала; экспанаты матэрыяльнай культуры беларусаў купляў па вёсках, на кірмашах і фэстах або даставаў праз даверапых асоб, памочнікаў.

У адрозненне ад фалькларыстаў, якія перадрукоўвалі ў сваіх публікацыях творы, надрукаваныя раней іншымі збіральнікамі, Федароўскі зусім не карыстаўся апублікаванымі матэрыяламі.

Друкуючы матэрыялы, збіральнік вялікую ўвагу надае карэктуры. Для перадачы некаторых фанетычных асаблівасцей беларускай мовы ўводзіць у польскую графіку дадатковыя дыякрытычныя знакі. Да тамоў «Люду беларускага» робіць вельмі каштоўныя прадметныя алфавітныя паказальнікі, высока ацэненыя такімі аўтарытэтнымі вучонымі, як Я. Карскі і І. Поліўка. Публікуючы казкі, этнограф робіць спасылкі, хоць і не шматлікія, на падобныя варыянты ў другіх зборніках — польскіх, беларускіх, рускіх. Рыхтуючы да друку прыказкі, ён зверыў свае зборы з 26-цю рознымі выданнямі славянскіх прыказак і зрабіў адсылкі да ідэнтычных варыянтаў. Такіх супастаўленняў да нашага часу не зрабіў ніводзін беларускі парэміёграф. Работа Міхала Федароўскага ў гэтым кірунку — унікальная з'ява ў беларускай парэміяграфічнай літаратуры.

Методыка збірання і публікацыі фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў М. Федароўскага мае і свае недахопы. Пашпартызацыя твораў вуснай народнай паэзіі і прозы ў яго не зусім дастатковая: адзначаючы сацыяльнае становішча інфарматараў, даследчык не паве-

дамляе іх узросту, не гаворыць пра іх пісьменнасць. Мала ўказанняў на ступень распаўсюджанасці твораў, іх паходжанне, час выканання. Рэдка паказвае аўтар варыянты казак, а варыянты песень з другіх збораў ён так і не паспеў адзначыць, хоць і спрабаваў гэта зрабіць,— у архіве ёсць яго спасылкі на падобныя песенныя сюжэты і матывы ў зборніку П. Чубінскага.

Пра ўмовы і час выканання абрадавых песень мы даведваемся са шматлікіх апісанняў абрадаў, дасканала зробленых Федароўскім, але яны, на жаль, яшчэ ляжаць у архіве. Недасканалая і транскрыпцыя, якой вучоны стараўся перадаваць беларускія тэксты. Яна мянялася і ў тамах, выдадзеных пры жыцці этнографа, і ў наступных, надрукаваных пазней. Размяшчэнне тэкстаў, класіфікацыя матэрыялу ў «Людзе беларускім» таксама не ўдаліся ўкладальніку. Добра, што аўтар прыклаў да першых трох тамоў свае працы прафесіянальна складзеныя прадметныя паказальнікі і тым самым аблегчыў чытачу карыстанне манаграфіяй.

Недахопы ў публікацыі фальклорных матэрыялаў М. Федароўскага тлумачацца ў значнай ступені ўзроўнем развіцця тагачаснай этнаграфіі і фалькларыстыкі. Тэхніка запісаў у тыя часы, калі жыў і працаваў вучоны, была прымітыўная. Ні пра якія фанографы ці магнітафоны не магло быць і гаворкі. Этнограф на першым часе нават не мог набыць фотаапарат, каб рабіць здымкі беларускіх тыпаў, нацыянальных касцюмаў, пабудоў, інвентару сялян, розных мясцовых вырабаў і г. д. Але дзякуючы неверагоднай настойлівасці, ты-

танічнай сістэматычнай працы ён зрабіў сотні тысяч разнастайных запісаў і нататак і гэтым данёс да нас нашу гісторыю.

## СКАРБ НАРОДНЫХ КАЗАК

Творчая гісторыя другога і трэцяга тамоў «Люду беларускага» значна адрозніваецца ад таго, як рыхтаваўся і выходзіў першы том. Калі папярэдні том М. Федароўскі падрыхтаваў на аснове матэрыялу, сабранага ім у вялікай колькасці за 14 гадоў работы, то для наступных кніг «Люду беларускага» матэрыял трэба было дазбіраць непасрэдна ў час падрыхтоўкі рукапісу да здачы ў выдавецтва. У другі і трэці тамы Федароўскі вырашыў змясціць казкі і паданні. Казачны матэрыял збіраўся этнографам адначасова з іншым пачынаючы з 1877 г. І ўсё ж казак было запісана значна менш, чым, скажам, забабонаў і павер'яў або нават песень. Іх проста цяжка было збіраць, запісваць.

Першапачаткова казкі, паданні, легенды ўваходзілі як раздзелы ў серыі, падрыхтаваныя Федароўскім да друку перад 1886 г. Фрагменты іх зберагліся ў архіве этнографа[39]. Пасля ён уключыў іх часткова ў першы, а часткова ў другі і трэці тамы «Люду беларускага». Да першага тома Федароўскі адабраў казкі і паданні, меншыя па аб'ёму, бо ў яго і так хапала матэрыялу з галіны народных вераванняў. Некаторыя даўжэйшыя тэксты ён пакідаў для другога тома. Пра гэта сведчаць некалькі чарнавых картак з архіва: «Да гэтага раздзела адносіцца больш за дзесятак аповесцей пра чараўніц, чараўнікоў і знахараў, якія будуць змешчаны ў 2-ім томе»;

«Многа яшчэ паданняў, у якіх выступаюць міфічныя істоты, будзе змешчана ў наступным томе» [40].

У першы том было ўключана звыш 300 паданняў, казак, легенд. Да Федароўскага беларускіх казак было надрукавана мала: 10 тэкстаў апублікаваў М. Дзмітрыеў, 15 — П. Шэйн, найбольш апублікаваў Е. Раманаў у III выпуску «Белорусского сборника» (1889) — 192 казкі, у IV выпуску (1891) — 170; 54 казкі апублікаваў Ян Карловіч, але ў перакладзе на польскую мову; А. Глінскі ў «Bajarzu polskim» змясціў беларускія казкі Навагрудчыны ў сваёй апрацоўцы. Каб падрыхтаваць рукапіс другога тома «Люду беларускага», трэба было папаўняць матэрыялы. І этнограф інтэнсіўна бярэцца за работу: некаторыя казкі запісвае непасрэдна ад казачнікаў сам, заахвочвае знаёмых і атрымлівае ад іх некаторыя тэксты.

Частым спадарожнікам вучонага ў экспедыцыях быў Антось Высоцкі. Збіраў ён матэрыялы і самастойна. Так, вярнуўшыся з Кракава і падарожжа па Прашоўскім павеце і ваколіцах Севежа, Федароўскі пісаў 7 жніўня 1891 г. Яну Карловічу: «Не пазней, аднак, як пасляраўтра з неадступным Антосем я раблю экскурсію пад Ружанскую пушчу, дзе ў Яна Дзежкі ва Устроні пасяджу пару тыдняў» [41].

Як сведчаць рукапісныя матэрыялы з архіва этнографа, казкі да другога тома ў пераважнай большасці рыхтаваліся ў 1892 г. Пад многімі тэкстамі стаяць дакладныя даты, пазначаны дзень, месяц і год, калі тэкст запісваўся (ці перапісваўся). Так, сярод датаваных казак знаходзім: 1890 год — 1 казка, 1891—8, 1892—185,

1893—1 [42]. Запіс астатніх казак недатаваны. З 410 тэкстаў, змешчаных у другім томе «Люду беларускага», 38 даслана невядомымі карэспандэнтамі. Усе астатнія (372 тэксты) пісаны рукою самога Міхала Федароўскага. Вось тут і паўстае складанае пытанне: як збіраліся і занатоўваліся гэтыя тэксты? Справа ў тым, што пад многімі казкамі, акрамя даты, стаяць подпісы, якія сведчаць, што Федароўскаму актыўна памагалі збіраць ці парадкаваць казачны матэрыял прынамсі два чалавекі: Антось Высоцкі і Раман Галамбёўскі. Пад 121 тэкстам чарнавікоў другога тома і 52 з трэцяга знаходзім паметкі: Podał Ant. Wysocki, Podał Antoś, Podyktował Ant. Wys., Podykt. A. Wys., A. W. і г. д. 39 тэкстаў з другога і 3 з трэцяга тома памечаны: Podykt. Rom. Gołęb., Rom. Goł., R. Goł., Goł., R. G., R. Gołęb. і г. д.; 17 для трэцяга тома дасланы карэспандэнтамі Федароўскага.

Поўнае імя і прозвішча другога памагатага этнографа сустракаецца толькі адзін раз у рукапісных чарнавых матэрыялах для трэцяга тома «Люду беларускага»: Pod. Romek Gołębiowski [43]. Хто такі Раман Галамбёўскі, устанавіць пакуль што не ўдалося. Задача тут вось у чым: як расшыфраваць гэтыя Pod., Podał, Podyktował у сувязі з тым, што казкі запісваліся ўласнаручна Федароўскім. Тут можа быць некалькі адказаў: 1) памочнік сам збіраў казкі (запамінаў або нават запісваў калі не ўвесь сюжэт, дык яго схему), а пасля расказваў Федароўскаму або дыктаваў са сваіх запісаў. Гэта наконт Podał; 2) многія ж тэксты памечаны Podykt., Podyktował. Між іншым, значная колькасць тэкстаў запісана так, што цяжка па-

верыць, каб гэта быў першапачатковы палявы запіс,— такі ён выразны, без паправак, кожнае слова напісана поўнасцю, без скарачэнняў, што практычна пры запісванні казак ад рукі ў час апавядання амаль немагчыма. Значыць, памочнік мог дыктаваць казку, запісаную Федароўскім раней, з яго ж (Федароўскага) чарнавіка. Па-другое, яшчэ раз даводзіцца меркаваць, што памочнік этнографа мог дыктаваць і са свайго запісу.

Матэрыялы, сабраныя намі ў архіве М. Федароўскага, супярэчлівыя, не зусім поўныя, таму і выклікаюць столькі сумненняў, меркаванняў, здагадак. Так, яшчэ на адно сумненне наводзіць прыпіска да тэксту № 65: Podyktował Antoś według opowieści Jana Ołtucha ze wsi Hołynka [44]. У надрукаваным тэксце [45] пашпарт казкі і інфарматар тыя ж, што і ў рукапісе. Выходзіць, што пад словам Podyktował збіральнік разумеў і звычайнае расказванне яму казкі А. Высоцкім, які завучыў яе ад мясцовага казачніка.

Як мы ўжо бачылі, найбольш тэкстаў падпісана імем Антося Высоцкага. Некаторыя архіўныя матэрыялы [46] праліваюць святло на метад работы гэтага нястомнага памочніка Федароўскага. Так, у пісьмах Яна Дзежкі чытаем (дарэчы, урыўкі гэтых пісем Федароўскі, апусціўшы прозвішча карэспандэнта, надрукаваў у трэцім томе «Люду беларускага» № 527—528): «...Антось назбіраў баек каля 40. Калі пану пільна патрэбны, то прашу падасланць па яго коніка...»; «...пасылаю Антося сваім канём, *каб не забыўся баек* (падкрэслена мною.— **Я. С.**), бо мае больш за 40...» Значыць, Антось Высоцкі адшукваў казачнікаў на месцы, слухаў іх

казкі і запамінаў іх, а пасля пераказваў М. Федароўскаму, каб той уласнаручна занатаваў тэксты. Тут не лішне прыпомніць словы самога этнографа пра выключную памяць А. Высоцкага і яго дзейсную дапамогу збіральніку: «З сардэчнай удзячнасцю трэба яшчэ ўспомніць пра дзейнасць пляменніка пані Керсноўскай Антона Высоцкага. Цікавы, спрытны, надораны цудоўнай памяццю і веданнем беларускай мовы, ён зрабіў для мяне неацэнныя паслугі. Пасыланы заўсёды туды, куды я сам дабрацца не мог, ён спраўляўся з заданнямі настолькі, што за сем гадоў з розных ваколіц Ваўкавыскага павета здолеў даставіць мне, побач з мноствам вераванняў, песень і прыказак, цэлыя сотні легенд, павер'яў і народных аповесцей» [47]. Тут, вядома, ёсць і характэрнае для Федароўскага пераўвелічэнне.

Здагадку, што А. Высоцкі пераказваў казкі М. Федароўскаму, пацвярджае яшчэ адна акалічнасць. У тэкстах самых розных інфарматараў з вельмі аддаленых адна ад другой мясцовасцей назіраюцца адны і тыя ж характарыстычныя прыёмы ў стылі апавядання. Тут маецца на ўвазе перадача рэзкіх рухаў, нечаканых дзеянняў стэрэатыповымі фразамі і словамі, якія набліжаюцца да выклічнікаў. Сярод іх назвы гукаў, якія ўзніклі ад прадметаў ці жывых істот пры іх руху, дзеянні (тарарах! бум! трах! дзын-дзын! і г. д.); назвы гукаў, што ўзніклі ў працэсе дзейнасці чалавека (бах! шах! бэнц! грак! і да т. п.); скарочаныя назвы розных працэсаў або імгненных дзеянняў і рухаў, якія па форме набліжаюцца да выклічнікаў (шась! зірк! шпургець! саўгець! цап! граб! і г. д.). Вось прыклады з «Люду беларускага»:

т. I, стар. 18, № 58. Ужэ пачынало світаць, чорт пачаў пазяхаць што мамент, а гаспадар гэто *саўгець!* яму ражно ў горла.

стар. 29, № 96. А после стралец *бэнц!* чорта печэнею наодлех. Чорт упаў і давай енчыць, а стралец *шык!* за куст.

стар. 133, № 348. Дурны схіліўса па хлеб, а ён яго *граб!* за карк, але дурны *як га!* стаў на роўных нагах і ўзяў дзеда пасваему.

т. II, стар. 160, № 133. Падышла пад комін, нюхнула, так яе *смыкець!* і панесло.

стар. 172, № 148 ...а ена его *цап!* у мешок, дай панесла; прывалакла дахаты да *бабоўх!* на землю.

стар. 199, № 173. Седзіць, ажно каля поўначы адзін абруч *лоп!..*

Такіх прыкладаў можна прывесці многа. У першым томе, напрыклад, з казак № 60, 68, 77, 354 і іншых, у другім — № 23, 30, 51, 94, 119, 321 і г. д. Усе яны даюць падставу меркаваць, што гэта тэксты, пачутыя ад розных людзей, але пераказаныя адным.

Недахопы такіх запісаў відавочныя. У той час як «з песні слова не выкінуць», з казкі — жанру вельмі рухомага і мабільнага — яго вельмі лёгка выкінуць, замяніць іншым, і для

даследчыка гэта будзе амаль незаўважным. Але ж справа не толькі ў паасобных словах. Змены адбываюцца і ў самім змесце. Бо адно — запісаць казку непасрэдна ад казачніка, асабліва ад казачніка-майстра, і зусім іншае — тую ж казку запісаць у перsucceеказе другога чалавека, якім для М. Федароўскага, напрыклад, быў Антось Высоцкі. Якой бы фенаменальнай памяццю А. Высоцкі ні валодаў, запісаныя ад яго тэксты маглі быць і горшыя за тыя, што ён непасрэдна чуў з вуснаў народа. Прайшоўшы праз свядомасць пераказвальніка, яны маглі дэфармавацца, страціць самабытныя рысы, адцэнні, набыць новыя, можа нават не ўласцівыя раней якасці. Што ў пераказе церaз пасрэдніка казкі трацілі з боку мовы і стылю, нават і гаварыць не даводзіцца. А. Высоцкі быў прадстаўніком канкрэтнай мясцовай гаворкі (ваколіцы Косіна ў Ваўкавыскім павеце), і таму заканамерна, што на яе ён збіваўся, перадаючы па памяці тэксты з іншых мясцовасцей, куды ён хадзіў і ездзіў па заданнях М. Федароўскага. Таму, натуральна, вучоны павінен быў уносіць у тэксты, запісаныя ад Антося, шматлікія праўкі, каб яны (тэксты) мелі выгляд і рысы адпаведнага дыялекту, канкрэтнай мясцовай гаворкі.

Ніякіх матэрыялаў пра спосаб збірання ці дастаўкі казак М. Федароўскаму другім яго памочнікам — Раманам Галамбёўскім — адшукаць не ўдалося. У рукапісах жа побач з ініцыяламі ці скарочаным прозвішчам Р. Галамбёўскага занатавана Pod. і Podykt. Так што нічога пэўнага тут сказаць немагчыма. Хутчэй за ўсё ён памагаў этнографу пры перапісцы: дыктаваў з яго чарнавікоў (М. Федароўскі і ў

прадмове да першага тома не ўспамінае імя Галамбёўскага сярод сваіх памагатых). Гэта, вядома, усяго толькі меркаванне.

Сярод рукапісаў казак, што ўвайшлі ў другі том «Люду беларускага», ёсць, як мы ўжо гаварылі, 38 тэкстаў, запісаных не рукой Федароўскага, а яго карэспандэнтамі. Перад тым як перапісваць казкі для выдавецтва, М. Федароўскі амаль заўсёды правіў іх [48]. Характар правак розны: ад выпраўлення граматычных і арфаграфічных памылак, лексічных форм слоў да замены асобных слоў новымі, выпраўлення стылю казкі і нават перапісвання тэксту па-свойму. Так, напрыклад, у тэксце 115 [49] праўкі нязначныя, а ў казках 199, 241 [50] перакрэслены апошні абзац тэксту і дапісаны рукой М. Федароўскага зусім па-новаму; дасланая кімсьці казка 255 [51] амаль уся перапісана этнографам, тое ж і ў тэксце 291 [52]. Шэраг казак быў запісаны М. Федароўскім задоўга да таго, як складаўся рукапіс другога тома «Люду беларускага», г. зн. да 1892—1893 гг. Іх вельмі лёгка адрозніць па характары пісьма — амаль усе яны былі перапісаны на чыставік у 80-х гадах. Ды і тэкстам яны значна даўжэйшыя за пазнейшыя запісы. Некаторыя з іх фалькларыст меркаваў уключыць у манаграфіі паасобных паветаў (рукапісы казак № 30, 40, 66, 122, 123, 143 [53] і інш.). Гэтыя запісы (нават і чыставікі) звычайна правіліся ў 1892—1893 гг. перад здачай у выдавецтва.

Рэцэнзенты (Я. Карскі, І. Поліўка, У. Гнацюк) хвалілі збіральніка за дакладную перадачу фанетычных асаблівасцей беларускай мовы. За гэта этнограф быў сапраўды варты пахвалы. Да М. Федароўскага высакаякасных

у гэтым сэнсе публікацый беларускага фальклору амаль не было. Пазнаёміўшыся з матэрыяламі, надрукаванымі Федароўскім, вучоныя, што не былі знаёмыя з беларускай мовай і яе асаблівасцямі, маглі скласці сабе даволі поўнае ўяўленне пра яе фанетыку, лексічныя і граматычныя рысы, сінтаксічную структуру.

Міхал Федароўскі імкнуўся перадаваць па магчымасці ўсе асаблівасці мовы і вымаўлення выканаўцаў (пасля незвычайных для яго вуха слоў і форм ён ставіў у дужках sic); карыстаўся дадатковымі дыякрытычнымі знакамі, уведзенымі ім у польскую транскрыпцыю, каб як найдакладней перадаць усе дыялектныя формы і рысы паасобных беларускіх гаворак (прымяняў *ä* для абазначэння *е* шырокага, якое набліжаецца да *а* — гук сярэдні паміж *а* і *е*; *â* — для абазначэння *а* вузкага, блізкага да *о*; скрозь увёў нескладовыя *ĭ* і *у*, што не заўсёды было ў выданнях беларускіх фальклорных тэкстаў; над літарамі, якія абазначалі працяглыя гукі, стаяла гарызантальная рыска, прастаўлены націскі ў словах, абазначаны дыфтонгі). Праўда, гэтыя знакі не скрозь былі падабраны ўдала, але гэта ўжо іншая справа — польская дыялекталогія тады яшчэ не была распрацавана. Але ці быў збіральнік настолькі падрыхтаваны, каб весці запісы фанетычна? Прытым усё запісваць фанетычна (у «Людзе беларускім» фанетычна перадаюцца ўсе тэксты). Агульнавядома, што запісваць казку ад рукі вельмі цяжка[54]. Той, хто запісвае, сочыць галоўным чынам за тэкстам казкі, стараецца не прапусціць слоў, намагаецца як паўней зафіксаваць іх. За асаблівасцямі вымаўлення казачніка сачыць амаль не даводзіцца. Дакладнасць

вымаўлення ў такім выпадку астаецца не заўсёды адзначанай.

З-за спецыфічных умоў запісвання казачных тэкстаў магчыма толькі прыблізная дакладнасць у перадачы асаблівасцей вымаўлення інфарматара. «Так як неправеранае слыхавое ўспрыняцце можа аказацца вельмі ж суб'ектыўным,— піша У. Я. Проп,— той фанетычнай дакладнасці, да якой імкнуўся збіральнік, не атрымалася. Да таго ж, як гэта добра вядома збіральнікам казак, пры хуткім выкананні дакладна запісаць не толькі вымаўленне, але нават і проста апавяданне (речь) выканаўца бывае не толькі цяжка, але і немагчыма. У працэсе хуткага запісу збіральнік забывае пра фанетычны запіс і пачынае пісаць так, як ён прывык»[55]. Праўда, збіральнік можа пазначаць асаблівасці вымаўлення казачніка пры паўторным праслухоўванні таго самага сюжэта. Але гэта ўжо зусім іншая рэч, бо казачнік нават тую самую казку слова ў слова паўтарыць не можа. Таму побач з асаблівасцямі вымаўлення ў тэкст казкі пры паўторы яе збіральнік уносіць і іншыя праўкі.

Вядома, што многія збіральнікі-фалькларысты, не паспяваючы схапіць у час запісу ўсіх асаблівасцей вымаўлення апавядальніка, апрацоўвалі свае запісы «заднім чыслом», уносілі праўкі і карэктывы па памяці. Некаторыя ў пагоні за «дакладнасцю» знарок узмацнялі асаблівасці мясцовага вымаўлення. Гэта лёгка ўстанавіць, калі параўнаць іх чарнавікі, палявыя запісы з надрукаванымі тэкстамі. Да такіх вось і належаў Міхал Федароўскі. Матэрыялы яго архіва даюць магчымасць сцвердзіць, што запісы тэкстаў казак этнограф рабіў не фане-

тычна, а арфаграфічна, захоўваючы лексічныя формы слоў, сінтаксіс апавядальніка, спецыфічныя выразы і словазлучэнні, характэрныя пэўнай мясцовасці ці нават мове інфарматара. Фанетычныя ж асаблівасці дыялектаў уносіліся М. Федароўскім у тэксты пры перапісцы. Рабілася гэта ў час падрыхтоўкі рукапісу да друку, часамі праз некалькі, а то і праз дзесятак гадоў пасля непасрэднага запісу і ў час карэктуры (пры вядзенні карэктуры этнограф карыстаўся толькі сваімі дыялекталагічнымі запісамі, укладзенымі алфавітна па тэрыторыях дыялектаў, а не рукапісамі саміх тэкстаў).

Часта асаблівасці мясцовых гаворак уводзіліся ў тэкст занадта падкрэслена. Так узмацняліся спецыфічныя рысы таго ці іншага дыялекту. Этнограф часамі тут жа на палях рукапісу пазначаў дыялектныя асаблівасці паасобных гаворак і пасля ўносіў іх у тэкст казак, хоць у мове апавядальніка такіх рысаў і не было. Напрыклад, у рукапісе казкі «Як донька Галёнка свае браткі знайшла»[56] Федароўскі выпраўляў алоўкам *i* на dy-j, tady на utedy і іншае, а на палях рабіў паметкі: Dy-j=Słonim.; biz od Swisł.; Sł.=joju, Wołk.=jeju, што азначала — *дый* — так гавораць у Слонімскім павеце, *біз* ужываюць каля Свіслачы, у Слонімскім павеце ўжываецца форма *ёю*, а ў Ваўкавыскім *ею*. У друку гэты прынцып не скрозь вытрыманы:[57] у пачатку казкі ўсе *i* выпраўлены на dy-j, што адразу заўважаецца як штучна прыўнесены элемент; пасля ў тэксце *i* ўсё ж такі сустракаецца. Спарадычна захавана далей і *біз* і *ею*. Так што тут заўважаем яўную непаслядоўнасць рэдактарскай праўкі збіральнікам мовы казачнага тэксту. Можна

гэта назіраць і ў шматлікіх іншых тэкстах, калі параўнаць іх рукапісныя арыгіналы з надрукаванымі. У рукапісе названай казкі ёсць і такія праўкі: усенькае *адзене* — усенькіе *уборы*; сучка анно на двёх *бежыць* — сучка анно на двёх *скача*; *можэ* — *можа*; пт*а*шка — пт*у*шка і інш.

Імкненне Федароўскага як найдакладней перадаваць асаблівасці мясцовых гаворак беларускай мовы само па сабе пахвальнае. І тое, што збіральнік перадаваў гэтыя асаблівасці, трэба расцэньваць значна вышэй, чым публікацыя фальклорных тэкстаў без выяўлення асаблівасцей мясцовай гаворкі або перадача тэкстаў, запісаных у розных мясцовасцях, аднай гаворкай (як гэта рабіў, напрыклад, Дамбавецкі) ці няправільнае, скажонае адлюстраванне беларускай мовы і яе дыялектаў (што назіраем у М. Дзмітрыева, некаторых запісах П. Шэйна і інш.).

Праўкі, якія ўносіў М. Федароўскі ў запісаныя ім тэксты, можна падзяліць на некалькі груп.

1. Праўка паасобных слоў, непатрэбнае ўзмацненне дыялектных асаблівасцей, па сутнасці, унясенне ў тэкст тых дыялектных рыс гаворкі, якія ў мове канкрэтнага казачніка не выступалі. Так, тэкст казкі «Жалезны воўк» («Люд беларускі», т. I, стар. 120—124, № 342) Федароўскі правіць наступным чынам: выл*я*піў з гліны на выл*е*піў з гліны; зрабіўс*я* — зрабіўс*е*; *я*му — *е*му; *я*на — *е*на [58] і г. д. У надрукаваным тэксце ёсць яшчэ некаторыя змены, якіх не было нават у выпраўленым рукапісе. Яны паявіліся пазней — пры перапісцы ў чыставік або ў карэктуры. Такога ж характару праўкі

ёсць і ў рукапісных матэрыялах да трэцяга тома [59]. Напрыклад, *адзін* папраўлена на *едзін* у тэксце казкі 333 [60], каб падкрэсліць асаблівасці гаворкі Сакольскага павета. Але ж пры запісе формы *едзін* не было ў мове казачніка, бо збіральнік адразу запісаў *адзін.*

2. Замена некаторых слоў у сказе іншымі, дапісванне ад сябе часткі тэксту. Наглядна гэта відаць, калі супаставіць усе варыянты — рукапісныя і друкаваныя — канкрэтнага тэксту. Вось пачатак казкі «Як воўк казенятка паеў»: а) першапачатковы рукапісны варыянт: «Была хатка, а ў той хатцы каза з казеняткамі. Як каза дзе выходзіць, так казенята дзверы защчаплялі, а як прыйдзе, так стукне капыткаю і кажэ...» [61]; б) варыянт рукапісны праўлены: «Была хатка, а ў той хатцы каза з казеняткамі. І научыла свае дзеці: Як я дзе пайду, то вы дзверы зашчапеце і ні адчыняйце нікому, бо вас хто здрадзіць. А як я прыду, то стукну ножкаю і так вас заклічу...» [62]; в) друкаваны тэкст: «Byłá chàtka, a u tuój chàtcy kaza z kazieniatkami. Jak padraśli truòszko, tak uczýć ich: «Jak ja — kàżä — dzie pajdù, to wy dźwièry zaszczäpiècie i ni a(d)czyniàjcie nikòmu, bo was chto z(d) ràdzić, a jak ja prydù, to stùknu nuożkaju i tak was zakliczu...» [63]

3. Выпраўленне стылю казачніка, яго манеры весці апавяданне. М. Федароўскі захапляўся памяншальна-ласкальнымі формамі ў беларускай мове. Пісаў пра гэта не раз у сваіх чарнавых нататках. «Іх (беларусаў.— **Я. С.**) мова,— запісаў этнограф на адным з аркушаў,— ...нязмерна багатая параўнаннямі і... поўная пяшчоты... Калі гаварыць пра параў-

нанні, то мноства іх я прывёў у паданнях. Аднак, пішучы гэта, не магу стрымацца, каб не прывесці цудоўнага параўнання, якое выйшла з вуснаў маткі-работніцы, якая гаварыла пра сваіх дзяцей: «Дзяцей сваіх люблю так, як гэту святую зямліцу. А як прыду вечарам дахаты, гляну на іх, то мне здаецца, што бачу яснае сонейка на небе пасля смутнае зімы. Анічога так не баюся на гэтым свеце, як смерці сваіх дзяцей». Колькі ў гэтых словах паэзіі, колькі праўдзівай мацярынскай любові!»[64]

Па шляху нагнятання памяншальна-ласкальных форм пайшоў Федароўскі, рэдагуючы, напрыклад, казку «Аб Оху і залатой табакерцы». Гэта кардынальна змяніла стыль казкі. Вось першапачатковы запіс (зроблены да 1886 г.): «Быў сабе сіраціна леснікоў сын, бацькі ему паўмералі і цэла радзіна. Жыў ён адзінок, як калок у чыстым полі, анно для разрыўкі гадаваў сабе кошэчку, а дзе ён ішоў, то і ена як сабака за ім бегла. Аднаго разу пашоў ён у лес прынесці сабе з бэрэм'я дроў. Ішоў ён так, ішоў, потым сеў на пне, а жэ ему было цяжко на сэрцу, так ён охнуў моцно...»[65] Выпраўлены этнографам варыянт, які трапіў у друк, выглядаў так (т. II, стар. 78—81, № 60): «Быў сабе сіраціна леснікоў сын, бацькі ему паўміралі і *цалюсенька* радзіна. Жыў ён адзінокі, як калок у чыстым полі, анно для разыграцы гадаваў сабе кошачку, была дзе ён пахіліцса, то ена за ім *усюдачкі* выскакам. Аднаго разу пашоў ён у лес прынесці сабе з *берэмечко драўцоў*. Ідзе ён сабе, потым сеў на пні, а што ему цяжко было на сэрцы, так ён сабе охнуў *моцненько...*»[66]

Праўкі тэксту казак маглі быць выкліканы і тым, што ён меў па некалькі запісаў аднаго і таго сюжэта. Напрыклад, у друку пры казцы «Аб Оху і залатой табакерцы» збіральнік дае такую заўвагу: «Вельмі падобны варыянт я запісаў у Дварчанах пад Свіслаччу» [67]. Надрукаваны тэкст мае пашпарт: в. Соўгеці Ваўкавыскага павета, каля Свіслачы. Але ў такім выпадку лепш было б не зводзіць два варыянты ў адзін, а даць абодва. Праўда, гэта не заўсёды магчыма з-за абмежаванасці аб'ёму выдання.

Праўкі, якія ўносіў збіральнік у тэксты казак, даюць падставу сцвердзіць і тое, што ён выключна валодаў жывой беларускай мовай, добра ведаў усе дыялекты тэрыторыі, якую доўгія гады даследаваў. Таму ён смела ўмешваўся ў казачны тэкст і правіў яго так, што праўкі ўваходзілі ў тэкст арганічна і амаль незаўважальныя для даследчыкаў, якія не знаёмы з палявымі запісамі фалькларыста. Акрамя таго, Федароўскі выключна ведаў беларускі казачны матэрыял увогуле.

Рэдагаванне казачных тэкстаў Міхалам Федароўскім нярэдка выходзіла за дапушчальныя нормы і ператваралася, па сутнасці, у літаратурную апрацоўку. А пры тэксталагічным рэдагаванні запісаў фальклору, як піша У. Я. Проп, «апрацоўка асаблівасцей словазмянення, словаўтварэння і інш. недапушчальныя. Умяшанне рэдактара ў гэтых выпадках уяўляла б сабою не толькі моўную, але і літаратурную праўку і апрацоўку» [68].

Вышэй мы ўжо бачылі, як збіральнік рэдагаваў моўны бок сваіх запісаў. А вось некалькі прыкладаў таго, як ён дапісваў канцоўкі казак, анекдотаў, былічак, дадаючы стэрэатып-

ныя фразы, характэрныя для народнага казачнага стылю. Так, у архіве Федароўскага захаваліся рукапісы казак[69] (чарнавікі тэкстаў, якія ўвайшлі ў трэці том «Люду беларускага»), у якіх дапісаны наступныя канцоўкі (яны ёсць і ў друкаваных тэкстах[70]):

№ 335: От табе і напрабаваў!

№ 337: От хітры, ліха ему!

№ 339: От штукі папоўскія! (Але ў друку:[71] От штукі! — **Я. С.**)

№ 344: От быў у добруй вырабі!

Падобныя дапісванні былі і ў казках другога тома. Так, рукапіс казкі «Аб лісіцы як збанка тапіла»[72] (апублікавана ў другім томе «Люду беларускага», стар. 8, № 9) пісаны чорным чарнілам. Апошняя ж фраза: «От настрашыла збанка!» дапісана Федароўскім алоўкам. Зроблена гэта, вядома, пазней, чым рабіўся запіс усяго тэксту. Такое ўмяшанне ў тэкст фальклорных твораў пры іх навуковай публікацыі нічым не абгрунтавана. Збіральнік павінен быў друкаваць тэксты казак так, як запісаў іх непасрэдна ад народных выканаўцаў-апавядальнікаў.

Навуковы апарат казачных зборнікаў у асноўным складаецца з уступнага артыкула (ці пасляслоўя) і каментарыяў да тэкстаў. Часам аўтары прыкладваюць яшчэ розныя дадаткі: паказальнікі (сюжэтаў ці матываў; геаграфічны; спісы выканаўцаў-інфарматараў і г. д.), часамі слоўнікі мясцовых і малазразумелых слоў і выразаў, іншы раз варыянты да паасобных тэкстаў і г. д. Якім жа навуковым апаратам аснасціў свае тамы казак М. Федароўскі? Пачнем з уступнага артыкула. Адразу трэба сказаць, што ўступны артыкул да другога тома

«Люду беларускага» з'яўляўся для свайго часу значным дасягненнем у фалькларыстычнай навуцы. Ён не страціў навуковай вартасці і да нашага часу. Уступ да казак напісаны самім збіральнікам. Ён насычаны багатым фактычным матэрыялам, каштоўнымі назіраннямі над жыццём казкі ў Заходняй Беларусі канца XIX ст., зачэрпнутымі з шматгадовага збіральніцкага вопыту аўтара. З прадмовы мы даведваемся, што большасць матэрыялаў да другога тома была запісана «пасля апрацоўкі 1-га тома» [73]. Гэта пацвярджаецца і архіўнымі рукапіснымі матэрыяламі. Аўтар, праўда, не называе канкрэтна калі, што і ў якой колькасці было запісана, хоць у прадмове мог гэта зрабіць.

Вельмі важныя заўвагі М. Федароўскага пра колькасныя суадносіны ў народным рэпертуары беларусаў казак, паданняў і песень. «Старажытныя традыцыі заходнебеларускага племені,— піша даследчык,— уяўляюць такі нязмерна багаты матэрыял, пра які можна смела сказаць, што ён — найабшырнейшы аддзел зпасярод усіх яго твораў, якія ўваходзяць у склад вуснай літаратуры. На першы погляд, мяркуючы па багатых зборах... Раманава і Шэйна, а хоць бы і на падставе майго, у якім прынамсі ў тры разы больш песень, чым паданняў, недасведчаны мог бы дапусціць, што Беларусь вынесла з старажытнай эпохі найбольш гэтых першых твораў (г. зн. песень). Тым часам адных толькі мясцовых паданняў непараўнальна больш, чым усіх разам узятых песень» [74].

Той факт, што фалькларысты песень запісалі найбольш, Федароўскі тлумачыць тым, што іх лягчэй запісваць, «чым доўгую казку або якое паданне». Да таго ж «рытм і рыфма песні лёг-

ка замацоўваюць яе ў памяці кожнага». З казкай ці паданнем зусім інакш: каб іх запамінаць і расказваць, патрэбна добрая памяць, дар апавядаць, пэўная дасціпнасць, інтэлігентнасць нават. Таму, кажа Федароўскі, вопытныя, спрактыкаваныя апавядальнікі выходзяць з найбольш мудрых, растаропных і дасціпных сялян. «У першай-лепшай беларускай вёсцы такую асобу нялёгка знайсці,— піша даследчык.— Да таго ж і гаспадарчая праца не заўсёды дазваляе яму засядаць на цэлыя гадзіны» [75]. Прыпомнім, дарэчы, што такія ж назіранні і вывады зрабіў і А. К. Сержпутоўскі, крыху пазней за Федароўскага вывучаючы казку і яе носьбітаў на Палессі. «Добрыя апавядальнікі,— пісаў ён у прадмове да свайго зборніка казак,— трапляюцца даволі рэдка» [76]. А далей сцвярджаў, што «апавядальнікамі з'яўляюцца, вядома, больш здольныя і развітыя людзі. Гэта, так сказаць,— інтэлігенцыя» [77]. Вывады, як бачым, цалкам ідэнтычныя.

Найцяжэй, кажа ў прадмове М. Федароўскі, знайсці здольнага апавядальніка анекдотаў і пóказак. Гэта таму, што звычайна такі самародны гумарыст не мае цярпення, каб расказваць збіральніку-фалькларысту «пад запіс». Успомнім тут, што якраз такім і быў той фурман, якому даследчык справіў гарнітур і нават падараваў сярэбраны гадзіннік, каб толькі ён расказваў яму жарты і анекдоты, якіх ведаў безліч. «Аднак,— пісаў М. Федароўскі,— нягледзячы на так прывабныя падарункі, wykręcił się filut sianem, лепш было яму выдурняцца з дзяўчатамі ў пякарні, для яго жывой натуры гэта (расказванне «пад запіс».— **Я. С.**) было заданнем звыш сіл» [78].

«Аповесці не так распаўсюджаны, як песні. Люд вялікапольскі і частка Мазоўша рэдка імі займаюцца»,— пісаў К. Вуйціцкі пра фальклор палякаў. Прывёўшы гэтыя словы вядомага даследчыка польскага фальклору, Федароўскі сцвярджаў на падставе ўласнага вопыту, што на Беларусі «ўсе віды паданняў» [79] «непараўнальна больш пашыраныя, чым над Віслай» [80].

У прадмове М. Федароўскі падае цікавыя звесткі пра мясцовасці, дзе ён напаткаў казак найбольш. Вось яго словы: «Дасюль на Русі Літоўскай найбольш кружыла розных баек і казак у такіх зацішных, размешчаных сярод балот, пушчаў і лясоў мясцовасцях, якімі да нядаўна яшчэ былі ваколіцы Свіслачы, Лыскава, Дзярэчына, Жалудка, ваколіцы, размешчаныя над Бебжай і Беразовай у Сакольскім павеце, а таксама глухія закуткі на амаль усім пагранiччы Палесся, якое дрэмле сярод пушчаў, багнаў і дрыгвянішчаў.

З запольных (мясцовыя тэрміны, якія Федароўскі пісаў па-беларуску; разрадка яго, так ён выдзяляў беларускія назвы.— **Я. С.**) ваколіц здзіўляючым багаццем паданняў у іх найразнастайнейшых варыянтах... адрозніваецца перш за ўсё Ваўкавыская зямля» [81].

Прыгадаем яшчэ адзін запіс М. Федароўскага, які захаваўся ў яго архіве і які дае магчымасць глыбей зразумець факты, пра якія толькі што ішла гаворка. Гэта фрагмент рукапісу тых серый, якія Федароўскі рыхтаваў да выдання перад 1886 г. Адносіцца ён да Ваўкавыскага павета. «Вераванні і рознага роду варажба, якія прадстаўлены ў гэтым раздзеле,— пісаў этнограф,— збіраліся як паблізу Ружанскай пушчы (м. Лыскаў, в. Кавалёўцы,

Куклічы, Грушаўцы і Верашчакі), так і ў ваколіцах м. Зэльвы (засценкі: Крэслы і Боўблі, Карэвічы; вёскі Пузікі і Клопаты) і каля м. Мсцібава (Малыя і Вялікія Азяркі, Кусінцы, Вішневічы, Манчэлі). Найбольш іх, аднак, далі першыя дзве мясцовасці. Гэту акалічнасць можна вытлумачыць толькі тым, што вера ў чары і забабоны пад аховай лясоў кусціцца мацней і магутней, чым у заполях, дзе народ, замяніўшы спосаб заработкаў, змяняе разам з ім і адзенне, атрасаецца ад даўніх прымхаў, і, мадыфікуючы адвечны звычай, траціць рысы этнаграфічнай самабытнасці і хутка касмапаліцее»[82].

Як бачым, там, куды не дабіралася цывілізацыя, дзе поступ часу адчуваўся слабей, народ верыў у цуды і дзівы. Таму там пышна буяла народная фантазія ў вуснай літаратуры.

Казка ў той час, калі М. Федароўскі пачаў сваю фальклорна-этнаграфічную працу, на Беларусі яшчэ жыла вельмі інтэнсіўна, хоць у ёй ужо пачыналі наспяваць новыя працэсы і перамены. Збіральнік звярнуў увагу і на іх. Адзначаючы жанравую і тэматычную разнастайнасць беларускага казачнага эпасу, ён сцвердзіў, што найбольш распаўсюджанымі на Беларусі былі паданні пра ўрочышчы, азёры, курганы і г. д. Мноства казак расказваў народ пра чараўнікоў і ваўкалакаў, пра розныя метамарфозы[83], пра чарцей[84], упыраў, тапельцаў і інш. «Рэальны свет,— пісаў даследчык,— у вуснай літаратуры тутэйшага люду прадстаўлены яшчэ багацей: тут сапраўды процьма апавяданняў і аповесцей са штодзённага жыцця, а таксама прыгодніцкіх (асабліва пра разбойнікаў і зладзеяў)...»[85]

Зусім па-іншаму было з гістарычнымі паданнямі: «Аддзел гістарычных паданняў у параўнанні з іншымі нечувана ўбогі» [86]. Як мы ўбачым ніжэй, да такой самай высновы прыйшоў М. Федароўскі і шукаючы беларускія гістарычныя песні.

Ва ўступе даследчык на падставе толькі свайго збіральніцкага вопыту робіць спешны, а таму памылковы вывад пра нязначную колькасць беларускіх казак з раздзелу жывёльнага эпасу. Сам Федароўскі запісаў іх каля чатырох дзесяткаў. Яму, відаць, не былі вядомыя зборнікі іншых збіральнікаў беларускага фальклору з казкамі пра жывёл. Агульнавядома, што беларускі жывёльны эпас самы багаты ў славянскім свеце, асабліва ва ўсходнеславянскай казачнай традыцыі. Нездарма вялікі знаўца еўрапейскай і сусветнай казкі праф. І. Поліўка пісаў: «Характэрна, што ні ў велікарускіх, ні ва ўкраінскіх казках няма такой вялікай колькасці казак пра жывёл» [87]. А праф. С. Саўчанка спецыяльна вылучаў беларускія казкі пра жывёл, называючы іх «сапраўднымі перламі беларускага казачнага эпасу» [88].

Са шматгадовых назіранняў М. Федароўскі пераканаўся, што «мясцовы люд набірае штораз большай спадобы да ўсялякіх пладоў рэальнай творчасці [89], у той час як абстрактныя паданні паціху знікаюць або з бегам часу паволі заціраюцца пад уплывам навейшай цывілізацыі; звычаёва-маральныя ж (асабліва сатырычныя) штораз болей пашыраюцца, а нават і множацца, бо народ ставарае новыя або перарабляе даўнейшыя, раскваціўшы іх самародным досціпам» [90]. Тут дарэчы нагадаць, што да такіх вывадаў і ў той самы час прыйшоў і дру-

гі буйнейшы збіральнік беларускага фальклору Е. Раманаў. Ён падкрэсліваў, што народ, асабліва моладзь, асмейвае казкі міфічныя, якія Раманаў лічыў перламі беларускай казачнай паэзіі, а любіць слухаць і расказваць казкі сатырычныя і гумарыстычныя, «смешныя»[91].

Рэцэнзуючы другі том «Люду беларускага», акад. Я. Ф. Карскі пісаў, што ў прадмове аўтар змясціў «вельмі каштоўнае ўказанне (на стар. X—XI), калі ў беларусаў пачынаюць расказваць казкі і хто гэтым займаецца»[92]. Федароўскі сапраўды ўпершыню ў беларускай фалькларыстыцы, хоць і ў агульнай форме, ахарактарызаваў тыпы народных казачнікаў, даў звесткі пра час расказвання казак.

«Як і на цэлым абшары славяншчыны, так і над Нёманам,— гаворыць этнограф,— звычайнай парою для расказвання баек і аповесцей бывае восень і ўслед за ёю зіма. Амаль кожная беларуская сям'я доўгія вечары піліпаўкі, святых вечароў (ад Каляд да Вадохрышча) і мясаеду звычайна бавіць за байкамі. Казкі змаўкаюць толькі з наступленнем Вялікага посту, саступаючы месца легендам (святым казкам). Звычай дазваляе ў гэты час расказваць на вячорках толькі іх. Так як занятак і заработкі часта выганяюць мужыка з дому, дык апавядальнікамі ў большасці выпадкаў бываюць... кабеты. Зрэшты, прывілей гэты адносіцца перш за ўсё да найстарэйшага ў сям'і. Цікаўным унучкам дзяды і бабкі расказваюць наіўныя казачкі, у якіх выступае ўвесь жывёльны свет. Моладзь абодвух полаў (а з ёю і старэйшыя) заўсёды рады слухаць казкі, у якіх рэй вядуць пераважна цуды, відмы і духі. Ды і мужчыны, калі сыйдуцца дзе-небудзь у карч-

ме, на папасе або ў дворскай пякарні, любяць таксама забаўляцца апавяданнем баек, асабліва жартоўных. Іх звычайна пераплятаюць найсалёнейшымі ў свеце анекдотамі, якіх тут курсіруе незлічонае мноства. Апрача дамашніх, Літоўская Русь мае таксама вандроўных апавядальнікаў. Да іх належаць сляпыя, якіх водзяць на шнурку, а таксама жабракі, што звычайна ездзяць ад сяла да сяла аднаконнымі будкамі. Такі дзед, калі, просячыся на начлег, пераступіць парог хаты, каб заслужыць сабе на добры прыём, згаварыўшы пацеры, звычайна апавядае дзетвары цікавыя баечкі, старэйшым жа перадае розныя навіны са свету, асновай якіх найчасцей бывае фантазія, а ўток — амаль з адных цудаў. Тып падобных апавядальнікаў гіне штораз хутчэй» [93].

Побач з апісаннем тыпаў казачнікаў ва ўступе М. Федароўскі падае найбольш характэрныя рысы індывідуальнай выканаўчай манеры некаторых апавядальнікаў, іх звычкі: «...адны ў перапынках пакашліваюць або плююць, другія цмокаюць языком або памармытваюць, іншыя ж закурваюць люльку, пускаюць дым, зажываюць табак або паціху ўздыхаюць. Апрача таго, старэйшыя, каб лягчэй выцягнуць сюжэт з аслабленай векам памяці, карыстаюцца звычайна рознымі прыгаворкамі, паўтараючы між сказамі такія, напр., фразы як: «Ой так, так мае ж вы дзеткі», «Далібо праўда!», «Каб не змахляваць, скажу», «Далібо не махлюю!», «Як той казаў», «Муляў», «Ну, а цяпер, дзеткі» — альбо яшчэ шмат іншых» [94]. Тут жа этнограф прыводзіць прыклады найчасцей ужываных стэрэатыповых формул, якімі канчаліся многія казкі.

Цікавыя выказванні М. Федароўскага пра старажытнасць беларускіх казак і паданняў, а таксама пра іх паходжанне. У процівагу тэорыі «вандроўных сюжэтаў», тэорыі запазычанняў, якія існавалі тады ў навуцы, фалькларыст са свайго ўласнага вопыту робіць правільны вывад аб мясцовым паходжанні многіх казак і паданняў. Не адмаўляў ён і запазычанасць некаторых сюжэтаў і матываў. «Чыста мясцовыя паданні,— піша даследчык,— або запазычаныя вельмі даўно можна лёгка пазнаць па незлічоных варыянтах, якія распаўсюджаны на ўсёй тэрыторыі Літоўскай Русі. Аднак жа гэта сцвярджэнне не без выключэнняў, бо найстаражытнейшыя па паходжанні казкі пра жывёл (эпас) часта можна пачуць на супрацьлеглых канцах тэрыторыі калі не ў той самай форме, дык толькі з малымі зменамі, альбо — што сустракаецца часцей — з апушчэннем аднаго або некалькіх матываў» [95].

Вельмі мала змяніліся паводле слоў Федароўскага кароткія міфы пра бога і боствы, рыфмаваныя гутаркі, а таксама навелы і казкі, у змест якіх уплецены песні і вершыкі. Збіральнік лічыць, што творы з такімі песнямі і вершыкамі больш, чым іншыя, захавалі найстаражытнейшых рысаў.

Пра погляды М. Федароўскага на гісторыю развіцця і змянення беларускай народнай прозы можа расказаць урывак яго рукапісу, які захаваўся ў архіве. Падамо яго цалкам: «*Народныя аповесці,* якія дзеляцца на паданні, казкі і прытчы, пераходзячы праз вякі з вуснаў у вусны, ад пакалення да пакалення, *сталі найбольш перакрыўленыя з усіх пладоў вуснай літаратуры народа* (падкрэслена М. Федароў-

скім.— **Я. С.**). І нічога дзіўнага, што некаторыя з іх страцілі свой першабытны колер. Аповесць жа, каб яе паўтарыць, не трэба вывучаць даслоўна, як, напр., песню. Апавядальнік, пачуўшы дзесьці адзін раз нейкую аповесць, паўтарае яе адвольна. З-за гэтай адвольнасці, а таксама не менш і ад таго, што апавядальнік забыў некаторыя падрабязнасці, стаецца так, што адну і тую ж самую байку ў крыху аддаленай ваколіцы распазнаць ужо цяжка. Але як скрозь, так і тут трапляюцца выключэнні. Да такіх уласна выключных аповесцей, якія дыхаюць сапраўды родавай дахрысціянскай фантазіяй і якія да цяперашніх часоў захавалі непарушнай сваю першабытную афарбоўку, без сумнення належаць тыя з паданняў і казак, якія поўнасцю альбо часткова рыфмаваныя ці маюць у сабе больш або менш вершыкаў або песень. Такіх аповесцей найменш у народа. Для даследчыка, аднак, яны павінны быць найкаштоўнейшым матэрыялам. Яны ж найменш паперакручваны, бо, як труднейшыя, патрабуюць, так як і песні, каб іх, грунтоўна вывучыўшы, паўтаралі даслоўна. Рыфмы памагаюць лягчэй іх запомніць. Урэшце, вершыкі, пра якія ідзе гаворка, з'яўляюцца неад'емным цэлым пераплеценых імі аповесцей: яны цесна знітаваны з вядучай думкай, таму, калі б само паданне было перакручана, то гэта адразу можна было б пазнаць, бо рыфмы, не будучы на сваім месцы, ужо не стасаваліся б да перапляцення здарэнняў, што выступаюць у данай аповесці» [96].

У прадмове М. Федароўскі звярнуў увагу чытача і на вельмі характэрную з'яву ў фальклоры — кантамінацыю, г. зн. на пераход сюжэтаў

і матываў з адной казкі ці песні ў другую, зліццё іх і перапляценне. Ян Карловіч з'яву гэту называў linianiem. «У заходнебеларускіх паданнях,— піша даследчык,— найбольш ёй (кантамінацыі.— **Я. С.**) паддаюцца аповесці пра чарадзейных жывёл і герояў, у якія тут (асабліва ва ўсходніх паветах даследаванай мной тэрыторыі) апошнім часам пачалі пераносіць некаторыя падрабязнасці і назвы, а часам і цэлыя сюжэты з кніжнай літаратуры» [97].

Як бачым, прадмова М. Федароўскага — гэта своеасаблівае даследаванне, навуковы артыкул, пабудаваны на матэрыялах асабістага збіральніцкага вопыту аўтара. Таму яна не страціла цікавасці і да нашых дзён. Але пры ўсіх станоўчых якасцях уступны артыкул мае і недахопы. Тлумачацца яны станам фалькларыстычнай навукі таго часу. Калі Федароўскі збіраў і выдаваў свае матэрыялы, ні ў польскай, ні ў рускай навуцы не былі яшчэ распрацаваны многія пытанні навуковай збіральніцкай методыкі, тэксталагічныя і іншыя прынцыпы публікацыі фальклорных твораў, узоры навуковага апарату выданняў. Адсюль і тыя недалікі, якіх не пазбег і Федароўскі ў «Людзе беларускім».

Распаўсюджаным недахопам уступных артыкулаў да фальклорных зборнікаў — як дарэвалюцыйных, так і савецкіх — з'яўляецца тое, што яны амаль не раскрываюць гісторыю стварэння зборніка, метадаў збіральніцкай і эдытарскай работы аўтараў. Такі грэх мае і прадмова да другога тома «Люду беларускага». Федароўскаму трэба было расказаць пра метады свае работы, пра тое, як запісваліся тэксты казак, ці былі якія-небудзь цяжкасці, няўдачы,

памылкі і г. д. Тут аўтар мог расказаць чытачу, якія навуковыя мэты ён ставіў, фіксуючы народную прозу і выдаючы яе так, а не інакш.

Міхал Федароўскі не гаворыць у прадмове і пра характар запісу, пра тэксталагічныя прынцыпы падрыхтоўкі рукапісаў да выдання. Заяву этнографа, што «ўсе паданні, якія змешчаны ў гэтым томе, падаюцца ў іх роднай адзежы», як мы пераканаліся ўжо на вышэй прыведзеных прыкладах і фактах, можна прыняць толькі адносна. Што ў збіральніка было вялікае імкненне да дакладнасці запісу — факт, але ж бясспрэчна і тое, што Федароўскі не рабіў запісаў фанетычна, бо практычна гэта нялёгка, а малады фалькларыст на першым часе асабліва не быў падрыхтаваны да такога спосабу запісвання.

Адным з недахопаў уступнага артыкула Федароўскага з'яўляецца абсалютнае ігнараванне ім звестак пра казачнікаў-інфарматараў. У другім і трэцім тамах «Люду беларускага» змешчаны казкі, паданні, легенды, анекдоты апавядальнікаў, ад якіх было запісана па два дзесяткі тэкстаў і болей. Так, ад Я. Дзежкі запісана 70 тэкстаў (у т. II—10, т. III—60), ад Дамінісі Куклы — 25, Т. Кавальчука — 22, А. Савіцкага — 21, Зосі Седач і Б. Мацвейчука — па 19, І. Шабулькі — 18, Я. Шымчука — 17, Марыі Гарбач і С. Красноўскага — па 16 і г. д. У архіве збіральніка захаваліся і тэксты, запісаныя ад гэтых апавядальнікаў, але не змешчаныя ў названых тамах «Люду беларускага».

«Два-тры дзесяткі казак,— пісаў рускі даследчык казкі А. І. Нікіфараў,— гэта тыповы сярэдні рэпертуар здаровага, сакавітага казач-

ніка. Казачнікі з сапраўды вялікім рэпертуарам накшталт венгра з 122№№ або ўкраінца Чмыхала з 72№№, ці нашага Абрама Навапольцава з 72№№ — вялікая рэдкасць» [98]. А калі б сабраць разам тэксты, якія Федароўскі запісаў, напрыклад, ад Яна Дзежкі, то ён, напэўна, не саступіў бы і названаму тут венгру.

Ва ўступным артыкуле аўтар мог расказаць пра склад і характар іх рэпертуару, апісаць манеру выканання найбольш вядомых і здольных казачнікаў (ён, праўда, пісаў пра гэта ў агульным плане, што яўна недастаткова). Разгорнутай характарыстыкі ўсіх без выключэння выканаўцаў патрабаваць, вядома, цяжка. Але пра найбольш характэрных, тыповых, каларытных трэба было б сказаць. А Федароўскі, як ні дзіўна, ні пра аднаго з іх як пра творчую індывідуальнасць са сваім колам тэм, сюжэтаў, вобразаў, са сваім стылем і не ўспомніў.

Вельмі важны быў бы ў прадмове эцюд пра сцэнічны аспект расказвання казак: інтанацыю, міміку, жэсты, рухі і іншыя артыстычныя моманты ў творчасці кожнага індывідуальнага апавядальніка. «Тэарэтычнае вывучэнне паэтыкі казкі,— пісаў У. Проп,— немагчыма без ведання тых абставін, у якіх бытуе казка, характару яе жывога выканання і ўсёй сукупнасці быту і жыцця сялянства ў момант запісу» [99]. М. Федароўскі ж абмежаваўся простым запісваннем фальклорных твораў без перадачы як чыста знешніх, так і «ўнутраных» абставін, пры якіх яны расказваліся і жылі.

Не адзначаючы такіх момантаў, Міхал Федароўскі, як і большасць фалькларыстаў XIX ст., паўтараў памылкі, пра якія пісаў М. Дабра-

любаў, рэцэнзуючы рускія казкі А. Афанасьева. Дабралюбаў ставіў перад збіральнікамі і «апісальнікамі народнага быту» сур'ёзную задачу: паказаць, «у якіх адносінах знаходзіцца народ да казак і паданняў, якія ён расказвае. Ці верацъ, напрыклад, у народзе ў тую разумнасць адносін паміж звярамі, якая выказваецца ў многіх казках? Ці падобныя казкі прымаюцца ў народзе такім жа чынам, як мы чытаем паэмы Гамера?.. Падобныя пытанні тысячамі нараджаюцца ў галаве пры чытанні народных казак, і толькі жывы адказ на іх дае магчымасць прыняць народныя сказанні як адзін са сродкаў для вызначэння той ступені развіцця, на якой знаходзіцца народ» [100].

Збіральнік, на жаль, не расказаў і пра матэрыялы, якія асталіся па-за тамамі «Люду беларускага». А яны былі. У зборнікі ўвогуле ўключаецца далёка не ўсё, запісанае фалькларыстамі ў час экспедыцый [101]. Шматлікія зноскі ў другім і трэцім тамах «Люду беларускага» сведчаць, што Федароўскі меў блізкія варыянты, запісаныя ў розных мясцовасцях. Як этнограф адбіраў казкі для друку, даведваемся з наступнага яго запісу: «Паданні. Прадмова. Запісаў я больш за дзесятак баек у пав. Лідскім, але таму, што ў апублікаванні іх апярэдзіў мяне п. Вярыга (Podania białorus(kie). Lwów, 1889), я іх са свае працы выкінуў...» [102] Запіс сведчыць, што збіральнік у сваёй манаграфіі выкарыстоўваў толькі ўласныя зборы.

У навуковы апарат фальклорных зборнікаў уваходзяць заўвагі (каментарыі), розныя паказальнікі, дадаткі. «Як вядома,— піша сучасны ленінградскі фалькларыст М. У. Новікаў,— выпрацаваных патрабаванняў і якіх-небудзь

апрабаваных рэкамендацый да складання заўваг... не існуе. Тым не менш, ёсць пэўны мінімум, прытрымлівацца якога павінен кожны складальнік і без якога фальклорны тэкст, калі не поўнасцю, дык у значнай ступені траціць сваю навуковую вартасць»[103]. Даследчык мае на ўвазе суправаджэнне тэксту «элементарнымі анкетнымі дадзенымі, якія адказваюць на пытанні—ад каго, дзе, калі і кім ён запісаны».

Публікуючы казкі, фалькларысты гэтыя звесткі часта папаўняюць яшчэ і ўказаннямі на ўзрост выканаўцаў, іх пісьменнасць, адлучэнне з данай мясцовасці на працяглы час, іх заняткі і г. д. Многія фалькларысты ў каментарыі выносяць падрабязнасці, якія асвятляюць творчую лабараторыю казачнікаў, склад і характар іх рэпертуару, манеру выканання, знешнія ўмовы, абставіны расказвання казак, а таксама спецыфічныя асаблівасці тэкстаў, якія каменціруюцца шляхам супастаўлення іх з іншымі варыянтамі як з рэпертуару свайго народа, так і суседніх[104].

Спасылкі на варыянты ў іншых зборніках М. Федароўскі дае толькі ў трэцім томе, ды і то спарадычна, бо ў тых публікацыях, на якія ён спасылаецца пры пэўных казках, ёсць сюжэты, падобныя да другіх тэкстаў у «Людзе беларускім», а на іх складальнік пры іншых казках не паказвае чамусьці зусім. Гэтак сталася хутчэй за ўсё таму, што збіральнік, спешна рыхтуючы рукапіс другога тома да здачы ў выдавецтва, проста не паспеў унесці многіх спасылак на фальклорныя зборнікі другіх збіральнікаў. А што ён рыхтаваў такія спасылкі, пацвярджаюць матэрыялы архіва[105]. Часам, праўда, ён не мог зрабіць такіх спасылак, бо, жывучы

ў правінцыі, не меў пад рукой адпаведнай літаратуры, асабліва выдадзенай у Расіі. Як справядліва заўважыў У. Гнацюк, рэцэнзуючы другі том «Люду беларускага», «гэта (г. зн. спасылкі на падобныя сюжэты ў іншых фальклорных выданнях.— **Я. С.**) павінен быў зрабіць нехта па даручэнні Акадэміі ў Кракаве, дзе ёсць бібліятэка і куды можна было сабраць розныя этнаграфічныя зборнікі...» [106]

У другім і трэцім тамах «Люду беларускага» пры некаторых тэкстах Федароўскі робіць такія, напрыклад, заўвагі: «Падобная казка вядома люду з Ваўкавыскага павета ў ваколіцах Лыскава (в. Кавалёўцы)» [107]. «Вельмі падобную версію падаў мне селянін з Кусінцаў пад Ваўкавыскам Баляслаў Мацвейчык» [108]. Такіх заўваг у другім томе 12, у трэцім — 10. Каб Федароўскі змясціў самі варыянты, то гэта было б карысней.

«Толькі неспецыяліст можа думаць,— пісаў А. Нікіфараў,— што аднолькавыя сюжэты казак розных мясцін пазбаўляюць варыянты цікавасці. Для фалькларыста кожны варыянт бясконца каштоўны, і чым больш варыянтаў аднаго і таго ж сюжэта, тым шырэй раскрываецца даследчыцкая праблематыка і тым устойлівей магчымыя вывады. Акрамя таго, кожны варыянт заўсёды ёсць унікум, калі браць не толькі тэкст, але і спадарожныя яму элементы бытавання» [109].

Мы ведаем, у якіх умовах быў М. Федароўскі як выдавец. Сапраўды, калі б ён змясціў варыянты ды ў каментарыях даў звесткі, у якіх умовах, кім і як апавядалася кожная казка, то перад чытачом і даследчыкам была б шырэйшая і больш ясная карціна бытавання і канк-

рэтнай інтэрпрэтацыі фальклорнага твора. Да таго ж сюжэтны малюнак казкі раскрываецца найпаўней праз яе варыянты, а без іх ён будзе абяскроўлены.

Як мы змаглі пераканацца, навуковы апарат надрукаваных М. Федароўскім тамоў казак пры ўсіх яго недахопах вельмі багаты і каштоўны. Для свайго часу ён быў вялікім дасягненнем вучонага ў галіне фалькларыстыкі. Ды і да сённяшняга часу спосаб падрыхтоўкі Федароўскім сабраных матэрыялаў да выдання, асабліва з боку навуковага апарату, застаецца ў некаторай ступені ўзорам для пераймання. У гісторыі беларускай фалькларыстыкі і зараз мы не сустракаем у выданнях казак такіх грунтоўных прадметных, геаграфічных і імянных паказальнікаў, а ў некаторай ступені нават і ўступных артыкулаў, якія даў у свой час даследчык.

Вага і каштоўнасць сабраных М. Федароўскім казачных матэрыялаў відавочная: навука атрымала велізарную колькасць казак, паданняў, легенд, анекдотаў (у першым томе — каля 300 нумароў, у другім — 410, у трэцім — 571). З'яўленне такога матэрыялу ў друку — вялікі ўклад у беларускую фалькларыстыку.

Рэцэнзенты вельмі высока ацанілі сабраны Федароўскім казачны эпас беларускага народа, паказалі, што этнограф сабраў шмат такіх матэрыялаў, якіх да яго ніхто не запісаў увогуле, або якіх было апублікавана вельмі мала. Да Федароўскага на тэрыторыі Заходняй Беларусі было запісана і надрукавана крыху больш за 200 паданняў і казак[110].

Высока ацэньваючы працу М. Федароўскага, вядомы даследчык усходнеславянскай казкі

праф. С. Саўчанка пісаў: «Калі з 1500 паданняў, налічваемых п. Федароўскім, мы да ўласна казак аднясем усяго ⅓ частку, то нават у такім выпадку «Lud białoruski» будзе самым багатым зборам беларускіх казак» [111]. Другі даследчык, украінскі фальклярыст У. Гнацюк, рэцэнзуючы другі том працы Федароўскага, адзначаў: «Вялікая яго вага не толькі ў багацці матэрыялу, але і ў тым, што ён прыносіць многа новага. Асаблівую ўвагу звяртаюць на сябе ў гэтым плане апавяданні пра знахараў, чараўніц, ведзьмаў, упыроў, чарцей і мясцовыя пераказы» [112]. Калі ж мы ўспомнім, што падобнага матэрыялу багата і ў першым томе «Люду беларускага», дык упэўнімся ў справядлівасці слоў рэцэнзента. Па багацці сабранага матэрыялу з галіны народнай дэманалогіі ў беларускай этнаграфіі і фальклярыстыцы побач з Федароўскім паставіць няма каго. Нават самы вялікі збор, што апублікаваны М. Нікіфароўскім [113], саступае перад «Людам беларускім», асабліва па колькасці легендарных сказанняў і казак.

Не ўдаючыся ў канкрэтны аналіз усіх сюжэтаў казак у «Людзе беларускім», спынімся на некалькіх, вартых асобнай увагі.

У працы М. Федароўскага мы сустракаем шмат такіх казачных сюжэтаў, якіх да яго публікацыі або зусім не было ў беларускім надрукаваным матэрыяле, або было мала. Вось, напрыклад, казка «Аб токару і злотніку» («Драўляны галубок на шрубе») з другога тома «Люду беларускага» (стар. 122—125, № 83). Арыгінальнасць гэтай казкі ў тым, што ў беларускім апублікаваным матэрыяле варыянты яе не сустракаюцца ўвогуле. Публікацыя Феда-

роўскага — унікальны беларускі варыянт гэтага сюжэта, адзначанага ў паказальніку Аарнэ — Томпсана [114] пад № 575 (распаўсюджанне яго гл. таксама ў працы Больтэ — Поліўкі [115]). Як піша Л. Р. Бараг, «адна са старэйшых версій гэтага казачнага сюжэта ёсць у «Кнізе тысячы і адной ночы» (ночы 368—371)» [116].

Яшчэ С. Саўчанка [117] звярнуў увагу на цікавую казку ў зборніку М. Федароўскага (т. III, № 63) на сюжэт «Матроны Эфескай» (Аарнэ — Томпсан 1510, Аарнэ — Андрэеў 1352). У каментарыях да яе Бараг адзначае, што яе «варыянты ў зборніках усходнеславянскіх казак не адзначаны» [118].

Не сустракаюцца ва ўсходнеславянскім казачным матэрыяле і блізкія варыянты казкі «Аб трох братох і ваўку» («Люд беларускі», т. II, стар. 42—43, № 41) [119]. Праўда, падобная казка пра чароўную крыніцу ёсць у зборніку польскіх народных казак С. Цішэўскага [120].

У першым томе «Люду беларускага» М. Федароўскі надрукаваў казку тыпу «Пахмелле льва» «Чаму леў уцёк з нашай стараны» (стар. 189—190, № 712). Падобнага тыпу казкі сустракаюцца «выключна ў беларускім матэрыяле» — іх няма ні ў рускіх, ні ўкраінскіх зборніках [121].

«Побач з мноствам гістарычных казак-паданняў і анекдотаў, агульных для беларускага, рускага і ўкраінскага або для беларускага і польскага фальклору,— піша Л. Бараг,— у беларускім матэрыяле ёсць унікальныя легендарныя апавяданні: пра караля Ізяслава Чорнага, сялянскія паўстанні XVIII ст., пра Тадэвуша Касцюшку, пра партызанаў 1812 года» [122]. М. Федароўскі шмат такіх паданняў змясціў

у трэцім томе «Люду беларускага» (гл. стар. 3—18, № 2—34). Тут паданні-легенды пра крыжаносцаў, каралеву Бону, Стэфана Баторыя, шведскую вайну, пра Радзівіла, Тадэвуша Касцюшку, падзеі 1812 і 1863 гг.

Беларускія казкі пра жывёл, якія адпавядаюць нумарам міжнароднага паказальніка Томпсана, але не маюць ні рускіх, ні ўкраінскіх паралеляў, нешматлікія. Л. Бараг называе чатыры такія сюжэты. Паказальна, што тры з іх — са зборніка М. Федароўскага [123]. Запісаны Федароўскім і такія сюжэты казак пра жывёл, якія ўлічаны ў паказальніку Томпсана і сустракаюцца ў беларускім і ўкраінскім фальклоры, але адсутнічаюць у рускім матэрыяле:

Th 87 A* (=169 H*) — Селянін памагае ваўкам адолець мядзведзя. 1 бел. варыянт (Фед., III, стар. 56, № 106). 1 укр. варыянт (Етногр. збірник, т. 37—38, стор. 142, № 109).

Th 160 A — Чалавек іграе ваўку на скрыпцы ў воўчай яме. 1 бел. варыянт (Фед., III, стар. 57, № 109).

Th 200 B — Чаму сабакі абнюхваюцца. 1 бел. варыянт (Фед., III, стар. 125, № 219).

Th 280 — Спаборніцтва мурашкі з круком. 1 бел. варыянт (Фед., III, стар. 269, № 534).

Міхал Федароўскі запісаў шмат чарадзейных казак. Як у рускіх і ўкраінскіх, так і ў беларускіх зборніках слаба прадстаўлены такі чарадзейны сюжэт, як «Тры дактары» (№ 660). У «Людзе беларускім» ён ёсць (т. III, стар. 115, № 206 b).

З тых беларускіх казак, якія не маюць ні ўкраінскіх, ні рускіх паралеляў, але сустракаюцца ў польскім фальклоры, трэба назваць казкі тыпу «Кароль вымярае вышыню неба і

глыбіню мора» (Th 920 А*=Кржыжаноўскі[124] 733), «Багацей асуджае беднага брата на самагубства» (Th 740**=Кржыжаноўскі 740), «Перамена пола» (Th 514), «Пакаранне ведзьмара» (Th 0, Кржыжаноўскі 342). Усе гэтыя тэксты — адзінкавыя запісы, зробленыя Федароўскім[125].

Беларускі казачны матэрыял надзвычай багаты на легендарныя сюжэты. Выключнай разнастайнасцю вылучаюцца беларускія легендарныя казкі пра чарцей (больш за 130 сюжэтаў), мерцвякоў (больш за 60), заклятыя скарбы і душы (больш за 60). Заходнебеларускаму фальклору асабліва характэрныя сюжэты казак пра злоснага (ліхога) чорта-забойцу. Шмат апублікавана іх М. Федароўскім: «Чорт забівае ў лесе маладзіцу, якая збірала ягады» (Фед., II, № 234, 298), «Чорт-ксёндз забівае чалавека, які яго выкрыў» (Фед., II, № 238), «Чорт-парабак топіць у студні гаспадыню, а пасля спіхвае туды людзей, што прыбягаюць ёй на дапамогу» (Фед., II, № 241) і інш.

Асобнае месца, блізкае і да бытавых і да легендарных казак, займаюць у фальклоры казкі пра дурнога чорта. Анекдатычныя па сэнсу, яны насычаны фантастычнымі матывамі. Запісаны яны і М. Федароўскім. Як адзначае Л. Бараг, сярод усходнеславянскіх казак «толькі ў беларускіх зборніках сустракаюцца казкі тыпу «Дурны чорт на службе ў злоснай жанчыны» (Фед., II, № 275; Шэйн, II, № 64), «Чорт і жанчына, што заснула ў яго на рагах» (Раманаў, IV, № 62; Фед., II, № 276), «Купанне жанчыны і чорта» і некаторыя іншыя»[126]. У трэцім томе «Люду беларускага» М. Федароўскі змясціў казку «Аб хітрым дзяку»

(стар. 178, № 337; Аарнэ — Томпсан 1790), варыянты якой знаходзім толькі ва ўкраінскім фальклоры (запіс У. Гнацюка: «Етнографічний збірник», VI. Львів, 1899, стор. 117—118, № 222; И. Манжура. Сказки, пословицы и т. п., записанные в Екатеринославской и Харьковской губернии. Харьков, 1890, стр. 106—107). У рускім апублікаваным матэрыяле падобныя казкі не сустракаюцца [127].

Ёсць у зборы М. Федароўскага сюжэты, пашыраныя ў іншых народаў, якія рэдка сустракаюцца ў беларускім матэрыяле. Так, напрыклад, казка «Як ліс выратаваў чалавека ад вужа» (т. II, № 24) — тып «Стары хлеб-соль забываецца» (Аарнэ — Томпсан 155) — шырока вядомая ў многіх народаў, але на Беларусі надрукавана дасюль толькі тры яе варыянты: два — М. Федароўскім (т. II, № 24—25) і адзін — П. Шэйнам (т. II, № 128, замест вужа — цмок). Рускіх варыянтаў гэтага сюжэта налічваецца 6 [128], украінскіх значна больш, літоўскіх — 39. Заўважым, што гэту казку са зборніка Федароўскага перадрукоўвалі ў свой час «Наша ніва» (1909, № 41) і «Беларускі каляндар «Нашай нівы» (Вільня, 1912, стар. 103—104).

Спынімся яшчэ на казцы «Аб рыцару як ён забіў змея» (т. II, стар. 82—84, № 61), запісаны Федароўскім ад Фелікса Дзежкі ў в. Хадароўка Сакольскага павета. На яе ўпершыню звярнуў увагу Я. Ф. Карскі [129]. Сюжэт гэтага твора — рэдкі на Беларусі водгалас былін пра Ілью Мурамца. Падобны сюжэт быў запісаны Е. Раманавым [130] на Магілёўшчыне. У варыянтах, запісаных ім, толькі адзін эпізод: «исцеление сидня» і ачыстка ім поля ад карчоў. Супа-

дае першапачатковы эпізод з казкі ў запісе Федароўскага і ў запісе Дабравольскага [131] (тут бог поіць квасам Ілью Мурамца і той набіраецца сілы).

«Не ведаю,— піша Я. Карскі,— як глядзець на гэту казку. Наўрад ці можна бачыць тут пазнейшае знаёмства з вядомымі былінамі пра Ілью Мурамца, якія распаўсюдзіліся з дапамогай граматы: ля Сухаволі па-руску, несумненна, рэдка хто ўмее чытаць. Вельмі можа быць, што гэта сляды старажытнага знаёмства беларусаў з былінпай паэзіяй. Яшчэ ў XVI стагоддзі на Беларусі ведалі пра асілкаў. Так, вядомы перакладчык Бібліі на заходнерускае «наречие» ў 1517—1525 гг. доктар Францыск Скарына з Полацка ў прадмове да «Книги судей» гаворыць пра Саламона: «и иныи богатырскии многии дела чинил»; або ў агульнай прадмове да перакладу: «аще ли же кохание имаши ведати о военных а о богатырских делех, чти книги судеи, или книги маховеев» [132]. Думка Я. Ф. Карскага слушная. Казка «Аб рыцару як ён забіў змея» — своеасаблівы водгук багатырскага быліннага эпасу, які быў вядомы старажытнай Беларусі. Пазней, у эпоху позняга сярэднявечча і асабліва ў XVIII ст., калі Беларусь ва ўмовах жорсткага нацыянальнага ўціску перажывала ўпадак культуры, традыцыі быліннага эпасу сталі паціху затухаць і перайшлі ў чарадзейныя казкі, якія ўвабралі ў сябе і матывы шматлікіх паданняў пра гераічных волатаў-асілкаў і матывы быліннага эпасу [133].

Прыкладаў цікавых сюжэтаў, надрукаваных М. Федароўскім у «Людзе беларускім», можна назваць вельмі многа. Гэта праца дае выключ-

на багаты матэрыял нашым казказнаўцам. Таму яны ні ў адной сваёй працы не могуць абысціся без спасылак на гэту капітальную работу вядомага фалькларыста. Шмат у «Людзе беларускім», напрыклад, казак з антыпанскімі і антыклерыкальнымі настроямі. Большасць з іх разглядаецца ў кнігах А. Фядосіка і К. Кабашнікава [134], таму мы спецыяльна на іх не спыняемся.

Акрамя надрукаванага, у М. Федароўскага асталося яшчэ шмат казачнага матэрыялу, які не ўвайшоў у «Люд беларускі». Захоўваецца ён у архіве этнографа ў Рукапісным аддзеле бібліятэкі Варшаўскага універсітэта [135]. Сярод гэтых матэрыялаў нямала такіх, якія, несумненна, могуць прыцягнуць увагу даследчыкаў. Прывядзем некалькі канкрэтных прыкладаў.

Як вядома, у беларускім казачным эпасе вельмі вялікі раздзел займаюць казкі пра жывёл. Ёсць у нас і казкі, у якіх дзейнымі асобамі выступаюць расліны. «Казак з дзейнымі ў іх аднымі раслінамі мала»,— сцвярджаў Я. Ф. Карскі [136]. Ён тут жа спасылаўся на байку «Аб бярозе і сасне», запісаную Федароўскім і надрукаваную ў другім томе «Люду беларускага» (стар. 96, № 69). Але ў архіве этнографа зберагласея куды больш паэтычная і глыбокая па сваёй філасофскай напоўненасці казачка «Гутарка дуба з грыбом» [137]. Запісана яна ад Настулі Сербінавай з в. Лозкі, што каля Казлоўшчыны б. Слонімскага павета. Падаем яе поўнасцю, захаваўшы арфаграфію рукапісу:

*«Гутарка дуба з грыбом*

— Адхіліся, дубе, бо я расту! Ты дзесяць лет расцеш, да німа нічого, а я за гадзінку выросту.

А дуб кажа:

— Ты за гадзінку вырасцеш, звалішся і зчарвівееш, а я ў сто лет звалюсе, а другія сто лет корань у земле седзець будзе».

Гэты тэкст цікавы не толькі для фалькларыстаў. Ён можа зрабіць паслугу і літаратуразнаўцам. У прыватнасці, ён паможа глыбей зразумець вытокі «Казак жыцця» Якуба Коласа. У народзе, як бачым, расказваліся такія глыбока філасофскія, па-народнаму мудрыя апавяданні. Народ умеў мысліць адцягнена, а мудрую жыццёвую практыку мог увасобіць у вобразы акаляючай яго прыроды. І Якуб Колас, напэўна, чуў такія казкі ад народных апавядальнікаў, таму выкарыстаў іх прынцыпы пабудовы, іх глыбінны філасофскі сэнс і змест для стварэння сваіх арыгінальных твораў — «казак жыцця»,— над разгадкай паходжання якіх усё яшчэ думаюць нашы даследчыкі.

У гэтым сэнсе цікавы і тэкст казкі «Тры браты і пустэльнік», дасланай Федароўскаму карэспандэнтам са Слуцкага павета. Казка была завучана карэспандэнтам, як ён піша, «57 гадоў таму назад», г. зн. недзе ў пачатку 30-х гадоў XIX ст. Сюжэт казкі вядомы [138]. Але варыянт, што знаходзіцца ў архіве М. Федароўскага [139], расказаны жыва, ярка, эмацыянальна і мае такія асаблівасці, якіх не сустракаем ні ў адной публікацыі гэтага сюжэта. Асабліва ён цікавы эпізодам са святой Магдаленай, Пятром і богам (выкраданне ў бога дыямантовага каўпака), якога ў другіх казках падобнага тыпу (беларускіх, украінскіх, рускіх) няма зусім. Пранікненне такіх гратэскавых матываў у традыцыйныя казкі-небыліцы звязана, безумоўна, з багаццем антыклерыкальных матываў у бела-

рускіх казках увогуле. Казка вызначаецца жывасцю народнага складу, яркімі дэталямі. Але сам сюжэтны тып казкі пра спаборніцтва ў хлусні, у якой расказваецца пра трох братоў, што прыходзяць да старога па агонь (двое не могуць расказаць небыліцу, дзед выразае ў іх са спіны палосы; малодшы ж брат (звычайна — дурань) вымушае старога сказаць «Лжэш!», расказваючы, быццам дзед старога пасе на «тым свеце» свіней), даволі пашыраны ў сусветным фальклоры.

Казкі такога тыпу адзначаны ў паказальніках казачных сюжэтаў Аарнэ — Томпсана [140] і Андрэева [141] пад № 1920 * Д і ў заўвагах-каментарыях да казак братоў Грым Больтэ — Поліўкі [142]. Юльян Кржыжаноўскі ў сваёй сістэматыцы польскай казкі дае падобны тып пад № 1922 [143]. Рускіх казак гэтага тыпу надрукавана многа (зборнікі Афанасьева [144], братоў Сакаловых [145], Смірнова [146] і інш.), але ні ў адной з іх няма эпізода з богам, Пятром, святой Магдаленай і дыямантовым каўпаком бога.

Беларускаму чытачу добра вядома апавяданне Ядвігіна Ш. «Вучоны бык». Гэта апрацоўка традыцыйнага народнага казачнага сюжэта. На Беларусі гэты сюжэт апублікаваны М. Федароўскім («Люд беларускі», т. III, № 436—437, стар. 218—219) і А. К. Сержпутоўскім («Адукаваны бычок» у зб.: Сказки и рассказы белорусов-полешуков. Спб., 1911, стр. 133—136, № 66). Зусім іншую стылістычную мадыфікацыю гэтага сюжэта маем у неапублікаваным тэксце, які захоўваецца ў архіве М. Федароўскага. Запісаны ён ад таленавітага апавядальніка казак, навел, анекдотаў, асабліва фрывольных, Клеманса Грыба ў Сло-

німскім павеце (А. Сержпутоўскі зрабіў запіс у в. Чудзін Слуцкага павета Мінскай губерні). Прывядзем поўны тэкст гэтай анекдатычнай казкі:

*«Слонімскі павет. З-пад Казлоўшчыны*

Паехаў Базыль на торг. Прыязджае дадому. Прыходзіць сусед Даніло:

— Што там чуў, братко, на торгу?

— А што ты там пачуеш? З быдла людзі робяць.

Так Даніло дадому. А ў Данілы дзяцей ні было, толькі быў калюшчы бык — людзі калоў.

— Аўдоця! Ці ты чула гэту новасць? А то ж Базыль казаў, што на кірмашу з быдла людзі робяць. Трэба нам андаць свайго быка, а то нам даступіцца да яго трудно. О-о, хоць будзем мець свайго сына.

Узяў клікнуў Базыля:

— Вазьмі, братко, майго бычка, завядзі тамака на кірмаш. Ніхай там зробяць мне з яго сынка. Маеш яшчэ дваццаць рублёў на науку, то там дармо ні робяць.

Павёў Базыль быка, прадаў, узяў сорак рублёў. Прышоў дахаты. Даніло з жонкаю даўно яго чакае:

— Ну што ж ты там, Базылько, чуў?

— Ат, богу дзякаваць ужэ андаў на науку; зараз будзе спраўнікам!

— Як яго фаміля?

— Быкаў.

— Дзе ж мы яго найдзем, Базылько?

— Запытайце там у паліцэйскаго: дзе тут Быкаў спраўнік?

Пашлі, пытаюць. Той паказаў. Уваходзяць: «Ах, мой бычочак! Ах, мой сыночак! Да мы ўсю дарожку слязьмі злілі, пакуль да цібе,

гаспадарчык, дайшлі. Богу дзякаваць, што мы цібе прычакалі».

Той узіраецца, як казёл, а потым: «Ах ты... тваю мать, сукін сын, мужык!». Да ў вухо, да ў вухо, да крычаць: «Падзі вонт! Дурак!»

Так тые: «А нехай его, кажуць, ваўке з'едуць з быком! Дома біўсе, а тут ешчэ і горш!» Дый годзі»[147].

Казка пра бычка, якога адправілі ў горад на вучобу, а пасля пакаралі, ёсць і ў рускім апублікаваным матэрыяле (праўда, адзіны варыянт у зборніку Смірнова № 267). Падобны сюжэт сустракаем і сярод галіцыйскіх анекдотаў, сабраных і надрукаваных У. Гнацюком (Галицько-руські анекдоти. Зібрав Вол. Гнатюк. «Етнографічний збірник», VI. Львів, 1899[148]).

Еўрапейскія казкі гэтага тыпу пералічаны ў каментарыях Больтэ і Поліўкі да збору казак братоў Грым[149]. Казкі данага тыпу зафіксаваны ў паказальніках сюжэтаў Аарнэ, Томпсана, Андрэева пад № 1675. У сусветным апублікаваным матэрыяле гэты сюжэт мае каля 15 варыянтаў, з іх 5 — усходнеславянскія: 3 беларускія, украінскі, рускі; шосты ўсходнеславянскі (і чацвёрты беларускі!) — толькі што пададзены з архіва М. Федароўскага.

Выключнае багацце фальклорных матэрыялаў, апублікаваных М. Федароўскім у першых трох тамах «Люду беларускага», было адразу заўважана і належна ацэнена вучонымі. «Гаворачы па-праўдзе,— пісаў у 1903 г. буйнейшы ўкраінскі фалькларыст У. Гнацюк,— матэрыялы п. Федароўскага ў польскай літаратуры адзіныя ў сваім родзе і перавышаюць — не зважаючы на некаторыя хібы іх публікацыі, зрэшты фармальныя,— усё дасюль апублікаванае

палякамі з этнаграфіі, не выключаючы тут нават «Zbior-y wiadomości», якія выдае сама акадэмія, і велізарнага, але вельмі няроўнай вартасці, збору О. Кольберга. Яны запісаны досыць дакладна, не пераказаныя адвольна за апавядальнікам, не перакладзены на чужую мову, і што больш важна — у іх нават вытрыманы прыкметы розных беларускіх дыялектаў. З-за гэтага яны каштоўныя не толькі для фальклaрыста, але і для філолага,— а такое запісванне і выданне этнаграфічных матэрыялаў у палякаў вялікая рэдкасць. Больш таго, яны прыносяць вялікую колькасць новых матэрыялаў, а гэта таксама нямала падымае іх вартасць»[150].

Казкі пра жывёл, чарадзейныя і легендарныя, бытавыя і анекдоты, мясцовыя паданні, запісаныя Федароўскім, узбагачалі ўсходнеславянскі казачны эпас, пашыралі абсягі дасведчанасці вучоных-фальклaрыстаў, давалі ім магчымасць пры паглыбленні ў праблемы казачнага эпасу братніх славянскіх народаў рабіць больш дакладныя і грунтоўныя вывады.

Міхал Федароўскі змясціў у «Людзе беларускім» шмат такіх казак, сюжэты якіх былі ўжо запісаны і апублікаваны ў іншых славян. Да такіх можна аднесці сюжэты, агульныя не толькі для рускага, украінскага, беларускага народаў, але пашыраныя і ў вуснай традыцыі заходніх і паўднёвых славян, напрыклад, у другім томе зборніка: № 5 («Заяц і жаба»), № 6 («Каза і воўк»), № 24 («Як ліс вызваліў чалавека ад вужа»), № 37 («Чалавек, які разумеў гаворку звяроў»), № 70 («Дзівосная дудка, што выкрывае забойцаў»), № 78 («Бацька, што хацеў жаніцца з дачкою»), № 102 («Смерць

кумою»), № 236 («Дзяўчына і мрэц-каханак»); у трэцім томе «Люду беларускага»: № 261 («Як селянін дзяліў гусь»), № 270 («Працэс за вараныя яйкі, з якіх павінны былі быць кураняты»), № 340 («Няверная жонка»), № 350 («Тры браты») і інш.

Зборнік Міхала Федароўскага «Люд беларускі» прынёс даследчыкам фальклору і шмат такіх сюжэтаў, якія або былі запісаны вельмі абмежавана ўвогуле на ўсім абшары славяншчыны, або зусім не сустракаліся не толькі ў іншых народаў, акрамя беларускага, але не былі зафіксаваны і на Беларусі. Тут Федароўскі быў першаадкрывальнікам. І ў гэтым велізарнае значэнне яго працы па зборы казак, яго навуковага подзвігу. Ён узбагаціў беларускі нацыянальны фальклор новымі вельмі каштоўнымі фактамі, да яго невядомымі, а ўяўленні вучоных, што існавалі да таго часу, папоўніў, пашырыў і абнавіў, даў ім неацэнны матэрыял для больш грунтоўных аргументаў у навуковых развbooжаннях, для важнейшых вывадаў і шырэйшых абагульненняў.

## ПАРЭМІЯГРАФІЧНАЯ СПАДЧЫНА

Яшчэ ў 60-х гадах XIX ст., будучы падлеткам, Міхал Федароўскі запісваў трапныя выразы жывой польскай мовы, прыказкі і прымаўкі ў Варшаве [151]. Любоў да яркага народнага слова ён пранёс праз усё жыццё і падхопліваў на карандаш кожны арыгінальны выраз, кожны востры сказ, дасціпнае слоўца ці словазлучэнне. Збіраючы матэрыял да свае першае манаграфіі «Lud okolic Żarek, Siewierza i Pilicy», Федароўскі з вялікай увагай фіксаваў прыказкі, загадкі, фразеалагізмы, розныя параўнанні,

выклічнікі, кленічы, жарты, перайманні галасоў птушак і звяроў і г. д. У гэту кнігу ўвайшло больш за сотню польскіх прыказак, 82 загадкі, шмат разнастайнага фразеалагічнага матэрыялу. У 1896 г. у дзесятым томе «Віслы» (стар. 846—850) Федароўскі апублікаваў дапаўненне да вядомай «Кнігі польскіх прыказак» С. Адальберга.

Вандруючы па беларускіх землях, Федароўскі адразу заўважыў, што ў мове беларусаў вельмі часта сустракаюцца дасціпныя слоўцы, яркія прыказкі, прымаўкі, мудрыя выслоўі. Даследчык назіраў, што «чым больш хто размову аздабляе прымаўкамі і прыказкамі, тым лічыцца мудрэйшым»[152]. Запісваючы розныя выслоўі, Федароўскі вывучае іх бытаванне ў народным асяроддзі, каб пасля сцвердзіць: «Прыказкі ў іншых месцах найчасцей ужываюцца ў смеху вартых сітуацыях, іншы раз без аніякай натугі думкі, і выказваныя бываюць звычайна post factum. Тут (на Беларусі.— **Я. С.**) прыказкі дасюль з'яўляюцца сапраўдным кодэксам няпісанай этыкі, паводле якой селянін рэгулюе свае ўчынкі і справы»[153]. У прыказках адбівалася жыццё народа, яго мараль, этыка, накопленыя стагоддзямі веды і практыка; у мастацкіх вобразах прыказак сканцэнтраваліся і абагуліліся з'явы жыцця чалавека і прыроды, назбіраліся трапныя і яркія характарыстыкі, назіранні і абагульненні, зробленыя працоўнымі; тут адлюстроўваліся і памылковыя тлумачэнні навакольнага свету і веды сапраўдныя, якія збіраліся па крупінцы і пераплавіліся ў мысленні народа ў мастацкія вобразы, сталі аксіёмамі. Прыказкі раскрываюць светапогляд народа, даюць яркі малюнак

ацэнкі народам рэчаіснасці, паказваюць яго погляды на жыццё, адбіваюць мары і спадзяванні працоўнага чалавека, яго імкненні да лепшай будучыні. Аналізуючы беларускія прыказкі, М. Федароўскі прыйшоў да вываду, што ў іх «селянін змясціў свае філасофскія назіранні, якія з'яўляюцца вельмі добрым матэрыялам для ацэнкі яго спосабу мыслення і суджэння» [154], што ў беларускіх прыказках і прымаўках «вырысоўваецца бегласць мыслі і багацце мовы» [155]. Таму з такой шчырай зацікаўленасцю збіраў этнограф беларускі парэміяграфічны матэрыял.

Робячы нататкі прадмовы да тома прыказак, Федароўскі прыводзіць выказванне невядомага аўтара: «Прыказкі з'яўляюцца філасофіяй ці скарбонкаю мудрасці народа, павольным вырабам яго мыслі, выснаванай з жыцця. Чым больш народ захаваў прыказак, тым багацейшы сабраў запас дасведчанасці. У прыказцы, акрамя таго, адбіваецца думка народа — простая, шчырая, змястоўная, заключаная ў некалькіх выразах, якія, аднак, поўныя глыбокай мудрасці, адразу пераконваюць. У прыказках народ змясціў усё, што толькі набыў шматвяковым вопытам; у прыказках пераказаў ён навуцы ўспаміны адвечных абрадаў, забабонаў і свае першабытнае веры, у прыказках, нарэшце, народ дакладна адлюстраваў свае навыкі і звычаі... Акрамя таго, прыказкі з'яўляюцца сапраўдным адбіткам народнага характару. Народ умее і любіць выказвацца вобразна. У прыказках, як у чыстай крыніцы, *найлепей адбіваецца абліччa народа* (падкрэслена Федароўскім.— **Я. С.**), яго характар, звычаі і глыбокі розум» [156]. «Давайце ж паглядзім, колькі

практычнай мудрасці, здабытай вопытам, пераказалі мінулыя вякі ў прыказках»,— піша далей Федароўскі, збіраючыся, відаць, даследаваць сабраныя ім беларускія прыказкі. Цалкам стоячы на пазіцыях невядомага аўтара, М. Федароўскі клапатліва папаўняў свае зборы беларускімі прыказкамі і прымаўкамі, фразеалагізмамі, трапнымі выразамі, яркімі словамі, якія ён чэрпаў у мнагаводнай і шырокай рацэ, імя якой — беларуская мова. Работа не прапала дарма. Яна дала багаты плён: 28 000 картак з парэміяграфічнымі, фразеалагічнымі і іншымі нататкамі сабралася ў папках этнографа. Пастараемся высветліць, у якім выглядзе і якім шляхам гэтыя матэрыялы дайшлі да чытача.

Як сведчаць уцалелыя фрагменты рукапісаў з першапачаткова падрыхтаваных тамоў «Люду беларускага», у 1877—1886 гг. Міхал Федароўскі сабраў шмат прыказак, прымавак і загадак з розных паветаў заходняй Беларусі (Пружанскі, Ваўкавыскі, Слонімскі, Лідскі, Сакольскі і г. д.). Але надрукаваць іх не ўдалося ў такім выглядзе, як яны былі падрыхтаваны.

У першых трох тамах «Люду беларускага», што выйшлі ў 1897—1903 гг., было змешчана нямала прыказак і прымавак сярод вераванняў, забабонаў, анекдотаў, легенд, казак. Пасля Федароўскі ўключыў іх у том прыказак. Пра гэта сведчаць паасобныя карткі ў архіве этнографа [157], а таксама шматлікія спасылкі на першыя тры тамы «Люду беларускага» ў томе прыказак [158].

У пісьме да польскага этнографа Іераніма Лапацінскага [159] 3 верасня 1903 г. М. Федароў-

скі паведамляў, што ён сем гадоў спецыяльна працаваў над беларускай парэміяграфіяй. Але толькі праз 32 гады пасля надрукавання трэцяга тома (праз 12 гадоў пасля смерці аўтара) у Варшаве выйшаў з друку чацвёрты том працы Федароўскага «Люд беларускі» [160]. Гэта быў зборнік беларускіх народных прыказак і прымавак, які па велічыні, па колькасці сабраных у ім запісаў і да сённяшняга дня не пераўзыдзены ў гісторыі беларускай парэміяграфіі. Акрамя прыказак, у ім змешчаны тосты і віншаванні, каламбуры і кленічы, загадкі і мянушкі, просьбы і жарцікі, прозвішчы і імёны сялян з розных паветаў (Слонімскі, Ваўкавыскі, Лідскі, Гродзенскі, Сакольскі), шматлікія запісы фразеалагічнага характару.

Да збірання беларускіх прыказак і прымавак, як і ўвогуле да запісвання любога этнаграфічнага матэрыялу, М. Федароўскі ставіўся вельмі сур'ёзна і ўважліва, па-навуковаму. На адной з картак, якія захоўваюцца ў яго архіве, этнограф піша: «Я не падаю (у сваёй працы.— **Я. С.**) ніякіх фантазій, з якіх навука карыстацца не можа» [161]. Ён лічыў, што нядобрасумленнасць запісаў, абыякавасць ці нядбайнасць у працы, а тым больш выдумка, адвольная фантазія — недаравальная справа ў навуцы. «Я накіроўваўся проста ў сялянскія хаты і там збіраў навуковы матэрыял» [162],— заўважае даследчык. Гэта быў асноўны прынцып і метад працы Федароўскага. Як і пры зборы казак і песень, даследчык і тут не абмінаў магчымасці папоўніць свае зборы матэрыяламі, сабранымі іншымі людзьмі: яго знаёмымі і добраахвотнымі памочнікамі. Так, ад Станіславы Чарноцкай — сваячкі піянера ўсходнеславянскай

фалькларыстыкі і этнаграфіі Зарыяна Даленгі-Хадакоўскага (Адама Чарноцкага) — ён атрымаў каля сотні прыказак і прымавак са Случчыны [163]; 60 прыказак, запісаных у Навагрудскім павеце (каля Моўчадзі) Межаеўскім, удзяліў збіральніку вядомы варшаўскі бібліяфіл, калекцыянер пісанак і збіральнік прыказак Зыгмунт Вольскі [164]; некаторыя прыказкі і прымаўкі з Сакольшчыны, Ваўкавышчыны і Пружаншчыны дасылаў Федароўскаму Ян Дзежка; шмат сабраў Антось Высоцкі.

Пры параўнальных даследаваннях М. Федароўскі звяртаўся да сваіх знаёмых з асяроддзя шляхты, якія ведалі беларускую і польскую мовы. «NB. Promemoria. Прачытаць п. Керсноўскай усе шляхецкія прыказкі, каб яна прыпомніла, ці няма ідэнтычных беларускіх» [165],— запісвае ён на невялічкім аркушыку, апрацоўваючы свае парэміяграфічныя нататкі.

У адрозненне ад другіх этнографаў, сваіх папярэднікаў — у Польшчы, напрыклад, О. Кольберга, а ў гісторыі беларускай фальклярыстыкі П. Шэйна — Міхал Федароўскі амаль не выкарыстоўваў у сваіх працах друкаваныя крыніцы. Ім, як мы ўжо ведаем, не перадрукавана з іншых выданняў ні адной казкі.

З друкаваных крыніц М. Федароўскі запазычыў толькі 190 прыказак, апублікаваных У. Дыбоўскім [166]. Пра гэта сам збіральнік у чарнавых нататках прадмовы да тома прыказак гаворыць: «Усе прыказкі, прадстаўленыя ў гэтай працы, я запісаў асабіста з вуснаў народа; выключэнне складаюць 200 (палічыць [167]) такіх прыказак Дыбоўскага, на якія мне нідзе ў даследаваных мною ваколіцах натрапіць не ўдалося. Я прылучыў іх да сваіх таму, што яны

запісаны ў заходняй частцы Белае Русі. Паправіўшы некаторыя выразы, якія грашылі памылковай фанетыкай, я кожную пазначыў асобна прозвішчам Дыбоўскага ў дужках»[168].

Якую ж тэрыторыю ахапіў М. Федароўскі, запісваючы беларускі парэміяграфічны матэрыял? На тытуле чацвёртага тома «Люду беларускага» значыцца 12 паветаў: Гродзенскі, Сакольскі, Беластоцкі, Бельскі, Ваўкавыскі, Слонімскі, Навагрудскі, Слуцкі, Лідскі, Вілейскі, Свянцянскі і Ашмянскі. У матэрыялах тома сустракаюцца прыказкі, прымаўкі, загадкі і іншыя матэрыялы, сабраныя, а можа часткова дасланыя з іншых паветаў — Брэсцкага, Пружанскага, Ігуменскага, Мінскага, Барысаўскага, Віленскага. Найбольшая колькасць надрукаваных у чацвёртым томе матэрыялаў (усяго 13 231 нумар) прыпадае на Ваўкавыскі павет — 8389 прыказак з варыянтамі (усіх прыказак у томе — 9868). Гэта і зразумела. У Ваўкавыскім павеце Федароўскі пражыў пастаянна 10 гадоў: з 1884 па 1895 г. ён арандаваў у гэтых краях фальварак Косін. Маючы непасрэдны сталы кантакт з мясцовым насельніцтвам, збіральнік мог з найбольшым поспехам і найлепшымі вынікамі папаўняць свае парэміяграфічныя нататкі. На другім месцы па колькасці сабранага прыказкавага матэрыялу стаіць Слонімскі павет (665 нумароў). Тут Федароўскі запісаў багата прыказак, жартаў, загадак, імён і прозвішчаў сялян, мянушак усё па той жа прычыне — у Слонімскім павеце ён пражыў дзевяць апошніх гадоў свайго жыцця на Беларусі.

Пры падліках парэміяграфічных матэрыялаў з розных мясцовасцей трэба мець на ўвазе та-

кую акалічнасць: усіх запісаў у Федароўскага было 28 000; з іх Чэслаў Пяткевіч пры падрыхтоўцы тома да выдання пасля смерці аўтара выбраў толькі 12 231 запіс. Якія варыянты і з якіх паветаў выдавец апусціў, невядома. Таму тут і даюцца лічбы толькі па надрукаваным томе.

Этнограф не падаваў канкрэтных мясцовасцей, назваў паасобных вёсак, дзе ён рабіў запісы. Пры кожнай прыказцы абазначаны толькі павет. У яго архіве зберагласся толькі адна картка, на якой рука збіральніка зафіксавала назвы вёсак, дзе рабіліся запісы: «Ад Лыскава (у Ваўкавыскім павеце.— **Я. С.**). Запісваў загадкі і прыказкі ў вёсках Кавалёўцы, Вілянова, Куклічы, Грушаўцы і Верашчакі» [169].

Як бачым, тэрытарыяльна этнограф ахапіў велізарныя прасторы заходнебеларускіх зямель: ад Беластока і Бельска — на захадзе да Слуцка і Мінска — на усходзе, ад Вільні, Свянцян і Ашмян — на поўначы да Слонімшчыны і Пружаншчыны — на поўдні.

Гісторыю стварэння чацвёртага тома «Люду беларускага» падрабязна прасачыць ад пачатку да канца нялёгка. Па-першае, у архівах захавалася нямнога матэрыялаў, якія асвятляюць працэс работы Міхала Федароўскага над беларускай парэміяграфіяй; некаторыя з іх яшчэ, магчыма, не знойдзены; па-другое, кніга рыхтавалася да друку не самім аўтарам. Прафесар Станіслаў Панятоўскі — рэдактар тома — хоць і гаворыць у прадмове, што «ўкладанне гэтага тома сцісла адпавядае плану, пакінутаму аўтарам» [170], не расказвае грунтоўна, што гэта быў за план, у якім стане матэрыялы былі пакінуты збіральнікам: ці Федароўскі іх

разгрупаваў цалкам, ці часткова, ці павыбіраў апорныя словы да ўсіх прыказак ці толькі да часткі, а да астатніх іх падбіралі і размяшчалі ў алфавітным парадку Ч. Пяткевіч і С. Панятоўскі.

Да тома прыказак Федароўскі рыхтаваў прадмову. Засталіся яе фрагменты. З іх, а таксама з карэспандэнцыі этнографа, фрагментаў рукапісу «Люду беларускага» — серый, падрыхтаваных да 1886 г., відаць, што работу над стварэннем тома прыказак этнограф вёў доўгі час. Яна ішла некалькімі этапамі, паслядоўнасць якіх дакладна ўстанавіць цяпер амаль немагчыма.

Прыказкі і загадкі, сабраныя Федароўскім у першае дзесяцігоддзе яго працы на Беларусі, першапачаткова ўваходзілі ў падрыхтаваныя збіральнікам тамы «Люду беларускага» як паасобныя раздзелы (па паветах). Прыказкі, прымаўкі і загадкі ўваходзілі ў шосты і сёмы раздзелы серый, гатовых да друку ўжо ў 1886 г. Унутры кожнага раздзела была прадметна-алфавітная класіфікацыя. Але ў такім выглядзе надрукаваць працу не давялося. Калі Акадэмія навук згадзілася друкаваць матэрыялы Федароўскага, тыя раздзелы, у якіх былі прыказкі і загадкі з паасобных паветаў, трэба было аб'яднаць. А гэта вымагала ўжо іншай класіфікацыі. «Частка пададзеных тут прыказак,— запісаў пазней М. Федароўскі,— яшчэ 9 гадоў таму назад была ўкладзена паводле т. зв. філасафічнага парадку і падрыхтавана да друку. Але ж пакуль нельга было знайсці выдаўца рукапісу, была надрукавана «Кніга» Адальберга [171]. Гэта быў добры прыклад для пераймання. У той час, падумаўшы сабе, што

няма таго кепскага, каб не выйшла на добрае, я пачаў нанава апрацоўваць па прынцыпе галоўнага выразу, далучыўшы ўдвая больш прыказак, сабраных пазней»[172].

Запісваючы прыказкі, М. Федароўскі спачатку фіксаваў іх як сыры матэрыял (часам робячы для сябе некаторыя тлумачэнні). Пасля ж ён узваліў на свае плечы неверагодна цяжкую задачу: акрамя таго, што меў клопат з тлумачэннем і класіфікацыяй прыказак, ён адзін узяўся супаставіць тысячы запісаных ім беларускіх прыказак з парэміяграфічнай спадчынай суседніх славянскіх народаў — польскага, украінскага, рускага, чэшскага,— а таксама з тымі выданнямі беларускіх прыказак, якія ўжо былі надрукаваны да яго іншымі фальклarystамі. Гэтая цяжкая праца заняла ў Федароўскага некалькі гадоў. 30 лістапада 1896 г. ён пісаў з Падоля да Рамана Завілінскага ў Кракаў: «У даны момант увесь вольны ад спецыяльных заняткаў час займае ў мяне карпатлівая праца над супастаўленнем б(е)л(а)рускіх прыказак з варыянтамі, якія выступаюць у мове літоўск(ай), а таксама ў сваяцкіх славянск(іх)...»[173] Праз год, 21 лістапада 1897 г., ён зноў паведамляе Р. Завілінскаму: «Гэтымі днямі скончыў ужо нарэшце супастаўленне прыказак. Прагартаўшы прыказкавую літаратуру: беларускую, украінскую, рускую, літоўскую і польскую, наастатку цытаваў чэшскія варыянты, якія знайшоў у зборы І. Е. Гулакоўскага («Česka přislovi»). Цяпер вельмі ж марудная каля тых дробязей работа павінна ўжо пасоўвацца крыху жвавейшым тэмпам. Спадзяюся, што ўжо ў будучым годзе працу над

парэміяграфіяй беларускай канчаткова сапхну са свае галавы»[174].

Міхал Федароўскі адзін зрабіў сапраўды тытанічную працу, якую нават цэлы калектыў змог бы адолець не вельмі хутка. Ён супаставіў са сваімі запісамі 26 розных парэміяграфічных выданняў, многія з якіх мелі дзесяткі тысяч прыказак і прымавак, загадак, як, напрыклад, зборы паляка С. Адальберга (каля 70 000 прыказак з варыянтамі), рускага У. Даля (больш за 30 000 нумароў), украінца М. Номыса (больш за 14 000 нумароў). Знамянальна, што да сённяшняга дня ні адзін беларускі парэміёграф не адважыўся ўзяцца за падобнае.

Міхал Федароўскі дасканала ведаў славянскую парэміяграфічную і парэміялагічную літаратуру, публікацыі беларускіх прыказак А. Рыпінскага, Я. Чачота, Я. Тышкевіча, П. Шпілеўскага, І. Насовіча, П. Шэйна, Е. Раманава, У. Дыбоўскага, З. Радчанкі і іншых і прыказак суседніх славянскіх народаў: збор У. Даля, чэшскі І. Гулакоўскага, а таксама ўкраінскіх вучоных М. Номыса, А. Навасельскага, М. Камарова[175]. Найлепш ён быў знаёмы з публікацыямі польскіх прыказак і прымавак С. Адальберга, К. Бжазоўскага, К. Баранча, З. Глогера, О. Кольберга.

Асабліва высока цаніў Федароўскі працу Самуэля Адальберга, з якім быў асабіста знаёмы, меў перапіску, дасылаў яму польскія прыказкі, сабраныя ў часе паездак па розных раёнах Польшчы. С. Адальберг надрукаваў у сваёй «Кнізе польскіх прыказак, прымавак і прыказкавых выразаў» болей за 30 000 польскіх прыказак і каля 40 000 іх варыянтаў. Гэты зборнік і да сённяшняга дня лічыцца польскімі вучо-

ымі-фальклярыстамі адным з лепшых выданняў парэміяграфічнай спадчыны польскага народа, найлепшым дасягненнем польскай парэміяграфічнай навукі XIX ст. Яшчэ большую папулярнасць ён меў у час выхаду ў свет. Акрамя велізарнага матэрыялу, сабранага ў адно выданне, зборнік меў новую на той час класіфікацыю. Папярэднікі С. Адальберга падавалі прыказкі ў асноўным па алфавіце, што было нязручным у карыстанні, або тэматычна. Ідучы за нямецкімі вучонымі (Вандэр [176], Дзюрынгсфельды, Ота), Адальберг прымяніў размяшчэнне прыказкавага матэрыялу па галоўных, апорных словах (die Stichwort) кожнай прыказкі. «Такое ўкладанне,— пісаў у рэцэнзіі Ян Карловіч,— адзіна рацыянальнае. Яно здаецца простым і натуральным, аднак колькі папярэднікаў пана А(дальберга) і ў нас і за мяжой не магло даць сабе рады, каб трапіць на патрэбную дарогу: ламалі галовы, шукаючы сістэмы парадкавання паводле аддзелаў прадметных, разбіваючы прыказкі на «гаспадарчыя», «рэлігійныя», «раслінныя», «звярыныя» і г. д. і ніяк не могучы знайсці выйсця з лабірынту» [177].

Польскія прыказкі, сабраныя М. Федароўскім, таксама былі ўключаны ў «Кнігу» С. Адальберга. Аўтар змясціў тут усе прыказкі з апублікаванай працы Федароўскага «Lud okolic Żarek, Siewierza i Pilicy», а таксама многа з рукапісу, прысланага Федароўскім [178]. Канчаткова афармляючы свае парэміяграфічныя зборы, Федароўскі пайшоў у размяшчэнні прыказак за Адальбергам.

Грунтоўна ведаў Федароўскі і адзін з найбольшых на той час зборнікаў беларускіх пры-

казак і прымавак Насовіча. «Сборник белорусских пословиц, составленный И. И. Носовичем» (1874) змяшчаў больш за 3000 беларускіх народных прыказак. Падача іх у зборніку традыцыйная: збіральнік не рабіў ніякіх падзелаў і груп, а даў матэрыял агулам, размясціўшы па алфавіце. Таму практычна карыстацца гэтым увогуле каштоўным зборнікам нязручна: невядомую на адпаведную тэму прыказку тут можна знайсці толькі прачытаўшы ўвесь зборнік.

Сустракаюцца ў І. Насовіча і недакладнасці ў перадачы асаблівасцей жывой беларускай мовы. Вельмі важна, што амаль да кожнае прыказкі і прымаўкі вучоны дае (хоць не заўсёды ўдалыя) тлумачэнні. Вось некалькі прыкладаў: «Алі пан, алі прапаў. Гавораць, адабраючы адвагу. Альбо палкоўнік, альбо пакойнік. Aut sors, aut mors; Ані гарэлага шэлега няма. Гавораць пра крайне беднага; Паны балююць, а наш брат бядуець. Гавораць пра тое, што марнатраўнасць паноў даводзіць сялян да гаротнага становішча» і г. д.

Да недахопаў зборніка І. Насовіча трэба аднесці і поўную адсутнасць якой бы там ні было пашпартызацыі. Збіральнік не паказвае, дзе і ад каго запісаны прыказкі. Толькі па спецыфічных моўных асаблівасцях, па некаторых дыялектных рысах можна вызначыць, з якой мясцовасці паходзіць тая ці іншая прыказка. Большасць жа з іх вельмі цяжка аднесці да пэўнай тэрыторыі. Змешчана ў зборніку і 130 загадак. Яны таксама пазбаўлены класіфікацыі: падаюцца па алфавіце і ўсё. Пасля кожнай загадкі праз працяжнік даецца адгадка. Усё ж, нягледзячы на недахопы, зборнік Насо-

віча не страціў навуковай каштоўнасці і да нашых дзён. Ён з'яўляецца важнай крыніцай вывучэння народнай мудрасці беларусаў.

Няма нічога дзіўнага, што М. Федароўскі зборніку Насовіча аддаў самую пільную ўвагу. Гэта быў найбольш вядомы зборнік, які найпаўней з усіх тагачасных выданняў беларускіх прыказак і прымавак адлюстраваў крылатую мудрасць нашага народа. Пацвярджэнне таму, што Федароўскі, як кажуць, з алоўкам у руках чытаў і вывучаў зборнік І. Насовіча, можам знайсці ў архіве этнографа. «Некалькі абзацаў працытаваць з прадмовы Насовіча да «Бел. прыказак» [179],— запісвае даследчык на адным з аркушаў. Як скрупулёзна працаваў Федароўскі над прыказкамі, апублікаванымі Насовічам, гаворыць яшчэ адзін запіс: «Параўнальныя нататкі. У Насовіча «Сборник белорусских пословиц» на агульную лічбу... (так у рукапісе.— **Я. С.**) усходнебел(арускіх) прыказак я знайшоў ідэнтычных і варыянтаў 1686» [180]. Такія падлікі даследчыка давалі магчымасць яскравей ацаніць уласныя зборы.

Міхал Федароўскі быў добра знаёмы і са «Слоўнікам» І. Насовіча, дзе таксама змешчана шмат прыказак і прымавак у якасці ілюстрацыйнага матэрыялу да пэўных слоў, выразаў, граматычных форм, да лексікі жывой беларускай мовы XIX ст. Ён нават збіраўся выдаць дапаўненне да гэтага слоўніка на аснове лексічнага матэрыялу, сабранага ім за доўгія гады працы на Беларусі. У архіве Федароўскага збярогся спецыяльны сшытак, дзе ён рабіў запісы слоў, якіх не знаходзіў у слоўніку Насовіча, а таксама вялікая колькасць моўных матэрыялаў да дыялектнага слоўніка заходне-

беларускіх гаворак[181], пра выданне якога збіральнік марыў доўгія гады. Апрацоўваючы свае парэміяграфічныя запісы і падбіраючы матэрыял для слоўніка, ён пісаў: «У гэтых прыказках, фразеалагізмах і загадках знаходзіцца мноства такіх выразаў, якіх дарэмна шукаў бы хтосьці ў вядомым слоўніку Насовіча. Натуральна, што ўсе яны ўвойдуць у слоўнік, матэрыялы для якога я збіраю ўжо больш за дзесятак гадоў»[182].

Складанай праблемай, як і для многіх парэміёграфаў, сталі для М. Федароўскага пошукі формы падачы сабранага матэрыялу. Велізарную лічбу запісаных прыказак, прымавак, загадак, а таксама прыгаворак і вітанняў, дасціпных слоў і скорагаворак, тостаў і кленічаў, віншаванняў і іншага трэба было нейкім чынам падаць, раскласіфікаваць так, каб чытач мог арыентавацца ў гэтых тысячах трапных выразаў, якія народ стварыў і прыстасаваў да разнастайнейшых выпадкаў у жыцці, каб ён не блукаў у заблытаным і цёмным лабірынце. Гэта задача аказалася не з лёгкіх, хоць Федароўскі, пайшоўшы за Адальбергам, і меў перад сабою ўзор сістэматызацыі прыказак.

У папках Федароўскага было шмат парэміяграфічнага матэрыялу не толькі беларускага, але і польскага. Па-першае, гэта былі прыказкі, запісаныя з вуснаў шляхты на Беларусі, якая, будучы двухмоўнай, карысталася як польскімі прыказкамі, так і перакладала мясцовыя беларускія. «Адзначыць,— запісаў на адной з картак М. Федароўскі,— што вельмі многа сялянскіх прыказак у даслоўным польскім перакладзе прывыкла ўжываць шляхта»[183]. Па-другое, Федароўскі меў некалькі ты-

сяч польскіх прыказак, якія ён сабраў, ездзячы па розных раёнах Польшчы.

Збіральнік адразу хацеў змясціць у адзін том і беларускі парэміяграфічны матэрыял і польскі (як гэта ён зрабіў пазней з песнямі). Таму ён і мяркуе: «Прыказкі. Том падзяліць на 2 часткі: а) прыказкі беларускія; б) прыказкі польскія. Да абедзвюх частак даць адпаведныя тытулы»[184]. Гэты план не быў здзейснены. У 1897 г. М. Федароўскі збірае польскія прыказкі разам, класіфікуе іх паводле галоўнага выразу і дасылае Яну Карловічу, каб надрукаваць у «Вісле» ў якасці дадатку да вядомай «Кнігі» С. Адальберга. Рукапіс гэты цяпер знаходзіцца ў архіве Яна Карловіча ў Вільні[185]. З прадмовы, якая тут прыкладзена, відаць, што М. Федароўскі сабраў больш за 3000 прыказак у час паездак па Польшчы. Карловічу ён даслаў 800 такіх, якіх не знайшоў у Адальберга. Тут Федароўскі піша і пра прыказкі, сабраныя сярод шляхты на Беларусі: «У маім этнаграфічным зборы польскіх матэрыялаў маю яшчэ пару тысяч прыказак, якія я запісаў з вуснаў літоўскай (г. зн. беларускай.— **Я. С.**) засцянковай шляхты ў апошнія гады. З тае прычыны, што гэтыя прыказкі разам з «засцянковай» шляхтай ужывае і мясцовы люд (асабліва на пагранiччы з каралеўствам), яны ўвойдуць як дадатак у IV том мае манаграфіі п(ад) т(ытулам) «Люд бел(арускі)» — Прыказкі».

Акрамя таго, што том меркавалася падзяліць на часткі — польскую і беларускую, М. Федароўскі меў многа клопатаў і сумненняў, як пабудаваць частку беларускую. Яго думкі і меркаванні пра кампазіцыю сабраных белару-

скіх прыказак знаходзім у чарнавых нататках. «Назваць 1-шы раздзел «Прыказкі характэрныя» [186],— запісвае ён. Сюды, відаць, этнограф меркаваў адабраць тыя запісы са сваіх нататак, якія сапраўды адносяцца да прыказак. Федароўскі разумеў, што многія трапныя выразы, якія ён запісаў і ўключыў у парэміяграфічныя матэрыялы, бо на першым часе разумеў прыказку вельмі шырока, да прыказак маюць вельмі прыблізныя адносіны, а таму месца ім — у іншых раздзелах. З гэтай прычыны з-пад пяра Федароўскага выходзяць наступныя накіды плану класіфікацыі: «Адзін кавалак прысвяціць *дасціпным запытанням;* Пэўную групу прыказак назваць: Дыялогі; NB. Адцінкі. Парадкуючы прыказкі, адкідаць адцінкі, напр., Такой бяды! Тыле таго! і да т. п., для якіх давядзецца прызначыць асобны раздзел; Дзе змясціць прыгаворкі, напр., Дзе быўшы, Маўляў і г. д.?; Раздзел дасціпных адказаў на пэўныя пытанні назваць Каламбуры» [187].

Аднак атрымалася не зусім так, як меркаваў сам Федароўскі. Том выдаваўся пасля яго смерці, і выдаўцы — Чэслаў Пяткевіч і Станіслаў Панятоўскі — хоць і прытрымліваліся планаў аўтара, былі знаёмыя з яго запіскамі, зрабілі некаторыя адступленні. Ды і сам аўтар ажыццявіў не ўсе свае планы. Так, першы вялікі раздзел у томе мае назву «Прыказкі характэрныя (Прыказкі, жарцікі, параўнанні, метафары і ўвогуле ўсялякія прыказкавыя выразы)». У ім 9868 нумароў. Падраздзелаў, пра якія думаў М. Федароўскі, ён не мае. Увесь матэрыял раскласіфікаваны па «галоўным выразе», «галоўным слове» кожнай прыказкі. Падаецца ён у алфавітным парадку паводле

галоўных слоў, а ўнутры кожнага з іх — алфавітна па першай літары кожнай прыказкі. Гэта адпавядае плану аўтара, які пісаў: «Прыказкі, сабраныя пад галоўным выразам, рыхтаваць у алфавітным парадку паводле першага гуку кожнай прыказкі» [188]. Напрыклад:

*«Адважны*

92. Адважны падчас уцэліць на сваё.— В. (Ваўкавыскі павет.— **Я. С.**).
Адважны часом... Г. (Гродзенскі павет.— **Я. С.**). Dopnie swego, postawi na swojem.
93. Адважны ніколі не каецца.— В.
94. Адважны роднаго бацька ў лоб б'е.— С. (Слонімскі павет.— **Я. С.**)
95. Лішнё адважны дакруціцца.— В.
Trafi kosa na kamień» [189].

У раздзел «Прыказкі характэрныя» ўвайшлі і такія запісы, якія М. Федароўскі меркаваў падаваць у іншым месцы. Тут знаходзім прыгаворку «Маўляў» (4796 [190]), «Такой бяды!» (533) і г. д. Гэта ў той час, калі, напрыклад, дыялогі вылучаны ў асобны раздзел [191]. Гэтаксама ў асобныя раздзелы і падраздзелы вылучаны блаславенні, тосты, просьбы, вітанні, кпіны і жарцікі, скорагаворкі і іншыя матэрыялы.

Класіфікуючы прыказкі паводле «галоўнага выразу», М. Федароўскі сутыкнуўся з невырашальнымі пытаннямі. Справа ў тым, што «галоўны выраз» увогуле не заўсёды можна вызначыць: іншасказальнасць, метафарычнасць, шматзначнасць многіх прыказак не дазваляе гэтага зрабіць. Адна прыказка можа адносіцца да розных аналагічных з'яў жыцця. Гэта тлумачыцца тым, што яны выводзяць з шматлікіх жыццёвых фактаў адпаведныя мараль-

ныя, этычныя і іншыя правілы і маюць сінтэзуючы сэнс [192]. Клопат М. Федароўскага над вызначэннем «галоўнага выразу» адлюстравалі некаторыя яго запіскі: «NB. Калі дзейнікавае слова стаіць побач з назоўнікам, у такім выпадку які з гэтых выразаў галоўны? Напр., Згінуў мех, то і на бацька грэх. А таксама калі прыметнік стаіць перад назоўнікам, напр., Чужымі рукамі добра і жар заграбаць» [193]; «а) Калі ў прыказцы няма назоўнікаў, а ёсць два словы, то, не звяртаючы ўвагі на другія часткі, мы павінны азначаць прыказку тым, якое стаіць на першым месцы, напр., Мала *плаціць*, а дужа траціць; ...в) Каб не клін і не мох, то бы *майстар* здох; с) а) Горка рэдзька, а ядуць, ліхі *замуж*, а ідуць; в) Дзе міло — там вочы, дзе *баліць* — там рукі. Рыба шукае, дзе глыбей, а *чалавек*, дзе лепей» [194]; «NB. Глядзі параўнанні такога роду: Стуліла губу як святы с... (Што будзе галоўным выразам: стуліць ці губа?)» [195].

Ф. М. Янкоўскі ў сваёй кнізе [196] ўжо паказаў, як М. Федароўскі няўдала выбіраў «апорныя словы». Прыкладаў такіх можна дадаць.

*Галава.* 2538. Бракуе аднае клепкі ў галаве. 2542. Хоць яму кол на галаве чашы. 2578. Калом галавы не дастаць. 2599. Па маёй галаве няхай хоць воўк траву есць.

*Мікіта.* 4952. Даў (пусціў) бог Мікіту на валакіту. 4953. Наўчу я цябе Мікіту скакаць.

*Рыба.* 7034. Лавіць рыбу ў каламутнай вадзе. 7042. Рыба шукае дзе глыбей, а чалавек дзе лепей (параўн. з прыведзенай вышэй запіскай Міхала Федароўскага, у якой ён падкрэсліў як галоўнае, апорнае слова «чалавек».— **Я. С.**).

Як бачым, пад адно і тое ж слова трапілі розныя сэнсам прыказкі. Так, у другім прыкладзе пад дамінанту «галава» пастаўлены самыя разнастайныя па семантыцы прыказкі, якія павінны былі б размясціцца ў раздзелах адпаведна іх сэнсу: 2538 — неразумнасць, дурнота; 2542 — упартасць; 2578 — ганарыстасць, пыхлівасць, зазнайства; 2599 — абыякавасць.

У «Парадніку для збіральнікаў народных твораў», якім М. Федароўскі карыстаўся на пачатку збіральніцкай дзейнасці, Ян Карловіч надаваў вялікае значэнне запісванню варыянтаў прыказак і залічваў да жанру прыказкі вельмі шырокае кола моўных фактаў. Да прыказак, пісаў ён, «мы залічваем усялякія сталыя выразы, сказы (gadki), адцінкі, выклічнікі, выказванні, параўнанні, рыфмы да пэўных уласных і рэчавых імён, жарты з жыхароў пэўных ваколіц, асоб, станаў і г. д.; прыказкі варажбітныя, каляндарныя і ўвогуле ўсялякія звароты мовы, якія паўтараюцца стэрэатыпна»[197]. Таму Федароўскі, збіраючы падобныя матэрыялы, групаваў іх разам.

С. Адальберг таксама вельмі вялікае значэнне надаваў варыянтам прыказак[198]. У сваёй «Кнізе» ён змясціў побач з 30 000 прыказак каля 40 000 іх варыянтаў. М. Федароўскі, слухаючыся парад Я. Карловіча і С. Адальберга, збіраў іх (варыянты прыказак) вельмі пільна і ў велізарнай колькасці. Ужо сам факт, што парэміяграфічная спадчына Федароўскага складалася з 28 000 картак запісаў, гаворыць сам за сябе. Тут, вядома, было шмат варыянтаў.

Класіфікуючы прыказкі, М. Федароўскі меркаваў даваць варыянты «ў геаграфічным парадку, ідучы ад усходніх паветаў да граніц

каралеўства» [199]. Гэтага не атрымалася. Ч. Пяткевіч, рыхтуючы матэрыялы М. Федароўскага да выдання, многія варыянты адкінуў. А цікава было б бачыць, як пашырана адна і тая ж прыказка тэрытарыяльна. Праўда, выданне такой колькасці варыянтаў звязана з выдавецкімі цяжкасцямі: не хапае месца з-за абмежаванасці аб'ёму выдання, які выдавецтва амаль заўсёды вызначае само. Вось і атрымалася, што найбольш прыказак у чацвёртым томе «Люду беларускага» з Ваўкавыскага павета, хоць ідэнтычныя варыянты былі ў збіральніка і з іншых мясцовасцей. Але і так у гэтым томе надрукавана вельмі многа варыянтаў: «Хто позно ходзіць — сам сабе шкодзіць» (1128) і «Позно ходзіш — сабе шкодзіш» (1133); такія ж № 1483 і 1551; «Чорт на д'ябла трапіў» (1662), «Чорт з бесам сышоўся» (1671), «Пад чорным лесам спаткаўся чорт з бесам» (1697), «Трапіў чорт на д'ябла» (1707). Часам простая перастаноўка слоў успрымалася збіральнікам як варыянт адной прыказкі ці прымаўкі, як гэта бачым у № 1662 і 1707.

А вось прыклад паўтарэння аднае прыказкі, дакладней, яе варыянтаў, рассыпаных М. Федароўскім пад рознымі апорнымі словамі:

*Абманство.* 27. Абманствам свет пяройдзеш (пройдзеш), да назад ні вернешся.

*Круцельство.* 4033. Круцельствам свет пяройдзеш, да назад ні вернешся.

*Круціць.* 4035. Круцячы свет пяройдзеш, да назад ні вернешся.

*Лгарство.* 4536. Лгарствам дале́ко заедзеш, але назад ні вернешся.

*Махлярство.* 4585. Махлюючы свет пройдзеш, да назад ні вернешся.

*Няпраўда.* 5310. Ніпраўдаю свет пяройдзеш, да назад ні вернешся.

Тут мы, акрамя сцвярджэння факта паўтору аднаго і таго ж па сэнсе прыказкавага выразу — варыянта граматычнага,— навочна пераконваемся і ў заганнасці метаду класіфікацыі прыказак па «галоўным слове».

М. Федароўскі не толькі граматычныя, але і сэнсавыя варыянты аднае прыказкі змяшчаў у розныя гнёзды, і яны, такім чынам, рассыпаліся па ўсім зборніку, хоць чытачу найлепш было б карыстацца імі, калі б яны былі сабраны ў адну тэматычную рубрыку. Вось тыя «апорныя», «галоўныя» словы, якія вылучыў збіральнік:

*Бацько. Бацькоўскі.* 314. Які бацько, такія дзеткі (такі сын, сынок).

*Дрэво.* 2078. Якое дрэво, такі клін, які бацька, такі сын.

*Дуб.* 2105. Які дуб, такі клін, які бацька, такі сын.

*Яблыко.* 3253. Яблыко нідалéко ад яблынкі падае (адкоціцца).

*Ехаць.* 3356. Які ехаў, такі паганяў (стрэў).

*Каравайніца.* 3591. Якія каравайнічкі, такія калачыкі.

*Кароўка.* 3625. Лыса карова лысо цяля прывядзе.

*Кудзеля.* 4096. Якая кудзеля, такая прадзеля (такая і нітка).

*Куст.* 4186. З добраго куста то і добра капуста.

*Матка.* 4764. Якая матка, такія дзеткі (дачка).

*Пан.* 5724. Які пан, такі яго і крам.

*Пень.* 6110. Які пень, такія адросткі.

*Прадзельніца.* 6385. Якая прадзельніца, такая і нітка.

*Сава.* 7178. Не прывядзе (ні прывяла, ні ўродзіць) сава сакала, да такого чорта, як сама.

*Здаровы.* 9268. Які здароў будзь, такі наздароўе.

Пры тэматычнай класіфікацыі, якую трэба лічыць найбольш рацыянальнай, збіральніку вельмі лёгка было б змясціць падобныя прыказкі ў адным раздзеле.

Мы ўжо ведаем, што М. Федароўскі жанр прыказкі спачатку трактаваў вельмі шырока. Не адмовіўся ён ад гэтага і на апошнім этапе работы над беларускай парэміяграфіяй. Так, у том прыказак трапілі такія запісы, якія этнограф рабіў з-за паасобных слоў або фразеалагічных злучэнняў. Магчыма, ды і напэўна, што калі б том рыхтаваў да друку сам Федароўскі, многія з запісаў, што не маюць да прыказак і прымавак ніякіх адносін, былі б ім калі не апушчаны зусім, то, прынамсі, змешчаны асобна. Ч. Пяткевіч жа пры падрыхтоўцы матэрыялаў Федароўскага да выдання пакінуў многія запіскі моўнага характару, зусім не звязаныя з прыказкамі, у раздзеле прыказак:

*Бяздольны.* 553. Яны людзі бяздольныя.

*Бывалец.* 1067. Гэто бывалец — ён усё знае і ведае.

*Галава.* 2537. Аж очы на лоб лезуць, так галава баліць.

*Мігнуць.* 4937. Мігнуў як бліскавіца.

*Нацярпецца.* 5142. Нацярпеўся даволі на гэтом свеці.

*Сплаў.* 7590. На сплавах. Напр., Няма яго дома, ён яшчэ на сплавах.

*Шыя.* 7959. Шыя доўга як у бусла.

М. Федароўскі спрабаваў, як І. Насовіч, даваць у сваім зборніку тлумачэнні да прыказак, але не да ўсіх. «Прыказкі зразумелыя,— пісаў Федароўскі,— я не лічыў патрэбным тлумачыць; значэнне другіх даследчык знойдзе ў аўтараў, працытаваных пад дадзенай прыказкай; але я павінен заўважыць і тое, што знайшлося некалькі соцень і такіх, якіх я, спадзеючыся на сваю памяць, пры запісванні не тлумачыў, а праз трыццаць гадоў, асеўшы ў Варшаве, не здольны ўжо вытлумачыць»[200]. Да 192 такіх нераскрытых прыказак тлумачэнні даў Чэслаў Пяткевіч[201]. Ён прылучыў да збору Федароўскага крыху прыказак, сабраных на Палессі (№ 2578, 2853, 3003, 5736, 5877, 3028 і г. д.). Іншы раз Ч. Пяткевіч даваў да прыказкі, запісанай і вытлумачанай М. Федароўскім, больш дасціпны і шырокі каментарый. Так, прыказку «Без стуку, без груку павязлі як суку» (5937) Федароўскі тлумачыць: «Пахавалі без жалю і славы», а Пяткевіч дадае: «Такое тлумачэнне здаецца не зусім трапным. Гэту прыказку на Палессі і ў іншых мясцінах Беларусі прыстасоўваюць не да пахавання, а да вяселля; калі яно адбылося сціплей, чым гэтага патрабуе звычай, то незадаволеныя аматары ўрачыстасцей, помсцячы скупым бацькам, параўноўваюць іх дачку з сукай».

Да прыказкі «Селі макам пяцігорцы — кабыла порах паела» (6021) Федароўскі дае тлумачэнне: «Укрыліся, нічога не зрабіўшы». Тлумачэнне Ч. Пяткевіча раскрывае паходжанне прыказкі: «На Палессі кажуць: «Прапалі пяцігорцы — кабылу соль з'ела». Прыказка гэта ўзнікла сярод украінскіх чумакоў: «Пропали

п'ятигорці — кобилу сіль з'іла», якія, як вядома, пастаянна ездзілі ў Крым па соль. Трудна здагадацца, ці гэта быў воклiч толькі адзіночны, ці таксама зборны (калектыўны) з нагоды сумнага становішча зборнай кабылы. Даволі, што захаваўся аж дасюль, і ўжываецца тады, калі трэба недаацаніць (аднесціся несур'ёзна) пераўвялічанае кімсьці няшчасце».

Як жа сам М. Федароўскі тлумачыць прыказкі? Па-першае, дае да беларускай прыказкі або прымаўкі каментарый па-польску. Часам ён вельмі кароткі, іншы раз больш падрабязны:

8154. Ён сягоння з свіннёю — Pijany.

5335. Кажан ніжанаты б'е жонку, а бяздзетны дзеці — Jeżeli ktoś się napuści: «О, я каб жонку меў, то нігды не даў бы ёй волі» i t. d., tymczasem jak się ożeni, to nos spuści; także i bezdzietny zwykle mówi, ze nigdyby dzieciom nie pozwolił na nadmierną swawolż.

9076. Выскачыло пяцёро, дай німа нічого — W wypadku, gdy się ludzie do czegoś hurmem i z zapałem rzucą, a z braku wytrwałości nie doprowadziwszy rzeczy do końca, w połowie drogi staną.

Па-другое, тлумачачы сэнс прыказкі, М. Федароўскі часта падае мясцовы беларускі анекдот, народнае апавяданне, жарт, тым самым раскрывае і крыніцу паходжання прыказкі, напрыклад:

251. Як тая баба: забрала ўсю муку, яшчэ крыўдзілася (яшчэ ёй крыўда была).— Малола баба нанятая, цэлы дзень малола муку ў гаспадара. У вечар ён кажа: «Што табе заплаціць, бабко, за тое?» Яна кажа: «Ці я ведаю, саколіку...» Так гаспадар кажа: «Забяры сабе гэту муку, што намалола». Так баба: «Эй, сако-

ліку, мне крыўда за цэлы дзень, далажы яшчэ штоколяк».

532. Што гэто за бяда, што гэдак п'ецца вада.

Анекдоцік: Адна жонка надто ласа была; усе каўбасы і што якое было, то по́тай ела, а потым усё воду піла кажучы: «Што гэто!» Муж гэто раз, прыпільнаваўшы, адкраў каўбасу з печы дай з'еў, дый усё воду папівае, дай кажа проціў жонкі: «Напіўсе і сёні вады, як з'еў кусок бяды». Падобныя, а то і больш шырокія тлумачэнні ёсць і пад нумарамі 527, 306, 634, 4723, 5020, 5624, 5783 і інш.

Па-трэцяе, у тлумачэннях М. Федароўскі дае да беларускіх прыказак або прымавак польскі фразеалагічны або прыказкавы адэкват (№ 53, 86, 267, 299, 313, 317, 349, 418, 450 і інш.):

278. Забіла бы (забіла б) і баба лося, каб удалося.— Żeby nie gdyby, to byłyby ryby.

299. Як хто хоча, так па сваіх бацьках плача.— Wolno Tomku w swoim domku. Wolno w Polsce, jak kto chce.

Часам у якасці тлумачэння даецца нават лацінская прыказка:

701. Бог тройцу любіць.— Omne trinum perfectum.

Ёсць у М. Федароўскага і няправільныя тлумачэнні. Так атрымалася з прыказкай «Цяпер мне не да солі, калі граюць на басолі» (1938). Этнограф са слоў «да солі» зрабіў нейкі дзіўны гібрыд «дасоль», які тлумачыць як tęsknota, zgryzota, zmartwienie, дакука. Тлумачэнне гэтай прыказкі, якая паходзіць з анекдота пра хлопца, што, купіўшы ў краме солі, зайшоў у карчму, дзе падчас музыкі пусціўся ў скокі

і соль растрос, дае Я. Тышкевіч у «Апісанні Барысаўскага павета»[202]. Яго паўтарыў пазней і П. Шэйн[203]. Характэрна, што М. Федароўскі запісаў у Ваўкавыскім павеце песню[204], якая мае прыпеў: «Цяпер жа мне не да солі, калі граюць на басолі».

Парэміяграфічны матэрыял, сабраны Міхалам Федароўскім, мае вельмі вялікае значэнне. У ім, як у люстры, адбілася ўсё жыццё беларускага народа, яго мараль, этыка, жыццёвая практыка, духоўны свет. Прыказкі і прымаўкі адлюстравалі лепшыя якасці народа: працавітасць, калектывізм, сяброўства, патрыятызм, любоў да роднай зямлі, нянавісць да прыгнятальнікаў. Запісы М. Федароўскага памагаюць нам лепей, глыбей пазнаць душу народа, яго псіхалогію.

Пра сілу калектыву, спорную працу ў грамадзе гавораць такія прыказкі, як «Аднаму і ў кашы няспорна» (106), «Адзін дзесяцёх не спаможа — барджэй згіне» (112), «Дзе дружына — там хлеб» (2095), «Грамада — вялікі чалавек» (3000). У шматлікіх прыказках беларускі селянін выказаў любоў да свае бацькаўшчыны, да роднае зямлі, роднага кута: «Дарагая (мілая) тая хатка, дзе радзіла мяне матка» (1180), «Свая хатка як родная матка» (1189), «Мілы той дамок, дзе рэзан пупок» (2028), «Усюды добра, а ўдома найлепей» (2036). Народ з любоўю ставіўся да роднай зямлі, але ён бачыў, што няма шчасця працоўнаму чалавеку, бо розныя паны-прыгнятальнікі смокчуць кроў чалавека-працаўніка. Таму ў шматлікіх прыказках і прымаўках выказана нянавісць да эксплуататараў, да багачоў, паказана класавая і сацыяльная няроўнасць у ка-

піталістычным грамадстве: «Багач дзівіцца, чым худзяк (бедны) жывіцца» (340), «Багаты беднага душыць» (350), «Багатыр беднаму ні брат» (351, 369). «Быўшы, быўшы, да ідзі забыўшы» (1008) — вось які лёс часта спатыкаў парабкаў, што ішлі служыць з-за кавалка хлеба да пана, да багача. «Чорт душу выме, а пан шкуру здыме» (1651) — так характарызуе народная мудрасць жорсткасць і бяздушнасць прыгнятальнікаў.

Народ разумеў, што ўсе багацці на зямлі створаны рукамі працоўных, што «На бедных свет стаіць» (546). Але ў грамадстве, дзе працоўнага чалавека лічылі быдлам, «Беднаму ўсюды цесна» (541). Бяда, гора, нястача былі вечнымі спадарожнікамі селяніна. Таму пра іх у народзе складзена так многа прыказак і прымавак (462—550, 2674—2679, 2895—2900, 2909—2928, 2948—2953). Пан быў галоўным ворагам селяніна, ён глуміўся, насміхаўся, несправядліва караў. Таму ў прыказках гаворыцца, што «Пана нечага шкадаваць» (5746), «Панскае работы не пераробіш» (5763), «Панская ласка да парога» (5764). Вельмі часта селяніна крыўдзілі розныя панскія паслугачы, падпанкі, аканомы, цівуны. Таму селянін і казаў, што «Пан быў бы яшчэ як пан, да каб ні падпанкі» (5748), «Горшыя падпанкі як паны» (5534). Розныя судовыя працэсы, непаладкі паміж панамі цяжка адбіваліся на мужычай спіне: «Як паны дзяруцца, то на мужыках кудры трасуцца» (5726, гл. падобныя 5772, 5774). У некаторых прыказках адбіліся змрочныя часы прыгону, калі пан мог зрабіць з падданым, што хацеў: «Добра паны гандлявалі, слугі на сабакі мянялі» (5718). Адмена паншчыны ад-

разу ўвайшла ў прыказку «Мінуліся тыя рокі, што паны паролі бокі» (6884). Змаганне з нягодамі, з цяжкім жыццём пад уладаю паноў навучыла працоўнага селяніна быць хітрым у абыходжанні са сваімі гаспадарамі. Адсюль і прыказка пра мужыцкую хітрасць: «Каб не наша хітрасць на панскую мудрасць, то б мы даўно прапалі» (1212, 5074).

Нягледзячы на бядачы лёс, народ ніколі не траціў пачуцця гумару, верыў у лепшую будучыню. Ён высмейваў сваіх крыўдзіцеляў вострым сатырычным словам. Пад саркастычнае слова народнай прыказкі трапілі тыя шляхціцы і паны-задавакі, якія фанабэрыста называлі сябе панамі, дваранамі, а на самой справе не мелі за што паснедаць: «Гэта такі пан, што ў саломе спіць, а зубамі блохі б'е» (5721, 5769), «Паніч — торба ды й біч» (5752). Просты народ заўсёды з павагай адносіўся да працы, быў сумленны, шчыры, адкрыты. Вось чаму ў фальклоры з такой непрымірымасцю высмейваюцца розныя людскія заганы, асабліва гультайства: «Хто не дбае — той трасцу мае» (1959), «Гулі, гулі, дый у лапці абулі» (3182), «Гулі, гулі — будзеш хадзіць без кашулі» (3181), «Гультай за работу — мазоль за руку» (3190); п'янства: «П'янства да добрага не давядзе» (6112); зазнайства, пыхлівасць, хцівасць: «Хцівы і бога прадаў бы» (1195), «Сам не хваліся, няхай людзі пахваляць» (1335) і г. д. Народ вучыў з пашанай адносіцца да хлеба, бо ведаў, што запрацаваць на яго нялёгка: «Хлеб ні нявестка, які ўдаўся, такі з'есца» (1239), «Купляны хлеб да пагляду, а не да паеду» (1272). Міхал Федароўскі запісаў 65 прыказак пра хлеб (1223—1288).

Прыказкі, сабраныя Федароўскім, яскрава раскрываюць мараль і этыку нашага народа, мудрасць якога кажа, што «Добра цнота дарожша ад срэбра і злота» (1427), «Дзе этыкеты многа, там шчырасці мала» (2481) і г. д.

У прыказках, сабраных М. Федароўскім, шырока адбіўся працоўны вопыт беларускага сялянства, яго назіранні над прыродай, над аграрным гадавым календаром. Такія прыказкі і прымаўкі мелі для селяніна надзвычайнае практычнае значэнне, бо, стасуючыся да іх, ён араў і сеяў, збіраў збожжа, даводзіў яго да ладу. Яны былі яго практычным кодэксам у сельскагаспадарчых работах: «Як асіна затрасецца, тады волік напасецца» (185), «Прышоў Багач, кідай рагач, вазьмі сявеньку, сей жыта памаленьку» (342), «Сей лён на Галену, а будзе кашуля па калена» (2525), «Калі родзяць грыбы, то і жыта зародзіцца» (3120), «На лёд загрымела — будзе холад» (3135), «Па Міколе не сей аўса ніколі» (4948) і інш. (гл. № 341—343, 429, 432—433, 436—437, 2673, 2856, 3005, 3232, 3233, 3244, 3269, 3282, 3453, 3618, 4398, 4943, 5626, 6373, 7545 і г. д.).

Глыбока даследаваўшы светапогляд беларускага народа, яго забабоны і павер'і, прымхі і вераванні, М. Федароўскі прыйшоў да вываду пра адмоўныя адносіны беларусаў да рэлігіі і веры ў бога. Ён пісаў: «Бог у іх (беларусаў.— **Я. С.**) ёсць богам, але не тым, як яго сабе ўяўляе кожны хрысціянін. Гэта бог строгі і помслівы, які не мае ўсемагутнай улады. Яго часам нават можна ашукаць. Адным словам, гэта бог паганскі, акружаны анёламі і хрысціянскімі святымі. Пра бога яны не гавораць з поўнай пашанай і павагаю — у гутарковай мове ён

часта выступае ў жартах, прыказках, казках і кляцьбе таксама. Тут баба ў казцы, узабраўшыся на неба, дазваляе сабе розныя перабольшванні, думаючы, што бог пра іх не даведаецца. Адным словам, гэта бог паган (язычнікаў) у знешнім убранні хрысціянізму. Народ тутэйшы глыбокай веры ў бога, пашаны да яго не мае»[205]. «У бога вер, але богу не вер» (872),— казаў беларускі селянін. І далей Федароўскі адзначае, што «беларускі мужык не мае ў сабе, як паляк, моцных рэлігійных пачуццяў», што вера беларускага селяніна «не ёсць глыбокая, набожнасць не шчырая, наіўная, як у польскага народа. Духавенства не паважае»[206].

У народным асяроддзі існавала шмат прыказак і прымавак пра бога, папоў, ксяндзоў, якія ў вялікай колькасці запісаў і этнограф. У іх адбіліся супярэчнасці ў свядомасці народа: набожнасць і стыхійны, а часам і свядомы атэізм. Зборнік Федароўскага памагае нам наглядна прасачыць іх. Тут побач з пашанай да бога, сцвярджэннем яго сілы і магутнасці («Ад бога нідзе не ўцячэш» (651), «Бачыць бог з неба, чаго каму трэба» (660), «Без бога ні за парог (да парога)» (663), «Хто з богам, з тым бог» (730) і інш.) мы можам убачыць зусім іншыя адносіны сялянства да рэлігіі. Сцвярджаючы існаванне бога, селянін падкрэсліваў неадпаведнасць сваіх інтарэсаў боскім: «Чалавек так, а бог сяк» (738). Як іранічны адказ на прыказку «Бог што абяцае, то й датрымае» (697) гучаць выслоўі: «Абяцаў бог даць, але казаў пачакаць» (649, 795), «Хоць бедны ох!, то не слухае бог» (545). Некаторыя прыказкі сцвярджаюць, што «У бога ўсе роўныя» (833), «У бога ўсе мы роўныя: няма ні горшых, ні леп-

шых» (865), але ў той жа час народная мудрасць гаворыць, што «Не роўна бог дзеліць» (826), «Бог не роўна дзеліць: аднаму дае многа, а другому мала» (691), бо ён несправядлівы: «Бог з людзьмі робіць ігрыска: аднаго ўгору, а другога нізка» (717). У зборах Федароўскага знаходзім і такія прыказкі, дзе гаворыцца пра бога як пра ашуканца: «І бог ашуканствам жыве: у аднаго адбярэ, а другому дасць» (748). У адказ на прыказкі аб тым, што ўсё ў жыцці чалавека ад бога, народ стварыў цэлую серыю такіх, дзе сцвярджаў неабходнасць спадзявацца на ўласныя сілы: «На бога надзейся, і сам рук не апускай» (805), «У бога надзея, як хлеб у торбе» (1284), «Паклонам шубы не пашыць» (5615), «На бога спадзявайся, але і сам старайся» (7655) і інш. Так у народзе выспявалі атэістычныя ідэі. Класавыя супярэчнасці капіталістычнага грамадства, заснаванага на прыгнечанні бедных багатымі, адлюстраваліся і ў народнай прыказцы «За тым божа, хто каго зможа» (881).

У зборы М. Федароўскага шмат прыказак, якія выкрываюць эксплуатататарскую сутнасць царквы і духавенства, іх хцівасць. «Мужык папа не шануе; іх абдзіранні і хцівасць паслужылі тэмай для многіх анекдотаў» [207],— пісаў М. Федароўскі пра адносіны беларускага сялянства да служкаў культу. Гэтыя адносіны адлюстраваны ў шматлікіх народных прыказках і прымаўках: «Вяселле, хрысціны, мярліны, то ксяндзу (папу) добрыя гадзіны» (4089, 6328), «Поп анно ўмее браць, а не знае, як даць» (6315), «Як багаты ўмрэ, то апошні з хаты прэ, а як бядак, то анно поп да дзяк» (362), «Роду клапатно, а папу палатно» (6864).

Скептычныя адносіны народа да малітваў, пастоў, царквы замацаваліся ў прыказках: «Пацеры ні картопля — ні акіснуць» (5481), «Пацеры ні заяц — ні ўцякуць» (5482), «Тады будзе пост, як не стане хлеба» (6333), «Даў бы на малебен, але і сам патрэбен» (1848), «Стаўся цуд аднаго разу: дзед гаварыў да абразу, а абраз да дзеда ні разу» (1429), «Покі да бога, то чорт душу можа выняць» (2280), «Куды пойдзем, то пойдзем, абы не на пацеры (да царквы)» (5569). Гэта ж пацвярджаюць і шматлікія гумарыстычныя травестацыі малітваў, хрышчэння, царкоўных спеваў, што ўвайшлі ў чацвёрты том «Люду беларускага», напрыклад: «У імя айца і сына, ехаў дзед з Кнышына, ішла бабка з Альшанкі, узяў дзед бабу на санкі» (3853), а таксама № 7140, 7515 і інш.

«Супярэчнасць свядомасці найбольш востра і непасрэдна адлюстроўваецца ў прыказках,— піша У. Чычараў.— Гэта адбываецца з-за асаблівасцей жанру, які ў сціслым мастацкім вобразе тыпізуе з'явы жыцця. Суіснаванне супрацьлеглых зместам і накіраванасцю прыказак і прымавак (такіх, напрыклад, як «Без бога ні да парога» і «Узяў божаньку за ножаньку ды аб падлогу») не астаецца нязменным у гісторыі народнага мастацтва. Развіццё народнага светапогляду вызначае і стварэнне новых абагульняючых выслоўяў, і перапрацоўку сэнсу старых, і змену суадносін існуючых, супярэчлівых па змесце прыказак» [208]. Поруч з прыказкамі, якія паказваюць сапраўдную душу нашага народа, яго філасофію, светапогляд, у чацвёртым томе «Люду беларускага» сустракаем і кансерватыўныя, антынародныя. Некаторыя з іх маюць адзнаку прымірэння з уціс-

кам, прапагандуюць пакору і цярпенне. Большасць такіх прыказак і прымавак створана ў памешчыцкім асяроддзі, узнікла сярод духавенства, правячых колаў грамадства, вялікая частка выйшла з-пад страхі флігеля, у якім мясціліся панскія слугі, як напрыклад: «На тое мужык, каб працаваў» (5100), «Рубель ні грошы, а мужык ні брат» (5106), «Разумнейшае мейскае цяля, як вясковае дзіця» (2378), «Цярпі душа грэшна — будзеш збавёна» (2247), «За цярпенне дасць бог збавенне» (1407), «Ад ліхой долі нідзе не ўцячэш» (2017). Сярод такіх былі таксама творы, складзеныя народам. І гэта заканамерна. Яны былі народжаны няспеласцю і супярэчлівасцю свядомасці народных мас, цямнотай, забітасцю, коснасцю сялянскага быту і грамадскіх адносін.

Вельмі добра, што М. Федароўскі запісваў розныя па сацыяльнай накіраванасці прыказкі, бо сацыяльную значнасць запісаных ім матэрыялаў можна па-сапраўднаму ацаніць толькі супаставіўшы факты рознага парадку.

У чацвёртым томе «Люду беларускага» знаходзім шматлікія матэрыялы, якія яшчэ раз пацвярджаюць вялікую навуковую сумленнасць Міхала Федароўскага як фалькларыста, як збіральніка народных скарбаў, яшчэ раз абвяргаюць выказванні некаторых нашых вучоных пра тэндэнцыйнасць падбору матэрыялаў этнографам.

М. Федароўскі, сам будучы ўладальнікам маёнтка, запісаў, аднак, і такія прыказкі, як «Хто хоча гора зажыць, няхай ідзе да двара служыць» (2304), «І ў Дзісне пан (слугі) цісне» (2471), «Нігдачкі пан не быў бы панам, каб не ўмеў махляваць» (5741), «Панска лас-

ка да парога» (5764), «Як сам гаспадар злодзей, то і чэлядзі не верыць» (2723), «Каб добра было служыць, то й поп пакінуў бы клябаню, а пайшоў бы служыць» (7495) і інш. Пра якую тэндэнцыйнасць пасля гэтага можа быць гаворка! Хіба што пра аб'ектывісцкую.

Матэрыялы чацвёртага тома даюць нам многа фактаў, па якіх можна меркаваць аб паходжанні паасобных прыказак і прымавак. Увогуле крыніца іх паходжання — само жыццё, разнастайныя яго факты. Яны служаць падставай для вывадаў і мастацкіх абагульненняў, для кандэнсацыі, «згушчэння думкі» (А. Патабня).

Многія даследчыкі-парэміёлагі і парэміёграфы [209] на падставе канкрэтных фактаў сцвярджаюць, што вельмі часта вытокамі прыказак з'яўляюцца песні, казкі, апавяданні і асабліва анекдоты. Так, прыказкі «Асталася адна ў хаці — не дам рады кацяняці» (121), «Ён (яна) панскага роду — п'е гарэлку, як ваду» (2695), «Шэсць дзён малаціла, шастак зарабіла» (4648) паходзяць з вядомых прыпевак. Іх мы можам адшукаць у запісах самога Федароўскага [210]. Прыказка «Ты наперадзе сядзела, дзе кабыліцу падзела» (3485) выплыла з вядомай жартоўнай песні «Бабка Еўка, дзед Тамаш», адзін з варыянтаў якой таксама запісаны М. Федароўскім [211]. З песень утварыліся і іншыя прыказкі і прымаўкі, што надрукаваны ў чацвёртым томе «Люду беларускага» (№ 2368, 2692, 3516, 3651, 4597, 4666, 4682, 4938, 5461, 5511, 6169, 8375 і інш.).

Шматлікія прыказкі і прымаўкі выкрышталізаваліся з маралі народных казак [212]. Часта казачнікі, каб праілюстраваць пэўную сентэн-

цыю або прыказку, расказвалі адпаведную казку [213]. Вось прыказка «Круці ні круці, а трэба ўмярці» (8441). Я. Карскі [214] правільна тлумачыць паходжанне яе з казкі пра куму-смерць. Некалькі такіх казак запісана і М. Федароўскім [215], а таксама У. Дабравольскім [216], П. Шэйнам [217]. Характэрна, што названая прыказка зафіксавана яшчэ А. Рыпінскім [218], пасля Я. Чачотам [219], Я. Тышкевічам [220], І. Насовічам [221]. Сустракаецца яна і ў зборы рускіх прыказак У. Даля, але ў спецыфічнай, збеларусізаванай форме, запісанай у Варонежскай губерні — «Верти не верти, а надо умерти» [222]. Можна меркаваць, што запісана яна сярод беларусаў, якія жылі каля Варонежа. Варта таксама адзначыць даволі цікавы факт адваротнага ўздзеяння гэтай прыказкі на беларускую казку пра куму-смерць (АТ 332): казка гэтага сюжэтнага тыпу, якую запісаў А. Сержпутоўскі ад палешука Рэдкага, канчаецца менавіта гэтай прыказкай [223].

Казка пра кемлівага селяніна Клімко паслужыла асновай для прыказкі «Не ўмею ні чытаць, ні пісаць, а хочуць за караля абабраць» (3608) [224]. У каментарыях да гэтай прыказкі М. Федароўскі зазначыў: «З байкі», бо ім такая казка таксама запісана. Тут трэба падкрэсліць, што эпізод «Завязаны ў мяшку знаходлівы герой, якога недругі збіраюцца ўтапіць, аб'яўляе праезджым, што яго нібыта хочуць выбраць за караля, і вызваляецца» сустракаецца ў беларускіх казках і ў казках многіх іншых народаў такіх сюжэтных тыпаў, як «Спрытны злодзей» (АТ 1525 F), «Дарагая шкура» (АТ 1535) і «Блазен» (АТ 1539). Аднак прыказка «Не ўмею ні чытаць, ні пісаць, а хо-

чуць за караля абабраць» адзначана толькі ў беларускім фальклорным матэрыяле. Казка пра палахлівага зайца і жабу [225] стала вытокам прыказкі «Не буду тапіцца, калі е (ёсць) такі, што і мяне баіцца» (8203). Ці, напрыклад, з казкі «Як ліска воўка перавяла» [226] ўтварыліся такія прыказкі, як «Прасіў воўк анно лапу падвезці», «Пусці анно воўчы хвост на сані, то ён і сам зваліцца» (8943). З казак паходзяць і прыказкі № 2532, 5061, 5064, 5324 і інш.

З анекдотаў і жартаў вядуць сваё паходжанне такія прыказкі: «Выйшаў, як Заблоцкі на мыле» (9100), «Як хочаш мяне бі, анно цераз плот ні перакідай, бо не буду цыганам» (1456), «Хто б дзятла ведаў, каб не доўгі нос» (2311), «Пушчайся, кумятку, на дно» (4110) і інш. Прымаўка «Ні голена, ні стрыжана» (2893) таксама паходзіць з анекдота пра ўпартую жонку [227] (сюжэт гэты выкарыстаў А. Міцкевіч у сваім вершы «Голена-стрыжана»). Вывад з падобных жартаў і анекдотаў, якія спачатку былі вельмі лакальнымі, звязанымі з канкрэтным імем, мясцінай, здарэннем, падзеяй і часам, атрымаў агульны характар, стаў ужывацца ў другіх падобных ці аналагічных выпадках. І выказванне, якое першапачаткова было зразумела толькі асобным людзям, непасрэдна звязаным з данай падзеяй, мясцінай, імем, якое адразу можа і не было прыказкай, набывае абагульняючы сэнс і пачынае новае жыццё ўжо як прыказка, як афарызм з пэўным зарадам метафарычнасці, абстракцыі, з затоенай думкай.

Крыніцу паходжання іншых прыказак і прымавак трэба шукаць у забабонах і вераваннях, прымхах, абрадах і звычаях як каляндар-

ных, так і сямейных. Цяпер, калі патрыярхальныя абрады і звычаі, што паслужылі асновай прыказак, пайшлі ў забыццё, асобныя прыказкі становяцца незразумелымі. Так, напрыклад, не ведаючы народных вясельных абрадаў і звычаяў, нельга зразумець такую прыказку, як «Г... ні вяселле, калі каравай грэцкі» (8686). Тлумачыць яе памагаюць архіўныя нататкі М. Федароўскага [228]. Аказваецца, у многіх мясцовасцях Заходняй Беларусі быў такі звычай: калі жаніўся ўдавец, паводле адвечнага народнага звычаёвага кодэксу на вяселлі яму пяклі каравай з грэцкай мукі, у той час як звычайна ён выпякаўся з пшанічнай. Па часе прыказка, якая ўзнікла на аснове гэтага звычаю, набыла не толькі абагульняючы, але і іншасказальны сэнс і стала ўжывацца не толькі ў дачыненні да вяселля, але і ў многіх іншых выпадках: калі, напрыклад, чалавек браўся за справу, не маючы здольнасцей і сіл або магчымасці выканаць яе, і г. д.

Прыведзены вышэй матэрыял з архіва М. Федароўскага даў магчымасць высветліць генезіс незразумелай для сённяшняга чытача народнай прыказкі. Будучыя даследчыкі павінны дэталёва і грунтоўна вывучыць неапублікаваныя парэміяграфічныя матэрыялы з архіва вучонага і апублікаваць ненадрукаваныя, бо каштоўнасць іх для навукі неаспрэчная.

Падсумоўваючы гаворку пра парэміяграфічную спадчыну М. Федароўскага і высвятляючы яго месца і значэнне ў развіцці беларускай парэміяграфіі, прасочым гісторыю збірання і публікацыі беларускіх прыказак і прымавак, пачынаючы ад пачатку XVII ст., калі ў Любчы Саламон Рысінскі выдаў на лацінскай мове

зборнік польскіх і беларускіх прыказак [229], і да 1905 г., калі Федароўскі спыніў работу над беларускай парэміяграфіяй.

Толькі праз 222 гады пасля выхаду працы С. Рысінскага была апублікавана першая падборка (50 нумароў) беларускіх прыказак у кнізе А. Рыпінскага «Беларусь» (1840) [230]. Далейшая карціна публікацыі беларускіх прыказак і прымавак храналагічна выглядае так: В. Васільеў [231] надрукаваў 75, Я. Чачот [232] — 130, Я. Тышкевіч [233] — 445, К. Мальчэўскі [234] — 117, І. Насовіч [235] — 3715, П. Шпілеўскі [236] — 509, М. Анімеле [237] — 100, А. Кіркор [238] — 144, А. Адамовіч [239] — 318, П. Баброўскі [240] — 28, І. Зяленскі [241] — 22, П. Гільтэбрант [242] — 151, В. Варажбіцкі [243] — 69, У. Дыбоўскі [244] — 768, у «Магілёўскіх губернскіх ведамасцях» [245] — 35, Е. Раманаў [246] — 962, З. Радчанка [247] — 84, О. Кольберг [248] — 31, Д. Булгакоўскі [249] — 65, Э. Ажэшка [250] — 160, П. Шэйн [251] — 195, У. Дабравольскі [252] — 3526, Батчук [253] — 24, Я. Ляцкі [254]—2000, М. Куч [255]—71, у «Магілёўскіх губернскіх ведамасцях» [256]—222. Да 1905 г. беларускія прыказкі збіралі таксама М. Нікіфароўскі і А. Сержпутоўскі [257], але публікавалі іх пазней. Са збораў М. Федароўскага [258] апублікавана 9868 прыказак. Такім чынам, яму належыць першае месца сярод збіральнікаў беларускіх прыказак і прымавак, а зборнік «Люд беларускі» да нашых дзён нікім не пераўзыйдзены.

Калі параўнаць збор беларускіх загадак, надрукаваных у чацвёртым томе, з іншымі публікацыямі, дык акажацца, што і тут вучоны дасягнуў значных поспехаў і ўзняўся да ўзроўню лепшых фалькларыстаў і этнографаў свайго

часу. Са збораў М. Федароўскага апублікавана 520 беларускіх загадак[259]. А ўвогуле яны публікаваліся да 1905 г.: П. Гільтэбрант[260] апублікаваў 53, І. Насовіч[261]—130, Е. Раманаў[262]—551, У. Дыбоўскі[263]—112, Д. Булгакоўскі[264]—150, П. Шэйн[265] — 173, А. Гурыновіч[266] — 37, М. Нікіфароўскі[267] — 532, Л. Васілеўскі[268] — 128, У. Дабравольскі[269] — 271.

Парэміяграфічная спадчына Міхала Федароўскага як апублікаваная, так і рукапісная — выключна важны для беларускай фалькларыстыкі матэрыял, якім ужо больш за тры дзесяцігоддзі карыстаюцца вучоныя. Ужо той факт, што да сённяшняга дня зборнік М. Федароўскага з'яўляецца найбольшым зборам беларускіх прыказак, гаворыць сам за сябе. Па-другое, беларускі парэміяграфічны матэрыял, сабраны Федароўскім, дае нам добрую падставу для сцверджання роднасці прыказак не толькі ў трох усходнеславянскіх народаў — беларусаў, рускіх, украінцаў,—але і ў такіх нашых славянскіх пабрацімаў, як палякі, чэхі. Да гэтай высновы, хоць яна і не была выказана ім непасрэдна, прыйшоў фактычна сам Федароўскі, супаставіўшы зборнікі прыказак розных народаў. Заслуга вучонага ў тым, што ён збярог ад усепаглынальнай работы часу неацэнныя скарбы народнай мудрасці беларусаў. Імі яшчэ доўга будуць карыстацца нашы фалькларысты, агітатары і прапагандысты.

## ПЕСЕННАЯ КАЙСТРА

Першае, на што звярнуў увагу малады М. Федароўскі, прыехаўшы на беларускую зямлю, гэта тое, што беларусы любяць спяваць

і маюць многа песень. «Каля Ялоўкі і Нарвы,— занатоўвае этнограф,— люд надзвычай вясёлы і пеўчы, ці, як пра яго кажуць: «улягаюць у песнях». У іх не толькі закладзіны, уваходзіны ў новую хату, зажынкі, дажынкі, але і само вяселле больш праходзіць на спевах, чым на танцах. А да кожнага танца ёсць у іх адпаведныя прыпеўкі, якія, стоячы пры музыку, спяваюць хорам, калі тым часам другія з выгукам пускаюцца ў скокі» [270].

Ад калыскі да магілы песня была спадарожніцай селяніна. Спяваў мужык за сахой у полі; пастухоўскія песні раздаваліся сярод лугоў і лясоў; спявалі жанчыны, жнучы панскае поле або збіраючы сціплы ўраджай са свае ніўкі; на хрэсьбінах і вяселлях чалавек выказваў сваю душу ў песнях, то жаласных і тужлівых, то вясёлых і дасціпна-гумарыстычных; песні дзяўчат абуджалі наваколле, калі яны выходзілі на ўзгоркі «гукаць вясну». Тысячы песень аздаблялі розныя абрады, святы, вясковыя ўрачыстасці. Песня памагала селяніну пераадольваць шматлікія жыццёвыя нягоды. У ёй, заўважаў Федароўскі, адбівалася, «як у люстры, усё жыццё беларускага народа, яго болі і радасці, яго думкі, пачуцці, схільнасці, антыпатыі і этыка» [271]. І этнограф адразу ж пачынае запісваць беларускія народныя песні. Лёс песенных запісаў М. Федароўскага склаўся так, што надрукаваны яны былі толькі ў 1958 і 1960 гг. у пятым і шостым тамах «Люду беларускага» [272].

У першы ж год знаходжання на Беларусі Федароўскі знайшоў сабе памочнікаў. Ужо ў пачатку 1878 г. ён высылае З. Глогеру ў Яжэва

беларускія народныя песні[273], якія яму рэгулярна пачаў дасылаць з Ваўкавыскага павета (засценак Боўблі, што каля Свіслачы) шляхціц Калупайла. У гэтым жа годзе Федароўскі вывучае вясельны абрад у Ваўкавыскім павеце і восенню, у верасні — кастрычніку, заканчвае яго апісанне. Яно мела 208 вясельных песень. Адначасова збіральнік перапісваў начыста старадаўнія беларускія думы і песні, запісаныя ім ад Паўліны Керсноўскай. У яго архіве захаваўся рукапіс «Starodawne dumy i pieśni z okolic Wołkowyska», у якім 302 тэксты. У канцы рукапісу Федароўскі заўважае: «Вышэйпададзеныя песні спісаны пераважна ад Паўліны з Калупайлаў Савіцкай (Керсноўскай). Пісаў у Бялосаўшчыне на Чорнай Русі ў месяцы снежні 1878 г.»[274] Ужо за першы год работы малады этнограф падрабязна апісаў мясцовы вясельны абрад, сабраў больш за паўтысячы народных песень.

Такі багаты плён з'явіўся вынікам, па-першае, карпатлівай працы, па-другое, таго, што малады Федароўскі запісваў без аніякага адбору. Ён кіраваўся «Параднікам» Яна Карловіча, у якім былі сфармуляваны прынцыпы навуковага збору фальклорных матэрыялаў розных жанраў, у тым ліку і песень. «З песні слова не выкінеш» і «што весь, то другая песнь»: вось два ўказанні,— пісаў Карловіч,— з якой дакладнасцю трэба спісваць песні і на якую колькасць разлічваць... Не трэба, зрэшты, траціць ахвоты ад таго, што песня, якую маеце запісваць, ужо была друкавана: кожная разнавіднасць у колькасці строф, выразах або ноце робіць яе таксама пажаданай, таму калі адна песня спаткаецца ў двух або болей відах,

з разнавіднасцямі (варыянтамі), то запісваць трэба ўсе тэксты, або да аднаго дадаваць разнавіднасці» [275].

Песенныя запісы Федароўскага папаўняліся з кожным годам. Гэты жанр народнай творчасці найлягчэй было запісваць. Песні можна было збіраць круглы год, у той час як казкі ці паданні летам амаль немагчыма было запісаць: яны расказваліся толькі ў доўгія асеннія і зімовыя вечары, калі былі закончаны ўсе работы ў полі.

Песня ж не толькі суправаджала ўсе абрады гадавога круга. Яна чулася ў лесе і на полі, за работай і каля пастухоўскіх гуртоў, у час усялякіх свят і ўрачыстасцей. Этнографу часта не трэба было прасіць выканаўцу, каб той праспяваў песню, як гэта было з доўгай казкай, легендай, паданнем. Яму ўсяго трэба было мець пры сабе паперу і аловак, каб занатаваць на вечарынцы або ігрышчы ўдалую або гумарыстычную прыпеўку; на Купалле або Юр'я запісаць песні, якія чуліся на прыволлі; ці, схаваўшыся пад копку сена або дзесятку снапоў, запісаць песні жней; прытаіцца дзе-небудзь у куце, каб занесці на паперу вясёлыя, гумарыстычныя, а часам і фрывольныя песні развяселеных кабет на хрысцінах, або песню-жальбу, якую спявалі таварышкі маладой-сіраціне ў час вяселля. Ды і сам Федароўскі гаворыць, што збіраць тэксты песень — найлягчэйшая і найбольш даступная работа для этнографа [276]. Калі яшчэ ўлічыць, што па просьбе этнографа знаёмыя збіралі для яго лепшых навакольных спявачак, у рэпертуары якіх быў не адзін дзесятак песень, што Федароўскі падахвочваў іх падарункамі і нават плаціў, дык можна не

здзіўляцца, чаму за час свайго амаль 30-гадовага жыцця на Беларусі ён сабраў больш за 5000 песенных тэкстаў.

Да 1889 г. збіральнік не меў нікога, хто б памагаў яму запісваць і мелодыі. Колькасць тэкстаў расла, і Федароўскі настойліва шукаў музыканта, каб свае запісы зрабіць больш паўнацэннымі, дадаўшы да іх нотны матэрыял. «Нота прадаўжае жыццё песні» [277],— адзначаў этнограф. Больш за палавіну ўсіх песень, сабраных Міхалам Федароўскім на Беларусі ўвогуле, было запісана ім без мелодый за першыя 11 гадоў працы. Толькі ў 1889 г. Ян Карловіч упершыню наведаў этнографа у Косіне, каб памагчы яму сабраць і беларускі народны мелас. Карловіч запісваў мелодыі да ўжо гатовых тэкстаў, а Федароўскі ўносіў у іх некаторыя папраўкі. Ва ўспамінах пра Я. Карловіча М. Федароўскі расказвае, як ішла работа: «Запісванне мелодый праходзіла хутка: *тысячы тэкстаў ужо былі прыгатаваны* (падкрэслена мною.— **Я. С.**), спявачак навербавана з некалькіх паветаў ідэальных; той, хто запісваў, як улюбёны музыкант, вуха меў настолькі вытанчанае, што падхопліваў адразу заспяваны матыў і, прасвістаўшы сабе яго ціхенька, хутка пераносіў на паперу» [278].

У 1891 г. М. Федароўскі пазнаёміўся з І. Трачыкам, які ў кастрычніку гэтага ж года прыехаў у Косін разам з Янам Карловічам. На гэты раз Карловіч меў добрую падмену. Запісванне мелодый і цяпер праходзіла ў маёнтку Федароўскага, куды былі сабраны лепшыя спявачкі з розных паветаў.

«Адной з характарыстычных рысаў этнаграфічных даследаванняў XIX стагоддзя,— піша

Ежы Дамраш,— з'яўляюцца моцна эмацыянальныя адносіны даследчыка да людзей і прадметаў, якімі ён цікавіцца. Асабліва гэта адчуваецца ў даўнейшых даследчыкаў крэсавых зямель, што там нарадзіліся і доўгі час жылі сярод мясцовага насельніцтва. Калі мы гартаем старонкі «Люду беларускага» або «Песні...» Чачота, выразна прыкмячаем, што чароўнасць мелодыі песні ці рытму танца або гутарак і казак не дазваляе аўтарам абмяжоўвацца халодным навуковым аналізам, бо ствараe непасрэдныя адносіны да творцаў культуры, даючы глыбейшыя эстэтычныя перажыванні і спараджаючы сардэчныя прыязныя пачуцці ў адносінах да стваральнікаў народнай прозы і паэзіі. Гэты шырэйшы агульнагуманістычны аспект надае глыбейшы сэнс даследаванням культуры розных народаў. І гэтым самым трэба тлумачыць перш за ўсё той факт, што Федароўскі на працягу амаль трыццаці гадоў (1877—1905) не шкадаваў сіл і працы, каб з незвычайнай цярплівасцю збіраць этнаграфічныя матэрыялы»[279].

Міхал Федароўскі рабіў сваю любімую справу з вялікім энтузіязмам. Вось як ён апісаў атмасферу экспедыцыйнай работы ў 1891 г.: «Спявачак было восем; напярэдадні свайго ад'езду Карловіч, калі яны ўжо з усіх каморак памяці ўвесь запас вытраслі, падаў думку справіць ім з музыкай і танцамі нешта накшталт дажынак. Зараз жа... Шахеразада даставіла пірагоў, сыру, садавіны, усялякай закускі, пасланец прывёз з Ваўкавыска піва і слыннага сваёй якасцю мёду; музыку запрасілі з суседняй вёскі, парабкі... на першую ж вестку прыбеглі самі. Пачастунак і скрыпка стварылі

добры настрой, танцы пачалі ад улюбёнай «Круцёлкі», потым, перасыпаючы «Полькай», танцавалі да ўпаду «Шарлатана», «Падушачкі», «Скакуху». Карловіч вёў сябе непасрэдна, па-брацку — гэта стварала сардэчны настрой, павялічвала ў запрошаных пачуццё свабоды; мы за яго прыкладам стараліся падзяляць усеагульнае вяселле. Ужо пад канец Трачык схапіў скрыпку і ўрэзаў жвавага абэрка, пры гуках якога Карловіч... падскочыў да самай старэйшай са спявачак і жыва пратанцаваў з ёю некалькі кругоў; мы, не трацячы часу,— да астатніх, і таксама давай вытанцоўваць з усіх сіл. Нарэшце, ужо каля паўночы, вогненная мазурка закончыла вечарынку; спявачкі, шчодра ўзнагароджаныя, а ўсе без выключэння пачаставаныя што называецца, разышліся дадому» [280].

Працу па запісванні мелодый беларускіх народных песень, так удала пачатую Карловічам, які запісаў у Косіне каля 600 мелодый, з замілаваннем і цярплівасцю прадаўжаў пасля І. Трачык. Захавалася нататка М. Федароўскага, у якой ён пералічвае, дзе і калі запісваліся мелодыі:

«A propos мелодый:

Год

1890 Карловіч запісаў мелодыі ў Ваўкавыскім (павеце) ад Свіслачы і Міжрэчча (тут аўтар дапусціў памылку, бо Карловіч упершыню запісваў у 1889 г.— **Я. С.**).

1891 Карловіч запісваў мелодыі ў Ваўкавыскім ад Свіслачы, Ваўкавыска, Гнезны і Мсцібава (разам з ім запісваў і Трачык.— **Я. С.**).

1892 Запісаны мелодыі ў павеце Гродзенскім (Гольна), Ваўкавыскім (Косін,Валіцкаўшчына, Гурчыны, Тарнопаль, Лубянка), а таксама ў Сакольскім над Бебжай (Жухава).

1893 Запісаны мелодыі ў пав. Навагрудскім (Навасады, Калдычэва, Праяктовічы), таксама ў пав. Слуцкім (Нач, Султанаўшчына).

1894 Сабраны мелодыі ў пав. Слонімскім (Вішаў, Студзераўшчына), таксама ў Ваўкавыскім ад Росі (Дыхнавічы) і ў Навасадах каля Ялоўкі.

1895 Запісаны мелодыі ў пав. Слонімскім ад Дзярэчына (Трахімавічы) і ў Лідскім (ад Эйшышак, Васілішак, Няцечы, Ляцка і Новага Двара), а таксама з Ваўкавыскага мелодыі песень набожных (кантычковых)» [281].

І. Трачык, заахвочаны М. Федароўскім, прыязджаў да яго кожныя святочныя і летнія канікулы. З ім этнограф на працягу чатырох гадоў пачынаючы з 1891 г. здабыў на тэрыторыі васьмі паветаў больш за дзве тысячы тэкстаў і тысячу з лішнім мелодый. «Тэксты я збіраў на прасторах 11 паветаў,— пісаў Федароўскі пасля пераезду ў Варшаву,— музыка запісана толькі ў 8-мі (Сакольскі, Гродзенскі, Ваўкавыскі, Слонімскі, Бельскі, Лідскі, Навагрудскі і Слуцкі). Прычынай гэтага была смерць незабыўнага Карловіча, а праз некалькі гадоў пасля — гаспадарчая катастрофа. Таму запісванне музыкі ў 3 (так у рукапісе.— **Я. С.**) астатніх паветах (Вілейскім, Ашмянскім, Беластоцкім, Свянцянскім) пакідаю маім маладзейшым прадаўжальнікам, якія маюць больш энергіі» [282].

Акрамя Карловіча і Трачыка, мелодыі запісвала яшчэ Лідзія Патул (Potułłówna) [283]. Яна памагала Федароўскаму перапісваць беларускія песні ў Варшаве. Пасля, заахвочаная этнографам, запісвала іх сама ў Лідскім павеце і дасылала Федароўскаму ў Варшаву. «Хоць ужо не працую ў Шаноўнага пана над беларушчынай,— пісала Л. Патул 27 снежня 1909 г.,— аднак усёроўна тое, што яе датычыцца, вельмі мяне цікавіць і ўзрушае. Так як у мінулым годзе я неаднаразова абяцала сабраць пару песень «у сваёй старонцы» і прысланць іх Шаноўнаму пану,— таму цяпер, хочучы выканаць абяцанне, прысылаю далучаную як задатак. У будучым па магчымасці буду дасылаць яшчэ» [284]. У пісьме была прыслана шляхецкая песня з нотамі. У другім пісьме ад 12 студзеня 1910 г.[285] Л. Патул даслала яшчэ адну песню і прывітальную прамову гаспадара да гасцей. Беларускія народныя песні з нотамі, запісаныя Л. Патул у Лідскім павеце, змешчаны ў пятым і шостым тамах «Люду беларускага» (гл. № 4, 38, 70, 217, 293, 1207, 1261, 1485, 1525, 1997, 3385).

Як мы ўжо ведаем, мелодыі запісваліся да большасці ўжо падрыхтаваных тэкстаў. Адсюль і тыя разыходжанні ў перадачы разнастайных моўных асаблівасцей (асабліва акання і якання [286]), якія па-рознаму выяўляюцца, калі песня дыктуецца, расказваецца і калі спяваецца. Яны адлюстраваліся і ў запісах М. Федароўскага.

Навуковы запіс тэкстаў песень патрабуе запісу з голасу ў час спявання з найдакладнейшай фіксацыяй усіх тых кампанентаў, якія выступаюць у тэксце пры выкананні. Прыдыхан-

ні, выклічнікі, прыстаўныя і ўстаўныя галосныя, якія паяўляюцца пры спеве, павінны быць запісаны збіральнікам. Яны ж часцей за ўсё апускаюцца, калі спявак пачынае дыктаваць тэкст песні. А фіксаваць іх вельмі важна, бо яны — жывая плоць рытмікі песні, надаюць ёй своеасаблівы каларыт і гучанне.

Гэту асаблівасць — розніцу ў тэкстах наспяваных і прадыктаваных — заўважаў, даследуючы Палессе ў 1932 г., і вядомы польскі этнограф Казімеж Машынскі [287]. Вельмі займальным быў іншы раз спосаб выканання песні. Спявачка першыя словы песні і першыя тоны мелодыі папярэджвала нейкім своеасаблівым уступам. Стваралася ўражанне, нібы спявачка, злёгку выдыхаючы паветра, набірала размах для спеву. У тэксце ж гэта выражалася ў форме выклічнікаў *ой, і, гі, ыгы, гэ, эгэ, эгэй, эой* і да т. п. Іншы раз падобныя ўстаўкі назіраліся і ўнутры тэкста. (Шмат падобных уставак было і ў выкананні народных спевакоў з в. Тонеж Лельчыцкага р-на на этнаграфічным канцэрце ў Мінску 9—10 лютага 1968 г. Гл. падрабязней: *З. Можейко.* Песенная культура белорусского Полесья. Село Тонеж. Мн., 1971.— **Я. С.**)

Гэта не заўсёды ўлічваў М. Федароўскі, асабліва на першай стадыі свае этнаграфічна-фальклорнай працы. Праўда, пазней ён зразумеў свае пралікі, таму папярэджваў: «На першы погляд, я магу быць западозраны ў некаторых непаслядоўнасцях і адсюль магу атрымаць закіды, чаму ў адным месцы адна і тая ж асоба якае, акае, а другім разам гэты выраз вымаўляе без акання; от жа нічога не было б лягчэй, як, паступіўшы паводле правіла, усе ненаціск-

ныя *о* замяніць на *а*. Я, аднак, не зрабіў гэтага, жадаючы дакладна прадставіць знікненне гэтай уласцівасці на паўдн(ёва)-заходнім паграніччы. Зрэшты, *тэксты запісваліся ў час спявання і падаваліся без спеву, а ў гэтым ёсць вялікая розніца* (падкрэслена мною.— **Я. С.**), бо аканне, зусім страчанае ў мове, у песні часта чутно найвыразней» [288]. Або яшчэ адзін запіс: «Прашу не падазраваць мяне ў памылках з-за няўвагі (у сферы вымаўлення). Няма нічога лягчэйшага, як паводле прымянення адпаведнага шаблону, абапёртага на ўласцівасці гаворкі пэўнай ваколіцы, зрабіўшы адпаведныя папраўкі, заслужыць імя паслядоўнага. Я ж, абмінаючы гэту паслядоўнасць, перш за ўсё стараўся заслужыць імя чалавека сумленнага і таму гучанні запісваў так, як яны вымаўляліся. А ў вымаўленні зусім не хапае гэтай аднастайнасці. Возьмем, напр., Ганну Сладку са Спадзв(ілаў) у Гродзенскім. Вымаўляла, то схіляючыся на пальшчызну, то, забыўшыся, зноў правільна з яканнем, аканнем, націскам і г. д.» [289]

Добра ўсведамляючы розніцу паміж тэкстам, запісаным у час спявання, і прадыктаваным, М. Федароўскі ў сваіх нататках да прадмовы робіць і такую вельмі важную заўвагу: «Выразы ў дужках (без: vel) былі прадыктаваны, у спеве не назіраліся» [290]. Гэта пацвярджаюць прыклады з пятага і шостага тамоў «Люду беларускага». Так, пры песні 2533 «Служыў я ў пана першае лета» (т. VI, стар. 118) стаіць зноска, у якой паведамляецца, што выклічнік ого!, які спявачка падала, дыктуючы тэкст, быў ёю апушчаны пры спяванні. У тэксце ён стаіць у дужках без vel. «Характэрна тое, што ў ся-

рэдзіне слова робяць паўзу»,— піша аўтар у зносцы да песні 1272. Пры спяванні яна гучала так:

У адном боку слонцо схо-о-дзіць,
А ў другім захо-о-дзіць.

Расцягнутае *о* не адлюстравана ў тэксце. Падобныя прыклады сведчаць, наколькі арганічна зліты ў песні тэкст і мелодыя, падказваюць, як трэба фіксаваць сам тэкст народнай песні.

Параўноўваючы тэксты песень пятага і шостага тамоў са словамі, якія падпісаны пад нотамі, вельмі лёгка заўважыць, мелодыі якіх песень запісваліся пасля таго, як тэксты іх ужо былі занатаваны. Тут наглядна выступае тая розніца, якая праяўляецца ў тэкстах наспяваных і прадыктаваных песень. Прыкладам такога разыходжання могуць служыць песні пад нумарамі 356, 374, 1889, 1901, 1927, 1929, 1977, 2014, 2030, 2035, 2070, 2076, 2119, 2442, 2498, 2512, 2517, 2542 і інш.

Вось тэкст песні № 356:

Ой, на той бок азёра
Стаіць ліпа зялёна.
Ліпа зеленёнька.
Тшы пташкове спевало...

Пад нотамі да гэтай песні стаяць словы:

На той бачок азёра
Стаіць ліпа зелёна.
Ай, ліпа, ліпа,
Тры пташковя спевая...

Разглядаючы методыку, прынцыпы запісу Федароўскім беларускіх народных песень, варта адзначыць, што спявачкі часта збіраліся з розных ваколіц у адно месца, і там ад іх запісваліся як мелодыі да занатаваных раней тэкстаў (а ў тэксты ўносіліся папраўкі), так і но-

выя тэксты песень або найбольш цікавыя варыянты ўжо вядомых этнографу твораў. Тут ужо павінны былі папрацаваць яго надзейныя добраахвотныя памочнікі. Яны ведалі найбольш таленавітых мясцовых спявачак, адшуквалі іх, дагаворваліся і запрашалі туды, дзе Федароўскі з музыкам павінен быў рабіць запісы.

«Падзякаваць у прадмове гр(афу) de Gelgui (Людвіку Ельскаму.— **Я. С.**) за дапамогу ў збіранні спявачак з розных ваколіц Гродзенскага павета, асабліва ад Крынак, Бераставіцы, Галынкі і Індуры» [291],— памячае этнограф на адной з картак. «В. Заляшаны — Тэафіля Славутава, в. Яжэвічы — Маруся Мікітава. Інфарматары *з* Начы (п. Слуцкі)» [292],— занатоўвае ён на другой. Але пасля *z* закрэслівае і зверху надпісвае *w*. «Інфарматары *ў* Начы» — гэта ўжо зусім іншае. Значыць, жанчыны, прозвішчы якіх Федароўскі запісаў, не з Начы, яны толькі прыходзілі сюды, каб падаць збіральніку тыя дыяменты народнай паэзіі, якія зберагала іх памяць. У Начу яны былі запрошаны Казімірам Чарноцкім, які шчыра памагаў Федароўскаму вывучаць фальклорныя скарбы родных мясцін.

Пра інфарматараў-спевакоў М. Федароўскі пакінуў вельмі скупыя звесткі. У першым томе «Люду беларускага» ён з вялікай павагай гаворыць пра Паўліну Керсноўскую, ад якой Карловіч запісаў каля 300 мелодый, а Федароўскі столькі ж тэкстаў песень. З такой жа цеплынёй успамінае ён і спявачку з в. Спадзвілы на Гродзеншчыне: «Падавала нам іх (песні.— **Я. С.**) 20-гадовая дзяўчына з вёскі Спадзвілы (з-пад Крынак) Ганна Сладка, надораная, акрамя прыгажосці, і цудоўным голасам і фенаменаль-

най памяццю. Каб пахваліць гэту апошнюю, даволі, калі скажу, што толькі ад яе аднае я запісаў дзвесце з лішнім доўгіх тэкстаў, а майму таварышу (І. Трачыку.— **Я. С.**) бадай ці не столькі ж падала мелодый»[293].



Спявачка Марыля Баярчык

Захавалася некалькі фатаграфій спявачак. Дзве з іх надрукаваны ва ўспамінах М. Федароўскага пра Карловіча[294]: Марылі Баярчык з в. Вялікія Азяркі і Юзэфы Гаслаўскай з мястэчка Мсцібава ў Ваўкавыскім павеце. Фота

«беларускай Шахеразады» (Карловіч) Паўліны Керсноўскай, зробленае Федароўскім у кастрычніку 1893 г., і фота Ірыны Філонік з в. Андрэевічы пад Гнездавам захоўваюцца ў яго архіве[295].

У архіве этнографа можна натрапіць на такія запісы пра інфарматараў: «Слонімск. Ад Казлоўшчыны з вёскі Скрундзевічы падаваў песні, прыказкі, паданні Клемусь Грыб»[296]; «Песні Зосі Жаваранак з в. Дыхнавічы пар(афіі) Калантаеўскай (пав. Ваўкавыскі). Мелодыі запісаў 23 і 24.IX.1894 Іаахім Трачык»[297]; «Песні ад Ялоўкі з в. Навасады, пададзеныя Настуляй Новік у 1894 г. (29 чэрв.)»[298]; «80-гадовая Праксэда Гаўрыльчык з вёскі Кадычыцы (пад Астравам) (Навагрудскі павет.— **Я. С.**) падала больш за дзесятак песень. 26.VIII.1893»[299]; «П(авет) Слуцкі. Круцёлкі, пададзеныя Анэляй Масаль з вёскі Шчасновічы (пад Ляхавічамі). Мелодыі запісаў І. Трачык. Нач. 3.IX.1893»[300]; «Навагрудскі (павет). Навасады. Аўдоцця Карпейчык, адна са спявачак, упамянула, што некалькі гадоў таму назад падавала некаторыя мелодыі нейкаму «рускаму пану» з Мінска»[301] і г. д. Але вялікая частка тэкстаў песень была запісана М. Федароўскім увогуле без прозвішча інфарматара, па-першае, таму, што прозвішчы спевакоў апускаліся за прыкладам О. Кольберга; па-другое, пад кароценькімі круцёлкамі Федароўскі сам не падпісваў імён выканаўцаў, каб «не павялічваць баласту»; па-трэцяе, некаторыя, асабліва выканаўцы фрывольных твораў, самі прасілі не называць іх.

Яшчэ пра адну асаблівасць практычнай работы М. Федароўскага над запісамі песеннага

рэпертуару нашага народа трэба сказаць асобна: ён збіраў і рускія і польскія песні, якія бытавалі сярод насельніцтва заходніх паветаў Беларусі. Такім чынам, збіральнік даў усебаковую характарыстыку песеннага рэпертуару насельніцтва тых мясцін, якія ён даследаваў.

Польская народная песня даўно прывандравала на беларускія землі. Шляхі яе сюды былі рознымі ў розныя часы. У выніку ўзаемадзеяння культур двух братніх народаў, гістарычнай супольнасці іх лёсаў народная творчасць палякаў цесна перапляталася з беларускай, станавілася здабыткам духоўнага жыцця нашага народа. Даследуючы песенны рэпертуар жыхароў заходніх беларускіх паветаў, Федароўскі заўважыў, што «шляхта і мяшчане спяваюць пераважна польскія песні, народ жа, незалежна ад веравызнання, апрача сваіх, беларускіх, разам са шляхтай спявае польскія песні» [302].

Значная частка насельніцтва Заходняй Беларусі была каталіцкай па веравызнанні. Таму набожныя песні, якія духавенства старалася пашыраць сярод працоўных, спяваліся па-польску. М. Федароўскі, імкнучыся ахапіць усе бакі духоўнага жыцця беларусаў, запісваў і рэлігійныя песні. Ён неаднаразова падкрэсліваў у сваіх запісах, што польскія малітвы выконваліся беларусамі ў перакручанай форме [303]. Колькасць рэлігійных песень меншала па меры аддалення ад заходніх граніц на ўсход. 12 кастрычніка 1899 г. М. Федароўскі занатаваў: «Рэліг(ійныя) песні народ найчасцей і найпашыраней спявае ў пав. Сакольскім... У Ваўкавыскім іх можна пачуць толькі ў парафіях каталіцкіх, у Слонімскім жа надзвычай рэдка...» [304]

Найбольш моцны ўплыў польскай культуры быў на самым заходнім ускрайку этнічна беларускіх зямель. Яе ўздзеянне было тут настолькі вялікае, што ўжо ў канцы XIX ст. беларуская песня стала выцясняцца польскай. «Беларускія думы,— піша Федароўскі,— над Бебжай ужо замоўклі, выцесненыя кракавякамі, мазурамі і полькамі, якія народ пераняў з-за ракі ад мазураў. З беларускіх песень вытрывала толькі круцёлка, на матыў якой люд дасюль спявае цэлыя сотні кароткіх, звычайна афарбаваных досціпам песенек»[305].

На падставе ўласных шматгадовых назіранняў М. Федароўскі прыйшоў да наступных агульных высноў наконт пашырэння польскай песні на Беларусі: «У Сакольскім (павеце) беларусы ведаюць усе песні забебжанскіх мазураў. У Гродзенскім беларускае насельніцтва спявае сотні польскіх песень (асабліва вядомыя ўсім ім старадаўнія думы). У Ваўкавыскім польскіх песень спяваюць удвая менш, чым у Гродзенскім. У Слонімскім яшчэ менш, чым у Ваўкав(ыскім) і ў моцна скажонай форме. У Навагрудскім са старадаўніх дум вельмі ўжо мала кружыць. А ў Слуцкім амаль поўнае зanікненне (ледзьве некалькі дум, як напр., Kąpała się Kasia w morzu; Oj jadą, jadą, jadą Mazury і г. д.)»[306]. У іншым месцы этнограф называе дзве «найвядомейшыя і найдалей на ўсход прасунутыя польскія песні: 1) Dziewczyno moja, napój mnie konia; 2) Jaś koniki poił, Kasia wodę brała»[307].

Побач з тэкстамі польскіх песень у беларускім народным асяроддзі акліматызоўваліся і польскія народныя мелодыі. Калектыўны характар народнай творчасці праяўляўся ў тым,

што мелодыі польскіх народных песень і танцаў беларускі народ апрацоўваў, перарабляў, інтэрпрэтаваў па-свойму: у духу нацыянальных музычных традыцый зменьваў ладава-меладычную структуру, тэмп, надаваў сваю самабытную інструментоўку. І карыстаўся імі пры розных выпадках і нагодах, выдаючы за ўласную творчасць. На ўсёй тэрыторыі заходнебеларускіх зямель былі шырока вядомы кракавякі, паланезы, мазуркі, сфера распаўсюджання якіх дасягала, па словах М. Федароўскага, «ажно да Бярэзіны»[308]. Міграцыя сюжэтаў казак і песень — з'ява складаная ў фальклоры. Вандраванне іх неаспрэчна. Канкрэтныя ж шляхі вызначыць амаль немагчыма. Факты слоўнага і музычнага фальклору ў новым асяроддзі атрымлівалі сваю, ужо мясцовую афарбоўку і прадаўжалі жыць у новых умовах, тады як на роднай глебе забываліся і знікалі. Гэтак было і з некаторымі творамі польскай музыкі, якія ў далёкія часы прывандравалі на Беларусь, асталіся тут у памяці пакаленняў, а ў Польшчы забыліся.

Як характэрны прыклад Федароўскі называе беларускі народны танец «Шарлатан», што ўзнік на Беларусі яшчэ ў XVII ст. на аснове польскага мазура, а пасля вярнуўся ў Польшчу ў выглядзе народнага гімна[309]. Вось што піша пра гэта сам даследчык: «Для паляка беларускія мелодыі павінны быць намнога мілейшыя, сімпатычнейшыя, чым для іншых славянскіх пабрацімаў. Беларусь дала нам гімн, гукі якога распіралі грудзі нашы, нашых бацькоў і дзядоў. Бо бясспрэчны той факт, што дасюль толькі ў радзімых ваколіцах творцы мелодыі «Jeszcze Polska» кн. Міх. Агінскага (ад

Ваўкав(ыска) і Слоніма) вядомы ў народзе «Шарлатан» — гэты шалёны танец, які іграецца на матыў Дамброўскага (з невядомым найгрышам пры канцы). Я мяркую, што гэтая мелодыя хіба што старэйшая за наш народны гімн. Яна павінна была прывандраваць перад вякамі з-пад Віслы (тэмп мазура!), дзе з цягам часу пайшла ў забыццё. Беларускі кансерватызм данёс яе гукі да вушэй кн(язя) кампазітара. Так я дапускаю. Аднак жа тутэйшы люд спявае мноства песень на ноту паланезаў і мазураў, у Польшчы ўжо цалкам невядомых»[310].

Польскі фалькларыст Рышард Вайцяхоўскі[311] сярод польскіх песень, запісаных у канцы XIX ст. на Беларусі Федароўскім, знайшоў шмат такіх, што прыйшлі ў фальклор з літаратуры, з польскай паэзіі. Паэтычныя творы польскіх рамантыкаў XIX ст. былі вельмі папулярныя. Імі захаплялася не толькі інтэлігенцыя. Вядомы яны былі і простаму народу. Досыць інтэнсіўна пашыраліся яны сярод беларускай засцянковай шляхты. Вершы завучваліся на памяць, пераходзілі ад старэйшага пакалення да малодшага, з часам перараблялі ся, фальклярызаваліся і кружылі па вёсках, дварах і засценках як народныя песні.

Многа беларускіх і польскіх песень запісаў Федароўскі ў краях дзяцінства Адама Міцкевіча на Навагрудчыне. Творчасць вялікага польскага паэта шырока жывілася з жыватворнай крыніцы беларускага фальклору, асабліва з песень, якія ён чуў у дзяцінстве. Гэта добра паказана як беларускімі[312], так і польскімі даследчыкамі[313]. Цудоўна ведаючы паэзію А. Міцкевіча і беларускую народную творчасць, М. Федароўскі засяроджваў увагу вучоных на

беларускіх песнях, з якіх Міцкевіч чэрпаў сюжэты і вобразы. «Без сумленнага вывучэння гэтых збораў (беларускага фальклору Навагрудчыны. — **Я. С.**), — піша Федароўскі, — не можа быць дакладна прааналізавана творчасць векапомнага Адама» [314]. «Трэба памятаць,— заўважае ён пра песні, якія сам запісаў на Навагрудчыне,— што песні гэтыя, запісаныя ў родных краях Міцкевіча (нават у самім Завоссі, Калдычэве!), выкалыхалі наш рамантызм (яны ў гадах сельскіх, анельскіх адбіваліся ўвушшу нашага песняра). Тут яшчэ дасюль спяваюць такія песні, як «O Cybulskiej», «Idzie żołnierz», толькі тут танцуюць улюбёнага «Шарлатана» на ноту Дамброўскага, тут матывы да «Dziadów» («Ой, не спіцца мне, не ляжыцца») чэрпаў... Манюшка» [315].

Рыхтуючы свой песенны збор да друку, этнограф меркаваў польскія песні размяшчаць побач з беларускімі ў адпаведных па змесце раздзелах. Але пасля для большай нагляднасці вылучыў польскія песні ў асобны раздзел. «Польскія песні,— пісаў М. Федароўскі,— якія тут народ разам са шляхтай спявае, варта было б змяшчаць побач з беларускімі ў адпаведных раздзелах. Такая мазаіка рэальней прадставіла б свет беларускага духу, які розніцца ад украінскага тым, што на фоне заходняй культуры пярэсціцца ад рознакаляровых каменьчыкаў, здабытых з Віслы, Дняпра, Нёмана і Дзвіны. Класіфікуючы, я доўга вагаўся і з пункту погляду чыста навуковага... вырашыў усе польскія песні змясціць у асобным раздзеле ў канцы кнігі. Думаю, што гэта для даследчыка польскай песні ў пошуках... будзе вялікай палёгкай» [316].

Рыхтуючы песні да выдання ў пасляваенны час, рэдакцыйная калегія трымалася плану М. Федароўскага, таму польскія песні былі змешчаны як асобны раздзел у шостым томе «Люду беларускага» (ч. VII, №3417—4064). Праўда, польскія тэксты трапляюцца і ў другіх раздзелах сярод песень беларускіх.

З усходу на беларускія землі пашыралася руская песня. Яе найчасцей у той час прыносілі беларусы, што служылі ў салдатах у Расіі. М. Федароўскі натаваў і такія песні ў беларускіх вёсках у адрозненне, напрыклад, ад Е. Р. Раманава, які песень, прынесеных на Беларусь салдатамі, не запісваў увогуле і нават крытыкаваў за іх збіранне П. Шэйна [317]. Рускія народныя песні, запісаныя на Беларусі Федароўскім, змешчаны ў пятым томе «Люду беларускага» як у асобным раздзеле (№ 2064—2093), так і пад іншымі рубрыкамі (напрыклад, № 265, 276, 277, 2901, 2902 і г. д.) [318].

Буйнейшы беларускі фалькларыст і этнограф Е. Р. Раманаў ставіў перад збіральнікамі твораў народнай паэзіі задачу: запісваючы песні, «абавязкова трэба сказаць, калі яны спяваюцца: на каляды, на масленіцу, у гуканне вясны, на Купалу, на вяселлі, на хрысцінах і г. д.» [319] М. Федароўскі вельмі часта трымаўся гэтага правіла. Многія запісаныя ім песні маюць спецыяльныя заўвагі (гл. V і VI тамы «Люду беларускага»): «як Купайло паляць і спяваюць» (1661), «пры зажынаню жыта» (1720), «дажынаючы жыта спяваюць» (1792), «як сена косяць» (1755), «пры якой-небудзь рабоце каля ільну» (1843), «каляды (Пілiпаўка)» (1860), «асенняя» (1905), «вясна (песня веснавая)» (1931). Вясельныя песні таксама маюць шмат-

лікія паметкі, напрыклад: «саджаючы каравай у печ» (712), «дзявочы вечар» (724), «як вянкі ўюць. Сіраце» (735), «у суботу ў маладога, як запрошаныя дзяўчаты прыдуць хату мыць» (738), «як касу расплятуць» (769), «як мацеру клічуць, каб маладых прымала» (811) і г. д.

Многія абрадавыя песні (калядныя, валачобныя, юраўскія) спяваліся па чарзе кожнаму члену сям'і, пачынаючы ад гаспадара і гаспадыні. Яшчэ ў адным з першых артыкулаў М. Федароўскага пра беларускі фальклор «Святы Юр'я» («Pamiętnik fizjograficzny», 1883, t. III) было змешчана 25 юраўскіх песень з Лідскага павета. Каля кожнай аўтар даў тлумачэнне: спяваецца гаспадару, гаспадыні, дочкам, сынам, удаве і г. д. Пры апісанні вяселляў этнограф размяшчаў песні па ходу абрадавага рытуалу. Гэта, па-першае, прыдавала маляўнічасць і яркасць апавяданню, па-другое, наглядна паказвала, для каго і ў які момант выконвалася тая ці іншая песня, давала магчымасць глыбей зразумець іх змест, паэтыку, вобразнасць.

Пра абставіны, умовы, час, асаблівасці выканання паасобных песень ці прыпевак, якія Е. Р. Раманаў раіў фіксаваць пры запісах у якасці каментарыяў, М. Федароўскі пакінуў некаторыя заўвагі і выказванні. Для прыкладу прывядзем некалькі запісаў з яго архіва, якія захоўваюцца ў бібліятэцы Варшаўскага універсітэта: «Як вясеннія, летнія, жніўныя, ёсць і песні, якія спяваюцца толькі восенню (асеннія)... Змест асенніх заўсёды напамінае пра блізкае замужжа (Глядзі: Песні ад Ялоўкі, з Новікаў)» [320]; «Некаторыя брандзюшкі (прыпеўкі.— **Я. С.**) спяваюцца толькі хлопцамі, дру-

гія дзяўчатамі, а іншыя сямейныя толькі жанчынамі. Многія з іх спяваюцца толькі ў пэўную пару года: адны вясной, другія летам, некаторыя ж восенню або зімой» [321]; «Многа маюць у сабе пачуцця некаторыя летнія песні» [322]; «Асеннія спяваюць рвучы грэчку і капаючы бульбу» [323]; «Калыханкі... Хутчэй калыша — хутчэй спявае, паволі калыша — паволі спявае. Словам, спеў калыханак прыстасоўваецца да мерных удараў палазоў калыскі» [324].

Вельмі складаным у рабоце фалькларыстаў над песнямі было і застаецца пытанне іх класіфікацыі. «Лірычны род фальклору дастаўляе спецыялістам ці не самыя вялікія цяжкасці для класіфікацыі»,— заяўляе сучасны савецкі фалькларыст-тэарэтык В. Я. Гусеў [325]. «Песень у народным абыходзе,— піша Н. П. Калпакова,— ці не больш, чым другіх твораў вуснай паэтычнай творчасці, але ў той жа час тэксты іх параўнальна з тэкстамі іншых жанраў вельмі няўстойлівыя: у выніку варыянтнасці, здольнасці пераходзіць на розныя бытавыя ролі (у залежнасці ад змен умоў працоўнай дзейнасці і бытавога ўкладу ў розных раёнах і ў розныя эпохі) ствараецца ўражанне пастаяннай рухомасці, пастаяннага станаўлення і зменлівасці народнага песеннага рэпертуару і музычна-паэтычных тэкстаў асобных песень. Разам з тым, дваякая прырода песні як твора адначасова і слоўнага і музычнага мастацтва, яшчэ больш ускладняе пытанні яе вывучэння, у тым ліку і пытанні класіфікацыі» [326].

Пытанне пра класіфікацыю фальклорнага багацця народаў востра паўстала ў апошнія гады, асабліва ў сувязі з выданнем шматтомных зводаў фальклору. Над гэтым думаюць як

савецкія, так і замежныя фалькларысты. Але выразнай сістэмы класіфікацыі фальклорных жанраў дасюль не выпрацавана. Пытанню класіфікацыі фальклору былі прысвечаны некаторыя выступленні на V Міжнародным з'ездзе славістаў (1963, Сафія), яно было ў цэнтры ўвагі навуковай фалькларыстычнай канферэнцыі савецкіх вучоных у 1961 г., прысвечанай праблеме спецыфікі жанраў рускага фальклору; на VII Міжнародным кангрэсе антраполагаў і этнографаў у Маскве (1964) працаваў спецыяльны сімпозіум «Класіфікацыя жанраў фальклору». Спецыяльная ўвага была ўдзелена жанру сказанняў, паданняў (Sage). У Міжнародным таварыстве па вывучэнні апавядальнага фальклору — International Society for Folk-narrative Research — узнікла Sagen-Komission, якая 14—16 кастрычніка 1963 г. сабралася ў Будапешце на нараду па пытаннях класіфікацыі гэтага жанру фальклору.

Заслугоўвае ўвагі цікавы артыкул У. Я. Пропа, прысвечаны прынцыпам класіфікацыі фальклорных жанраў[327]. Перш чым пачаць класіфікацыю асобных жанраў, гаворыць даследчык, трэба дамовіцца пра агульныя прынцыпы класіфікацыі фальклору ўвогуле. У савецкай навуцы існуе думка, што адзінкай усякай класіфікацыі, асновай яе з'яўляецца жанр. З аднаго боку, ён падпарадкоўваецца больш агульным катэгорыям, з другога — можа быць разбіты на катэгорыі больш дробныя. Што ж можна назваць жанрам? У літаратуразнаўстве гэтае паняцце вызначаецца сукупнасцю паэтычнай сістэмы. Гэта ж можна сказаць і пра фальклор. Так як фальклор складаецца з твораў слоўнага мастацтва, перш-наперш неабход-

на вывучыць асаблівасці і заканамернасці гэтага віду творчасці, яго паэтыку, кажа У. Проп.

Якія ж задачы стаяць перад фалькларыстам-класіфікатарам, якімі крытэрыямі ён павінен карыстацца? У. Я. Проп называе наступныя: 1) вызначэнне жанравага складу фальклору свайго народа. Пры гэтым жанравы склад фальклору аднаго народа не можа быць механічна перанесены на склад другога. Міжнароднымі могуць быць толькі прынцыпы класіфікацыі, але не матэрыял. Першае патрабаванне для вызначэння жанру і высвятлення колькасці і наменклатуры жанраў — вывучэнне паэтыкі фальклору; 2) бытавое прымяненне твораў фальклору — вось другі крытэрый для класіфікацыі. Напрыклад, ёсць песні, якія спяваліся толькі на вяселлях або толькі на канкрэтных святах і абрадах. Гэта трэба ўлічваць; 3) форма выканання — трэцяя істотная адзнака пры вызначэнні жанру. Так, напрыклад, карагодныя песні выконваліся пры адпаведных рухах цела; драматычнае ж мастацтва ўвогуле не можа быць грунтоўна вывучана толькі па тэкстах, без уліку ігры выканаўцаў; 4) адносіны тэксту да музыкі трэба таксама браць пад увагу, бо вершаваны фальклор амаль увесь спяваецца.

Такім чынам, паводле Пропа жанр вызначаецца яго паэтыкай, бытавым прымяненнем, формай выканання і адносінамі да музыкі. Не заўсёды пры вызначэнні жанру патрэбны ўсе гэтыя аспекты, але для песенна-вершаванага фальклору яны неабходныя.

У беларускай фалькларыстыцы да апошняга часу не з'явіліся работы, якія датычыліся б пытанняў класіфікацыі жанраў фальклору, у пры-

ватнасці песень. Не вельмі многа такіх спроб і ў рускай навуцы [328] і ў фалькларыстыцы іншых славянскіх народаў. Можна назваць цікавую спробу класіфікацыі бытавых песень рускай даследчыцы Н. П. Калпаковай [329]. Фалькларыстка, імкнучыся знайсці адзіны універсальны крытэрый, адхіляючы тэматычны і этнаграфічны прынцыпы класіфікацыі народнай лірыкі, кладзе ў яе аснову мастацтвазнаўчыя крытэрыі і толькі грамадскую функцыянальнасць, прызначэнне песні. Фактычна абстрагаваўшыся ад зместу і іншых адзнак, яна ўсё багацце рускіх бытавых песень зводзіць да чатырох жанраў у адпаведнасці з іх грамадскай функцыяй: 1) песні-заклінанні (аграрна-каляндарныя, вясельныя, падблюдныя); 2) песні гульнёвыя; 3) песні велічальныя (каляндарныя, гульнёвыя, вясельныя і падблюдныя); 4) песні лірычныя.

Кожны жанр Калпакова разбівае на «тыпы» ўнутры жанраў. Першыя тры жанры аб'ядноўваюцца ёю па ўмовах бытавання і выканання, уваходзячы ў розныя фальклорна-этнаграфічныя комплексы (каляндарныя і сямейна-бытавыя абрады). Апошні жанр не звязаны непасрэдна ні з абрадамі, ні з гульнёй. Гэта, па сутнасці, традыцыйны падзел усяе лірыкі на абрадавую і неабрадавую.

Недахопы класіфікацыі Н. Калпаковай адзначаў А. Дэй [330]. Ён заўважаў, што пры такой класіфікацыі «вясельныя песні, арганічна звязаныя з цэлаю абраднаю драмаю, будуць рассыпаны па ўсіх чатырох жанравых рубрыках, хоць галоўная іх функцыя адна — суправаджаць вяселле, і ўсе яны ўзаемазвязаны і ўзаемаабумоўлены» [331]. Гэта ж, трэба сказаць,

станецца і з такімі беларускімі народнымі песнямі, як калядныя, юраўскія, валачобныя. Тыя, у якіх часты элемент велічання, праслаўлення гаспадара, гаспадыні, іх дзяцей і іншыя, трапяць да жанру «велічальных», другія ж — калядныя, юраўскія і валачобныя — без гэтага элементу акажуцца ў іншых жанравых рубрыках.

Адной з апошніх тэарэтычных работ рускіх фалькларыстаў, дзе на аснове абагульнення вялікага матэрыялу разглядаецца пытанне класіфікацыі твораў фальклору, з'яўляецца раздзел у кнізе В. Я. Гусева «Эстэтыка фальклору» [332]. Тут высвятляецца і пытанне класіфікацыі народнай лірыкі і эпасу. Акрамя жанраў народнай прозы (міф, казка, паданне, легенда, анекдот і г. д.), асобную групу эпасу складаюць творы, якія па сваёй прыродзе з'яўляюцца слоўна-музычнымі. Да іх В. Гусеў адносіць міфічныя песні, героіка-фантастычныя эпічныя песні (уласна гераічны песенны эпас), гістарычныя эпічныя песні, сацыяльна-бытавыя эпічныя песні (навелістычны песенны эпас), камічныя (парадыйныя) эпічныя песні.

Асобна класіфікуе В. Гусеў лірычны род фальклору. «Што ж пакласці ў аснову класіфікацыі лірычных жанраў? — пытаецца даследчык.— Як і ў адносінах да эпасу, варта зыходзіць з самой сутнасці гэтага роду, г. зн. падзел на жанры будаваць па самім характары лірызму як асноўнай родавай адзнакі. Паколькі асноўнай адзнакай эпасу з'яўляецца тыпізацыя рэчаіснасці, то і падзел яго на жанры ў асноўным вызначаўся тым, што ў самой рэчаіснасці адлюстроўваецца рознымі жанрамі і якія спецыфічныя прынцыпы адлюстравання або тыпі-

зацыі ў іх рэчаіснасці. Паколькі ж асноўнай адзнакай лірыкі з'яўляецца *тыпізацыя адносін да рэчаіснасці,* выражэнне тыповага пачуцця, настрою, думкі, душэўнага стану, то і падзел на жанры павінен зыходзіць з уліку самога характару гэтых адносін і прынцыпаў яе тыпізацыі. Па спецыфічных жа сродках вобразна-мастацкай тыпізацыі адносін да рэчаіснасці ўсе лірычныя жанры ў сваю чаргу аб'ядноўваюцца ў нейкія групы, падобна да таго, як у такія ж групы аб'ядноўваліся і эпічныя жанры... Адну групу складаюць жанры, якія па сваёй прыродзе з'яўляюцца слоўна-музычнымі, г. зн. такія, дзе сродкам тыпізацыі адносін да рэчаіснасці служыць песенная мова (што суправаджаецца ігрой на музычных інструментах або без такога суправаджэння). У другую групу ўваходзяць музычна-харэаграфічныя жанры, якія не суправаджаюцца спевам. Трэцюю групу складаюць танцы, што не суправаджаюцца ні ігрой на музычных інструментах, ні спевам — г. зн. сродкам тыпізацыі тут з'яўляюцца харэаграфічныя і мімічныя элементы. Чацвёртую групу складаюць слоўна-музычна-харэаграфічныя жанры, г. зн. найбольш складаныя па сваёй прыродзе, па сродках тыпізацыі — песні да танцаў і некаторыя карагодныя песні,— менавіта карагодныя лірычныя, што не суправаджаюцца ігрой» [333].

Зыходзячы з такіх крытэрыяў, В. Гусеў усю галіну песеннай лірыкі падзяляе на песні працоўныя, заклінальныя, гімнічныя, гераічныя, элегічныя, жартоўныя і сатырычныя. Прапануючы такую класіфікацыю, аўтар не адхіляе магчымасці і іншых. Так, кажа ён, магчыма этнаграфічная класіфікацыя, дзе ўся лірыка

можа быць падзелена на абрадавую і неабрадавую. Падобная класіфікацыя мела б на мэце гісторыка-этнаграфічнае вывучэнне. Магчыма, відаць, і сацыялагічная класіфікацыя.

А. Дэй, які ў сваім артыкуле пра класіфікацыю ўкраінскага песеннага матэрыялу грунтоўна разглядае ўвогуле стан праблемы класіфікацыі песень, прапануе пры вызначэнні жанравай прыроды песенных груп зыходзіць з чатырох наступных прынцыпаў і крытэрыяў: функцыянальнага, тэматычнага, кампазіцыйна-стылёвага і рытма-меладычнага. На падставе гэтых адзнак даследчык выдзяляе ў народнай паэзіі Украіны эпічнага роду наступныя жанры: думы, гістарычныя песні, балады і песні-хронікі. Лірычны род ён дзеліць на жанры каляндарна-абрадавага цыклу (вяснянкі, «риндівкі», русальныя песні, «царинни», пятроўскія, купальскія і жніўныя, калядкі і шчадроўкі) і сямейнага (хрэсьбінныя, вясельныя і галашэнні). Да жанраў гумарыстычна-сатырычнага роду ён адносіць танцавальныя песні, прыпеўкі, жартоўныя і сатырычныя песні і народныя вершы. Асобным жанрам выдзяляюцца каламыйкі. «Па-за ўсімі ахарактарызаванымі жанрамі народнай паэзіі,— гаворыць А. Дэй,— астаецца яшчэ велізарная частка ўкраінскай песеннасці — лірыка сямейна-бытавога і грамадска-бытавога зместу. Гэта, па сутнасці, асноўнае багацце ўкраінскай песні. На жаль, каштоўныя россыпы народнай лірыкі нялёгка паддаюцца класіфікацыі»[334]. Адсюль бачым, наколькі складаная праблема сістэматызацыі і класіфікацыі песень любога народа.

Збіральнік і даследчык украінскага фальклору акадэмік Філарэт Калэса, ідучы за фін-

скім даследчыкам Ільмарам Кронам, прапанаваў класіфікаваць песні па іх рытмічных формулах. Аднак, як адзначае С. Грыца, гэта прывяло б да змешвання песень рознага зместу і ліквідавала б розніцу ў іх ідэйна-мастацкай спецыфіцы: «Кожная песня, будучы адбіткам жыцця ў мастацкім вобразе, з'яўляецца эстэтычнай катэгорыяй. Таму непрыняцце гэтага пад увагу азначала б пазбаўленне яе найгалоўнейшага» [335].

У гісторыі польскай фалькларыстыкі таксама было шмат розных спроб класіфікацыі песень, але і да гэтага часу якога-небудзь рацыянальнага прынцыпу ці сістэмы не знойдзена. Вядомы польскі фалькларыст Юльян Кржыжаноўскі пісаў: «Велізарныя матэрыялы, сабраныя намаганнямі некалькіх пакаленняў на працягу паўтаравяковай збіральніцкай працы, уяўляюць цяпер гіганцкі лабірынт, перад якім мы стаім бездапаможныя, бо не маем ключа, які дазволіў бы прабрацца ўсярэдзіну і зрабіў бы магчымым апанаванне схаваных там скарбаў. Мы не маем дасюль нават бібліяграфіі польскай народнай песні» [336].

У XIX ст. у зборніках польскіх песень прымяняліся самыя разнастайныя класіфікацыі. Збіральнік польскай песні першай паловы XIX ст. Жэгота Паулі [337], напрыклад, сістэматызуючы іх, выдзяляў пяць асноўных груп: I. Абрадавыя песні: 1) на святочных урачыстасцях і якія спяваюцца толькі ў пэўны час — калядкі, вяснянкі і г. д.; 2) на сямейных святах: а) вясельныя, б) памінальныя і пахавальныя; 3) у час розных вясковых гульняў і вечарынак. II. Думы гістарычныя, рэлігійныя (легенды),

якія датычацца мясцовых здарэнняў (балады), акрамя таго, фрагменты любоўнага зместу. III. Песні розных слаёў насельніцтва, што спяваюцца ў час розных работ (салдацкія, рамесніцка-дарожныя, мясніцкія, паляўнічыя, пастухоўскія, калыханкі). IV. Бурлескі і насмешлівыя песні. V. Песні танцавальныя.

О. Кольберг у сваёй грандыёзнай працы «Lud» (пры жыцці было надрукавана 34 тамы) фальклор размяшчаў паводле рэгіянальнага прынцыпу, падкрэсліваючы тым самым самабытнасць мясцовай традыцыі. У тамы побач з іншымі жанрамі фальклору ўваходзілі і песні. Класіфікацыя іх у Кольберга была не з лепшых. Ацэньваючы яе, Ю. Кржыжаноўскі піша: «Погляд на падзел у Кольберга даводзіць, што сітуацыя тут выглядае сапраўды безнадзейна» [338].

Даследчык польскай песні ў XX ст. Ян Станіслаў Быстрань, класіфікацыйныя прынцыпы і сістэма якога трымаюцца ў польскай фалькларыстыцы і дасюль, дзяліў песні на тры асноўныя групы: абрадавыя, штодзённыя і прафесіянальныя. «Мы дзелім песні,— пісаў ён,— увогуле на тры вялікія групы ў залежнасці ад таго, хто іх спявае і з якой мэтай. Такім чынам, мы выдзяляем абрадавыя (obrzędowe) песні, дакладна вызначаныя і ў адносінах асобы спевака і ў адносінах часу і абставін, цесна звязаныя з самім абрадам; далей штодзённыя (powszechne) песні, якія спяваюцца кім хочаш без дакладнага месца і часу спявання... г. зн. для забавы; нарэшце, прафесіянальныя (zawodowe) песні, якія спяваюцца толькі членамі адпаведнай прафесіянальнай групы і што датычацца тых жа тэм» [339].

Такім чынам, у першую групу трапляюць песні сямейныя (хрэсьбінныя, вясельныя, пахавальныя) і гадавога круга (у адпаведнасці з касцёльным календаром, акрамя таго, купальскія, жніўныя і г. д.), у другую — балады, любоўныя, сатырычныя, калыханкі і іншыя, у трэцюю — шахцёрскія, салдацкія, жабрацкія і г. д.

Як бачым, разнабой у класіфікацыі польскай песні існаваў і існуе да гэтага часу. Новыя прынцыпы ў апошні час прапануе польскі даследчык Ян Садоўнік[340]. Ён прымяніў іх у зборніку падгалянскіх песень[341].

Вялікая стракатасць у класіфікацыі назіраецца і ў зборніках песень іншых славянскіх народаў. Напрыклад, у славакаў існуе рэгіянальны прынцып падачы песеннага матэрыялу; чэшскія зборнікі ўкладаюцца пераважна па тэматычных рубрыках, хоць трапляюцца і іншыя сістэмы (напрыклад, рытма-меладычныя). Тэарэтычны і метадалагічны артыкул па пытаннях класіфікацыі народных песень знаходзім у чэхаславацкага даследчыка Олдржыха Сіроваткі[342].

У балгарскай фалькларыстыцы існуюць таксама розныя сістэмы класіфікацыі: падзел песень, як у сербаў, на лірычныя і эпічныя, а ўнутры іх ужо ідзе падзел на падгрупы; падзел па функцыянальнай ролі твораў (падзел на карагодныя, вясельныя, жніўныя, застольныя і г. д.). Вядомы балгарскі даследчык фальклору Пётр Дзінекаў прапануе прынцыпы падзелу песень па іх змесце[343]. У адрозненне, напрыклад, ад Н. Калпаковай, якая сцвярджае, што «песня можа перайсці з аднаго этнаграфічнага комплексу ў другі, з адной бытавой ролі на

другую, але перайсці з аднаго жанру ў другі яна не можа»[344], П. Дзінекаў слушна, на наш погляд, даказвае, што песні ў працэсе гістарычнага развіцця перакрыжоўваюцца, адрываюцца ад абрадаў і звычаяў, пераходзяць з аднаго жанру ў другі. Усю песенную спадчыну Балгарыі П. Дзінекаў падзяляе на абрадавыя, міфічныя, юнацкія, гістарычныя, гайдуцкія, сацыяльна-бытавыя, дзіцячыя і сучасныя народныя песні. Прыблізна такой сістэмы прытрымліваліся ўкладальнікі трынаццацітомнага выдання балгарскага фальклору, дзе песні займаюць восем тамоў.

Своеасаблівы падзел паводле галоўнага, вядучага матыву прапануе другі балгарскі даследчык Йордан Іваноў. Усе песні ён класіфікуе на чатыры групы: абрадавыя, міфічныя, бытавыя і эпічныя[345].

Збіральнікі беларускіх народных песень у XIX ст. размяшчалі іх у зборніках па-рознаму. Найлепш размяшчаліся абрадавыя песні — іх пераважна сістэматызавалі ў адпаведнасці з паслядоўнасцю свят на працягу каляндарнага года. Увогуле ж стройнай сістэмы класіфікацыі мы не знойдзем ні ў аднаго этнографа, пачынаючы ад Я. Чачота і П. Гільтэбранта і канчаючы П. Шэйнам і Е. Раманавым. З. Радчанка, напрыклад, трымалася каляндарнага размяшчэння народнай песні. П. Шэйн у зборніку «Беларускія песні» (1873) у асноўным улічваў час выканання песень на працягу года. Песні ён падзяляў на творы, звязаныя з земляробчымі і сямейнымі абрадамі, і на творы, якія з абрадамі не звязаны. Памылкі былі там, дзе карэспандэнты П. Шэйна не адзначылі прыналежнасці песні да пэўнага цыклу.

Увесь матэрыял тома песень Шэйн класіфікаваў так: Хрэсьбінныя песні. Калыханкі і дзіцячыя. Калядныя песні. Рацэі. Песні масленічныя, валачобныя, троіцкія, талочныя, купальскія, пятроўскія. Жніво: зажыначныя, жніўныя, ярныя, дажыначныя, спарышовыя. Застольныя песні. Бяседныя песні (дзявочае і замужняе жыццё). Разгульныя песні (застольныя, прыпеўкі да танцаў, скокавыя). Гумарыстычныя. Вясельны абрад і песні ў розных мясцовасцях. Хаўтуры і дзяды. Рэкруцкія песні. Салдацкія. Духоўныя вершы. Дадаткі. Амаль да ўсіх раздзелаў было прыкладзена апісанне абрадаў і звычаяў, якія іх тлумачаць.

У 1887 г. выйшла з друку першая частка першага тома працы П. Шэйна «Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края». Тут былі змешчаны песні. Структура зборніка амаль поўнасцю паўтарала папярэднюю працу. У першым раздзеле былі творы абрадавай паэзіі з апісаннямі абрадаў, у другім — песні пазаабрадавыя. Кніга пачыналася хрэсьбіннымі песнямі, за імі ішлі (адразу ж непаслядоўнасць у класіфікацыі!) не звязаныя з абрадамі калыханкі і дзіцячыя; пасля калядныя, масленічныя, вяснянкі, купальскія, жніўныя. Любоўныя і сямейныя, рэкруцкія і салдацкія, жартоўныя, разгульныя, песні да танцаў і прыпеўкі складалі другі аддзел.

Другую частку першага тома «Матэрыялаў» Шэйна, што выйшла ў 1890 г., займалі на тры чвэрці вясельныя песні з апісаннем абраду, хаўтурныя і памінальныя абрады і галашэнні.

Другі выдатны беларускі фалькларыст і этнограф Е. Р. Раманаў таксама не быў даклад-

ны ў размеркаванні песеннага матэрыялу. У I—II выпусках «Беларускага зборніка» ён падзяляў песні на сямейныя, чумацкія, разбойніцкія, арыштанцкія, рэкруцкія і ваенныя, любоўныя, дзіцячыя (калыханкі, гульнёвыя, жартоўныя), гумарыстычныя, прыпеўкі, вяснянкі, талочныя, купальскія, жніўныя, вясельныя, духоўныя, карагодныя, шчадроўкі і валачобныя. Асноўнае месца тут адведзена неабрадавым песням. Этнограф сам разумеў, што сістэматызацыя песень у яго не з лепшых, таму пісаў у прадмове: «Строга кажучы, такі падзел — прыняты, дарэчы, у многіх зборніках,— больш ці менш адвольны. Пры ім часта бывае цяжка выбраць аддзел, да якога трэба аднесці тую ці іншую песню. На жаль, мы позна пераканаліся ў магчымасці размеркаваць песні па часе іх спявання. Такое цыклавае размеркаванне іх устаноўлена самім народам і старанна ахоўваецца ім на працягу многіх стагоддзяў [346]. Можна, не баючыся памыліцца, сказаць, што для кожнай песні існуе не толькі пэўны перыяд, накшталт раставання снегу, уборкі канапель, але і пэўны дзень, напрыклад, першага выезду ў поле, дзень прылёту жаваранка і да т. п.» [347] У VII і VIII выпусках «Беларускага зборніка» Е. Раманаў змясціў пераважна абрадавыя песні. Размяшчэнне іх больш дакладнае ў адпаведнасці з гадавым каляндарным кругам свят, але таксама не скрозь паслядоўнае.

Як жа класіфікаваў беларускія народныя песні М. Федароўскі? Чарнавыя накіды плану класіфікацыі яскрава паказваюць, што з гэтай задачай яму было справіцца нялёгка. Вось што пісаў пра гэта сам Федароўскі: «Пры класіфі-

кацыі многа цяжкасцей дастаўлялі песні, скленыя з розных сюжэтаў (кантамінацыя, супольная з польскім народам). Нягледзячы на гэта, я стараўся быць, наколькі гэта магчыма, паслядоўным, абазначаючы такія песні паводле зместу галоўнага сюжэта»[348]. Але ж вельмі часта ў кантамінаванай песні амаль немагчыма вызначыць, які сюжэт у ёй галоўны, а які другарадны. Таму песня і трапляе ў розныя раздзелы ў залежнасці і ад суб'ектыўнай волі ўкладальніка, і ад аб'ектыўнага стану песні, яе разбуранага тэматычнага адзінства.

Другая нататка этнографа тлумачыць, як ён практычна ўкладаў сабраны песенны матэрыял: «Каб зменшыць баласт, я амаль нідзе не даю варыянтаў ва ўсёй іх паўнаце, за выключэннем, калі варыянт сваім зместам ледзь напамінае песню тыповую. У варыянтах я пакінуў толькі тыя радкі або выразы, якія з'яўляюцца адменнымі. Падаючы варыянты, я трымаўся наступнага парадку: перш за ўсё падаю — як тып[349] — найпаўнейшы тэкст з якога-небудзь павета, потым толькі ідуць варыянты ў геаграфічнай паслядоўнасці з усходу на захад, г. зн. ад п-та Слуцкага да найбольш пасунутага на захад — Сакольскага»[350].

У архіве М. Федароўскага захаваўся такі канчатковы план укладання ўсяго збору песень, якія былі запісаны ім на Беларусі:

| | |
|---|---|
| «Раздзел I. | Песні любоўныя (лірычныя) |
| Раздзел II. | Песні сямейныя |
| Раздзел III. | Песні на выпадак, са штодзённага жыцця<br>1) Паншчына<br>2) Служба |

3) Запрашэнне, гасціна, адведкі
4) Забавы, «Ігрышча»
5) Торг, кірмашы, святы
6) Падарожжа
7) Яда
8) Шкода, доўг, рабунак
9) Смерць

Раздзел IV. Паляўнічыя песні

Раздзел V. Пастухоўскія песні

Раздзел VI. Песні сельскагаспадарчыя
1) Ратайскія
2) Сенакосныя
3) Жніўныя
4) Пры рабоце каля льну

Раздзел VII. Песні рамесніцкія

Р(аздзел) VIII. Песні п'яніцкія

Р(аздзел) IX. Песні ваяцкія
1) Ваяцкія старадаўнія
2) Жаўнерскія і вярбовачныя
3) Рэкруцкія (салдацкія)
4) Казацкія
5) Уланскія

Р(аздзел) X. Песні міфалагічныя, легендарныя (Балады)

Р(аздзел) XI. Песні павучальныя, маральныя, этычныя

Р(аздзел) XII. Песні гістарычныя, патрыятычныя, гераічныя (Эпічныя)

Р(аздзел) XIII. Песні пра чужаземцаў
1) Цыган
2) Літвін
3) Паляк
4) Паляшук

5) Рускі
6) Украінец. Чумак
7) Яўрэй

Р(аздзел) XIV. Песні рэлігійныя
Р(аздзел) XV. Песні дзядоўскія
Р(аздзел) XVI. Розныя
Р(аздзел) XVII. Песні рускія (З другой паловы XIX ст. скрозь народам спяваныя)
Дадатак
Алфавітны паказальнік»[351].

Паказальна, што ў гэтым плане няма польскіх песень, якія, як мы ўжо ведаем, збіральнік хацеў змясціць асобным раздзелам у канцы працы (яны надрукаваны ў шостым томе «Люду беларускага»).

Беларускія народныя песні ў пятым — шостым тамах згрупаваны наступным чынам.

Частка I. Песні любоўныя: 1. Хлопцы і дзяўчаты (1—44). 2. Залёты (45—134). 3. Каханне дзяўчыны. Каханне хлопца (135—186). 4. Каханне ўзаемнае (187—206). 5. Вернасць, сталасць (207—231). 6. Няпэўнасць, журба (232—255). 7. Кепская вера (256—287). 8. Каханне нешчаслівае (288—335). 9. Кепская воля (336—403). 10. Кепская доля (404—442). 11. Каханне без узаемнасці (443—482). 12. Розныя перашкоды (483—520). 13. Перапыненыя залёты (521—562). 14. Смерць каханага (563—588).

Частка II. Вясельныя песні: 1. З-пад Свіслачы (589—713). 2. Слуцкія (714—846). 3. З розных мясцін (847—1059). 4. З-пад Моўчадзі (1060—1205).

Частка III. Сямейныя песні: 1. Шчаслівае шлюбнае жыццё (1206—1225). 2. Нешчаслівае шлюбнае жыццё (1226—1421). 3. Дзеці (1422—1518). 4. Сям'я (1519—1547).

Частка IV. Песні гадавога круга і іншыя: 1. Гадавыя (1548—1745). 2. Пастухоўскія (1746—1751). 3. Сельскагаспадарчыя (1752—1847). 4. Ваяцкія (1848—1912). 5. Прыгодніцкія (1913—1943). 6. Паданневыя (1944—2021). 7. Павучальныя (маральныя) (2022—2058). 8. Рэлігійныя (2059—2063). 9. Рускія (2064—2093). 10. Пра чужаземцаў (2094—2105).

Частка V. Фрывольныя песні і танцы: 1. Круцёлкі і мяцеліцы (2106—2359). 2. Жартоўныя песні (2360—2594). 3. Танцы (2595—2669) [352]. 4. Песні п'яніцкія (3313—3319).

Частка VI. Розныя песні (3320—3416).

Частка VII. Польскія песні: 1. Польскія песні сур'ёзныя (3417—3864). 2. Польскія песні жартоўныя (3865—4064).

Частка VIII. Думы і абрадавыя песні: 1. Песні хрэсьбінныя (4065—4100). 2. Песні пахавальныя (4101—4102). 3. Думы і песні (4103—4150).

Частка IX. Дадаткі (4151—4171).

Як бачым, выдаўцы ў асноўным захавалі тую класіфікацыю, план якой склаў сам М. Федароўскі, апіраючыся на класіфікацыю польскіх песень Я. Карловіча.

Чарнавыя нататкі Федароўскага яскрава паказваюць, як адбывалася вылучэнне асобных груп і раздзелаў, іх узбуйненне або драбленне, часам нават непатрэбна дэталёвае. Так, напрыклад, у папярэднім, першапачатковым плане песні «Легендарныя, паданневыя, міфалагічныя» фігуравалі як раздзел 11. «Песні гістарычныя, патрыятычныя, гераічныя» — як

раздзел 13. Пазней, відаць з-за малога аб'ёму раздзела 13, аўтар зрабіў алоўкам дапіску: «Раздзел 11 давядзецца зліць з 13»[353]. Пры выданні гэтыя песні так і трапілі разам у пяты том «Люду беларускага» (частка IV, раздзел 6 «Podaniowe»).

Класіфікацыя М. Федароўскага можа выклікаць шмат пярэчанняў і пытанняў, бо размяшчэнне песень па канкрэтных раздзелах праведзена ім непаслядоўна. Прычыну гэтага вытлумачыў сам даследчык: шматлікія кантамінацыі, зліццё розных сюжэтаў і матываў, разнастайныя напластаванні не далі магчымасці размясціць песні ў строга патрэбных рубрыках і раздзелах. Тым больш цяжка было правесці паслядоўную класіфікацыю М. Федароўскаму, які, размяшчаючы песні па сюжэтах, не заўсёды мог даць рады з выбарам «галоўнага» сюжэта ў песнях кантамінаваных. Так, напрыклад, прыпеўка 661, змешчаная ў раздзеле песень вясельных, сустракаецца і сярод жартоўных (2398) і сярод п'яніцкіх (3318). Або песня 467, якая стаіць у раздзеле «каханне без узаемнасці», як і падобныя варыянты (468—469), неспадзявана знаходзіцца паміж «думамі і абрадавымі песнямі» (4127) ці мае варыянты ў раздзеле «каханне нешчаслівае» (297, 299). Нават простае параўнанне назваў раздзелаў гаворыць пра тое, што гэтыя песні павінны быць разам. Кавалак з песні 519, якая стаіць сярод «любоўных» (раздзел «Розныя перашкоды»), знаходзім у аддзеле «сямейных» (раздзел «Дзеці», 1515), а пасля яшчэ і сярод «ваяцкіх» (1892), але там ужо падобныя словы — зварот да зямлі — укладзены ў вусны ўдавы, муж якой загінуў на вайне. Так ставалася таму, што да

пэўнай песні «прыклейваліся», далучаліся нейкія самастойныя матывы ці сюжэты, на падставе якіх збіральнік і адносіў, па сутнасці, адну і тую ж песню да розных рубрык.

У раздзеле «любоўных» пад рубрыкай «дзяўчаты і хлопцы» змешчана песня «Ой, пасею я рамоню» (34). Яна памечана падзагалоўкам «каляды», значыць, адносіцца да каляндарна-абрадавых. Але этнограф паставіў яе ў «любоўныя». Чаму? Тут не трэба забываць, што сярод песень, якія спяваліся падчас каляд, было нямала такіх, важнае месца ў якіх займалі тэмы кахання і шлюбу. І гэта натуральна: якраз пасля каляд на вёсках пачынаўся сезон вяселляў. Вось тут і можна знайсці адказ, чаму М. Федароўскі аднёс песню 34 да раздзелу «любоўных», хоць месца ёй павінна быць сярод «Dorocznych».

Тэма кахання і шлюбу арганічна ўваходзіла ў цыклы іншых каляндарна-абрадавых песень: вяснянак, валачобных, юраўскіх, жніўных, асенніх і г. д. Успомнім тут пра заметку Федароўскага, у якой ён пісаў, што змест «асенніх» песень найчасцей напамінае «пра блізкае замужжа». Гэта вельмі наглядна адбілася ў прыпеўцы 2407.

Сярод любоўных песень, сабраных М. Федароўскім, многія суправаджаюцца спецыяльнымі паметкамі, што гаворыць пра прыналежнасць гэтых песень да пэўных груп абрадавай паэзіі, напрыклад, «асеннія» (49—50), «жніво» (74), «вясна, пасля вялікадня спяваюць» (197), «восень, як аўсы жнуць» (229), спяваюць «падчас посту, званага Піліпаўкай» (287), «вясенняя, полючы лён спяваюць» (588). Гэтыя песні Федароўскі свядома не паставіў

у абрадавыя, хоць ведаў — пра гэта ґавораць паметкі,— што яны павінны там стаяць.

Далёка не ўсе песні, якія спяваліся аднача-сова з адпраўленнем пэўнага абраду, гаварылі пра гэты абрад. У многіх выпадках першапа-чатковы магічны сэнс песень сцёрся, зацямніў-ся пад напластаваннямі стагоддзяў. А мы ве-даем, што Федароўскі запісваў песні не толь-кі ў час абрадаў. Канкрэтны тэкст мог быць занатаваны без паметкі, да якога абраднага цыклу ён адносіцца. Пасля, аказаўшыся ў Варшаве, праз многа год этнограф забыўся, што гэта за песня, а па змесце ўжо нельга было вызначыць, куды яе аднесці. Таму пры класіфікацыі падобная песня магла трапіць у неадпаведны раздзел.

Каляндарна-абрадавая паэзія змешчана М. Федароўскім у раздзеле песень «Гадавых» (1548—1745). Сярод іх — вяснянкі, валачоб-ныя, юраўскія, жніўныя, купальскія і г. д. Па змесце многія з іх нельга аднесці да канкрэт-нага раздзела (а на раздзелы яны тут не раз-бітыя). Тут добрую дапамогу аказваюць этна-графічныя нататкі Федароўскага, якія не апуб-лікаваны, а таксама яго друкаваныя работы. Так, песні 1626—1651 — «юраўскія». Але ці ўсе іх можна аднесці да юраўскіх, не ведаючы публікацыі ў часопісе «Pamiętnik fizjogra-ficzny» (1883, t. III), дзе М. Федароўскі апіс-вае абрад Юр'я на Лідчыне? Вядома, не. А не ведаючы апісання жніва, зробленага Федароў-скім [354], песні 1812, 1819 ніяк нельга аднесці да жніўных.

Варыянты дзіцячай песенькі 1423 (сюжэт гэ-ты апрацаваны А. Якімовічам у «Вераб'ёвых гасцях»), што змешчана сярод песень «сямей-

ных» у падраздзеле «Дзеці», знаходзім раптам у раздзеле «фрывольныя песні і танцы» пад рубрыкай «песні жартоўныя» (2457, 2553), хоць у змесце яе нічога фрывольнага няма. Да гэтых вельмі блізкія песні 2502—2505 з тым жа матывам «вераб'ёвых гасцей», якія таксама пастаўлены сярод жартоўных. Усім ім месца — сярод песень «дзіцячых».

Такіх прыкладаў непаслядоўнасці ў класіфікацыі можна прывесці шмат. Як справядліва заўважае Ежы Дамраш, «памылкі пры размеркаванні матэрыялу, што парушаюць адзінства класіфікацыі, прынятай Федароўскім, гэта не толькі звычайны ляпсус складальніка схемы. Яны перш за ўсё адлюстроўваюць тыя цяжкасці, якія ўзнікаюць у выніку нявызначанасці крытэрыяў, што дазваляюць класіфікаваць дадзеную песню як прыналежную да той ці іншай тэматычнай групы. Пераход ад самай правільнай класіфікацыі да адпаведнага размеркавання матэрыялу не такі ўжо просты»[355].

Перад тым як непасрэдна перайсці да разгляду зместу пятага і шостага тамоў «Люду беларускага», варта ўспомніць, як песні рыхтаваліся да выдання.

М. Федароўскі пры перапісцы тэкстаў карыстаўся дапамогай Лідзіі Патул, Рамуальда Зямкевіча, Родзевіча[356] і іншых, а затым сам правяраў перапісанае. Песні запісваліся Федароўскім у розны час па-рознаму. Асабліва недакладныя з боку мовы былі запісы на першых этапах работы, калі этнограф яшчэ не валодаў дасканала беларускай мовай, быў слаба знаёмы з яе дыялектамі. Такія запісы пасля трэба было правіць, рэдагаваць. Сам запіс не быў фанетычны. Некаторыя фанетычныя знакі,

абазначэнне дыфтонгаў, аканне, націскі этнограф падстаўляў пазней, рыхтуючы тэксты песень да выдання, праз дзесятак, а то і болей гадоў пасля таго, як тэкст быў запісаны.

«Гэтая частковая рэтуш, якой Федароўскі падвяргаў моўны бок сваіх запісаў,— піша А. Абрэмбская-Яблонская,— прымушае глыбей унікнуць у тэхніку яго збіральніцка-выдавецкіх метадаў. І тут пэўнае святло на навуковы варштат Федароўскага часткова могуць праліць ацалелыя чарнавікі песенных запісаў, ад якіх вяла дарога да стварэння чыставікоў песень. Мы не толькі натрапляем на «дапоўненыя» дыялекталагічныя рысы, на выбар адных тэкстаў і адкідванне, найчасцей на слушнай падставе, другіх, але на палях чарнавых запісаў сустракаем сілабічныя схемы песень, што ў шэрагу выпадкаў адкрывае робленую рукой Федароўскага версіфікацыйную падрыхтоўку да друку песень з боку рытму, даўжыні радкоў і рыфмы.

Звычайны чытач не заўважыць гэтых касметычных працэдур, праробленых над песняй, любуючыся свежасцю яе фразеалогіі і жывасцю стылю. Аднак даследчыка верша факты гэтыя павінны зацікавіць. Відаць, як — пры ўсіх намерах захаваць навуковую дакладнасць — формы працы Федароўскага, хоць крыху і выпераджалі сучасных яму этнографаў на польскіх ці беларускіх землях, не здолелі перакрочыць таго парогу дакладнасці даследаванняў, якія стварылі навейшая тэхніка рэгістрацыі жывога тэксту — ад фанографа да магнітафона — і навейшыя правілы тэксталогіі» [357].

Некалькі канкрэтных прыкладаў могуць паказаць нам, як ішоў увесь працэс работы

М. Федароўскага над беларускімі песнямі — ад чарнавіка да апошняга варыянта. У архіве этнографа ёсць і па пяць варыянтаў-чарнавікоў адной і той жа песні (такіх нямнога), і па чатыры, тры, два. Возьмем прыклад з трайнымі рукапісамі: два чарнавікі і чыставік.

Вось тэкст песні «Ой, у саду, саду, у вінаграду», апублікаванай у пятым томе «Люду беларускага» пад № 1407 (перадаем яе лацінкай, як у публікацыі):

1 [358] Oj, u sàdu, sàdu, u winahradu
2 Staić siwy kuonik na paradu.
3 Nichto siéna nie nakuosić
4 Nichto jemu cany ni (sic) pałożyć.
5 Iszło dwa małojcy z Ukrainy
6 Jeny jemu siena nakasili
7 Jeny jemu canu pałażyli.
8 Sieu małójec starszy, daj pajèchau:
9 Bieży, koniu, kraj bałota
10 Swajoj miłoj [359] pad warota
11 Nie wyszła żuonka, da-j cieszcza:
12 Paździy, paździy siwy konik jeszcza;
13 Twaju miłu pachawali
14 U wiszniowum sadoczku pałażyli.
15 Pryjechau małojczyk da sadu,
16 Prywiazau kania da winahradu
17 Paszuou da miłoj na paradu.
18 Żuoucieńki piasoczak, razsypisie!
19 Zielon dziernoczak, razchilisie!
20 Ciesowy damoczak aaczynisie!
21 Maja miła, [360] akażysie!
22 Ci mnie, miłaja, da żanicisie,

23 Ci mnie, miła, żurycisie?
24 Oj, nie każu tabie żurycisie,
25 Każu tabie żanicisie.
26 Waźmi sabie żonku maładuju,
27 Dzietkam matku huoreńkuju,
28 Maim dzietkam matku huoreńkuju.
29 Waźmi żuonku u wianoczku,
30 Maim dzietkam matka u piasoczku.

*Чарнавік А.* Захоўваецца ў Рукап. аддз. БВУ, сігн. 137-IV, т. III, вокл. 1, арк. 30. Запіс на вузкай чацвяртушцы паперы. Р. (радок) 1 — (дапісана u; р. 5, 8, 15, закрэслена huzar, huzary, huzaryk, а дапісана małojec, małojcy, małojczyk; р. 13 — scharanili заменена на pachawali; р. 17 — Paszou miłyj — Paszou do miłoi; р. 24, 25 — wielu — każu. Дыякрытычных знакаў і дыфтонгаў няма.

*Чарнавік Б.* Захоўваецца там жа, сігн. 137-IV, т. II-в, вокл. 3, арк. 8. У тэксце часткова прастаўлены націскі. Дапісаны дыфтонгі і дыякрытычныя знакі. Р. 8 — młody заменена на starszy; р. 13 — закрэслена pachawali і вернута першапачатковая форма scharanili; дапісаны р. 15, 16, выкраслена małojec... da sadu, дапісана k winahradu; дапісаны р. 19; р. 20 — Ciesowaja doszka adczynisie падпраўлены на Ciesowy damoczak adczynisie; р. 25 — апушчана miły.

*Чыставік.* Захоўваецца там жа, сігн. 136, т. III (t. 2F), арк. 34—35. Тэкст перапісваў сам М. Федароўскі.

Р. 1 — паўторана sadu, р. 3 — апушчана jemu; р. 6 — апушчана Da; р. 11 — апушчана wyszła, дабаўлена daj; р. 13 — выкраслена

Użе pachawali замест scharanili (як у чарнавіку Б), так як было ў чарнавіку Б перад папраўкай; p. 16 — da замест k (чарнавік Б); p. 20 — aaczynisie замест adczynisie (чарнавік Б); p. 22 — miłaja da замест miła; p. 24 — прыпісана Oj; p. 29 — Waźmu sabie żonku u wianoczku апушчана sabie; p. 30 — matka як у чарнавіку А; прыпісаны p. 27. Націскі прастаўлены алоўкам.

Падобных прыкладаў можна прывесці вельмі многа. Але і прыведзены добра ілюструе тую «дарогу да стварэння чыставікоў песень» (А. Абрэмбская-Яблонская), якую мусіў прайсці Міхал Федароўскі ў сваёй нялёгкай рабоце.

Запісы М. Федароўскага для сябе і інструкцыі для Лідзіі Патул раскрываюць лабараторны працэс падрыхтоўкі песень да друку. «Кожны раздзел прайсці тры разы,— запісвае М. Федароўскі,— a) ставячы націскі *і робячы выпіскі (для слоўніка)* (падкрэсленае дапісана рукой Федароўскага алоўкам.— **Я. С.**), в) правяраючы рытм і став(ячы) знакі прыпынку, і нарэшце, с) адзначаючы галосныя фанетычнымі знакамі і робячы папраўкі» [361].

Пры запісах тэкстаў, калі ў мове спявачак траплялiся характэрныя словы, формы слоў, выразы або словы, незразумелыя збіральніку, М. Федароўскі ставіў пасля іх у дужках sic, бо стараўся натаваць так, як вымаўлялася. Гэтых форм і слоў ён не правіў і пазней, калі добра ведаў дыялекты беларускай мовы. Так яны і надрукаваны ў пятым і шостым тамах «Люду беларускага» (гл. песні 11, 22, 35, 36, 61, 96, 125, 168, 213, 251, 457, 1269 і інш.).

У адной з інструкцый для Л. Патул сярод спісу работ, якія яна павінна была рабіць, па-

магаючы Федароўскаму, стаіць: «Цытаваць украінскія варыянты»[362]. Вядома, што для сваіх прац Федароўскі рабіў выпіскі з кніг П. Чубінскага[363], каб супаставіць варыянты песень, якія там ёсць, з песнямі, што сам запісаў. Гэта работа, на жаль, так і не была давелзена да канца. У пятым і шостым тамах у адрозненне, напрыклад, ад Е. Раманава, які шырока падаваў варыянты з іншых збораў беларускіх песень, ніякіх спасылак на варыянты ў другіх публікацыях няма.

«Супастаўляць, нумараваць і выкрэсліваць ідэнтычныя радкі ў варыянтах»[364],—дае М. Федароўскі заданне Л. Патул пасля таго, як прасіў яе «варыянты ўкладаць ад найкарацейшых да найдаўжэйшых»[365]. Мы ўжо ведаем, што ён меркаваў варыянты ўкладаць у геаграфічным парадку ад павета Слуцкага да найбольш заходняга Сакольскага. Такі парадак не быў вытрыманы. Прычыны гэтага пакуль не высветлены. Магчыма, другія занятні перапынілі работу Федароўскага над песнямі, магчыма, перапісчыкі і памочнікі пакінулі працу ў этнографа, таму і не быў здзейснены ранейшы намер. Нават просьба Федароўскага да Л. Патул «зверыць усе словы пад матыв(амі) з тэкстам»[366] асталася нявыкананай. А гэта відаць у пятым і шостым тамах, і дало магчымасць меркаваць, якія мелодыі былі запісаны да гатовых тэкстаў, а якія запісваліся непасрэдна з тэкстам, што найбольш у навуковых адносінах правільна.

Рыхтуючы песенны збор М. Федароўскага да выдання ў пасляваенны час, рэдкалегія стаяла перад дылемай: ці друкаваць матэрыялы ў такім выглядзе, як іх пакінуў збіральнік, ці

апрацаваць іх па-новаму, зрабіўшы сучасную класіфікацыю, правёўшы пэўны адбор тэкстаў і іх варыянтаў. Рэдакцыйны камітэт слушна выбраў першы варыянт, маючы на ўвазе, што матэрыялы, сабраныя Міхалам Федароўскім, належаць гісторыі фальклярыстыкі XIX ст.

Пяты і шосты тамы выдаваліся на падставе чыставікоў песень, перапісаных некалькімі почыркамі, у тым ліку і рукой самога Федароўскага, якія ў дзесяці тамах (7328 арк.) захоўваюцца ў Рукапісным аддзеле бібліятэкі Варшаўскага універсітэта (сігн. 136-IV). Да некаторай часткі песень захаваліся чарнавікі, напісаныя рукой Федароўскага, шэсць тамоў якіх знаходзяцца там жа (сігн. 137-IV). Калі чыставікі былі намі зверааны з адпаведнымі чарнавікамі, то аказалася, што ў прынцыпе яны ідэнтычныя. Выдаючы гэтыя матэрыялы, рэдкалегія трымалася правіла: захаваць першаўзор запісу і размяшчэння матэрыялу. Рэдакцыйная праўка заключалася толькі ў пераносенні з тэксту песень слоў або радкоў, абазначаных збіральнікам літарамі v, vel (або.— **Я. С.**) у зносці (гл. № 10, 12, 25, 31 і г. д.). Акрамя таго, у шостым томе многія варыянты былі зняты такім чынам, што ў пакінутай версіі пасля песні ў дужках прыведзены варыянты слоў, якія былі ў знятым варыянце (гл. № 2440, 2476, 2502, 2505, 2531 и г. д.). Фрывольныя песні (2960—3312) былі вылучаны ў асобны сшытак, які надрукаваны ў абмежаванай колькасці экземпляраў. Праўда, некаторыя з іх трапляюцца і ў надрукаваных тамах. Яны, на нашу думку, павінны былі ўвайсці таксама ў гэты сшытак. Папраўлены ў некаторых выпад-

ках і арфаграфічныя памылкі (хоць і не ўсе), выкарыстаны крыху іншыя, як у папярэдніх тамах, друкарскія знакі, прастаўлены знакі прыпынку. Трэба заўважыць, што песні выдаваліся толькі па чыставіках. Таму ў пяты і шосты тамы не трапілі многія песні, запісаныя Федароўскім (напрыклад, тыя, што ілюструюць абрады, вяселлі і г. д.; яны выяўлены намі ў час работы ў архіве М. Федароўскага ў Варшаве ў 1965—1966 гг. — **Я. С.**).

Пра багацце сабраных Федароўскім беларускіх народных песень красамоўна гаворыць нават сама колькасць тэкстаў у пятым і шостым тамах «Люду беларускага»: 4171 (з іх каля 650 польскіх). Е. Р. Раманаў, напрыклад,— адзін з выдатных беларускіх фалькларыстаў і этнографаў — апублікаваў 3180 песень і прыпевак[367]. Сярод песень, сабраных Федароўскім,— любоўныя, сямейныя, вясельныя, радзінныя, купальскія, жніўныя, дзіцячыя, пастухоўскія, рэкруцкія, балады і г. д. Каштоўнасць выдання павялічваецца ад таго, што разам з тэкстамі пададзены мелодыі. Іх 1413 — з'ява унікальная ў беларускай музычнай фалькларыстыцы. Успомнім тут, што П. Шэйн надрукаваў толькі 30 мелодый[368], Е. Раманаў — 53[369], З. Радчанка — 210. Трэба падкрэсліць, што запісы мелодый у «Людзе беларускім» падаюцца не ў апрацоўцы, не гарманізаванымі.

«Музыку не кожны ўмее запісаць, але таму, што яна вельмі пажадана,— пісаў Ян Карловіч,— трэба старацца яе натаваць з дапамогай другіх...; гарманізаваць, г. зн. дадаваць акорды, не трэба; хопіць дакладна запісаць толькі мелодыю ў якім-небудзь тоне і рух яе (тэмп)

абазначыць, калі можна, метраномавым знакам. Таксама пажадана збіраць мелодыі танцаў, маршаў і г. д., якія іграюцца без слоў; і іх трэба натаваць таксама без гармоніі, азначаючы тэмп і заўважаючы, да якога танца або абраду яны служаць»[370].

Ян Карловіч сам запісваў беларускія народныя мелодыі для Федароўскага. Яго запісы ў параўнанні з запісамі І. Трачыка і Л. Патул, як сцвярджае музыказнаўца В. Ялатаў, найбольш набліжаны да характару беларускай народнай музыкі: «Стыль запісаў усіх траіх аўтараў у асноўным аднастайны, хоць пэўныя схільнасці да таго ці іншага інтанацыйнага ладу ўсё ж ёсць. Так, многія запісы Трачыка хутчэй бліжэй да польскай песеннай культуры, чым да беларускай. Гэта назіраецца ў метрарытмічнай структуры большасці напеваў, якая нагадвае польскія народна-танцавальныя формы (мазуркі, абэркі) у некаторых асаблівасцях ладава-меладычнай арганізацыі. Да стылю беларускай песеннай творчасці набліжаюцца запісы Карловіча, хоць і сярод іх ёсць асобныя прыклады, якія выходзяць за гэтае інтанацыйнае кола. Наогул трэба сказаць, што метад адбору меладычнага матэрыялу характарызуе гэту работу хутчэй не як зборнік толькі беларускіх песень, а як збор песень, што выконваюцца беларускім насельніцтвам Гродзеншчыны. Сама методыка запісаў мелодый дастаткова мэтанакіраваная, хоць у радзе выпадкаў мае некаторую схематычнасць (не трэба забываць, што запісы рабіліся 50—70 год назад)»[371].

У шостым томе «Люду беларускага» змешчаны таксама ноты многіх беларускіх тан-

цаў, запісаныя ў XIX ст. Карловічам і Трачыкам: «Полька» (2627, 2633а[372], 2634а і інш.), «Шарлатан» (2628—2630, 2895), «Круцёлка» (2634в і інш.), «Заяц» (2633в), «Вальс» (2702 і інш.), «Балабас» (2710), «Шуплядка» (2711), «Таўкачыкі» (2712в), «Купец» (2712а), «Верабей» (2715), «Мікіта» (2716, 2721), «Саўка» (2718), «Цыган» (2712), «Мяцеліца» (2766), «Зазуля» (2894), «Падушачкі» (2957) і г. д. Такой колькасці мелодый песень і танцаў у гісторыі беларускай фальклcraрыстыкі да сённяшняга дня не сабраў ніхто[373]. Таму збор Міхала Федароўскага цяжка пераацаніць.

«Багацце беларускай народнай песні,— пісаў М. Федароўскі,— нязмернае: вяселле ці пахаванне, хрэсьбіны ці заручыны, кожны занятак, кожная пара года мае свае арыгінальныя спевы. Пачуцці, страсці выражаюцца ў спеве. У песні гучыць прызнанне ў каханні, часам скарга, або нават, хоць вельмі рэдка, пракляцце. Мелодыі іх, за выключэннем вясельных, якія грашаць манатоннасцю,— тужлівыя, паважныя, у вольным тэмпе, нібы шум сосен у беларускіх барах»[374].

Вельмі багатыя і разнастайныя па тэматыцы, па вобразах, лірычных пачуццях перш за ўсё песні любоўныя, якімі адкрываецца пяты том «Люду беларускага». У гэтых песнях — вельмі пашыраным жанры народнай лірыкі — беларускі народ з вялікай мастацкай сілай і дасканаласцю апаэтызаваў адно з найпрыгажэйшых чалавечых пачуццяў — каханне. «З той пачуццёвасці,— піша М. Федароўскі,— якая выступае ў любоўных песнях, можна вырабіць сабе найлепшае ўяўленне пра натуру

селяніна. Думаю, што яны характарызуюць яго з усёй выразнасцю»[375]. У любоўных песнях вельмі частыя вобразы прыгожых, чыстых душою хлопцаў і дзяўчат, выяўлена іх высакароднае духоўнае аблічча, маральная чысціня, вернасць у каханні. Шчырасць і глыбіня, з якімі выказваюцца пачуцці ў любоўных народных песнях, не могуць не зачароўваць, не хваляваць.

Вялікім напалам страсці, шчырай душэўнай цеплынёй напоўнены прызнанні закаханай дзяўчыны:

...Я па табе, траванька, не нахаджуся,
Каго верна люблю, не нагляджуся
(160, а таксама 168).

Ой, спаць жа ж мне ні хочацца
Да цёмнае ночы,
Да дзе мілы каня вядзе,
Там і мае вочы (163).

Паяўленне каханага можа падняць дзяўчыну нават са смяротнага ложа (159). Закаханай дзяўчыне знешні выгляд любага паўстае ў паэтычна-ідэалізаваным святле (139). Не менш прывабна выглядае дзяўчына ва ўяўленні хлопца, чыё сэрца яна паланіла (137). Ідэалам маладых хлопцаў з'яўляецца дзяўчына «тонкая, высока, як былінка ў полі».

Паэтычны геній народа з вялікай сілай выяўляе гора дзяўчыны, разлучанай з мілым праз ліхіх людзей, якія «рассудзілі, разгудзілі, каб мы ў пары не хадзілі, друг дружочка не любілі»:

...Як мы, сэрцо, любіліся
Сухі дубы развіліся,
Любіціся перасталі

Зялёныя сохнуць сталі
(507, а таксама 526, 527, 564).

Мастацкае мысленне народа ў вобразах прыроды, што спачувае чалавеку, стварыла глыбока лірычныя, сардэчныя малюнкі, якія яскрава адлюстроўваюць настрой і перадаюць пачуцці пакінутай любым дзяўчыны:

...Ды ўсе рэчкі паўсыхалі,
Ручаінкі не цякуць,
Усе пташкі пазмаўкалі,
Салавейкі не паюць (312).

У яркіх мастацкіх вобразах і малюнках раскрывае народная песня і радасць, і гора, і трагічныя моманты чалавечага жыцця. З глыбокім болем і горыччу праклінае дзяўчына ў роспачы рэчку, у якой утапіўся любы. Лаканічна, праніклівa-эмацыянальна гучаць словы няшчаснай:

...Бадай рэчанька, бадай быстрая
Густым трасцём зарасла,
Ах як ты майго мілюсенькаго
За сабою панясла.
Бадай рэчанька, бадай быстрая
Жоўтым пяском заплыла,
Як ты маго чарнабрываго
Ой, на векі ды ўзяла (580).

Сапраўды, радкі гэтыя не могуць не кранаць сілай выразнасці, экспрэсіўнасці, кандэнсацыяй лірычнага пачуцця!

Поўныя глыбокага лірычнага настрою песні, у якіх дзяўчына пасля ад'езду мілага закрывае яго сляды лісточкам, каб па іх людзі не

хадзілі, а дарагі сэрцу чалавек, пранёсшы вернасць сваім ранейшым пачуццям, вярнуўся да каханай (542, 543, 556, 4126):

...Паехаў, паехаў, нідзе ні відаці,
Выду за варота, два слядочкі знаці.
Ой, пайду ў лясочак, вырву там лісточак,
Буду прыкрываці мілаго слядочак,
Каб па том слядочку людзі ні хадзілі,
Каб маго мілого іншы ні любілі (542).

Не менш страсці, душэўнай цеплыні, перажыванняў у песні «Сядзіць голуб на дубочку», дзе дзяўчына просіць каханага, які ад'язджае, даць ёй зелле, якое памагло б забыць яго. Адпаведныя варыянты гэтага твора запісаны ў Ваўкавыскім, Навагрудскім, Лідскім паветах (172, 206, 292, 293, 379, 536, 538). Працытуем адзін з іх, запісаны ў в. Карэвічы каля Васілішак:

...Ты ў дарожку ад'егджаеш,
А я нішчасліва.
Можа маеш яко зелья,
Дай мне напіцісе,
Каб я магла, мой шчыранькі,
Цібе забыцісе.
Ой, есць у міне тако зелье
Блізка пералазу,
Як дам табе напіцісе,
Забудзеш адразу.
Буду піці, буду есці,
Каліўка не ўпушчу,
Тады я це прызабуду,
Як вочкамі сплюшчу (206).

«Такіх паэтычных тэкстаў дарэмна шукаць у польскім фальклоры»,— піша пра сюжэт

«зелле забыцця» польскі даследчык Рышард Вайцяхоўскі [376].

Вернае каханне, якое пара закаханых пранасіць праз усё жыццё, народ уславіў не адною песняй. Вернасць вельмі часта выражаецца стэрэатыповымі словамі «тады цябе пазабуду, як вочанькі сплюшчу» (172, 206, 292, 293, 379, і г. д.), бо тых, што «любіліся, кахаліся, як ластаўкі ў стрэсе» (524), ужо «не разлучыць світ ні зара, хіба нас разлучыць сырая зямля» (508, 510, 4110).

У беларускіх народных песнях увогуле часта сустракаюцца пастаянныя стылістычныя формулы. Напрыклад, пра каханне ці пра каханага гаворыцца як пра «завязаны свет» (50, 298, 300, 453, 587, 763, 1356, 1376 і г. д.); хлопец сваею нявернасцю дзяўчыне «сэрца кроіць, як ножыкам» (46, 91, 271, 272, 281, 1336), а матыў разлучэння закаханых часта выражаецца параўнаннем «разлучылі нас з табою, як рыбку з вадою» (296, 297, 299, 300, 359).

Сярод сабраных М. Федароўскім любоўных песень нямала і з гумарам, з сатырычнай завостранасцю. Народ высмейваў фанабэрыстую шляхту, насміхаўся з задавак, пра якіх народная мудрасць кажа дакладна і ярка: «На назе чобат рыпіць, а ў гаршку трасца кіпіць» (4). У іншых песнях дзяўчына смяецца з шляхцюка, кажучы, што ўвесь яго маёнтак — «зялёны жупан» (238, 240).

У песні перад беднай дзяўчынай мог выхваляцца і багаты гусар: «Сорак авец у аўчарні, трыццаць коні на стайні, ялоўніку без ліку». Але гэтым больш высмейваўся ён сам. Да бедных хлопцаў песня ставілася зусім па-іншаму. Адна з іх (442), напрыклад, вось як пaэтыза-

вала бедака, паказваючы яго адносіны да багатай млынаркі:

...Яе бацько багаты,
Чтэры волы і коровы
І на шыі дукаты.
Бог з табою, дзеўчыненька,
Ды й з бацькам тваім багачом,
Хай твой бацько прападзе,
А ты пойдзеш з таўкачом!

Народная песня асуджала тых, хто шчырыя пачуцці мяняў на багацце. Так, вобраз багатай нявесты амаль заўсёды абмалёўваўся негатыўна: багатая звычайна лянівая, нядбаліца, няпраха і няткаха, яна і ў танцы не такая спрытная, як бедныя дзяўчаты:

Багатая німудрая,
Пад мяжою спала,
А бедная нішчасная
Тры копі нажала (99).

Найпрыхільней ставіцца народ да беднай сіротанькі, якая «што вазьме, ды зробіць». Сватаючыся да беднай дзяўчыны, хлопец не патрабаваў ад яе ніякага пасагу:

...Ой ты мне пасаг самая,
Як на небе зора ясная (199а; гл. таксама 198).

Лірычная гераіня народнай песні звычайна разумее, што хлопцу, які яе верна любіць, яна наймілейшая, таму, вышываючы любаму кашулю, гаворыць да маці:

...Кажуць, кажуць, мая матко,
Што я не хароша,
А я свайму міленькаму,
Як у садочку рожа.
Кажуць, кажуць, мая матко,

Што я не багата,
А я свайму міленькаму
Поўна злота хата.
Кажуць, кажуць, мая матко,
Што я невялічка,
А я свайму міленькаму
Як перапелічка.
Кажуць, кажуць, мая матко,
Што ніпазарная,
А я свайму міленькаму
Як зора ясная (205).

Аналагічныя матывы шырока ўпляталіся і ў беларускія вясельныя песні (624).

Шлюб па прымусу быў звычайнай з'явай у дарэвалюцыйны час. Многія песні адлюстравалі цяжкае жыццё жанчыны ў чужой сям'і. Таму так многа песень пра горкі лёс сярод «сямейных» (1206—1547). Сумныя гэта песні, мінорныя. Але побач са скаргамі на цяжкае жыццё ў чужой старане, якая «вельмі невясёла, на грудзі нездарова» (566), у некаторых любоўных і сямейных песнях, відаць, больш позняга паходжання, сустракаем ужо і даволі рэзкі пратэст супраць прымусовага замужжа. Моладзь адчувала, што сваю чалавечую годнасць трэба бараніць. Гэта адбілася і ў народных песнях (445, 446, 458, 459, 1324, 1504, 3340 і інш.).

Дзяўчына разумее, што пайсці за нялюбага — гараваць увесь век, таму выражае гэта ў такіх сурова-праўдзівых словах, у якіх ад маўклівай пакоры не асталося і следу:

Вох! лепш я буду горы капаці,
Як з нелюбым свой век каратаці.

Горы капаўшы, сяду, сапачыну,
А з нелюбым навекі загіну.
Лепш я буду горкі палын есці,
Як з нелюбым за столікам сесці.
Во, палын еўшы, вадзіцы нап'юсе,
А з нелюбым навек утаплюсе (3340).

Яшчэ больш выразна пачуццё ўласнай годнасці выказана ў песні 496. Людзям, якія яе абгаворваюць, дзяўчына кідае горда і незалежна:

Ой, няхай судзяць, ой, няхай гавораць,
А мае натуры не перастановяць.

Калі ж усё-такі дзяўчыну аддавалі за нямілага, то і тады яна часта выказвала сваю незадаволенасць бацькам. У адной з песень хлопец, даведаўшыся, што яго каханую сасваталі за другога, ідзе да яе пад акно і чуе, як дзяўчына, заручаная з нялюбым, адзываецца да маткі:

...Маці, маці, параднічка ў хаці,
Парадзь жа мне, што людзям сказаці:
Ці ручнічкі на людзі раздаці,
Ці мне легчы на іх паміраці?
Выкапайце широку магілу,
Пасадзеце чырвону каліну,
Тудэю будзе зезюлька летаці
Яна будзе жалобне каваці,
А мне будзе лёгенько лежаці (477).

Сярод лірычных любоўных песень, запісаных М. Федароўскім, знаходзім многа такіх, якія да сённяшняга дня бытуюць у народным рэпертуары па ўсёй Беларусі: «Ой, рэчанька,

рэчанька» (38), «Не ўсе лугі пакошаны» (99, 100, 153), «Ой ляцелі гусі з броду» (117, 118), «Ляціць сарока» (124, 125), «Што за месяц, што за ясны» (432), «А ў полі вярба» (478—482), «Ой, пад гаем, гаем» (559), «Ой, пайду я лугам, лугам» (1295, 1362—1366) і інш.

Многія з запісаных этнографам варыянтаў даюць магчымасць сцвярджаць, што пэўныя беларускія народныя песні, якія спяваюцца цяпер і вядомы вельмі шырока, «выраслі» з тых, што бытавалі ў першароднай форме ў XIX ст. і яшчэ раней. Яны, разам з варыянтамі, занатаванымі другімі этнографамі, могуць быць добрым матэрыялам для таго, хто захоча прасачыць гісторыю бытавання і трансфармацыі якой-небудзь канкрэтнай песні. Напрыклад, сучасны варыянт песні «Ой, ляцелі гусі з броду» мае свой прататып у песнях 117, 118, запісаных Федароўскім. Яны, аднак, толькі агульнай схемай нагадваюць песню, што разгулялася пазней і набыла той тэкстуальны і рытма-меладычны выгляд, у якім мы яе ведаем цяпер. Сучасны варыянт песні «Ой, рэчанька, рэчанька» таксама розніцца ад змешчанага ў пятым томе «Люду беларускага» не толькі словамі, але і большай распеўнасцю мелодыі, шырэйшым эмацыянальным дыханнем. Цікава таксама, што тэкст песні «Ляціць сарока» (125), запісаны М. Федароўскім амаль 90 гадоў назад, на дзіва трывала замацаваўся ў памяці народа, бо, па сутнасці, у тагачасным выглядзе спяваецца на ўсёй тэрыторыі Беларусі і сёння.

У раздзеле любоўных песень пад рубрыкай «Кепская доля» змешчана песня 415, вобразнасць якой адразу спыняе нашу ўвагу і пера-

носіць думкамі да старажытнай паэзіі эпохі Кіеўскай Русі:

Горо ж маё, горо,
Нешчасная доля,
Загарала дзеўчыненька
Мысленькамі поле (2 р.).
Не так загарала,
Як завалачыла,
Дробненькімі слёзанькамі
Поле ўсё зрасіла (2 р.).

Як тут не ўспомніць поле, тугою аранае, слязьмі паліванае, з «Слова аб палку Ігаравым».

«Многа песень,— успамінаў Федароўскі,— я запісаў у міцкевічаўскім Завоссі і найбліжэйшых ваколіцах (размешчаных каля Калдычэва)» [377]. Да яго трапілі і песні з Навагрудчыны, запісаныя Межаеўскім [378]. Сярод іх — цікавыя варыянты любімай беларускай народнай песні Адама Міцкевіча «Ой, цераз мой двор цяцера ляцела» (1232—1233). Варыянт яе ёсць таксама сярод песень любоўных (444).

Творы беларускай каляндарна-абрадавай і сямейна-абрадавай паэзіі былі шырока прадстаўлены амаль ва ўсіх дарэвалюцыйных зборніках фальклору. Але Федароўскім запісана многа новых, да яго невядомых. Шматлікія вясельныя песні публікаваліся ў зборніках П. Шэйна, Е. Раманава і інш. Багата запісаў іх і Федароўскі. У пятым томе «Люду беларускага» іх 616. У архіве этнографа асталіся яшчэ і неапублікаваныя: у апісаннях Лідскага вяселля (79 нумароў) [379], Пружанскага [380] (103 нумары), а таксама некаторыя іншыя за-

пісы са Слонімшчыны і Ваўкавышчыны. Усяго разам з надрукаванымі каля 1000.

Сярод вясельных песень, запісаных М. Федароўскім, шмат сапраўды высокамастацкіх, напоўненых глыбокім лірычным пачуццём. Яны раскрывалі ўнутраны свет народа, яго душу. Асабліва ж яркія па сіле пачуцця сярод іх — афарбаваныя часам мінорнымі, журботна-сумнымі, а то і трагічнымі нотамі вясельныя песні, што спяваліся сіраце. Дзяўчыне, у якой памерлі бацькі, увогуле цяжка жылося. Але яшчэ цяжэйшы станавіўся яе лёс у чужой сям'і. Сіраце нават не было каму паскардзіцца на сваю горкую долю. І таму ў песнях, якія спяваліся на вяселлях сіротам, столькі спачування, столькі шчымлівай горычы і жаласлівай трывогі.

У песнях сірата часта звярталася да памерлых бацькоў, каб прыйшлі благаславіць на шлюб або дазволілі каравай рашчыняць (паводле звычаю бацькі давалі каравайніцам дазвол мясіць каравайнае цеста). Сумны адказ выслухоўвала сірата, яе бацькі скардзіліся, што яны старэнькія, падняцца не могуць, бо замкнёныя на тры замкі:

Першы замочак —
Зялёна мураўка.
А другі замочак —
Жоўты пясочак.
Трэйці замочак —
Цесовая дошка (601).

У песнях, што спяваліся на вяселлях, народ павучаў моладзь, як сябе паводзіць на людзях, у сям'і. Таму ў адной з іх ёсць зварот да

дзяўчат, «каб яны вянкоў (цноту) шанавалі, сваю красату хавалі» (599). Гэта павучанне ішло са звычаёвага кодэксу маральнага жыцця беларусаў: адвечны звычай дазваляў вясельнай дружыне публічна насміхацца з дзяўчыны, што страціла вянок, а таксама з яе маткі, якая не ўсцерагла дачкі. Ім надзявалі на шыю хамуты і праганялі праз вёску. Матцы на вяселлі ў такім выпадку ставілася вышчарбленая міска. Адбілася гэта звычаёвасць і ў адной з песень, дзе спяваецца:

Ой, уцякай дзеванька,
Не сядзі тут (2 р.),
Бо ўжэ сватко нясе
Місу і хамут (2 р.) (973).

Многа паэтычнасці ў песнях, дзе ўслаўляліся каравайніцы (608, 610, 611 і інш.). Ёсць між іх шэраг гумарыстычных, жартоўных (606, 607 і г. д.). Дасціпна, напрыклад, жартавалі спявачкі са старшай каравайніцы, якая «цеста пакрала, у кішэнь паўкладала», але «як пайшла танцаваць, стала цеста выпадаць», або з тае немудрагелістай весялухі, якая «сама сабе да бяду шчаўпла, на прыпечку да трыбух спякла» (996).

Даставалася ў вясельных песнях і свату (1029—1032 і інш.), які як сватаў, то сказаў, што ў маладога сем валоў, а маладая як прыйшла, то «аднаго знашла без хваста, без хваста» (595). Вельмі часта высмейваўся і знешні выгляд свата, свацці (1034). Часам пад колкае гумарыстычнае слоўца траплялі нават малады з маладою.

У многіх песнях маладому хлопцу звычайна раілі, як сябе паводзіць сярод людзей, якую дзяўчыну браць за жонку:

Ой, не едзь, Ясю, дзе цябе не любяно,
Але едзь, Ясю, дзе цябе спадабано
(запрашано),
Там ужэ для цябе варота паадмыкано.
І не выбірай, Ясю, каторая гладка,
Сам глядзі, у людзей пытай, чы мецена хатка.
Не ўважай, Ясеньку, каб была росла,
Сам глядзі, у людзей пытай, чы ўмее ткаць
кросна.
Не глядзі, Ясю, чы ў пацёрках шыя,
Сам глядзі, у людзей пытай, чы кашулю ўшые,
Не ўважай, Ясю, чы пекне ў танцу ходзіць,
Сам глядзі, у людзей пытай, чы усенько
зробіць (619).

У другой песні маці павучае сына, каб вёз дадому не пышную і багатую, а бедную сірату (673). А вось як паэтычна апісвае песня пераезд нявесткі ў дом свёкра. Яе спявалі ў час пярэбараў у дом маладога, калі маладая займала месца каля стала[381]:

...Мая нявехна вумная:
Праз шчырые барэ куною ляцела,
Праз быстрые рэкі вуткаю плыла,
Ў чыстым полі каліною стала,
К сваему свекратку на двор імглою ўпала,
У новыя сені пчалою ўляцела,
Ў новую камору яснаю зарою,
На белую ложу паннаю лягла.
З ложы ўстала, паняю стала,
Свекратко не пазнаў
Да панею назваў.

Свекратку, мой бацюшку,
Не есць я пані, я Валыначка,
У гэтым домі гаспадынечка
(868, а таксама 1028).

Акрамя гэтай песні, у якой сустракаем імя Валыначкі, ёсць і іншыя з гэтым вобразам (811, 869). Як адзначыў У. Дубоўка, «у некаторых нашых народных казках сустракаецца ўпамінанне пра дзяўчыну Валыначку, прычым адзначана, што калі яе пабачыла Сонца, дык некалькі гадзін на адным месцы прастаяла ад захаплення і здзіўлення» [382].

Гаротны лёс жанчыны ў капіталістычным грамадстве, двайная няволя — у доме мужа і ў грамадстве,—бы ў люстры, адбіліся ў сямейных песнях. Як цяжка жылося маладзіцы ў доме злоснага свёкра і невыноснай свекрыві, расказваюць многія песні (1222—1225 і інш.). Характэрна, што ў беларускім фальклоры зафіксавана надзвычай мала песень, дзе апяваецца добрае жыццё маладой жанчыны ў доме свекрыві. Адна з іх («Ой, у садзе каліна») запісана на пачатку XIX ст. у Гродзенскай губерні:

Ой, у садзе каліна
Стаіць чырвоная,
Кажуць, мамка, людзі,
Што я маладая,
Я ж ні маладая,
Така мая ўрода:
У маей свякроўкі
Добрая выгода.
Калодзезь на дворы,
Вядзерка на ключы,—
То мне вяселенька
Па вадзіцу йдучы [383].

Не абышла народная песня і матываў нявернага шлюбнага жыцця. Пра няверную жонку, якой муж, вяртаючыся з паходу, вязе

«нагай драцяны», расказвае ў Федароўскага песня 1287. Гэты ж самы сюжэт сустракаецца і ў песнях 1267, 4113. Сугучная ім таксама песня 1277.

Уражваюць песні 1358—1359, якія расказваюць пра... жонку-п'яніцу. Часам мужык не мог яе нават палаяць, «бо ты ўбогі, я багата, мая праўда, мая хата» (1354). Але куды больш песень расказвала пра гора той маладзіцы, муж якой знаўся са «шкляным богам», а, прывалокшыся з карчмы, «забіваецца», прымушае «раззуваць, раздзяваць, дробны гузічкі расшпіліваць».

Многія песні з разраду сямейных — сацыяльна паглыбленыя. Так, песня 1258 расказвае пра несправядлівасць багатых гаспадароў да наймітаў, да беднай сіраты, якая пайшла служыць чужым людзям. Пра тое, які цяжкі парабчанскі хлеб, паэтычна расказвае песня 1510, у якой сірата, ідучы са слязьмі «на службаньку», вядзе сваю песню-жальбу:

...Каб рабіла, надрабіла, ручкі адрабіла,
Такі мая работанька нікому ні міла,
Каб рабіла, надрабіла, ночкі ні даспаўшы,
Судзіць міне мая пані, людзей прынаняўшы.
А калі дасць яна хлеба як кленоў лістэнько,
То ўвечары пытаецца: Ці ты з'ела ўсенько?
А божа мой мілюсенькі з высокага неба,
Не дай, не дай жэ нікому служэбнага хлеба,
Служэбны хлеб вельмі смашны, да не пажытэчны,
Бо хто яго анно ўкусіць, той заплакаць мусіць.

Калі б у гэтай песні не было ніякіх іншых вобразаў, а толькі параўнанне кавалачка хле-

ба, які пані дае сіраце, з кляновым лісточкам, то і тады яе можна было б уважаць за ўзор самай высокай, самай чыстай і хвалюючай паэзіі.

Паэтычныя вобразы маці, мілай і сястры створаны ў песні 1391, дзе расказваецца пра пасечанага казака, да якога прылятаюць тры зязюлькі:

Плача міла да нядзелі,
А плача сястра аж да року,
А маці плача аж да веку.

Калі памірала маці, цяжка было гадавацца малым дзецям. Бацька мог ажаніцца з другою, але мачаха — не родная мамка, яна, як гаворыць песня, «хоць не вытне, то ўшчыпне, такі дармо не міне». Пра горкае, бязрадаснае дзяцінства сірот у доме мачахі можна даведацца з песень 1539—1542.

М. Федароўскім запісана многа дзіцячых песень, калыханак («Люд беларускі», т. V, раздзел «Дзеці»). У архіве этнографа яшчэ захоўваецца вялікая колькасць недрукаваных дзіцячых песень, лічылак, прыказачак, асабліва народных дзіцячых гульняў са Слонімскага, Ваўкавыскага, Сакольскага паветаў[384]. Сярод іх песні і пацешкі «Кую, кую ножку», «Сарока-варона», «Быў сабе чалавек Саўка», «Я каза дзераза», «Ласачка, дзе была», «Слімак, слімак, выпусць рожкі», «Мая курка злата-пюрка» і інш.; гульні «Верабей», «Саўка», «Воўк і гусі», «Таўкачыкі», «Кот і мышка», «Рваць рэпку», «У жмуркі», «Курта», «Заяц», «Рэпка», «У куры», «У стоража», «Цыган», «У арэхі», «Вавёрка» і інш.

Раздзел каляндарна-абрадавай паэзii пачынаецца ў пятым томе «Люду беларускага» вяснянкамі (1548—1552). Прыход вясны, што прынесла «дзяўчатам па вяночку, маладзiцам па сыночку, старым бабам па кiёчку», паэтычна намаляваны ў песнi 1550, якой, як пiша Федароўскi, «звычайна пасля першага грому або павеву цяплейшага ветру вясковыя дзецi, збягаючыся на вулiцы сяла ў групкi, вiтаюць набліжэнне дзён цяпла, забаў i вольных гульняў пад адкрытым небам»[385].

З песень абрадавых М. Федароўскi запiсаў параўнаўча невялiкую колькасць толькi калядных. Затое сабраў шмат валачобных, юраўскiх i жнiўных — твораў, найбольш поўна прадстаўленых у беларускiм фальклоры ў параўнаннi з вуснай народнай творчасцю iншых славянскiх народаў.

«У ноч з першага на другi дзень велiкодных свят,— пiша М. Федароўскi пра вялiкдзень у Ваўкавыскiм павеце,— хлопцы пры гуках скрыпкi падыходзяць да хат, у якiх знаходзяцца дзяўчаты на выданнi, i пад вокнамi спяваюць (далей iдзе песня 1617, якую спявалi як у Лiдскiм, так i ў Ваўкавыскiм павеце.— **Я. С.**). Пасля гэтай песнi хлопцы звычайна коратка вiншуюць дзяўчыну, напрыклад, «Каб зрасла, зкрасла, за харошага малайца замуж пайшла»[386]. Этнограф пры апiсаннi свят i абрадаў падкрэслiваў як супольныя iх рысы ў розных мясцовасцях, так i розніцу. «У ваколiцах Слонiма,— пiша ён,— велiкодныя абходы суправаджаюць тыя самыя звычаi, што i ў Ваўкавыскiм (павеце), з той толькi розніцай, што хлопцы, якiя прымаюць у гэтых абходах удзел, называюцца не валакольнiкамi, а ралес-

нікамі, і спяваюць, мінаючы хлопцаў, адным толькі дзяўчатам. Абходы ралеснікаў пры водгаласе скрыпак адбываюцца тут у той час, што і ў іншых мясцовасцях Літоўскай Русі, г. зн. у ноч з першага на другое свята. Затрымаўшыся перад акном хаты, ... спяваюць наступныя песні (падаюцца песні 1587—1589. — **Я. С.**)»[387].

М. Федароўскі запісаў многа валачобных песень, якія стварыў наш народ. У гэтых песнях народ славіў вясну, родную зямлю, працу і чалавека. Дзейнымі асобамі некаторых валачобных песень з'яўляюцца святыя. Гэта зусім рэальныя тыпы, створаныя фантазіяй народа. Такія песні былі запісаны і да Федароўскага і ім самім (1554). Але паўнейшы тэкст з мелодыяй (па велічыні падобнай песні няма ўвогуле ў публікацыях беларускага фальклору — 274 радкі тэксту без рэфрэна) захоўваецца ў архіве Федароўскага [388]. У ёй пералічаны ўсе гадавыя святы, пачынаючы ад каляд. Змест песні вельмі падрабязна раскрывае ўвесь цыкл сельскагаспадарчых работ. Прывядзем урывак з яе:

...А потым таго
Святый Юр'я,
Святый Юр'я
Едзець на кані
На сівенькім,
На пляснівенькім,
З неба з'яжджаець,
З богам гукаець:
Божачка мой,
Падай жа ключы
Усё зямныя,
Пазлачаные
Атамкнуць зямлю,
Выпусціць расу,
Выпусціць расу
На красну вясну.
А потым таго
Святое Велічко.
Святое Велічко
З красным яечкам.
Тое яечко
На пасвенцане,

Старым, малым
На разгаўляне,
Малым дзетачкам
На пагуляне.
А потым таго
Святый жа Барыс.
Ён коні пасець
У зялёных лугах,
У зялёных лугах,
У шаўковых травах.
Коні напасець,
Дамоў прывядзець,
Прывёўшы дамоў,
Закладываець.
Закладываець
І барануець.
Барануець,
Поле раўняець.
А потым таго
Міколін бацька
З сявалачкай
Яр засяваець.
Первая сяўба
Белый гарошак.
Втарая сяўба
Яра пшаніца,
Яра пшаніца,
Ўсякая пашніца.
Авёс вяцістый,
Ячмень пляцістый,
А гарох стручыстый.
Пшаніца бела
Удала была.
А потым таго
Сам Мікола.
Сам Мікола
Нет яго дома.
Нет яго дома,
Пашоў у поле.
Пашоў у поле
У межэвое.
Па межах ходзіць,
Ён жыто родзіць.
А дзе гусценька
Там радзі божа.
А дзе радзенька
Там гусці божа.
А потым таго
Святое Ушэсце.
Святое Ушэсце
Колас выносіць.
А потым таго
Святая Тройца.
Святая Тройца
Жыто красуець.
А потым таго
Святый Дзевятнік.
Святый Дзевятнік
Краску снімаець,
А Дзесятуха
Ядро ўкладаець.
А потым таго
Святый Іван.
Святый Іван
Ён наліваець.
А потым таго
Святый жа Петра.
А святый Петра
Жытцо спяліць.
А потым таго
Іліная Пяценка.
Іліная Пяценка

Сярпочкі зубіць.
А потым таго
Сама Ілля.
Сама Ілля
Старая жняя
Зажынаець.
Залатым сярпом
Срэбраным саўём[389],
Што разок разнець—
Снапочак нажнець.
Што другій
разнець —
Так другій нажнець.
Гдзе гарушачка —
Там капушачка,
Гдзе лажочак —
Там стажочак...

У валачобных песнях велічальнага характару, аптымістычных зместам, «меладыйна-ладавая структура якіх заўсёды мажорная»[390], у гіпербалічна-эпічных вобразах раскрываюцца з'явы рэальнага свету. Вось як малюе народная песня вобраз гераічнага каня, на якім ездзіць «слічны панічык»:

...Ён вушыма сем міль чуя,
А очкамі гвязды лічыць,
Хвосцікам след замятае (1561).

Падобнае апісанне каня знаходзім у велічальнай валачобнай песні, запісанай у 1932 г., у в. Яцкава Валожынскага павета вялікім знаўцам беларускай народнай песні, яе нястомным збіральнікам і прапагандыстам Рыгорам Рамaнавічам Шырмам[391].

М. Федароўскім запісана некалькі валачобных песень, у якіх сустракаецца ўпамінанне пра малую тонкую канапельку (1564, 1596, 1610). На іх звярнуў увагу славуты югаслаўскі фалькларыст Мілаван Гавацы. Вось што піша ён, рэцэнзуючы і вельмі высока ацэньваючы пяты і шосты тамы «Люду беларускага»: «Змест гэтых двух тамоў, як і папярэдніх,

важны не толькі для фальклярыстыкі беларусаў і іх суседзяў як з боку мелодый, тэкстаў песень, іх функцый, значэння і г. д.; тут знаходзім на многіх старонках тэксты, якія абуджаюць выключную ўвагу, таму што выклікаюць параўнанні са шматлікімі надзвычай падобнымі ў астатніх, а менавіта ў некаторых паўднёвых славян. Даволі будзе толькі аднаго невялікага прыкладу з гэтых двух тамоў: у некалькіх варыянтаў адной песні першы верш «Мала, тонка, канапелька», менавіта такі, які сустракаецца і ў некаторых харвацкіх кайкаўскіх песеньках «Tanka mala konoplica». Хоць тэксты па абодва бакі і разыходзяцца зместам, цяжка было б зміріцца з думкай, што тут амаль тоесныя вершы створаны так выпадкова, незалежна адзін ад другога па абодва (цяпер так аддаленыя) бакі ў беларусаў і кайкаўскіх харватаў, і то менавіта першыя вершы (і ў абодвух выпадках да таго яшчэ ў песнях абраднага значэння!)...» [392]

Сярод беларускіх абрадавых песень (калядных, валачобных, троіцкіх і русальных, купальскіх) сустракаюцца і такія, у якіх загадваюцца загадкі. Іх не вельмі многа. Ёсць яны ў запісах З. Радчанкі (Гомельские народные песни. Спб., 1888, стр. 18, № 49), П. Шэйна (Материалы..., т. I, ч. I, стр. 179, № 170; стр. 184, № 177; стр. 494, № 608; стр. 499, № 612 і г. д.), дзве валачобныя з загадкамі запісаў Я. Ф. Карскі («Русский филологический вестник», XXI, стр. 252—253, № 70, 71). Міхал Федароўскі таксама запісаў чатыры валачобныя песні, у якіх загадваюцца загадкі (у паветах Ваўкавыскім (1591), Слонімскім (1589), Лідскім (1615) і Навагрудскім (1556)). Пра змест

трох з іх Ян Карловіч пісаў у 1890 г. у «Вісле», калі разглядаў падобныя польскія песні[393].

Да песень з загадкамі блізкія некаторыя троіцкія і русальныя (Я. Карскі[394] сцвярджае, што яны павінны быць аднесены да купальскіх), дзе выводзіцца загадкавы вобраз дзяўчыны-семілеткі, якой хлопцы таксама загадваюць загадкі. Раней у падобных песнях выступаў вобраз русалкі, але ўжо ў канцы XIX ст. ён сустракаўся рэдка, таму збіральнікі адносілі падобныя творы ў розныя раздзелы: у карагодныя, жартоўныя і г. д. Аналагічныя песні трапляюцца і ў рускім фальклоры (П. Шэйн. Великорусс в своих песнях, обрядах, обычаях, верованиях, сказках, легендах и т. п., т. I, вып. I, Спб., 1898, стр. 232, № 87) і ўкраінскім (П. Чубинский. Труды этнографическо-статистической экспедиции в Западно-русский край, т. III, Спб., 1872, стр. 190, № 7). Беларускі варыянт знаходзім у З. Радчанкі (стар. 44, № 17).

Адна такая рэдкая песня пра дзяўчыну-семілетку (36) запісана М. Федароўскім ад Анэлі Масаль у в. Шчасновічы Слуцкага павета. Ён таксама змясціў яе сярод любоўных, бо ніякіх спецыфічных адзнак гэты твор не мае.

Я. Карскі[395] тлумачыць паходжанне вобраза дзяўчыны-семілеткі з народнага павер'я, паводле якога душы мёртванароджаных або памерлых няхрышчанымі дзяцей сем гадоў лётаюць у паветры з просьбай, каб іх ахрысцілі. Калі ніхто не наложыць на іх крыжа, то яны праз сем гадоў ператворацца ў русалак.

У пятым томе «Люду беларускага» змешчаны шматлікія купальскія песні, сабраныя М. Федароўскім у розных паветах. Прывядзем

спачатку апісанне гэтага свята, як яно адзначалася на заходнебеларускіх землях: «Дасюль на ўвесь Ваўкавыскі павет старажытныя купальныя святкаванні,— пісаў Федароўскі,— захаваліся толькі ў ваколіцы, якая прылягае да Ружанскай пушчы, менавіта паблізу мястэчка Лыскава, дзе люд тамтэйшых вёсак (Кавалёўцы, Куклічы, Верашчакі, Грушаўцы і інш.) на Яна па адвечным звычаі з надыходам змроку штогод запальвае велізарныя кучы назношанага пастушкамі хворасту і галля часам нават пасярод вёсак...

Назаўтра... абыходзяць вакол палеткаў з *кустам або Купалай.* Для гэтага з самай раніцы дзяўчаты, выбраўшы адну са свае кампаніі, убіраюць ёй галаву кветкамі (купалкамі, што цвітуць жоўтым цветам) і надзяюць звіты з быліцы вянок, прытым усю яе літаральна ад галавы да ног прыбіраюць у зелень да такой ступені, што знешнім выглядам яна і сапраўды нагадвае куст, пакрыты квеценню. З упрыгожанай такім спосабам таварышкай, якая ўжо з гэтага моманту носіць назву *куста* альбо *Купалы*, увесь дзявочы карагод з песнямі і водгаласам скрыпак вырушае ў поле, куды спяшаюцца за імі групкі хлопцаў-парабкаў, старых і маладых жанчын, а таксама дзетвары, якая то стараецца ўсіх апярэдзіць, то зноў трэцца паміж людзьмі, стараючыся ўсё падгледзець цікаўнымі вочкамі. Абышоўшы навокал палеткаў збожжа, якія цудоўна хвалююцца ўжо ў гэтую пару, уся дружына са спевамі, якія не сціхаюць ні на адну хвіліну, накіроўваецца ў бок карчмы. Зайшоўшы сюды, першнаперш садзяць на покуці *Купалу*, якая ўвесь час, пакуль цягнецца ўрачыстасць, знаходзіц-

ца ў вялікай пашане. Пасля, як толькі скончацца спевы, сярод віску, крыку і агульнай весялосці пачынаецца бяседа, гулянне, у час якога хлопцы, што тут прысутнічаюць, стаўляюць перад дзяўчатамі мёд і піва. Святкаванне гэтае канчаецца вясёлай пагулянкай, якая пераплятаецца танцамі і розным гульнямі»[396].

Характэрна, што ў некалькіх купальскіх песнях, запісаных М. Федароўскім (1659, 1697), знаходзім апісанне самога абраду, народнага гуляння, што ў песнях увогуле бывае не часта:

Рана, рана на Яна
Стагнала зямліца з Купала,
Бары шумелі із песень,
А сяло разлягала з музыкаў (1659).

Песня з Навагрудчыны мае зварот да сонца:

Сягодня Купало, а заўтра Ян,
Заграй, сонейка, заграй нам,
Каб у ясном небе звінело,
Каб сырая зямліца стагнала
Ад дзевацкаго гулянья,
Ад жаноцкаго спяванья (1697).

Старажытнасць купальскіх песень вядомая. Дарэчы, Федароўскаму іх падавала 80-гадовая Праксэда Гаўрыльчык з в. Кадычыцы на Навагрудчыне (1656а), у рэпертуары якой найбольш песень абрадавых, старажытных па паходжанні. Найбольш старажытныя купальскія песні, відаць, тыя, што ў паэтычных вобразах данеслі да нас водгукі язычніцкіх вераванняў. Такой у запісах Федароўскага з'яўляецца як

песня 1697, так і тыя (1669, 1670), дзе ўпамінаецца ведзьма, якой у купальскую ноч «выпеклі вочы», «каб расы не збірала», «каб жыта не круціла», «каб красы не здзіўляла».

Шмат запісана Федароўскім таксама юраўскіх песень (1621—1651). Змест многіх з іх — услаўленне чалавека і прыроды, жаданне добрага плёну ў гаспадарцы. Юр'я ў іх — менш святы, больш земляроб, які «па межах хадзіў, жыто радзіў» (1651). У юраўскіх песнях часта раскрываецца ўвесь працэс працы над хлебам: ад сяўбы да бохана на стале (гл., напрыклад, песню 1634). Этнограф пакінуў шматлікія апісанні абраду Юр'я ў многіх мясцовасцях: на Пружаншчыне, Ваўкавышчыне, Слонімшчыне, Лідчыне [397]. Найбольш юраўскіх песень запісаў М. Федароўскі ў Лідскім павеце (1626—1651). Разам з апісаннем свята яны былі надрукаваны З. Глогерам яшчэ ў 1883 г.[398] «У дзень Юр'я (23 красавіка),— пісаў М. Федароўскі,— у ваколіцах Ліды, Шчучына і Жалудка да гэтай пары захавалася адвечнае святкаванне, у якім прымаюць удзел толькі дзяўчаты і адзін музыка, што падыгрывае спевакам. Гэта святкаванне падобнае да таго, якое ў Ваўкавыскім павеце адбываецца падчас вялікадня. Тут дзяўчаты, якія найлепш спяваюць, сабраўшыся пад вечар, убіраюць галовы пралескамі і іншымі кветкамі, якія пачынаюць распускацца вясной, з вясёлай песняй выбіраюцца на цэлую ноч, каб абысці ўсе бліжэйшыя двары, засценкі і сёлы, усюды прынесці свае віншаванні і весялосцю, спевам і музыкай напоўніць вясковыя абшары. Гэты звычай вельмі прыгожы і напэўна такі стары, як і тыя песні, у якіх прабіваецца дух даўно мінулых

часоў, калі дзяўчаты ў вянках з веснавых кветак спявалі абрадавыя песні ў гонар Вясны сярод гаёў і дубоў. Калі, прыбыўшы ў гэтую старану, я першы раз ехаў у зацішную веснавую ноч і неспадзявана пачуў у далечыні водгалас песні, якая плыла па далінах, курганах і вадзе, гэта зрабіла на мяне нейкае дзіўнае расчульваючае ўражанне і перанесла мысль і дух у даўнейшыя часы, да калыскі нашых народных славянскіх абрадаў і звычаяў.

Па шляхецкіх ваколіцах у Лідскім павеце падобныя абходы робяцца не на Юр'я, а на вялікдзень; у іх прымаюць удзел мужчыны» [399].

Сярод абрадавых песень, звязаных з уборкай ураджаю, цэнтральнае месца належыць жніўным песням. У беларускім фальклоры іх значна болей, чым у другіх славян. У многіх з іх народ выказваў імкненне атрымаць добры ўраджай, давесці яго да ладу і парадку, уславіў працу жней.

П. Шэйн сярод жніўных песень выдзяляў раздзел «Спарышовых» [400]. У адной з песень, запісаных Шэйнам, ёсць зварот да Спарыша, каб той прыспорыў «у доме і ў полі, і ў клеці і ў печы» [401]. У заходнебеларускіх паветах існавала павер'е пра Спешку-Спарышку. Яно запісана М. Федароўскім: «Спешка-Спарышка — гэта нейкая нябачная істота, якая прыспарае боскіх дароў, таксама прыносіць поспех занятым працай жанцам. Без яе чалавек не вытрымаў бы доўга ў працы, бо слабасць, завалодаўшы ім, хутка не дала б яму давесці да канца пачатай работы. Так мяркуючы, жнеі, прыйшоўшы на поле, ніколі адразу не бяруцца за работу, не пасядзеўшы некалькі

хвілін насупраць свайго загона, бо «трэба паждаць», кажуць, «каб прышла Спешка-Спарышка», «каб прышла і спех прынясла». А робяць так штодзень два разы, г. зн. адразу ж зранку, пры распачынанні работы і пасля палудня. Пры зажынанні звычайна хрысцяцца і кажуць:

Спешка-Спарышка,
Прыляці да міне
З буйным ветрыкам,
На белым матыльчыку,
І дай божа лёгко,
І вечар недалёко.
А хто ўперад пачаў,
Каб ён ззаду стырчаў,
А я апошня,
Каб была раскошна [402]

Цікавыя заўвагі М. Федароўскага пра тое, як і калі спявалі жанчыны-жнеі. Яны тым больш цікавыя, што ў этнаграфічнай літаратуры такіх заўваг амаль не сустрэць. «Паміж 11 і 12 гадзінамі,— піша Федароўскі пра жніво ў Лідскім павеце,— жанцы ідуць на *абед* (выдзяленні Федароўскага.— **Я. С.**), а каля гадзіны 4-й на *палудзень*. Першую песню, якую голас нясе сярод палеткаў раскалыханага збожжа, можна пачуць ледзь толькі перад самым палуднем, раней спяваць не пачынаюць ніколі [403]. Мелодыя жніўных *(леташніх)* песень хоць сваёй аднастайнасцю замест захвочваць да работы калыша да сну, мае, аднак, шмат той панурай тугі, на адгалосак якой западаеш у глыбокую задуму. Тут ніколі не пачуеш той вясёлай кароткай песенькі, рэха якой гучна адбіваецца аб скалы кракаўскай зямлі. Там дзяўчына жартам вядзе размову ў песні, не перапыняючы гарачай працы, тут наадварот, бо для праспявання песні становяцца побач дзве дзяўчыны і, узняўшы галовы

ўгару, павольна, дрыжачым манатонным голасам выказваюць словы песні. Пара пару выручае, бо для праспявання наступнага куплета дзве другія жняі заступаюць месца сваіх папярэдніц, каб з павагай капланак, залажыўшы сярпы на галаву, зацягнуць працяг недакончанай песні»[404]. Тут М. Федароўскі прыводзіць тэксты песень 1812, 1815, 1819, 1829[405] і робіць заўвагу, што «ўсе жніўныя спяваюць тут (г. зн. у Лідскім павеце.— **Я. С.**) на ноту ваўкавыскіх».

Сярод чарнавікоў этнографа захаваўся запіс забабона, што «жанцом спяваць зранку німожна, бо дождж будзе падаць». Запісаны ён у в. Куклічы каля Лыскава[406] і звязаны з верай у магічную сілу слова. Жніўныя песні адлюстроўвалі цяжкую працу жней, іх працавітасць, уменне і спрыт. У многіх — малюнкі цяжкай працы жанчыны-сялянкі часоў прыгоннага ладу. З абвастрэннем класавых супярэчнасцей, развіццём грамадскай думкі ў жніўных песнях з'явіліся матывы сацыяльнага пратэсту, народ пачынае адкрыта выказваць сваю нянавісць да эксплуататараў-прыгоннікаў. У такіх песнях створаны вобразы злоснага пана-прыгнятальніка, ліхога аканома:

Ой, гудкі гудуць да гудуць,
А ўжэ людкі палуднаюць.
Вы гудзеце ні гудзеце,
Мы палуднаць не будземо,
Бо наш пан жэ ж вельмі злосны,
Наш палудзень будзе позны (1769).

Ой, у нашага пана,
Вох, да недобрая слава:
Па месяцу жыто жалі,

А па зорах у копы клалі
Да і сярпэ пагублялі (1796).

Песня праклінае крыўдзіцеляў:

Цёмна ночка, цемнюсенька,
Бадай тому цямней стало,
Хто нас рано выганяе,
А позненько не пускае.
Занясі, божа, яго душу
На калюшчую грушу,
А на кол яго бокам,
На спіц яго вокам (1773).

У архіве Федароўскага захаваліся цікавыя недрукаваныя тэксты беларускіх народных песень сацыяльнага зместу. У іх паказваецца ўвесь цяжар жыцця пры паншчыне, адлюстроўваюцца здзекі паноў і падпанкаў, цівуноў і аканомаў з беднага сялянства. Сярод песень, дасланых этнографу з Пружаншчыны, ёсць тэкст «Зайшоў мужык да карчомкі»[407], у якім гістарычна праўдзіва і смела раскрыты жудасныя ўмовы жыцця прыгонных. Вось урывак з гэтай песні з захаваннем усіх асаблівасцей запісу, які адлюстроўвае пружанскі дыялект:

На Валыні віцёр віе,
На Падляшы ціхо.
Сэб ты відаў пане братэ,
Шчо у нас за ліхо.
Ой, як былы стары паны
Добрэ на работы —
Цэлы тыдзень робыш собэ
Пану у суботы[408].
Як насталы молодыі,

То зле на работу.
Цэлы тыдзень на паншчыні,
Шарварак ў суботу.
Шчоб не тыі окономы,
Быў бы мужык паном,
Чэрэз тэбы, вражы сынэ,
Шчо зовут Іваном.
Дожыдаем мы недзелькі,
Як самого бога,
А хоця ж мы ў недзельку
Одпочынем дома.
А ў недзельку ешчэ з рана
Усе звоны звонят,
Окономы із вуйтамы
На паншчыну гонят.
Старых мужчын молотыці,
А жоночок прасты,
Малых дэтэй до тытюну
У папушы класты.
У нашого оконома
Сыні нагавыці,
Усі паробкі на паншчыні:
Пойдуць й молодыці.
У нашого оконома
Шоўковая хуста,
Не одная ў нашом сэле
Стоіт хата пуста.

Разам з гэтай песняй у архіве Федароўскага захоўваецца і варыянт песні «Ад сяла да сяла»[409], якую ўжо ў 1866 г. надрукаваў П. Гільтэбрант[410]. Е. Раманаў у прадмове да першага — другога выпускаў «Беларускага зборніка» паказаў, што гэта ўрывак з «Гайдамакаў» Т. Р. Шаўчэнкі[411]. І той факт, што Федароўскаму песня была даслана ў 80-х га-

дах XIX ст., праз 20 гадоў пасля публікацыі Гільтэбранта, яскрава сведчыць пра шырокую папулярнасць гэтай песні на словы вялікага ўкраінскага паэта сярод беларускага насельніцтва, пра папулярнасць твораў Кабзара на Беларусі. Тут жа захоўваецца і рэкруцкая песня «Ой, у Вільні навіна», запісана ў в. Слонімцы на Пружаншчыне [412].

М. Федароўскім запісана шмат рэкруцкіх і салдацкіх песень (1848—1912). Яны ўзніклі на Беларусі ў XVIII — пачатку XIX ст. У іх адлюстраваны ўсе жахі царскай салдатчыны, адносіны да яе працоўных. Песня 1862, запісаная Федароўскім, расказвае, як ловяць і забіраюць прымусова ў рэкруты хлопца:

Яму ручкі звязалі,
Яму ножкі скавалі.

У названай вышэй неапублікаванай песні «Ой, у Вільні навіна» — малюнак сапраўднага палявання на моладзь падчас рэкруцкіх набораў:

...Проглянь, сёстро, у шклінку —
Сотнік з войтам на рынку.
Охо-охо-охо-хо, сотнік з
войтам на рынку.
Проглянь, сёстро, у аконцэ,
Сотнік з войтам на концэ.
Охо-охо-охо-хо, сотнік з
войтам на концэ.
Проглянь, сёстро, ў трэці раз,
Сотнік з войтам ідзе да нас.
Охо-охо-охо-хо і г. д.
Брацец тагды ўжэ пазнаў,

До коморы уцекаў.
  Охо-охо-охо-хо і г. д.
А з коморы у стадолу
Сотнік з войтам за мною.
  Охо-охо-охо-хо і г. д.
А з стадолы аж пад строп,
Накрый мэне жытні сноп.
  Охо-охо-охо-хо і г. д.
А жытні сноп не накрыў,
Сотнік за плечы ўхапіў.
  Охо-охо-охо-хо і г. д.
Павёз его ў городзец,—
Будзе добры рэкруцец.

Рэкруцкія песні, змешчаныя ў пятым томе «Люду беларускага», раскрываюць несправядлівасці, якія чынілі ўлады ў час набораў. Так, у песнях 1857, 1882, 1900 гаворыцца, што, «ўзяўшы багача — багач выкупіцца, а ўзяўшы дварака — дварак выпрасіцца». У рэкруты ж бяруць сірату, у якога «нікога няма». Песня 1856 расказвае, як забіраюць сына беднае ўдавы.

У некаторых салдацкіх песнях знаходзім выказаную адкрыта горкую праўду жыцця, якая сцвярджае, што

Лепей ўдома хлеб аўсяны,
Як на вайне пытляваны.
Лепей ўдома хлеб, капуста,
Як на вайне кура тлуста (1862, 1878).

Ярка і праўдзіва паказаны ў салдацкіх песнях, запісаных Федароўскім, цяжар службы, якая цягнулася ажно 25 гадоў. За гэты час бацькі рэкрута паміралі, жонка выходзіла за

другога, і калі салдат вяртаўся дадому, яму не было дзе прытуліцца, не было за што рук зачапіць:

Ойцец, матка старэнькі былі,
Яны дасюль памярлі.
Сястра і брацец маленькі былі,
Яны дасюль параслі.
Жана ж мая малада
Яна дасюль за другім (1869).

У пятым томе «Люду беларускага» многа твораў пра паншчыну (1913—1918 і інш.). Мы ўжо спыняліся на песнях, у якіх раскрываецца ўся яе жахлівасць. Вось, напрыклад, тэкст, у якім селянін адмаўляецца хадзіць у царкву, бо праца на паншчыне забірае ўвесь час:

А як жэ нам, бацюшка,
Да цэрквы хадзіці,
Ад нідзелі да нідзелі
Трэба малаціці.
А што дзень, а што дзень
Да выкінуць копу,
Трэба ўстаўшы змалаціць
Харошаму хлопу (1915).

Сярод антыпрыгонных твораў дзіўным дысанансам гучыць песня відавочна ненароднага паходжання, у якой хваліцца служба ў двары (1917). Гэта адзіны выпадак сярод масы беларускіх народных песень, калі ў зборы Федароўскага трапіў твор ненародны, складзены, відаць, дваровай службай. Затое адразу ж за гэтай стаіць песня 1918, у якой з горкай іроніяй гаворыцца, што

Служэбны хлеб смашны,
Ды ні спажытэчны,
Хто яго укусіць,
Той заплакаць мусіць (параўн. песню 1510).

Да твораў з ярка выражанымі сацыяльнымі матывамі адносіцца песня 1938, у якой бедныя дзяўчаты дакараюць багатырак, а таксама 1953, якая сцвярджае, што «лепш у бору ягадачка, як у кроля выгадачка».

Вялікі раздзел у пятым томе «Люду беларускага» прысвечаны песням легендарным ці баладам (1944—2021). Сюжэты, запісаныя М. Федароўскім у розных паветах заходнебеларускіх зямель, цікавыя і разнастайныя. Гэта і «ператварэнне ў зязюлю» (1944, 1955—1959), шырока вядомая і цяпер песня «Рабіна-рабіначка», і сюжэты «сястра брата атруціла» (1946), «дзяўчына пускае ў Дунай свайго сына» (1947), «даставанне чароўнага трой-зелля і гібель Марусі» (1949—1951), шырока вядомы ў фальклоры многіх славян сюжэт «замена нявесткі ў расліну, дрэва», якія маці пасля раіць сыну ссекчы: у таполю (1954), каліну (1961, 1965), быліну (1962—1964). Сустракаем тут песню-баладу пра ператварэнне брата і сястры ў кветку «браткі» (1967). Гэты паэтычны сюжэт аднесены Федароўскім у разрад легендарных, хоць у іншых збіральнікаў найчасцей трапляецца сярод купальскіх, напрыклад, у П. Шэйна (Материалы..., т. I, ч. I, стр. 233, № 247; Бел. песни, 1873, 429).

Многа ў пятым томе «Люду беларускага» тэкстаў балад пра тое, як маці атруціла нявестку і сына, як на магіле іх вырастаюць явар

і ліпа або явар і бяроза (2005—2009). Матыў «свякроў труціць нявестку» знаходзіцца пад нумарам 2010.

Рэдкі сюжэт «труна, якая гаворыць» запісаны М. Федароўскім у в. Навасады, што на Ваўкавышчыне, ад Настулі Новік.

Пяць варыянтаў песні пра Бандароўну, якая натхніла вялікага Купалу на стварэнне цудоўнай паэмы, і тры мелодыі да іх занатаваны Федароўскім у паветах Сакольскім, Ваўкавыскім, Слонімскім, Слуцкім (2015—2019). П. Шэйн, напрыклад, апублікаваў толькі тры варыянты гэтай песні [413].

«Песень гістарычных, якія даюць поўны вобраз вядомага выпадку, асабліва з даўнейшых стагоддзяў, як у польскай вуснай літаратуры, так і ў беларускай амаль што не існуе» [414],— запісаў Федароўскі на адным з аркушаў. Пра нязначную колькасць гістарычных песень у вуснай традыцыі беларусаў пісала і З. Радчанка [415]. Няшмат запісана іх Е. Раманавым [416], П. Шэйнам [417]. Больш тэкстаў гістарычных песень у У. Дабравольскага [418]. Характэрна, што запісаны яны на памежжы з Расіяй, на Смаленшчыне [419].

Міхал Федароўскі запісаў толькі дзве гістарычныя песні пра Маразенька (Мароза) — у Слонімскім і Ваўкавыскім паветах (2020—2021). Гэта песні, трэба меркаваць, украінскага паходжання. Але варыянты, запісаныя М. Федароўскім, настолькі розняцца ад украінскіх [420], што іх можна лічыць і арыгінальнымі творамі беларускай народнай творчасці. Найдаўнейшы варыянт песні пра Маразенка апублікаваў М. Максімовіч яшчэ ў 1834 г. [421]. Хто такі Маразенька (Мароз) — невядома. Не-

каторыя ўкраінскія гісторыкі і фальклярысты лічаць, што прататып гэтага вобраза — паплечнік Б. Хмяльніцкага Станіслаў Маразенка (Мразавіцкі), палкоўнік, удзельнік вызваленчай вайны ўкраінскага і беларускага народаў 1648—1654 гг.[422] Другія дапускаюць, што за фальклорным стаіць гістарычны вобраз — Нестар Маразенка (Маразоўскі), есаул Крапіўніцкага палка[423]. Ёсць разам з тым і ўстойлівая думка, што Маразенка — абагульнены вобраз храбрага казака, воіна-змагара як супраць польска-шляхецкага прыгнёту на Украіне, так і супраць турэцка-татарскіх захопнікаў. Апошняя версія нам здаецца найбольш праўдападобнай.

«Гумар і сатыра,— пісаў Федароўскі,— адыгрываюць не малую ролю ў беларускай народнай паэзіі; хібы, заганы, правіннасці людскія, а менавіта: ганарыстасць і пыхлівасць, п'янства і гультайства высмейваюцца неміласэрна»[424]. Беларускі народ стварыў вялікую колькасць жартоўных і гумарыстычных песень. З дасціпным гумарам, едкай іроніяй высмейваюцца ў гэтых песнях розныя камічныя сітуацыі, у якія трапляюць іх героі, крытыкуюцца асобныя людскія заганы, асмейваюцца людзі нядбайныя, нязграбныя, няўдаліцы. Здаровы народны гумар сведчыць пра вялікі аптымізм, моцныя духоўныя сілы народа, прыгажосць яго ўнутранага свету.

Сапраўды, як было не пасмяяцца з той нягеглай дзяўчыны-няўмекі, якая «асталася адна ў хаці» і не дасць «рады кацяняці» (2301, 2426). Шырока вядома на тэрыторыі ўсёй Беларусі жартоўная песня пра бабульку, якая «захацела разбагацеці, пасадзіла курыцу, каб

вывела дзеці» і пасля сама куранятператаптала. М. Федароўскі запісаў некалькі варыянтаў гэтай песні (2498—2501) у Ваўкавыскім, Навагрудскім, Сакольскім паветах.

Тэма многіх жартоўных песень — сямейныя адносіны, асабліва клопаты жонкі каля мужа, які «ўміраў, да кісялю й зажадаў» (2542), або мужа каля жонкі, якая ляжыць на печы «ледва жыва», але ўсхопліваецца з падзякай, калі муж пасля піва, мёду прыносіць «дубінку ды на тваю спінку».

Сустракаем у Федароўскага і песню «Бабка Кася, дзед Тамаш» (2530), шырока вядомую да цяперашняга часу пад назвай «Бабка Еўка, дзед Тамаш» на Слонімшчыне, Гродзеншчыне, Віцебшчыне, а таксама на Беласточчыне.

Дарэвалюцыйныя этнографы амаль не запісвалі прыпевак, бачачы ў іх «разлажэнне» сапраўднай народнай паэзіі, называючы іх «гарадскімі», «фабрычнымі» песенькамі. Так, напрыклад, адзін з даследчыкаў беларускага фальклору С. Малевіч пісаў: «Народныя песні месцамі знікаюць у вёсцы, замяняюцца найчасцей наноснай, больш ці менш легкадумнай песенькай на гарадскі манер»[425].

Найбольш беларускіх прыпевак запісаў М. Я. Нікіфароўскі[426]. Сустракаюцца яны ў зборах Е. Раманава, П. Шэйна, В. Астаповіча[427], П. Станіча[428]. Міхал Федароўскі не абыходзіў гэтага жанру народнай паэзіі. У шостым томе «Люду беларускага» шмат прыпевак, якія народ у Заходняй Беларусі называў круцёлкамі і мяцеліцамі, бо часцей за ўсё яны былі прыпеўкамі да танцаў.

«Круцёлкі — гэта песенькі, як кракавякі ці каламыйкі ў гуцулаў, найчасцей жартоўнага

зместу, якія спяваюцца на ноту найлюбімейшага тутэйшага танца, каторы таксама носіць назву круцёлкі (месцамі аколушкі)»,— занатаваў этнограф [429]. Пра гэта ж пісаў М. Федароўскі і ў другой сваёй фальклорнай нататцы [430].

Характэрна, што слова «частушка», якое цяпер трывала ўвайшло ў фальклярыстычную тэрміналогію, не было вядома беларускаму насельніцтву заходніх абласцей да XX ст. Пра гэта яскрава гавораць матэрыялы архіву М. Федароўскага. На велізарнай тэрыторыі ад Бельска і Аўгустова да Слуцка і Мінска, на прасторах 12 паветаў Федароўскім не было зафіксавана слова «частушка» ніводнага разу. Прыпеўкі ў розных мясцовасцях мелі назву *брадзюшак* (Ваўкавыскі павет [431] і ў ваколічнай шляхты ў Слонімскім [432]), *брандзюшак* — у Слонімскім [433], *брандушак* — у Навагрудскім [434]. М. Федароўскі заўважае, што прыпеўкі, у якіх «адлюстроўваюцца штодзённыя здарэнні, дыхаюць перш за ўсё сатырай, якая ў тутэйшых круцёлках з'яўляецца галоўным пачаткам» [435].

Цікавыя звесткі сабраў Федароўскі пра час выканання прыпевак. Апісваючы песні з ваколіц Ліды, даследчык адзначыў: «Песні дзеляць на набожныя, калядныя, вечарынкавыя, танцавальныя, вясельныя, хрэсьбінныя, вясеннія, юраўскія, галкайныя, летнія або жніўныя, дажынкавыя і на брэндушкі, брандушкі ці брэдзюшкі... Калі вышэй пералічаных не спяваюць ніколі, як толькі ў пэўны час або пры абрадах, так брэдзюшкі на вуснах дзяўчат круглы год, бо рады спяваць іх пры любым выпадку» [436]. Хоць былі і абмежаванні. У архі-

ве этнографа захавалася выказванне нейкай спявачкі Алены са Слонімскага павета, дзе пра час выканання прыпевак гаворыцца іншае: «Прыдзе пост: хто граху баіцца, брандзюшак не спявае» [437].

Сярод жартоўных песень, запісаных М. Федароўскім, ёсць антыклерыкальныя (2410) [438], з гумарыстычнай травестацыяй царкоўных спеваў (2394), малітваў (2531).

М. Федароўскі запісаў шмат варыянтаў лірычных прыпевак, сярод якіх знаходзім цудоўныя ўзоры сапраўднай паэзіі, глыбокія па думцы, шчырыя і ўсхваляваныя па пачуццях, непасрэдныя, непаўторныя ў сваім харастве:

Скрыпка з вербы,
Скрыпка з вербы,
А смычачок з руты,
Як заграе, сэрца вяне,
Па ўсім свеце чуці [439].

Гэта прыпеўка была поўнасцю кантамінавана са словамі песні 1753. У другой песні (1894) знаходзім яе ў крыху зменены выглядзе. Там «скрыпанька з барвінанька, а смычэчак з руты», што больш арганічна выяўляе вытокі, прыроду паэтычнага вобраза: рута і барвінец — гэта расліны, якія ішлі на ўборы дзяўчат і хлопцаў у дні свят, імі ўпрыгожвалі маладую пару на вяселлях, уквечвалі каравай, вясельную дружыну.

Сярод песень танцавальных і жартоўных, а таксама прыпевак, у рэпертуары беларусаў сустракалася шмат фрывольных і цынічных. Намагаючыся найпаўней выявіць песенны рэ-

пертуар насельніцтва даследаваных раёнаў, М. Федароўскі запісваў і такія творы. Пра бытаванне іх у народным асяроддзі этнограф паведаміў наступнае: «Круцёлкі. Цынічныя. Яны спяваюцца падахвочанымі кабетамі на хрысцінах, а таксама юрлівымі дзецюкамі ў мужчынскай кампаніі, ці пацвяляючы дзяўчат, якія ... абураюцца і жартаўліва клянуць («каб ты здох», «каб ты спрындзіўся», «каб табе язык, лупы папухлі» і г. д.)... Песенькі гэтага роду спяваюцца тут перш за ўсё на веснавых ігрышчах, якія спраўляюцца пад адкрытым небам на Юр'я, таксама пастухамі. На ігрышчах старэйшыя не ўдзельнічаюць, таму хлопцы языкі распускаюць што называецца, асабліва пад уздзеяннем гарэлкі» [440].

Многія фалькларысты, хоць і запісвалі падобныя творы, але пры публікацыі абыходзілі іх, не ўключалі ў зборнікі. А калі і ўключалі, то — што абсалютна недапушчальна ў навуковых выданнях — у скажоным выглядзе: падпраўленымі, абгладжанымі, «апрыстойненымі». Так, напрыклад, рабіў П. Шэйн, за што яго крытыкаваў Е. Раманаў [441].

Сучасныя рэцэнзенты крытыкуюць М. Федароўскага за тое, што ён запісваў фрывольныя песні, публікацыя якіх, на іх думку, нібыта «стварае няправільнае ўяўленне пра сапраўднае месца падобных твораў у народным рэпертуары беларусаў» [442].

Выказванні вядомых вучоных фалькларыстаў, практыка некаторых замежных выданняў [443] даводзяць, што запіс падобных твораў нельга лічыць адмоўнай рысай у рабоце збіральнікаў народнай песеннай творчасці. Напрыклад, вядомы ўкраінскі фалькларыст Ула-

дзімір Гнацюк у сваёй працы «Украінская народная славеснасць (у справе запісаў украінскага этнаграфічнага матэрыялу)», даючы парады, што і як запісваць фалькларыстам, даводзіў, што фрывольныя песні (а таксама і апавяданні) трэба запісваць, бо яны «для вучонага фалькларыста і этнографа маюць такую ж самую вартасць, як і іншыя песні»[444].

Акадэмік Я. Карскі, разглядаючы этнаграфічныя працы П. Шэйна, пісаў: «...варта прыняць пад увагу і тое, для каго выдаюцца розныя этнаграфічныя зборнікі, накшталт «Матэрыялаў» П. Шэйна: не для дзяцей жа, не для паненак, а для людзей сур'ёзных і дарослых, у большасці выпадкаў для вучоных даследчыкаў, для якіх любы бок праяўлення народнага жыцця мае аднолькавую цікавасць. Не стане ж анатам займацца выключна прыстойнымі часткамі чалавечага цела, зусім пакідаючы без увагі тыя, каторыя могуць абразіць чыйнебудзь зрок»[445].

Вывучаючы жыццё беларускага народа, М. Федароўскі звяртаў увагу на самыя разнастайныя рысы характару беларусаў, як станоўчыя, так і негатыўныя, даследаваў псіхалогію, мараль, этыку мясцовых жыхароў. Вось яго назіранні над маральнымі паводзінамі беларусаў у пачатку 80-х гадоў XIX ст.: «Пра маладзіц можна сказаць, што яны сціплыя; што ж датычыцца моладзі абодвух полаў, то дзяўчаты, вельмі дбаючы пра добрае імя, паводзяць сябе з рэдкай у параўнанні з другімі краямі маральнасцю, а будучы па натуры сарамяжлівымі і незалётнымі, у любым месцы трымаюцца ў кампаніі. Хлопцы таксама сціплыя і нясмелыя, а пра развязнасць сярод мо-

ладзі, то мне і ўвогуле не даводзілася чуць» [446]. Збіраючы па вёсках разнастайныя песні і натрапіўшы на творы фрывольныя, якіх нямала сустракалася ў розных мясцовасцях, этнограф быў здзіўлены фактам іх шырокага распаўсюджання: «Распусныя песенькі, якія народ спявае ахвотна, гучаць прынамсі дзіўна пры чыстасці звычаяў і маральнага захоўвання тутэйшых кабет» [447].

М. Федароўскі спачатку вагаўся, ці ўключаць падобныя песенькі ў этнаграфічныя матэрыялы па культуры беларускага народа, якія ён рыхтаваў да друку ў сярэдзіне 80-х гадоў. Але пасля, вывучыўшы адпаведную фалькларыстычную літаратуру, пераканаўся, што зробіць правільна, калі ўключыць іх. Мэтазгоднасць такога кроку этнограф сам абгрунтаваў 17 кастрычніка 1885 г.: «Галоўным заданнем гэтай працы («Люду беларускага».— **Я. С.**) з'яўляецца ўсебаковае і як найбольш дакладнае, наколькі можна, прадстаўленне пладоў духоўнай творчасці народа. Таму зразумела, што я адступіў бы ад вышэйпамянёнай умовы, абмінуўшы гэты раздзел, дзе намерыўся змясціць жартоўныя і насмешлівыя (szydne) песні, якіх у народзе кружыць незлічонае мноства. Гэтыя кароткія песенькі спяваюцца звычайна ў добрым гуморы, а таму, што змест іх наскрозь прасякнуты зусім арыгінальным, бо непадробным і ніадкуль незапазычаным сапраўды свойскім досціпам, яны і могуць аказацца прыдатнымі да папаўнення характарыстыкі тутэйшага люду... Сярод іх трапляецца многа двухсэнсоўных і грубых, большасць з іх проста трэба назваць брыдкімі, бо яны маюць многа выразаў, якія абражаюць добры

густ і прыстойнасць. Ды не варта гэтаму здзіўляцца, бо натура зусім простая і недалікатная (nieokrzesana), каб узарвацца сапраўднай весялосцю, патрабуе і дасціпу простага. Вырафінаваны і скупы на грубасць дасціп не быў бы ў стане пабудзіць гэту натуру да смеху. «Гэтыя спевы — дзеці тутэйшых лясоў,— кажа Крашэўскі *,— найлепш малююць стан сялян; але хто б на падставе іх хацеў рабіць вывады пра сапсаванасць і распусту, далёка горшымі б іх (сялян.— **Я. С.**) уяўляў, чым яны ёсць у сапраўднасці». І сапраўды — смела магу сказаць, што незвычайнасць песень стасуецца зусім супраціўна да маральнасці самога народа. Найлепш гэта тлумачыць О. Кольберг **. Вось яго словы: «Памыляўся б той, хто б хацеў народ вінаваціць у разбэшчанасці на падставе мноства разгульных песень, якія ён спявае; гэта ёсць наіўныя выбрыкі добрага гумару, кіданыя ў карчме без непрыстойных рэзультатаў, не менш вынікі нічым не тамаванай сатырычнай жылкі». Тое, што піша О. Кольберг пра вяскоўца з ваколіц сандамерскіх, можна цалкам аднесці да селяніна з тутэйшых мясцін...

Напаследак усім тым, хто мне будзе рабіць закіды, што я не павагаўся гэтыя творы неўтаймаванай фантазіі народа прадставіць ва ўсёй аголенасці, адкажу, што з самага пачатку непахісна стоячы на пазіцыі даследчыка народа і таму гледзячы на гэтыя рэчы з такога

* Wspomnienia Polesia, Wołynia i Litwy. J. I. Krasz(ewski). Wyd. w Paryżu, str. 142 (спасылка М. Федароўскага.— **Я. С.**).

** Lud. Jego zwyczaje etc. przedst. Osk. Kolb(erg). Seria I. Sandomierskie, str. 133 (спасылка М. Федароўскага.— **Я. С.**).

пункту погляду, нельга мне твораў хоць бы на першы погляд малаважных і благіх апускаць, а тым больш зацямняць іх змест і ўвогуле характарыстычныя бакі падгладжваннем выразаў; таму, каб поўнасцю справіцца з задачай, нічога мне іншага не астаецца, як гэтыя плоскія і прасцяцкія выказванні прадставіць так, як яны выйшлі з вуснаў народа, у чым, думаю, кожны прызнае за мной слушнасць, хто толькі шануе аўтэнтычнасць і памятае правіла: «З песні слова не выкінеш» [448].

Хоць сам М. Федароўскі добра адказаў на пастаўленае вышэй пытанне, тут можна ўспомніць яшчэ і словы даследчыка беларускай вясельнай абраднасці акад. М. М. Нікольскага: «Строгіх хавальнікаў маральнасці XIX ст., якія запісвалі беларускія вясельныя абрады, шакіравала «нецэнзурнасць» некаторых прыпевак і «непрыстойнасць» некаторых скокаў і абрадаў. Мы можам з гэтага выпадку сказаць, што тут да беларускай абраднасці прымянялася чамусьці іншая мерка, чым да старажытнагрэчаскай абраднасці з яе дыянісіямі, вакханаліямі і пашыранымі звычаямі hieros gamos, і што моманты, якія шакіруюць «сарамяжных» крытыкаў, сведчаць толькі пра адсутнасць таго падману і фальшу, якія ўласцівыя буржуазным шлюбным цырымоніям» [449].

У запісах Федароўскага сустракаем і 35 тэкстаў хрэсьбінных песень. Гэта пераважна жартоўныя песні пра кума, які «да кумы заляцаўся, пасеяці канапелькі абяцаўся» (4066, 4087, 4096), пра куму, бабку-павітуху. Многа сярод хрэсьбінных песень фрывольных, эратычных. Але ж з абрадаў мы ведаем, што на хрэсьбіны моладзь не дапускалася, таму сярод падгуляў-

шых кабет і мужчын можна было запісаць і такія песні. Вельмі мала сабраў этнограф пахавальных галашэнняў (4101—4102), а таксама рэлігійных песень (2059—2063, і то дзве з іх польскія).

Між песень, зафіксаваных на Беларусі Федароўскім, можна сустрэць нямала твораў украінскіх па паходжанні, што шырока бытавалі на беларускіх землях у самабытным слоўным афармленні. Гэта «Ой, пад гаем» (559), «Гоп, мае грычаныкі» (2538—2539), «І шуміць, і гудзе» (2546 і інш.), песня 2538 нагадвае ўкраінскую народную песню «Казав мені батько»[450]. Цікава, што толькі ў адной з песень у пятым і шостым тамах «Люду беларускага» ўпамінаецца бандура (2577), тады як скрыпкі і цымбалы сустракаюцца часта. «Даследчыкам украінскай паэзіі і ўвогуле вуснай літаратуры,— піша М. Федароўскі,— раджу звярнуць увагу на некаторыя песні (асабліва запісаныя на пагранічччы з Палессем), з якіх многія, мяркуючы па змесце, з'яўляюцца украінскімі па паходжанні і, быць можа, замёрлыя ў сваёй айчыне, тут яшчэ, між лясоў і балот Палесся, захаваліся дасюль у мала зменёнай вопратцы»[451].

М. Федароўскі назіраў за ўзаемапранікненнем фальклору беларускага ў польскі, украінскі, рускі і наадварот. Таму побач з вышэйпрыведзеным яго выказваннем варта звярнуць увагу і на іншае: «Гэта яшчэ вялікае сумненне, ці песня, вядомая на Украіне, украінская па паходжанні. Сумнявацца не даводзіцца (гл. Бяссонава!), што многія беларускія песні ўцекачы ў Сеч занеслі на дняпроўскія парогі»[452].

У многіх беларускіх народных песнях як каханы ці палюбоўнік выступае казак. «Песень такіх кружыць сотні,— пісаў Федароўскі.— Адкуль гэта, чаму? Няўжо ўсе без выключэння песні, у якіх выступаюць казакі, украінскага паходжання? Можа быць, а і напэўна, што значная частка іх прывандравала з-над Дняпра, бо гэта край суседскі. Але трэба дапусціць, што многія з іх мясцовыя па паходжанні. Радзівілы ж, Сапегі і іншыя беларускія магнаты мелі дваровых казакоў. Зрэшты, сувязі з Украінай былі няспыннымі, мужыкі тутэйшыя, урэшце рэшт (факт!), уцякалі ў Сеч, на дняпроўскія парогі» [453]. Таму М. Федароўскі, калі класіфікаваў песні і выдзеліў раздзел беларускіх песень пра чужаземцаў, для казацкіх зрабіў выключэнне, размясціўшы іх у розных раздзелах, нягледзячы на тое, што, як ён сам гаворыць, у адной песні «трапляецца ўпамінанне: украінец — чужаземец» [454]. Гэта песня, змешчаная ў пятым томе «Люду беларускага» пад нумарам 552.

З іншых назіранняў Міхала Федароўскага над беларускай народнай песняй варта прыгадаць такія: 1) «пры заканчэнні песні беларус ніколі не бярэ актавы вышэйшай (sic), што звычайна чутно ў песнях велікарускіх» [455] (пра гэта самае, дарэчы, пісала і З. Радчанка [456]); 2) «вартае ўвагі тое, што ў Пружанскім павеце ўсе без выключэння вясельныя песні спяваюцца на адну ноту» [457]; 3) «у вясельных абрадах народа, які жыве ў Лідскіх ваколіцах, бачым адносна малую розніцу ў параўнанні з абрадамі са старон Ваўкавыска... Ёсць, праўда, і тут некаторыя дробязныя адценні, найбольш іх, аднак, прасачыць можна ў песнях, і таму я

стараўся прадставіць іх ніжэй у поўным камплекце, каб даследчык... мог параўнаць іх з іншымі...»[458]; 4) «калі на вечарніцах пры лёгкім занятку кудзельніцы... рады спяваць любоўныя думы і песні, прыслухоўвацца да расказаў людзей старэйшых, вядомых розумам і дасведчанасцю, адгадваць загадкі..., то падчас свят і розных гадавых урачыстасцей, а менавіта, як надыйдуць «святыя вечары» («шчадрухі»), бачым, як моладзь бавіць час сярод музыкі, танцаў са спевамі і гуляе ў розныя гульні і забавы»[459].

Беларуская народная песня ў зборах Федароўскага — яркі паказчык высокай культуры вуснай паэтычнай творчасці нашага народа, тонкага майстэрства валодання словам, багацця вобразна-выяўленчых сродкаў, якія былі выпрацаваны на працягу стагоддзяў як асобная, самабытная, непаўторна-нацыянальная паэтыка. Да песень, сабраных Федароўскім, як да канкрэтнага «праламлення» гэтай паэтыкі яшчэ, відаць, не раз звернуцца нашы літаратуразнаўцы. Матэрыял тут сапраўды невычэрпны. Што найбольш кідаецца ў вочы пры аналізе паэтыкі беларускай народнай песні, сабранай М. Федароўскім, дык гэта мноства паралелізмаў. Кантрастны, параўнальны паказ з'яў розных сфер жыцця, паказ адных з'яў на фоне другіх сапраўды ярка раскрываў і паэтызаваў тую ці іншую падзею, сітуацыю, чалавечы характар. Сваею выяўленчаю функцыяй паралелізм блізкі да параўнання. У народнай творчасці карціны прыроды звязваюцца з душэўнымі настроямі герояў, падзеі людскога жыцця часта малююцца як паралель да з'яў прыроды. Ствараецца так званы псіхалагічны

паралелізм. Вось прыклад з вясельнай песні, што захоўваецца ў архіве М. Федароўскага:

Не праўдзівае дзераво каліна
Казала: «Я цвісці ні буду,
Я ягадак ні зраджу».
Прышоў на каліну Пятроў дзень —
Пусціла каліна белы цвет.
Не праўдзівая дзевонька Марыська
Казала: «Я замуж ні пайду,
Бо малойчыка ні люблю».
Прышоў у бога святы дзень
Паедзе дзевонька на весь дзень [460].

Паралелізм — мастацкі прыём даўняга паходжання, калі чалавек не валодаў яшчэ абстрактным мысленнем і пераносіў на прыроду назіранні над сваім уласным жыццём, надзяляў прыроду ўласцівасцямі чалавечага духоўнага жыцця. Інакш кажучы, паралелізм мае сваімі вытокамі першабытны анімістычны светапогляд. Вельмі часты ў народных песнях, запісаных Федароўскім, ён сведчыць пра іх старажытнае паходжанне. У пятым і шостым тамах «Люду беларускага» мы сустракаем паралелізм у песнях самых розных жанраў (85, 173, 194, 213, 242, 323, 407, 542, 754, 783, 790, 831, 849, 856, 894, 906, 1324, 1394, 1504, 1830, 2002 і інш.). Тут і лексіка-семантычны паралелізм, для якога характэрна аднолькавая будова сказаў-паведамленняў, і страфічны, дзе абедзве часткі паралелі маюць аднолькавую страфічную будову. Пры выкарыстанні паралелізму песня звычайна будуецца на супастаўленні двух вобразаў: аднаго — узятага з прыроды, другога — з чалавечага жыцця. Та-

кім чынам, ствараюцца магчымасці для глыбокага і вобразнага раскрыцця думак і пачуццяў, поглядаў чалавека на пэўныя жыццёвыя з'явы, працэсы, падзеі, паяўляецца магчымасць рабіць абагульненні і высновы. Наколькі эфектыўны быў гэты сродак, можна яшчэ раз пераканацца на песні пра гора ўдавы:

Гула пчолка, гула пчолка
Ды па бару лятаючы,
Салодкі мёд збіраючы:
Ой, горкі мой мядок, горкі,
Да без мае грамаданькі
Усеняк свой мёд патраціла,
Сама ў борцю не трапіла.
Ох, заплакала ўдованька
Да па садочку ходзячы,
Вячэраньку гатуючы:
Горка ж мая вячэранька
Да без маго міленькаго.
Сама сяду праці стала,
Дзеткі ж мае па застолью,
На покуці нікого нет,
Такая вячэра, такі і абед.
Дзеткам даю хлеб веяны,
Сама ем ячну зацерку,
Дзеткі ядуць, а я плачу;
З мілым піла мёд і гарэлку (1830).

Тут, акрамя таго, што на супастаўленні адзінокай пчолкі і беднай, адзінокай удавы падкрэслівалася яшчэ больш гаротнае становішча няшчаснай кабеты, сама рытміка песні, дакладны падбор гукаў, асананс, паслядоўнае чаргаванне галосных *у, о, а* стваралі ўражанне плачу, навявалі адпаведную настраёвасць, вы-

клікалі пэўны эмацыянальна-зрокавы малюнак.

Народная фантазія выпрацавала розныя формы паралелізму: прамы, адмоўны, разгорнуты і г. д. Ужыванне іх бывала рознае. Некаторыя песні складаліся з дзвюх частак: у першай — малюнак прыроды, у другой — стан чалавека. У іншых гэтыя часткі паслядоўна чаргуюцца (напрыклад, у песні 1394). Яшчэ выразней паралелізм выступае, калі ў песні ўжываюцца паэтычныя звароты да прыроды і чалавека, лірычныя маналогі, дыялог-размова героя ці гераіні з дрэвам, птушкай, полем, лесам, возерам, рэчкай, садам. Даволі часта сустракаецца разгорнуты паралелізм, пры якім абедзве часткі песні моцна звязаны суадноснасцю вобразаў. Часта гэта паралелізм сіметрычны ці страфічны, калі ў першай і ў другой частцы песні налічваецца аднолькавая колькасць радкоў:

Да стаяла пшаніца пры дарозі,
Да стоячы яна гаварыла:
Да дадзела мне тут стоячы,
Да пад гэтым каласком едраным,
Да пад гэтым зерняткам залатым.
Да плакала дзевачка ў цэркаўцы,
Да плачучы гаварыла:
Да дадзела мне тут стоячы,
Да пад гэтым вяночкам руцвяным,
Да пад гэтым аўтаром залатым (790).

У гэтай песні, як бачым, акрамя страфічнага паралелізму, выключна дакладны і другі, стылістычна-гукавы, прыём арганізацыі паэтычнай мовы — анафара. Часам сіметрычнасць

захоўваецца нават і тады, калі ў песні назіраецца нібы падзел на чатыры часткі, супастаўленне дзвюх у сваю чаргу падзеленых: у першай — пытанне да прыроды, у другой — адказ на яго, у трэцяй — пытанне да чалавека, у чацвёртай — выясненне яго (гл. песню 407), або дзве часткі з пытаннямі да прыроды і чалавека (831):

Бяроза, бяроза ні п'яна, цвяроза,
Чаго хмурна стаіш? Ці ветру баішся,
Ці ветру баішся, ці дажджу жадаеш?
Ветру ні баюсё, дажджу ні жадаю,
Таго я хмурна, што месца ні маю,
Бо на маём месце зялён явар расце,
Зялён явар расце — шырокае лісцё.
Дзяўчына, дзяўчына, чаго хмурна ходзіш?
Ці галоўка баліць, ці свет заневоліць?
Галоўка не баліць, свет не заневоліць,
Да таго я хмурна, што не даў бог долі.
Што не даў бог долі як маёй радзімі.
От мая радзіма багата і шчасліва,
А я дзеўчыненька надто нешчасліва (407).

Агульная ж тэндэнцыя кампазіцыйнай будовы песень на аснове паралелізму заключаецца ў тым, што другая частка — тая, дзе гаворка ідзе пра стан чалавека, падзею, сітуацыю — звычайна імкнецца да разбудоўвання, яна больш шырокая, разгорнутая, большая аб'ёмам за першую. Прыкладам такіх песень з разбудаванай другой часткай з'яўляюцца ў «Людзе беларускім» нумары 194, 213, 242, 418, 1324, 1394, 1504 і г. д.

Вось як гэта выглядае ў тэксце:

Ні шум, ні шум да дуброванька,
Ні шум, ні шум да зялёна!

Не плач, не плач, да й удованька,
Не плач, не плач да й маладая!
Ой, як жа мне да й не шумеці,
Галью майму да не жаўцеці,
Цераз мяне да пагон ідзе.
Пагон ідзе, купцы едуць,
На карэнях да агонь кладуць,
Падкоўкамі да карэня б'юць.
Як жа мне да не плакаці,
Усе казакі з вайны едуць,
А мой мілы да й убіт ляжыць.
У правай ручцэ да каня дзяржыць,
А леваю да расу бярэ,
Расу да бярэ да на сэрца лье:
Раса ж мая да крапушчая,
Душа ж мая да жывушчая,
Таварышы да мае братцы!
Завядзеце да каня майго
Завядзеце да войцу і к матцы.
Накажэце да маёй жонцы,
Няхай яна да мене не жджэ,
Няхай сабе за другого ідзе.
Ой, калі ёй да пагорш будзя,
Яна мяне спамінаць будзя,
Ой, калі ёй да палепш будзя,
Яна мяне праклінаць будзя (1394).

Часта ў песнях, запісаных М. Федароўскім, сустракаем пастаянныя эпітэты, словы з памяншальна-ласкальнымі суфіксамі, якія надаюць твору мяккі лірычны каларыт, задушэўнасць тону, сардэчнасць. Так, конь у песнях — вараненькі, малойчык — маладзенькі, дубок — зеляненькі, галубочак — шызы, русая касіца, сцюдзёная вадзіца, зялёны барвіночак, лясочак, чырвоная калінонька і г. д.

Нямала ёсць цікавых рытмічных ходаў, але найбольш арыгінальная і цікавая гукавая інструментоўка многіх песень. Многія тэксты маюць адточаную, звонкую рыфму, яны насычаны гукавымі паўторамі, якія ствараюць мілагучнасць, надаюць выразнасць і эмацыянальную афарбоўку мове:

А, здаецца, той лясок не высок,
Не праходзіць галасок на лясок (210).
На гары авёс высокі парос,
На даліне жыта капытамі збіта (349).

Рыфма, хоць і не заўсёды абавязковая ў народнай песні, сустракаецца вельмі часта. Яна ўзмацняе змест, эмацыянальнае гучанне тэксту, бо словы, уключаныя ў рыфму, самім сваім месцам у радку прыцягваюць да сябе ўвагу. Рыфма стварае багаты гукавы паўтор, які ўзмацняе музычнасць мовы песні, часта мае непасрэднае кампазіцыйнае значэнне — «звязвае» радкі ў страфу, вылучае яе як кампазіцыйную частку. Сустракаюцца і выключна дакладныя рыфмы:

Ані сцежанькі, ні дарожанькі,
Паехаў мой мілы да варожанькі (103).

Я буду пісаць табе чорным атрамантам,
А ты будзеш чытаць з плачам і з лямантам
(336).

Я яму кашуленьку шыю,
А ён мяне кулаком у шыю (1246, 1304).

Найчасцей жа, як і ўвогуле ў беларускай народнай паэзіі, рыфма ў песнях, запісаных Федароўскім, асанансная.

Цікавыя і арыгінальныя, глыбока паэтычныя вобразы ў песнях, сабраных Міхалам Федароўскім. Вось песня, у якой жонка праклінае благога мужа:

...Няхай па ём тужыць агонь да вада,
Не я буду тужыць па ём малада!
Да драў ён лучынаньку з маіх белых плеч,
Да ўшчапляў ён ушчэпушкі з маіх белых рук,
Да віў ён канчушкі з маіх русых кос,
Да пушчаў ён рэчушкі з маіх дробных слёз (3336).

А вось як аплаквалі родныя смерць дзяўчыны:

...Матка плача, як звон звініць,
Татко плача, як гром грыміць,
Сястра плача, як зязюлька кукуе,
Братко плача, як салавейко свішча (1931).

Наогул жа паэтыка песеннай спадчыны, сабранай Федароўскім,—вялікая тэма спецыяльнага даследавання і ў рамках агульнай працы, прысвечанай фалькларысту, зразумела, не можа быць дастаткова поўна асветлена.

Беларускія народныя песні, сабраныя М. Федароўскім,— неацэнны скарб, які непамерна ўзбагаціў беларускую нацыянальную культуру. Па яго зборах мы цяпер маем магчымасць пераканацца ў глыбокай паэтычнасці нашай народнай песні, вывучаць душу народа, зразумець яго псіхалогію і этыку, глыбей пранікнуць у таямніцы беларускага нацыянальнага характару, прачытаць адвечныя думы і спадзяванні народа. Этнограф запісаў шмат сацы-

яльна вострых твораў, накіраваных супраць прыгнятальнікаў народа, яго крыўдзіцеляў. З многіх песень і прыпевак відаць адносіны народа да рэлігіі і яе служкаў, да царскай салдатчыны і г. д. Усё гэта яскрава гаворыць пра аб'ектыўнасць і сумленнасць М. Федароўскага як вучонага-фалькларыста, для якога важна было запісаць і падаць для ўсеагульнага карыстання народныя скарбы так, як яны жылі ў народных масах. М. Федароўскі данёс да нас шмат такіх твораў, якія да яго былі або зусім не запісаны, або запісаны далёка не вычарпальна. Беларускія народныя песні і мелодыі, запісаныя Міхалам Федароўскім, узбагацілі не толькі нашу нацыянальную духоўную спадчыну. Яны — самабытны ўклад і ў агульнаславянскую культуру ўвогуле.

## ЗАКЛЮЧЭННЕ



арактарызуючы работу этнографаў у Галічыне ў 90-я гады XIX ст., І. Франко пісаў, што ў гэты час паяўляюцца збіральнікі новага тыпу, якія, «ахапляючы шырокія навуковыя гарызонты, адначасна стараюцца вычарпаць запас этнаграфічных фактаў у пэўнай ваколіцы, падаць, напрыклад, увесь рэпертуар песень, апавяданняў і г. д. нейкага незвычайнага апавядальніка ці рапсода, вычарпаць запас песень, казак, абрадаў данай ваколіцы, з другога боку, ахапіць запас даступнага аднароднага матэрыялу ў

цэлым краі»[1]. Такім збіральнікам новага тыпу і быў Міхал Федароўскі. Выбіраючы запас фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў там, дзе ён жыў (Ваўкавышчына, Слонімшчына), ён імкнуўся сабраць падобны матэрыял на ўсім абшары Заходняй Беларусі, дабіраючыся ў час экспедыцый нават да Ашмянаў і Ліды на поўначы, Пружанаў і Косава на поўдні, амаль да Мінска на усходзе, Беластока і Сухаволі на захадзе. М. Федароўскі быў пераважна збіральнікам. Галоўныя рысы яго збіральніцкага метаду: філалагічная дакладнасць і абсалютная паўната запісу непасрэдна з вуснаў апавядальніка, спевака; прыстасаванне фанетычнага пісьма для перадачы марфалагічных і фанетычных асаблівасцей мовы, у выніку чаго запісы з'яўляюцца немалой каштоўнасцю і для дыялекталогіі.

У трактаванні ж этнаграфічнага і фальклорнага матэрыялу ён не адыходзіць ад рамантычнага дылетантызму многіх сваіх папярэднікаў. Пры выданні сабраных казак, паданняў, легенд, павер'яў ён абмежаваў сваю ролю задачамі «прадметнага ўкладальніка матэрыялу». Збіральнік, як і многія фалькларысты таго часу, не звяртаў дастатковай увагі на сацыялагічны падыход да вывучэння народнай творчасці, на тлумачэнне яе ў сувязі з сацыяльнымі, палітычнымі, эканамічнымі ўмовамі жыцця працоўных. І хоць ён не паказаў эканамічнага прыгнёту і палітычнага бяспраўя беларускага працоўнага сялянства, але, як сведчаць архіўныя матэрыялы, намагаўся высвятліць прычыны цяжкага сацыяльнага становішча працоўных мас. «З прычыны раздраблення грунтаў, з кожным годам утвараецца

штораз больш мнагалікі вясковы пралетарыят» [2],— запісаў Федароўскі на адной з картак. Або на другой: «У заходніх паветах (Сак(ольскі), Бел(астоцкі), Ваўк(авыскі)) назіраецца працэс выдзялення вясковай буржуазіі, а таксама грамадзянства, якое гаспадарыць на фальварковых землях» [3].

Адной з істотных прычын беднасці сялянскіх мас было беззямелле, бесперапыннае драбненне і без таго дробных надзелаў сялянскіх сем'яў, перараздзел паміж членамі сям'і. Назіраючы гэтыя працэсы, М. Федароўскі занатоўваў: «Мужыцкая гаспадарка дрэнна дае прадукцыю з-за наст(упных) прычын: 1) падзел палеткаў, часта раскіданых вельмі нязручна; 2) падзелы паміж сем'ямі на дробныя кавалкі; 3) брак крэдыту; 4) брак паняцця пра меліярацыю і прагрэс, кансерватызм, руціна; 5) недахоп ніжэйшых сельскагаспадарчых школ» [4]. Робячы выпіскі з «Памятной книги Гродненской губернии на 1896 г.», дзе гаварылася, што ў Гродзенскай губерні ў 1864 г. сялянам дадзена 90 216 участкаў, з іх у 1894 г. разбіта на часткі 46 858, М. Федароўскі заўважае: «На самой справе раздробленых участкаў значна больш» [5]. Адсюль ён паўстае перад намі не як староннi назіральнік, а як жывы сведка і ўдзельнік грамадска-палітычнага жыцця таго часу.

Ацэньваючы фальклярыстычныя зборы М. Федароўскага сёння, вучоныя, вельмі скептычна або і зусім абыякава ставячыся да яго як інтэрпрэтатара фальклору, адзначаюць каштоўнасць сабраных ім матэрыялаў.

Патрыярх польскай фальклярыстыкі праф. Ю. Кржыжаноўскі, характарызуючы

Федароўскага-тэарэтыка як «бездапаможнага вандроўніка, які заблудзіўся на бездарожжах фалькларыстыкі канца XIX ст.», піша, што такая характарыстыка «не датычыцца яго «матэрыялаў да этнаграфіі славянскай», велізарнага збору тэкстаў, ім запісаных і выдадзеных. Іх збор, а значыць «Люд беларускі», мае сёння такую ж самую вартасць, якую меў у час іх запісвання, а нават і большую, бо ўзросшую з-за іх адлегласці ад нас у часе. Інакш кажучы, для нас усёроўна, што Федароўскі думаў і пісаў пра гэтыя тэксты. Уся справа ў тым, што ён іх запісаў і збярог ад забыцця, перадаўшы пазнейшым даследчыкам» [6].

Міхал Федароўскі не абмяжоўваўся зборам фальклору, а займаўся дакладным комплексным вывучэннем побыту і жыцця беларусаў. Пакінутыя ім запісы, якія захоўваюцца ў архівах Польшчы і дасюль не апублікаваны, сведчаць пра настойлівую і шырокую, тытанічную працу Федароўскага ў галіне этнаграфіі, даследаванні матэрыяльнай культуры беларускага народа, у галіне мовазнаўства, археалогіі, гісторыі і інш. Даследаваць дзейнасць Федароўскага-этнографа, Федароўскага-лексікографа, Федароўскага-археолага, Федароўскага-гісторыка — пачэсная і ўдзячная задача вучоных Беларусі.

# ДАДАТАК[1]

## ВЯСЕЛЛІ

## МАТЭРЫЯЛЫ ДА СЛАВЯНСКАЙ ЭТНАГРАФІІ

### Серыя IIª
### Люд з ваколіц Пружанаў, Бярозы, Шарашова, Сяльца, Малеча і Белавежы

Серыя II
1. Абрады

*А. Вясельныя звычаі* *

*Запыты. Залёты.* У нас тутэчкі на Літве **, як у цэлой Польшчы весною і ў осень бывают часто святкі (одпусты), на которэ сходзітса много народу. Як гэто старая прыказка: «Як много лісця на капусці только молодэжы на одпусці». Напрыклад, под Пружаною ест Засімовічы, гдэ жывэ святок на Покрову. Там подобно як і на іншые святкі збіраетса молодэж на *Запыты*. Гэто значытса которы молодзік замышляе собе которую дэўчыну, там вон ее угледэўшы пытае, чы можна ему прыходзіці з *дружком* (сватам) у сваты. Об гэтых *запытах* прыказвают:

Ідзетэ до Засімовіч пыд дуб,
Выберэце собе, которы которой люб.

Колі молодэц отрымае прыхыльное слово од дэвухы, тогды ў оўторок вэчэрэм альбо об той порэ ў чэтвэр просіт *дружка* (свата) і сваньку і з імі удаетса до хаты бацька і матэры тое дэўчыны.

* Ва ўсходняй частцы Пружанскага п(аве)та.

** На ўсход ад Пружанаў, г. зн. едучы на Малеч да Бярозы Картузскай. Люд тут ужо не гаворыць гаворкай, блізкай да ваўкавыскай, як гэта мы бачылі ў песнях і думах, запісаных у ваколіцы Шарашова і Белавежы, а закідае па-палеску. Некаторыя мае абзацы, што датычацца вяселля, з'яўляюцца дакладным узорам дыялекту, пра які ідзе гутарка. Ва ўсякім выпадку, аднак, у песні мова крыху далікатнейшая.

Едучы краз цэлую дорогу сванька спевае:

364

Ой коло двору,
Коло нового
Бітая дорожэнька.
Ой, туды ехаў молод Ясенько
На войну воёваці.
Нахіліласа чырвона калінка
Над его дорожэньку.
Вон выняў меча з правого плеча
Стаў каліну рубаты.
Вышоў до его баярынко,
Стаў его умоляты.
Прошу я тэбэ, ходзі до мэнэ
Обеда обедаці.
Ой, дзяку тобе, нема колі мне
Обеда обедаці,
Моя Касенька розплакаласа,
Нема кому уцешаці.

Увайшоўшы до хаты, дружко одзываетса: «Похвалёны Езус!» На шчо ему одказвают господарэ: «На векі амэн!» Дружко: «Мы прысланы, коб быў стол засланы, чарочка подана і дэўка прызвана». І пры гэтых словах дружко выймае пляшку з кішэні і ставіт на стол. Тогды зачынают піці гарэлку господар з дружком, а *сваха* стараетса закускі.

Выхыляючы чарку, кажут гэтакімі словамі. Дружко: «Дай жэ божэ, коб было гожэ. Коб нашэму тэляты воўка пойматы». Господар: «Будзь здароў, пане сватэ». Дружко: «Дай божэ на здороўе!» Як п'ют борыш, то найбольш прыстают до дэўкі, а вона на знак шчо згаджаетса надоп'е крышку з чаркі. Сванька сэдэчы за столом заводзіт:

365 *

Ехалі сваты мімо гай зелёны,
Мімо гай зелёны, мімо сад вішнёвы.
Сад поломалі, сокола зэгналі,
Зелёну рутэньку коньмі стопталі,

---

* Варта мець на ўвазе, што ў Пружанскім (павеце) усе без выключэння вясельныя песні спяваюцца на адну ноту, а мелодыя іх такая смутная.

У красной панночкі праўды пыталі:
Красна панночка, чы будэш наша?
Колі будэш наша, мы сад одсадзім,
Мы сад одсадзім, сокола прынадзім,
Зелёну рутоньку сам бог зародзіт.

Маты дэўкі обвівае пляшку пэрыстым поесом, шчо дае молодому право ехаці до дому з доброю надзееюю. На самом од'ездзе дэўчына завязвае дружкові ручнік чэрэз правое плечо. Гэтакіх подаркоў дружко зоўсюды достае проз цэлое вэселе сем: першы на залётах, другі на заручыны, трэйці на даведзіны ў опошні чэтвэр пэрэд вэселем, чэцвэрты по розплецінах, пяты на уповіване, шосты на подымане молодых, а сёмы на укончані вэселя.

*Заручыны. Запоіны.* Адразу пасля залётаў у першую суботу адбываюцца *заручыны,* якія часам называюць *запоінамі.* У іх прымаюць удзел не толькі дружко з маладым, але і яго бацькі і найбліжэйшыя суседзі. Малады на запоіны прывозіць з сабою барылка гарэлкі, а таксама некалькі *саўлукоў* [2], напоўненых свіным мясам, каўбасою і сырам. Да ўсяго гэтага яшчэ абавязкова павінны быць вялізны бохан хлеба і пару пшанічных пірагоў.

Дзяўчаты, якія знаходзяцца тут падчас бяседы, спяваюць:

366

Заручыны і запоіны
Бог нам даў, бог нам даў.
Не завідуйце, добрые людзі
Будэ і вам, будэ і вам.

367

Ой, у городзе віно родзіт,
Розсцелаетса зелье,
Зачынаетса, почынаетса
У нас вэселе.
Бог нам дае,
Матуля спомагае,
Ешчэ до того
Родзіма прыставае.

Наступным днём, г. зн. нядзеляй, малады разам з дружкам едуць у адпаведную парафію даць на запа-

ведзь. Бяседа на *заручынах* цягнецца часамі да панядзелка. Гэта час, у які звычайна ідуць размовы з бацькамі пра прыданае маладой. Вясельную дружыну складаюць: дружко, паддружы, чашнік, маршалак, заводчык, вазніца, 2 сванькі, дружка і нерэгламентаваная лічба каравайніц.

*Даведзіны. Дзевіч вечэр.* У апошні чацвер перад вяселлем бываюць *даведзіны,* на якіх дружко ад імя маладога ўручае дружцы чаравікі, у якія маладая абуецца, выяжджаючы да шлюбу. Па мястэчках гэты звычай адбываецца не ў чацвер, а ў суботу, г. зн. у час дзявічага вечара, на які маладая запрашае ўсіх без выключэння. У Пружане чаравікі, завязаныя ў хустку, дружко падае дружцы на талерцы разам з руцвяным вяночкам, паважна паўтараючы тройчы наступную арацыю (рацыю):

Пшысыла млодзенец
Тшэвікі і венец.
Од бога назначоны,
А од ойца і маткі поблагославёны:
Прошэ вацпанны пшыёнць!

Пасля гэтага дружка прымае перш за ўсё вяночак (на пярсцёнку абвіты рутай), а пасля чаравікі. У гэты момант *музыка,* іграючы, прыспеўвае:

368

Ой, чы з пэрцэм, чы не з пэрцэм
Я до цебе з шчырым сэрцэм,
Дзеўчыно моя,
Заручоная.
Я до цебэ прыходзіў,
Чэрэвічкі прыносіў,
Дзеўчыно моя,
Заручоная.
Цебе ў дому не застаў,
Чэрэвічкі просвістаў,
Дзеўчыно моя,
Заручоная.

Па вёсках дзявічы вечар у склад вяселля не ўваходзіць.

Я забыў сказаць у адпаведным месцы, што падчас заручын дзяўчаты спяваюць наступную песню:

369

Скажы, скажы, дэвіца,
Ты мая красавіца,
Як белы лён
Сеяці, сеяці?

Тут сванька або адна з кабет прабягае, падскокваючы, па хаце і рукой паказвае, як сеюць, адначасова выспеўваючы так:

Гэто сяк,
Гэто так.
Гэто гэтак,
Гэто так.
Пры доліні лён,
Пры доліні лён.
Пры широкóй
Беленькóй.

Дзяўчаты:

Скажы, скажы, дэвіца,
Ты моя красавіца,
Як белы лён
Полюць, полюць?

Музыка падыгрывае, а тая самая кабета, падскокваючы ў такт да музыкі, праваю рукою скубе ў паветры, адначасова прыспеўваючы як вышэй. Пасля дзяўчаты спяваюць такім жа самым чынам, пытаючыся ў дзяўчыны нібыта з боку маладога: «Як белы лён рваці-рваці, як белы лён біці, слаці, церці, трапаці, як белы лён чэшуць, прасці, ткаці, белят, урэшце як з белага льну кошулькі шыют». За кожным разам сванька, падскокваючы ў такт музыцы, рукамі робіць адпаведныя рухі, то нібы б'ючы, тручы, чэшучы, ткучы і г. д. Спяванне гэтай песні і адказы кабеты, якая танцуе, займаюць некалькі гадзін часу.

*Нядзеля. Запросіны.* У нядзелю рана маладая з дружкай, а малады з чашнікам абходзяць усе хаты ў вёсцы, запрашаючы на вяселле такімі словамі: «Прашу бога да і вас, будзьце ласкавы прыдзетэ на вэселе до нас». Просьбу гэту суправаджае нізкі паклон.

Абедзве ж маткі маладых ідуць на вёску, дзе кожная асобна запрашае суседак на *мяшэнне* караваю. Каравайніц звычайна бывае ад шасці да васьмі.

У хаце маладой вялікая гамонка, наплываюць штораз новыя і новыя госці; засцілаюць сталы абрусамі, а лавы ручнікамі і да т. п. Прыгатаванні робяць да прыезду маладога і яго дружыны.

Равесніцы і сяброўкі, акружыўшы маладую, спяваюць:

370

Ой, рано, рано по зарэ
Прыедзе молоды на коню.
Ешчэ з коніка не зсядаў,
А ўжэ молодой ручку даў —
Чы жыва, здарова, Ганулька?
Я еду молоды до торгу,
Шчо кажэш купіці, то куплю.
Купі мнэ сады з вішнямі,
Купі мнэ сэло з дэўкамі,
Купі мнэ место з сцёнжкамі (стужкамі).

*Выезд маладога з дому.* Перад выездам у хаце маладога можна пачуць наступныя песні:

371

Не горох по дорозі каціўса —
Ясенько ў дорогу радзіўса.
Баценьку, куды мне ехаці?
Едзь, сынку, шырокім госцінцэм,
Завэрні коніки до сэла,
Там твоя Ганулька вэсэла,
Усё ідучы з каморы танцуе,
Свае падружачкі частуе.
Гуляйце, падружачкі, гуляйце,
Гуляйце і о ніц не дбайце,
Бо ўжэ мое гуляне мінае,
Ясенько вэночка здымае,
Коніку на грыву ўкладае.
У коніка грыўка плецена,
Ганулька з Ясеньком злучэна.

372

Лецеў сокол чэрэз тры лэсы,
Чэрэз тры лэсы, чэрэз чэтыры.
На п'ятом лэсу паў на орэшэ,
Паў на орэшэ, з лэсом говорыў.
Ой, лэсу, лэсу, чом ты не шуміш?

Чэрэз тэбэ лэсу крылом не сегну,
Крылом не сегну, пюрком не рушу.
Ехаў Ясенько чэрэз тры сэла,
Чэрэз тры сэла, чэрэз чэтыры,
На п'ятом сэле застанавіўса,
Застанавіўса ў тэсця на дворэ,
У тэсця на дворэ, на вроном коне.
Ой, коню, коню, грай пада мною,
Узвэлічай мэнэ пэрэд тэсценьком,
Пэрэд тэсценьком, як пэрэд баценьком.

Калі ў маладога няма бацькі:

373

Зелёная дубровонько,
Шчо ў тэбэ пенькоў много?
Зелёного нігодного,
Пасым'я ні з годного.
Молоды Ясеньку,
Шчо ў тэбэ бацькоў много,
Родного нігодного?
Парадонькі ні з одного?

Перад тым як малады вось-вось пачне ўбірацца:

374

Стояла рутэнька ў край плота
Дробненькім дождж ыком обліта.
Ой, там Ясенько ўмываўса,
Своім ворожэньком кланяўса:
Ой, мое ж веце(вы) ворогі,
Да не пэрэходзьце дорогі,
А нехай перэйдзе сам пан бог
І мой баценько наперод.

Калі неўзабаве надыйдзе час ад'езду, дружко заклікае бацькоў і прысутных так: «Пане ойчэ, пані матко, панове суседзі і прыяцелі! Паблагаславеце з панам богам вшэхмагонцым гэтому дзіцяці». Пры гэтых словах малады падыходзіць да кожнага паасобку, нізка кланяецца і атрымлівае такое благаславенне: «Нэхай тэбэ бог благословіт шчасцем, долею і ўсім добрым». Дзяўчаты ў гэты час спяваюць:

375

Корыса, корыса,
Нізенько клоніса

І старому, і малому,
І баценькові своёму.

376

Лецелі гусонькі до дубу,
Клікалі Ясенька до шлюбу.
Ой, шчо ж вам, гусонькі, до того?
Ест у его баценько для того.
Сцелеце коберцы я сяду,
Благослові, ойчэ, я еду.
Благослові, родная маці,
Коб даў шчасліво шлюб узяці.

Як толькі гэтыя песні адспяваюць, *дружко* бізуном (які, як сімвал свае ўлады, заўсёды трымае ў руцэ) хрысціць дзверы, кажучы: «У імя айца і сына і святого духа, аман».

Пасля гэтага ўся дружына высыпае з хаты і займае месцы на вазах, што стаяць тут, а бацька маладога з хлебам і соллю тройчы абходзіць вакол вясельных павозак. Дзяўчаты, што стаяць у варотах, пры гэтым спяваюць:

377

Ой, ворогі, ворогі,
Не пэрэходзьце дорогі.
Нехай пэройдзе сам пан бог,
А родны баценько напэрод.

Услед ад'язджаючым:

378

Кропі оно ты коня,
Коб бог зносіў дзіця
З вэлікой дорожэнькі,
З чужое сторонэнькі,
З паміжы чужых людзей.

*Прыбыцце маладога. Выезд да шлюбу.* Звычайна яшчэ да прыбыцця маладога *маладуха* разам са сваімі сяброўкамі адпраўляецца ў каморку, дзе яе прыбіраюць у вясельныя шаты і спяваюць:

379

Бедна моя голоўка на свеці,
Дзе мне грэбенца подзеці?

Оддала б сестронкам да згубят,
Понесла б на место — не купят.

380

Ой, у недзелю рано
Молодзенька Ганулька
У сад ходзіла,
Із руты росу брала,
Росою умываласа,
А косою уцераласа.
Росою росенькою,
А косою русенькою.

Як толькі прыедзе малады, маладую, вывеўшы з каморкі, садзяць пасярод хаты на дзяжы, накрытай вывернутым воўнай наверх кажухом. Старэйшы брат або адзін са сваякоў расплятае касу. У гэты час дзяўчаты спяваюць:

381

Бедна моя голоўка на свеце,
Хто мне косэньку розплеце?
Одозваўса старшы брат у каморы:
Я твой, сестронко, родзоны,
Я тобе косэньку розплэту,
Я тэбэ до шлюбу завэзу.

Пасля гэтага матка прышпіляе прывезены маладым вяночак. Шчотку, якой расчэсвалі *маладуху*, выкідаюць за парог хаты.

Пачынаецца снеданне, у якім маладыя не ўдзельнічаюць, бо адпаведна са старым звычаем да шлюбу едуць нашча. Тым часам дзяўчаты, калі ўжо набліжаецца час выезду, ад імя маладых запрашаюць усю дружыну да шлюбу такім чынам:

382

Ходзіт молода по новом дворэ
Косонькі розпусціўшы,
Собэ дружэчкі просіт:
Едзь сванько за мною,
За русою косою,
За беленькім лічком,
За зелёным веночком.

Такім самым чынам запрашаюць найперш старэйшага, а пасля малодшага брата, затым чашніка, паддружка, музыку і г. д. Пад канец снедання заводзяць такую песню:

383

Ой, у городзі
На ярой руці
Плакала Ганулька
Веночок в'ючы.
Почуў Ясенько
По коні йдучы.
Чого сэрдэнько
Плачэш рэўненько?
Ой, як жэ ж бо мне,
А не плакаці.
У тэбэ молодого
Родні много,
У мэнэ молодое
Подаркоў мало.
Ой, не журыса,
Молода Ганулько,
Я свого баценька
Сам пэрэпрошу
Нізкім уклоном,
Ціхенькім словом.

Сіраце (у мяшчан):

384

Кругом соўненько да у гору ідзе
Наша Ганулька да шлюбу едзе.
Ее косэнькі розчэсаные
Ее сэрдэнько розжаленое.
Обойдзі, Ганулько, уоколо стола,
А ўпадзі мацёнцы на белыя ножкі
Ошыбнуць цебе дробные слёзкі.
Пошлі, Ганулько, солоўя до саду
По мацёнку дорогую,
А зозульку на Украіноньку
По ўсю твою родзімоньку.
Ешчэ соловэй не прылецеў,
А матэнька промаўляе:
Сырая зямліца дзверы зайняла,
Окном не пускае.
Мої ручкі шолком звязаны,
Не могу іх зняці

До свого дзіцяці.
Не могу рады даці.
Коб я была зозулькою,
То б я ўмела летаці.
Полецела б по ўсему свету
Свого ойца шукаці.
Полецела б на могілу,
Там сказала б ку-ку!
Мой баценьку, мой родненькі,
Падай хоць мне белу руку.
Не тая, моя Ганулечко,
Гадзінэнька настала,
Коб хутко сырая земліца
Нада мною разстала.

(У сялян):

385

Годзе молода седзеці,
Ідзі баценька просіці.
Учора ходзіла,
То не збудзіла,
Не прышоў нараджаці.
І цепер ходжу
Такі не збуджу,
Не прыйдзе выпраўляці.

386

Знаці молодэнька,
Знаці молодэнька,
Ой, шчо ты сіротэнька.
Широкі двор,
А малы збор,
Тут твого роду мало.
Пошлі солоўя на Украінэньку
По свою родзімэньку,
По родного баценька.
Соловэй злэтаў,
Родзіму зыскаў,
Родного бацька німа.
Сырая земля
Ручкі прыняла,
Оkенцо заслоніла.
До свого дзіцяця,
Да й до родного
На вэселё не пусціла.

387

Калі маладая страціла брата:

Зелёна рутэнька,
Чэму у тэбэ пенькоў много?
Зелёного нігодного.
Молодзенька Ганулько,
Чэму у тэбэ браткоў много,
А родного нігодного?
Порадэнькі ні з годного.

Пасля таго як адспяваюць гэтыя песні, дружко ўстае са свайго месца, і, звярнуўшыся да бацькоў, кажа: «Пане ойча! Пані матко! Проша о благославенство». Тут жа маладыя, падышоўшы, кленчаць, а бацька, робячы над іх галовамі знак с(вято)га крыжа, прамаўляе: «Нехай вас бог ведзе шчаслівою дорогою проз цэло вашо жыцё». Доўга не бавячыся, ад'язджаюць у царкву.

*Пячэнне караваю.* Пасля ад'езду вясельнага поезда каравайніцы, сабраныя як у доме *маладухы*, так і маладога, бяруцца мясіць цеста на каравай. У Пружанскім (павеце) не рашчыняюць цеста загадзя за тры дні, як гэта робяць у ваколіцах Ваўкавыска, але замешваюць адразу на дражджах. Караваяў пякуць трынаццаць. З іх адзін галоўны, прыбраны гускамі, барылачкамі, птушкамі, пляцёнкамі і зверху ружай, вызначаецца сваімі велізарнымі памерамі (з 5-ці гарцаў мукі). Дванаццаць астатніх, шмат меншых за папярэдні, называюць *каравайчыкамі.* Каравайчыкі прызначаюцца на падарункі пану, аканомам, ксяндзу, лепшым сваякам і арандатару; кожнаму з іх каравайчык падносяць на драўлянай талерцы і накрываюць яго намёткай з тонкага палатна ў некалькі локцяў даўжыні.

Месячы каравай спяваюць наступныя песні:

388

Зберайцеса коровайночкі ўсе пяць,
Наймеце собе служэчку помагаць.
А наняўшы по віноград пошлеце,
Той віноград у коровай улеце.
Той коровай як віноград зрасцецца,
Нашым молодым на добры быт кладзецца.

389

Ясны месячык на дворэ свеціт,
Сам бог коровай месіт.

Анелі воду носят,
Найсвентшое просят:
Найсвентшая маці
Ходзі нам помагаці
Коровая згібаці.

390

Коровайночкі, мое панночкі,
Гыбеце, не малеце,
Белымі ручэнькамі,
Золотымі персцёнкамі,
Бо ў мэнэ роду много,
А ў мого мілого
Ешчэ большэй роду,
Коб было чым обдарыці,
Короваем обдзеліці.

391

Коровайночкі гожы,
Звілі коровай з рожы.
Усё цесто покралі,
У кішэні поклалі.
На дзіво ім прышло —
У кішэнях цесто зышло.
Як сталі танцоваці,
Стало цесто выпадаці.
Стыдно вам, коровайночкі, стыдно,
У вас з кішэняў цесто відно.

392

Свеціт месяц на дворэ,
Гыбют коровай на столе.
Ой, хто ж там гыбе?
Брат з сестрою
І з тройчастою свечою.

Замясіўшы:

393

Над нашым караваём
Усе сады зацвітают
У чэрвоные кветкі,
Коб кахаліса дзеткі.

394

Ох, хто ж тому так не віноват
Як Ганульчына маці.
Ох, шчо спозніла свойму дзіцяці
Коровая гібаці.
Пошла вона по суседочкі,
Суседочэк спрохаці.
Ой, мое ж веце да суседочкі,
Станьце мне ў помоцы
З вечэра да поўночы.

395

Ой, матко, гутко (гутка — мушка, што бзыіць)
Завініса хутко.
Покуль завінешса,
То і ноч мінецца.
Матка завінула,
Коровай згарнула.
Суседок спросіла,
Коровай усадзіла.

396

Побежымо мы пыд ліпэньку,
Ухопімо мы ліпового лісту,
Пыдсыпемо пыд коровай.
Расці, короваю, як ліпэнька,
А шышэчкі, як гольечко.

397

Коровайночкі п'яны
Усей коровай покралі,
То ў рот, то ў кішэню,
То для дзецей на вэчэру.
Той коровай розбуяў,
Кішэню розорваў.

Пры пасадцы караваю ў печ:

398

Ой, дзе ж тая господыня, шчо была,
Коб пожычыла коровайночкам помэла.
Ой, дзе ж тая господыня, шчо з хаты,
Коб пожычыла коровайночкам лапаты.

399

Ой, чыя ж то губаня
Коровая гібала?
Чэрвоная хорошая
Загнет закладала.

Пасадзіўшы:

400

Ой, хорошы наш коровай, хорошы,
Бо хороша коровайночка садзіла.

Вымаючы:

401

Дай жэ божэ, добры час,
Як у людзей, так і ў нас
Шчаслівую гадзіну
На нашую радзіму.
Ой, шчоб нашой родзімі,
Шчоб ёй жыто родзіло,
Шчоб ёй жыто, пшэніца,
Уселякая пашніца.

402

Быді мы на банкеці
У господаровой клеці.
Ой, пілі мы там і елі,
Добрые мыслі мелі.
Ой, гічэ наш коровай, гічэ,
Коровайночок клічэ.
Ой, дзе ж веце коровайночкі подзеліса?
Шчо коровая забыліса.
Чы вы на мэду папіліса,
Шчо мэнэ забыліса.
Мы на мэду не запіліса,
Коровая не забыліса.

Дружко, выносячы каравай у *клецъ*, кружыцца з ім тры разы і выкрыквае:

Гоц, гоц, боска моц,
А наша пацеха.

*Вяртанне з касцёла.* Уся вясельная дружына пасля спраўлення шлюбнага абраду накіроўваецца проста ў карчму, дзе ўжо прыгатаваны *абед*. Гулянка ў карчме цягнецца няраз да самага вечара, пасля чаго кожны з маладых едзе са сваею дружынаю ва ўласную хату.

Выйшаўшы з касцёла:

403

Ой, рад жэ Ясенько, вельмі рад,
Шчо з Ганулькою шлюб узяў.
На кобэрцу постояў,
З правое ручэнькі
Персцень зняў,
До мацёнкі одослаў.
На тобе, мацёнко, подаркі
Од мое Ганулі коханкі.

Едучы праз вёску:

404

Гаі розвівают,
Сады зацвітают.
Нам полэ радуе,
Нам сэло дзівуе:
Молоды Ясенько
З шлюбоньку едзе.

Галютка з Гароднікаў

Паблізу дому:

405

Як зачуеш, мой бацэньку,
Мой голосок у полі
Засцілай столы дубовые
Белымі обрусамі.
Ой, посадзі свою родзімоньку
Коло дубового стола,
А я молодэнькі буду кланятыса
Старому і малому,
І бацэнькові своёму.

Перад домам маладухі:

406

Моя мацёнко, гутко,
Чом не выходыш хутко,
Чом нас не вітаеш,
Чом нас не пытаеш,
Чы добрэ мы шлюб узялі,
Чы хорошэ прыехалі.

Слонімцы

Перад домам маладога:

407

Ой, рад молоды, вельмі рад,
Шчо з молодою шлюб узяў.

Ой, ешчэ тому раднейшы,
Дабучын Шчо на ручнічку постояў,
З правое ручкі персцень зняў,
Своей матулі дароваў.
На тобе, матулю, персцёнэчкі
Од мое Ганулі коханэчкі.

Бацькі сустракаюць маладых ля парога хаты з хлебам і соллю.

Другна з сяброўкамі:

408

Міхаловічы Коло нового двора
Судзілавічы Не пчолонька там гула,
Мацеевічы Там Ганночка плакала
Зэ шлюбу прыехаўшы,
Бацуньку да ног паўшы.
О, мой бацуньку родненькі,
Розлучы жэ ты мэнэ,
Розмэняй пэрсцёночкі.
Розвяжы ручкі мое,
Розплэтай коскі мое,
Розберай слёзкі мое.
Мое ж ты дзецятко родненькое,
Рад бы я тысёнц даці,
Коб тэбэ розлучаці,
Пэрсцёночкі розмэняці,
Ручэнькі розвязаці,
Косонькі розплэтаці,
Слёзэнькі позбэраці,
Тэбэ к собэ узяці.

*Панядзелак. Скупыване дружак. Прыезд маладога да жонкі. Упавіване. Надорванне маладухі. Дзяленне караваю. Прыданская вячэра. Пераносіны.*

Звычайна перад прыездам маладога па жонку, у панядзелак, дружко, паддружы і чашнік выбіраюцца ў хату маладое на *скупыване дружак.* У некаторых вёсках скупыване адбываецца адразу пасля прыбыцця *маладога* па жонку. *Маладзіцу* застаюць за сталом паміж другнай і чашнікам. Торг пачынаецца ад таго, што дружко, падыйшоўшы да другны, кідае на талерку, якую яна трымае, грош, або некалькі, загорнутых у паперу. Разгорнутая, сума аказваецца замалой — другна адкідае яе назад, што паўтараецца да трох разоў. У гэты момант бабы і маладзіцы спяваюць:

409

Старое (або скупое) дружышчэ,
Ліхое шэляжышчэ.
По сметніку ходзілі,
Шэлягі збіралі,
Дружэчкі скупывалі.

Скончыўшы торг з другнай, чашнік маладога падступае з той самай мэтай да чашніка маладой. Падчас торгу маладзіцы прыспеўваюць чашніку маладой:

410

Браціку намеснічку
Сядзь собэ у крэселку,
Учыса торговаці,
Як сэстру продаваці.
Не дай сэстры од золотого,
Од таляра бітого.
Осьмак сліна —
Сэстра міла.
Седзіт за столом
Як каліна.

Чашніку маладога:

411

Чашнічкова матка
Як выпраўляла то й научала:
Будзь, сынку, разумненькі,
Налівай кубкі і полукубкі,
Коб былі поўненькі.
Частуй дзевочкі і молодочкі,
Коб былі п'яненькі.

412

За печ, дружкі, за печ
З котамі воёваціса.
Не тут вам, не тут вам
З дружышчамі торговаціса.

413

Чашнічком хоць печ мэці,
Дружэчкамі хоць гаць гаці.

Пасля скончанага торгу да чашніка маладой:

414

Не брат, не брат татарын,
Продаў сэстру за таляр.
Не брат, не брат татарчук,
Продаў сэстру за канчук.

Выпіўшы *барыш,* дружко, паддружы і чашнік вяртаюцца ў хату маладога. Малады са сваёй дружынай прыязджае да жонкі ў поўнач. Перад яго прыездам у хаце маладой спяваюць наступныя песні:

415

Ой, у полю, у полю вішнёў сад,
А ў том садочку віноград.
Ой, там молода ходзіла,
А вінограду сцерэгла,
І сцерэгучы заснула,
Ехаў молоды не чула.
Махнуў хусткою — не збудзіў,
Кінуў яблочком — не войняў (не трапіў)
І злез з коніка обойняў.
Спіт мое сэрдэнько твэрдзенько,
Спаліло слононько лічэнько,
Ветрэц косэньку розмахаў.

416

Ой, бором, бором, боровіною,
Ой, хто ж там едзе вечэрыною?
Ой, едзе, едзе молоды п'яны,
Одчыні міленька, я твой коханы.
Не одчынюса, бацька баюса.
Мого баценька двор под замкамі,
Двор под замкамі, под сторожамі.
Сторожэ почуют, замкі змацуют
Тобэ молодому неслава будэ,
А мне молодэнькой догана будэ.

417

Краем борэм калінонька зацвіла,
Краем борэм зелёная зацвіла.
Ой, там ехаў пан дружэйко пеючы,
Зачуў, зачуў сіву зазульку куючы.
То не зазулька, то не сівая ковала,

То молодэнька хорошые песні спевала,
Шэўком бэлу кошулэньку вышывала.
Дай жэ божэ кошулэньку вышыці,
Мойму мілому здоровому зносіці.

418

Гніса, погніса, каліновы мосце,
Быстрэ озэрко не трэпэчыса.
Там будуць ехаці гучные сваты
Молодого браты.
На двор з'ежджают,
Конікамі грают,
На порог ступают,
Добры вэчор дают.
Ой, добры вэчор, мой пане сваце,
Дзе та молодэнька, шчо нам узяці?
Ой, німа, німа молодой удома,
Ой, пошла молодая дай до дружэчкі,
Віе веночкі
Дай з хвіёлочкі,
А своему молодому
З зелёной руточкі.

419

Зелёна руточка, жоўты цвет,
Чому тэбэ, молодэнькі, доўго нег?
Чы я тобэ веночка не звіла?
Чы я тобэ хустонькі не дала?
Чы я тобэ веночка не звіла?
Віла веночка цветкамі,
А вышыла хустэчку клеткамі.

420

Ой, заграй, молодэнькі
У цесця на дворэ,
На вороном коне.
Не буду граці,
Ні почынаці:
Конь полохлівы,
А цесць подзіўлівы.
Конь сполохнецца,
Віноград розліецца.
Мне молодому
Догана будэ,

А ёй молодэнькой
Неслава будэ.

Як толькі поезд маладога прапусцяць праз рагатку:

421

У нашого старосты чорные очы,
Вон не боіцца цёмнае ночы.
Ой, як жэ бо мне ночы баяціса
Бог нада мною, конь пада мною,
Молода сванечка упоруч за мною.
Ой, шчо ж бо то за мудрая сванечка?
Укоціласа сонцэм, оконцэм до хаты,
Покаціласа жоўтым яблочком по столе,
Покаціласа старому старосце по поле
Выпробуючы, вышыкуючы старосты,
Чы не опойца і чы не збойца староста.

На парозе хаты бацькі маладой прымаюць маладога хлебам і соллю.

Калі дружына маладога ўваходзіць у хату:

422

Ой, выйдзь, ой выйдзь старая маці з каморы,
Вынесь, вынесь зелёного віна ў далоні,
Ой, нагрэй, нагрэй свого зяценька на дворэ.

Паддружы, унёсшы ў хату каравай, тройчы кружыцца з ім, выкрыкваючы: «Гоц! Гоц! Гоц! Боска моц!», а прысутныя спяваюць:

Дай жэ божэ добры час,
Як у людзей, так і ў нас
І г. д., і г. д., і г. д.

Калі малады садзіцца каля маладой:

423

Наехала Літва
Будзе з намі бітва.
Будэмо воёваці,
Ганулькі не даваці.

Падчас закусвання:

424

Наехалі сваты
З галоднаго краю.

Як селі, свіню з'елі.
На столе ні крышэчкі,
А под столом ні костэчкі.

Падчас танцаў:

425

Хваліўса пан дружэйко,
Обыдва молодэнькі
Не стойце да тупайце
Ножкамі, подковкамі,
Золотымі острожкамі.

Жартоўная:

426

Хваліўса пан дружэйко,
Шчо жонка роботніца:
Сем тыдні фартух ткала,
А восем вышывала,
А ў недзелю уложыла,
До недзелі сходзіла.

У танцы:

427

Ой, грай, калі граеш,
Калі добры струны маеш.
Як не будэш добрэ граці
Кажу смычка поломаці.

428

Чы так у вас, як і ў нас
По полю крапіўка?
По сто злотых кавалер,
По шэлягу дзеўка?

Перад упавіванем:

429

Догадайса, Ганулька,
Чэго маці пошла ў клецъ?
Чы по горэлку, чы по мэд,
Чы по намэтку, чы по чэпэц?
Ні по мэд, ні по горэлку,
Да по чэпэц і по намэтку.

На галаву расплаканай маладой сванька адзяе чапец, а пасля абкручвае наметкай. Маладзіцы спяваюць:

430

Шатайса, мотайса,
Уповіціса не дайса.
Не давай косок рваці,
Бо цяжко годоваці.

431

У городзе моркоўка сідэла,
Дзе ты молодэнька косоньку подэла?
Мою косоньку свечэнькі спалілі,
Недогарочкі ў чэпэц уложылі.

432

Дзевочкі, сестроночкі,
Побэрэце ў рукі розочкі,
Боронеце моей косочкі.

Дзяўчаты:

433

За печ, сванечкі, за печ
З кошкамі воёваці,
Не дэўкі уповіваці.

434

Уповілі, увіктовалі,
Коб людзі не познали.
А коб мы схоцелі,
То б ее розвэрцелі,
Скінулі б бэлёного,
Наложылі б зелёного.

435

Одсуньса, брацiку, од сэстрэ,
Бо ўжэ я вольнейшы до ее,
Бо ўжэ я вольнейшы ніжлі ты.
Я ўжэ до косцёла доежджаў
І перэд богом прысягаў,
І перэд усімі светымі,
І перэд боярамі своімі.

Калі ў час надорвання маладой малыя і вялікія падарункі з бразгатам падаюць на талерку, дружко, называючы імя кожнага, хто дарыць, выгуквае: «Ось даруе пані маладую пан ойцец і пані матка (чашнік, паддру-

жы і г. д.) срэбрам, злотам, не так срэбрам і злотам, як шчасцем і доляй на доўгае і шчаслівае жыццё».

У час абдорвання прыспеўваюць:

436

Дарэце, брацішкі, дарэце,
Сто злотых на талер злажэце.
Дарэце, сестронкі, дарэце,
Сто злотых на талер злажэце.

Падчас абдзельвання караваем:

437

Молодэнькі дружэйко
Золоты ножыкі мае,
Шчо коровай крае.
Золотая талерочка,
Дзе молодая дэвочка.

438

Нашого дружэйка кошуля
На сто злотых коштуе.
Не жона ему зробіла,
Ніва ему уродзіла,
Белы овёс выбеліў,
Горох дробны выкоціў,
А сочэўка дробно пошыла
І на дружэйка ўложыла.

У час вячэры пасля паўночы:

439

Святы понэдэлку,
Збавіў нам дэўку.
А святы оўторку
Народзіў нам жонку
Посадзіў пыд поліцу
Народзіў молодзіцу.

440

Ой. казаў жэ ты мой брацейку,
Шчо ты мэнэ не збудэш.
Ото я тобэ того слоўца
По вэсь век не забуду.
Ой, як жэ пойдзеш,

Ой, мой брацейку,
На шырокую ніву,
Ой, то спомэнеш
Свою сестронку
Сто разы на годзіну.

*Дружко* ў час вячэры, ходзячы ад аднаго да другога, увесь час запрашае вясельных гасцей есці і піць. Я прысутнічаў на вяселлі ў вёсцы Гароднікаах пад Пружанаю і заўважыў, што запрашанні *дружка* і аднекванні гасцей паўтараюцца стэрэатыпова ў такіх словах:

Д. Іі ну хоч(хоць) ложэчку!
Г. Далібо больш не буду!
Д. Іі, то ешчэ ложэк кілька!
Г. Чы ■ на вэселе прышоў есці, чы шчо?!
Д. Гля! То шчо — такі есці трэба!
Г. Ну, то ешчэ крышэчку возьму!
Д. Ну, а ешчэ?!
Г. Ужэ наеўса цалкам!
Д. Так трэба было даўно зробіці!

Дружкі і свацці ў гэты час спяваюць:

441

Ой, казаў жэ ты, кленоў лістэньку,
Не будзеш опадаці,
А ціпэр(тэпэр) падзеш,
Ой, і опадзеш
Земліцу прыкрываеш.
Ой, казаў жэ ты,
Мой ты баценьку,
Шчо ты дзіцяця
Не оддасі.
А ціпэр даеш
І оддаеш,
Доленькі не ўгадаеш.
Ой, сеш якая (сеш — калі)
Доля ліхая.
Ох, мой ты моцны божэ,
А сеш якая
Доля добрая,
То ходзі ты са мною,
А сеш якая
Доля ліхая,
То плыві собэ з водою.

442

Ковала зозулька ў садочку,
Прыложыўшы голоўку к лісточку.
Бедна моя голоўка на свеці
Солоўе кустэчкі заселі,
Дробные ягодкі аб'елі.
Плакала молода ў светліцы,
Прыложыўшы голоўку к століцы.
Бедна моя голоўко на свеці
Брацейкі ключыкі однялі,
Сестронкі лавочкі заселі.
До свёкра, молодэнька, до свёкра,
Там тобэ лавочкі просторны,
Там тобэ ключыкі будут вольны.

На *прыданскай вячэры* маці кліча дачку, каб ішла свае рэчы прымаць.

Сяброўкі спяваюць:

443

Ходзіт молода по новых сенях,
Ручэнькі згарнуўшы.
А за ею ее мацёнка,
Свечэньку запаліўшы:
Ходзі, дзецятко, за мною
Подзелімса з тобою.
Подзеліўшыса, мое дзецятко,
Розлучымося з тобою.

*Аўторак.* На світанні, калі набліжаецца час ад'езду:

444

Убэрайса, молодэнька, убэрайса,
У новые возы складайса.
Ой, ужэ ■ даўно убраласа,
У новые возы уклаласа.
Ой, дзе жэ пашоў родны баценько?
Некому дзеньковаці.
Дзенькуе, баценьку, дзенькуе,
Ужэ з твого подвор'я устэмпуе.
Уберайса, молодэнька, уберайса,
У новые возы укладайса.
Ой, ужэ ж я даўно убраласа,
У новые возы уклаласа.
Ой, дзе ж бо пошла моя мацёнка?

Некому дзеньковаці.
Дзенькуе, мацёнко, дзенькуе,
Я з твого подвор'я устэмпуе.

Такім жа чынам дзякуе брату, сястры і ўсёй сям'і:

445

Не плач, мацёнко, за мною,
Не забэру усего з собою.
Кідаю следочкі на дворэ,
А дробные слёзонькі на столе.
Пойдзі, матулю, позбірай,
Куды заганеш (задумаеш, загадаеш) посылай.
Соловэйко свішчэ, посвістае,
Зэзульку шукае.
Дзесь моя зэзулько
За трома лэсамі,
За Дунаямі.
Пэрэлэці, зэзулько,
До мого садочку,
Бо ў маём садочку
Большэй лісточку.
На маёй травіцы
Большэй росіцы.
Молодэнькі ходзіт,
Молодэнькі просіт:
Пэрэедзь, Гануленька,
До мого баценька.
У мого баценька
Стрэха новэнька.
Стрэха новэнька,
Колодзесь на дворэ,
Вэдро на ключцы,
Будэ вэсолэнько
По воду йдучы.

447

Ой, умная і розумная сванечка,
Ой, што ж вона з того розуму чыніла.
Заказала вона шчэры бор копаці,
Заказала сівы мак сеяці.
Радзі божэ дзве макоўкі ў золоці,
То я коніком своім грывэньку заквэчу,
Коб грывэнька дорожэньку свэціла.
Молодэнька молодого просіла:

Пусці, пусці, мой міленькі, з-за стола,
Нехай я зобачу свого баценька подвор'я.
Ой, не пушчу, моя міла, з-за стола.
Была ж тобэ суботэнька вольны дзень,
Было гледзеці свого ойчэнька подвор'я.

448

Ой, жэ я тобэ, мой ты баценьку,
Верненько одробіла.
Там у стодолі дай на стороні
Грабэлькі положыла.

449

Ганулька баценькові одслужыла,
На столэ сэрпа положыла.
Хто гэтым сэрпом будэ жаці?
Будэ баценько прынаймаці,
По золотому за дзень даці,
Такі верно не будэ жаці,
На сонэнько поглядаці,
Ужэ сонцэ нізко, вэчэр блізко,
Жэ б як хучэй заплату ўзяці
І з бацькоў поля убегаці.

450

Коні рогочут,
До дому хочут.
Гануленька плачэ,
Ехаць не хочэ.
Сваткове спэвают,
До дому рушают.
Сванечка плэшчэ
Ночуймо ешчэ.
Гарэлкі куфа,
Ночуймо тута.
Людзей поўна хата,
Ночуймо ў свата.

451

До дому, сватове, до дому,
Поелі конікі солому
Оўсяніцу і трасяніцу,
І ўселякую мешаніцу.

Сванька:

452

Была осень, была зіма,
Былі хлопцы, цепэр німа.
Ешчэ таке лято бэндзе,
Цо задосыць хлопцув бэндзе.
Я бы брала хоць з худобы,
Абы собе до сподобы.

453

Ой, Ганулечко, уберайса,
У кованы возы укладайса.
Ой, час-пора, гадзіна твоя
На быт выежджаці,
Свого быту одведжаці.
Ой, ужэ бо я убраласа,
У кованы возы уклаласа.
Ой, дзе ж пошоў мой баценько?
До саду, вінограду.
Німа кому дзяковаці.
Нехай конікі постоят,
Белы оброк з'едзят.
А як прыдзе мой баценько зэ саду,
То я ему подзякую і сяду.
Як куе зэзулька, так куе,
А Ганулька баценькові дзякуе.
Ой, казаў жэ ты, мой баценьку,
Шчо не забудэш ты мэнэ.
Сегоні ж я на воз седаю,
Нагледзіса на мэнэ,
Як на ружу чэрвоную,
Так на мэнэ молодую.

Калі ўжо ўсё гатова да ад'езду, маршалак, які толькі цяпер выступае ўпершыню ад самага пачатку вяселля, устаўшы са свайго месца, гаворыць: «Пане ойчэ, пані матко, прошэ о благославенство для тых дзеці на шчэнслівон подруж». Тут маладуха з плачам кідаецца бацькам у ногі, а вясельныя госці высыпаюць з хаты, спяваючы паўсюдна вядомую песню:

454

Сядай жэ, сядай, кохане мое,
Ніц не поможэ плакане твое.
Ніц плач не поможэ,

Кеды стоён коні в возе позакладаны.
Ой, сядай, сядай, кохане мое,
Ніц не поможэ плакане твое.
А як я бэндэ сядала,
Кеды я матцэ не дзенькована.
Ой, дзенькуе, пані матко,
Цо чэсала глувкэ гладко,
Тэраз не бэндзеш.
Ой, сядай, сядай, кохане мое,
Ніц не поможэ плакане твое.
А як я бэндэ сядала,
Кеды я ойцу не дзенькована.
Ой, дзенькуе, пане ойчэ,
Цо выгодовал мне в цноце,
Тэраз не бэндзеш!

Як маладыя ад'едуць:

455

Уставайце, брацейкі, ужэ свет,
Ужэ вашое сестронкі даўно нет.
Ой, чулі мы, чулі і сплючы,
Ехала Ганулька плачучы.

У дарозе — сванька:

456

Зелёна дуброва розлегаецца,
Молодоі сэрдэнько розрываецца,
Шчо з дзевочкамі розстаецца.
Кідаю вам, дзевочкі, два садочкі.
У одном садочку ружа чэрвоная,
У другом садочку рута зелёная.
Війце веночкі шчо недзелёчкі,
Спомінайце мэнэ шчо годзіночкі.

457

Беце сцену каменную замочком,
То прывеземо молодую з вэночком.

458

Ой, там за лэсом мадзьвэдзь рыкае,
Нашое молодое свекроў ліхая.
Я тому мадзьвэдзю солодзін пыдкіну,
А своей свэкрухноньцы пэрыну кіну.

Я тому мадзьвэдзю солодзін подсып'ю,
Нэхай мадзьвэдзь той солодзіны смокчэ,
Нэхай свекрухна ў пэрыні квокча.

Бацькі маладога прымаюць маладых ля парога хлебам і соллю. Маршалак, перахрысціўшы дзверы, уваходзіць у хату самы першы, за ім ідуць: музыка, маладыя, дружко, чашнік і рэшта дружыны. Сванька спявае:

459

Ой, хоць я знебыласа,
Але я здобыласа.
Хоць ночкі не даспала,
Але я скарыстала.
Прывэзла невесточку
З ручкамі, з ножкамі,
І з сінімі очкамі.

460

Уцешыласа хата,
Шчо невестка богата.
І ешчэ тому господыня,
Шчо стане кубэл-скрыня,
І ешчэ тому обора,
Шчо стане вол і корова.

Змест: Падыманне. Надорванне свекрыві. Надорванне маладога. Абдорванне караваем. Пpыданская вячэра. Заканчэнне.

Яшчэ крыху пагуляўшы, дружына вясельная праводзіць абоіх маладых на адпачынак у стадолу. Пасля гэтага ўсе разыходзяцца, і вясельны тлум на хвіліну змаўкае. Пад вечар, сабраўшыся поўнасцю, вясельныя госці накіроўваюцца да стадолы, спяваючы:

462

Ясная зорэнька на небі стала,
Гануленька з Ясенькам спала.
Вона думала, шчо неслава будэ,
А як устала, слаўнейша стала.

463

Ковала зэзулька на клуні,
Будзіла Ганульку у клуні.

Уставай, Ганулько, доўго спіш,
Чым свого свёкорка надарыш?
Шчо тобэ, зозулько, до того,
До подаруночку мого?
Як я тую скрыню одчыню,
Тонкого кужэльку урэжу,
Тым свого свёкра надару.

Як толькі маладыя пакажуцца ў хаце, музыка ўцінае па струнах, і з ім вяртаецца гаманкая весялосць, без якой не абыходзіцца ні адно вяселле. Пасля гэтага маладая надорвае абоіх свёкраў, а таксама цётак маладога, вызначаючы кожнай па намётцы (кавалак палатна на 4 локці даўжыні). Падарункі, пра якія ідзе гаворка, падае дружко на бізуне, кажучы пры гэтым: «Ото такжэ даруе наша пані млода свёкрэ (свёкра і г. д.) своён. Прошэ пшыёнць!» У гэты ж дзень вясельныя госці накіроўваюцца таксама з падаркам у двор.

Надорванне маладога і абдзельванне караваем, а таксама прыданская вячэра часамі бывае ў аўторак, у іншых жа ваколіцах пад канец вяселля, г. зн. у чацвер. Як надорваюць маладога, дружко кожнага з тых, што дораць, вылучае па чарзе такім чынам: «Ото такжэ даруе нашэго пана млодэго срэбрэм, злотэм брат, сусед, таварыш і прыяцель (тут называецца прозвішча кожнага), які быў на паслугах і надалей быць дакляруе. Даруе ён не так срэбрам і злотам, як шчасцем і доляю на шчаслівае жыце».

Калі крояць каравай, можна пачуць песню:

464

Мы пшэніцу пололі,
Ручкі покололі.
Дайце скоштоваці,
Чы солодкі, чы смачны.

Дружко, наклаўшы поўную місу дробных частак абрадавага печыва, частуе кожнага паводле старшынства. Пры гэтым не адыйдзе ні ад каго, каб не падкінуць хоць слоўца. Я чуў, як да некаторых маладзіц ён прамаўляў такім чынам: «Наце, каштуйце, да памятайце, у ночэ не спеце, дзяцей рабеце, хоч цяжко гадаваці, затое коровая добрэ каштаваці». Астатнія кавалкі дзеляць на столькі частак, колькі ёсць непрысутных, і іх перасылаюць ім дадому. Ружа, якая сядзіць на самым

вяршку каравая паводле прынятага звычаю дастаецца звычайна бедным. Дзеляць яе звычайна пад касцёлам або цэркаўкай.

Як толькі бацькі маладое набліжаюцца да хаты на прыданскую вячэру, тады спяваюць:

465

Чые то прыдане блудзіло,
У чыстом полю дорожэньку згубіло?
Сюды, сюды, прыданечко, до сэла,
То сюдамо молодэнька везёна.

У сераду ідуць з падарункам да карчмаркі, якая тут жа прымае прыбыўшую дружыну, частуючы гарэлкай.

Пры набліжэнні пятніцы вясельныя забавы прыціхаюць. Прыказка кажа, што: «Казала качарга, каб вяселле было да чацвярга». Пад канец вяселля моладзь, прыбраная за цыганоў, прабягае па вёсцы са спевам:

466

Чом цыгане не горут?
Бо не мают снасці.
Коло гаю походжают,
Коб коня украсці.

Нарэшце дружына пакідае вясельную хату са спевам:

467

Ой, полецелі усе гусэнькі
На жыр жыроваці.
Ой, покінулі одну гусэньку
Удома зімоваці.
Ой, поехалі усе сватове
До дому домоваці.
Ой, покінулі одну Ганульку
У свёкра гороваці.

У некаторых мясцовасцях вяселле канчаецца ў пятніцу посным абедам. Калі ў каторага з маладых памерлі бацька або матка, тады ў пятніцу рана даюць на жалобную мшу, а абед, які адбываецца пасля вяртання з касцёла, называецца жалобным. У Ваўкавыскім (павеце) сірата, даючы на запаведзі, адначасова заказвае і мшу за душы памерлых бацькоў.

Апісваючы вясельныя абрады ў Пружанскім (павеце), я таму не ўдаваўся ў падрабязныя апісанні, што ўсе яны вельмі блізкія да абрадаў, якія адбываюцца ў Ваўкавыскіх краях. Ёсць, аднак жа, розніца, якую паказваю ніжэй. А менавіта:

1. У Ваўкавыскім (павеце) на *даведзіны* адпраўляецца матка са сванькаю, у ваколіцах жа Пружаны бачым, што на залёты накіроўваецца малады з дружкам і сванькай.

2. У Пружанскім (павеце) дружко, чашнік і паддружы атрымліваюць ад маладой *ручнікі* ў кожны прыход, у Ваўкавыскім жа *падаркі* даюцца толькі адзін раз.

3. Дзявічага вечара не бывае.

4. Каравай пякуць у нядзелю, пасля таго, як выпраўляць маладых да вянца, а замяняюць яго пасля шлюбу.

5. Пры *ачэпінах* (*упавіване* або *упавіяне)* на галаву надзяюць не *шапку,* як гэта робяць у Ваўкавыскім (павеце), а *чапец* свайго вырабу, пасля чаго ўсю галаву абкручваюць намёткай.

У Хільчыцах, дня 13 верасня 1879 года. Федароўскі.

Прыпіска на полі: Маладая ў Пружанскім раздае да 70 падаркаў. Дапусціўшы, што кожны падарак мае 4 локці даўжыні, атрымліваецца, што яна раздае каля 280 локцяў кужэльнага палатна. Ёсць звычай, што маладая кожнага з мужыковага роду, хто з ёю ідзе ў танец, перавязвае ручнікам. Таксама перад выездам да вянца і стаўшы перад мужыковым домам на кожнага каня закідае ручнік.

## в. ВЯСЕЛЬНЫЯ АБРАДЫ

Серыя V

Ваколіцы Слоніма,
Дзятлава і Дварца

Раздзел 2

Абрады

### ВЯСЕЛЛЕ I

#### З-пад м. Дварца (Студзераўшчына, Вішава, Зарэчча, Горка)

У пададзеных ніжэй апісаннях некалькіх вяселляў з ваколіц Слоніма і блізкіх да яго мястэчак даследчык звычаяў нашага народу натрапіць на цікавыя адценні, уласцівыя толькі тутэйшай ваколіцы. Або дапаўняючы звычаёвае права нашага люду, або высвятляючы некаторыя звычаі і абрады, яны могуць быць добрым матэрыялам пры супастаўленні, параўнанні і чыненні вывадаў. Мяне перш за ўсё тут турбавала тое, каб у належным парадку выказаць адрозненні, пра якія ідзе гаворка. Таму я спыняўся на іх больш шырока, тады як пра іншыя абрады і звычаі вясельныя, уласцівыя не толькі тутэйшым краям, але і ўсёй т. зв. Літоўскай Русі, каб не паўтарацца, толькі нагадаў, а чытача, каб ён папоўніў менш дакладна апісаныя дэталі і ўявіў сабе агульны вобраз вяселля, адсылаю да Серыі III, у якой вясельныя абрады прадстаўлены як найдакладней. Самая пара вяселляў, так як і ва ўсёй Польшчы, распачынаецца тут з Пакровы (1 кастрычніка). Перапынак настае ў Піліпаўку. Але як толькі наступаюць запускі, вяселлі гуляюцца безупынна і толькі з прыходам Вялікага посту прыціхаюць вясёлыя водгаласы скрыпак і працяглыя, з павагай спяваныя мелодыі абрадавых песень. У іншую пару года вяселлі адбываюцца толькі з прычыны выключных акалічнасцей. Гэта перш за ўсё тады, калі з-за смерці гаспадыні пакінутыя дзеці і гаспадарка вымагаюць неадкладнай замены нябожчыцы. У такім выпадку ўдавец праз чатыры або пяць тыдняў пасля смерці сваёй жонкі жэніцца паўторна. Вясельныя абрады адбываюцца тут адначасова ў абедзвюх вясельных хатах пры спеве

адных і тых самых песень ажно да моманту пераезду *маладухі*, за якою ўся дружына, родныя і госці адпраўляюцца ў хату дзецюка; у хаце ж, з якой выехала маладая, запаноўвае глухая ціша, паяднаная з жалем бацькоў, разлучаных з дачкою.

*Сваты. Запоіны.* Залёты, або як іх тут называюць *сваты*, адбываюцца адначасова з *запоінамі* позна вечарам у чацвер або суботу. У *сваты* да аблюбаванай дзяўчыны едзе звычайна *сват* з бацькам *дзецюка* або з ім самім. *Сваты*, як і *запоіны*, бываюць аднойчы, у тым жа разе, калі *бацькі* не зарыентаваліся даць станоўчы адказ, паўтараюцца ў наступную суботу пры ўдзеле тых самых асоб. Увайшоўшы ў хату, сват вітае дамашніх звыклым: «Нех бэндзе пахвалёны Езус Хрыстус!» Пасля гэтага вымае з кішэні пляшку гарэлкі і стараецца завязаць гутарку з гаспадарамі, якая звычайна канчаецца высвятленнем сапраўднай мэты прыезду. Як толькі дзяўчына выкажа слова згоды, а бацькі гэтаму не супраціўляюцца, сват прыносіць з карчмы некалькі гарцаў гарэлкі, гаспадары ж са свайго боку ставяць закуску. Наступае бяседа, на якую дзяўчына запрашае найбліжэйшых сваякоў. Падчас гэтай урачыстасці сват *запівае дзеўку*, г. зн. ад імя *дзецюка* падае дзяўчыне чарку гарэлкі, у якую папярэдне ўкінуў некалькі штук сярэбраных манет. Дзяўчына на знак згоды чарку з пітвом толькі прыхіляе да вуснаў, бо выпіць да дна ёй не дазваляе дзявочы сорам. Паводле звычаю гарэлку яна вылівае ў фартух, які трымае ў левай руцэ; туды ж трапляюць і грошыкі, што знаходзяцца на дне кубка. Гэта называецца *запілі дзеўку*, а прыняцце *чаркі* з рук свата ўважаецца за заручэнне будучай пары. *Запоіны* гэтыя адпавядаюць *заручынам* у іншых мясцовасцях. Пасля запоін, якія звычайна бываюць за два тыдні перад шлюбам, даюць на запаведзь, пасля чаго ў абедзвюх хатах хутка пасоўваюцца наперад прыгатаванні да вяселля, што павінна адбыцца. У Ваўкавыскім (павеце) бачым свата, які ў апошні чацвер перад вяселлем прыбывае ў дом дзяўчыны, каб даведацца, ці ўжо прыгатавана рашчына для абрадавага печыва; тут жа сват (або ў некаторых вёсках сам малады) у гэты ж дзень прыбывае *спаўняць падаркі*, г. зн. пазнаёміцца, колькі ёсць асоб мужыковай радні, каб маладая мела час падрыхтаваць адпаведную колькасць паясоў, а таксама трохлокцевых кавалкаў палатна, якімі надорвае кожнага паасобку адразу пасля пераносін. У гэты дзень маладыя запрашаюць асоб, якія павін-

ны ўвайсці ў склад вясельнай дружыны. Назаўтра па вёсцы ходзіць хлопец, які называецца *прасаты*, і ў кожнай хаце апавяшчае, што ў суботу распачнецца вяселле і што на яго маладыя просяць сваіх суседзяў.

*Каравай.* Паводле старога звычаю каравай у абедзвюх хатах рашчыняюць у чацвер; у дзяўчыны яго рашчыняе хлопец, у маладога — дзяўчына. Калі ж хто з маладых у чацвер нарадзіўся, у такім выпадку звычаёвае права прымушае рашчыняць у той хаце на дзень раней, г. зн. у сераду, ці радзей у пятніцу, чаго вельмі пільнуюцца. Абрадавае цеста месяць і пякуць у суботу, г. зн. напярэдадні шлюбу, і таму дзень гэты называюць караваем (кажуць: ідзем на каравай, былі на караваі і г. д.). У гэты дзень, яшчэ да вечара, дружка з сяброўкамі прыбірае маладую як да шлюбу: апроч кашулі з высокім стаячым каўняром, самадзельнага андарака і шэрай, ззаду пышна фалдаванай сярмягі, падпяразанай у бёдрах узорыстым поясам, на галаву кладуць гірлянду з рознакаляровых стужак, да якой прыколваюць маленькі з засушаных лісткоў дзікага гарошку (ляды) вяночак; на плечы спадаюць доўгія косы з дзесяткам яскравых стужак. Дружка прыбрана амаль так, з той толькі розніцай, што на галаве мае белую хустку, нібы турбан, скручаную валікам. Прыбраная так, як мы толькі што бачылі, маладая, накрыўшыся хусткаю разам з дружкаю ідзе на вёску, дзе, ходзячы ад хаты да хаты, запрашае ўсіх без выключэння словамі: «Прашу бога найвышшага і вас на веселе». Кажучы гэта, перад кожным пасобку кланяецца да пояса (у Ваўкавыскім толькі нахіляе галаву); пасля цалуе ў абедзве рукі і абдымае ногі, і паўторна дае нізкі паклон. Дружка робіць тое самае. У двор таксама прыходзяць. І тут не толькі паноў, але і ўсіх слуг іхніх запрашаюць на вяселле, бо звычай не дазваляе нікога абмінаць. З хаты, у якой не застае на стале хлеба і солі, выскоквае адразу за парог і чакае ў сенцах датуль, пакуль дружка не паведаміць ёй, што гаспадары ўжо гатовы яе прыняць. Так загадвае звычай адвечнай гасціннасці на ўсім абшары нашага земляробчага краю. Адначасова такім жа спосабам запрашае гасцей і малады, які бярэ з сабою звычайна дружка. Як прыбудуць госці, сваякі і ўсе члены дружыны, пачынаецца само вяселле пры музыцы і спеве каравайніц, занятых мяшэннем цеста на каравай. У час мяшэння і выгладжвання абрадавага цеста прасаты трымае міску, поўную крынічнай вады, у якую каравайніцы макаюць

рукі. Маршалак жа адзін за другім саджае караваі ў печ. Заможнейшыя жыта, прызначанае на каравай, адвяваюць, бяднейшыя ж мелюць зерне з *пушком* і абрадавае цеста выпякаюць з мукі напалову змяшанай з мякінай. Найбольшы каравай, аздоблены завітушкамі і гускамі, праз усё вяселле ляжыць пасярэдзіне стала, накрыты белай хусткай. Каравайчыкаў пякуць больш ці менш у залежнасці ад заможнасці, аднак лічба іх не перавышае паўтара дзесяткі. Усе яны разам з галоўным караваем звычайна бываюць падсыпаныя аўсом. У хаце маладога ў адзін з каравайчыкаў утыкаюць трохзубую *рагаценьку*. Такая *рагаценька,* накрытая чырвонай хусткай, уяўляе т. зв. *кветку,* якую сват на працягу ўсяго вяселля, ідучы перад маладымі, трымае аберуч (сват з кветкай суправаджае маладых нават да алтара. Да кожнага ■ трох зубоў рагаценькі прывязваюць чырвонай ніткай па тры жытнія каласы) і толькі перад самымі пераносінамі пакідае яе ў хаце бацькоў маладой.

*Свадзьба* (дружына) *вясельная.* У склад *вясельнай свадзьбы* з боку маладой уваходзяць: *прасаты, маршалак, заводчык, музыка* (скрыпач), *сваха, дружка, каравайніца* старша, *каравайніц* маладых найменш дзве, у заможнейшых іх бывае больш за дзесяць. Да дружыны маладога, апроч *прасатага, маршалка, свахі* ці *сванькі,* далей *заводчыка, музыкі* і *каравайніц* належаць: *дружко* і разам з тым *сват*. Пра пасаду *прасатага* я ўспамінаў раней. Маршалак жа на працягу ўсяго вяселля выступае толькі раз, калі саджае ў печ абрадавае цеста. За *дружку* маладая выбірае звычайна адну са сваіх сябровак, якая добра ведае песні і звычаі. *Дружка* з дружкам на працягу ўсяго вяселля носяць за пазухай невялічкія булачкі хлеба з крыжамі на скарынцы. Звычаёвае права не дазваляе дзяўчыне больш за два разы ў жыцці быць дружкаю (калі дзеўка ўжэ была два разы дружкаю, то як яе просяць, то павінна адказацца, бо ўжэ больш ні можно — прыпіска на полі.— **Я. С.**). Тое ж самае права забараняе маладой быць свахай на вяселлі сваё дружкі. Чын *заводчыка* выконвае малодшы брат, калі ж яго няма, як маладога, так і маладую першылепшы падростак вядзе на пасад, з-за чаго і *заводчыкам* называецца. На ролю вазніцы ў Ваўкавыскім (паавеце) звычайна запрашаюць каго-небудзь з чужых мужчын, тут жа сястры-дзяўчыне гэтую апошнюю паслугу робіць старшы брат. Старшая каравайніца павінна вельмі добра ведаць, як спячы абрадавае цеста. Каравай па-

вінен адразу ўдацца, бо звычай забараняе пячы яго паўторна. Той жа звычай ад каравайніцы вымагае, каб мела і вока спрытнае і каб рука яе меру ўпраўна адчувала, таму што каравайчыкі павінны быць роўнай велічыні. Калі на апошні цеста не хопіць, або астанецца больш як трэба, то гэта лічыцца найгоршай варажбой. З гэтай уласна прычыны на цэлае сяло бывае часта доўгія гады адна і тая самая кабета, якая на ўсіх вяселлях выконвае абавязак каравайніцы. Каравай, як я сказаў вышэй, толькі раз у жыцці пячэцца. Таму ўдаўцы і ўдовы, якія паўторна жэняцца, абрадавага цеста не маюць. Калі ўдавец жэніцца з дзяўчынай, звычай дазваляе яму толькі са звычайным пірагом або боханчыкам хлеба, накрытым белай хусткай, пераступіць парог дому маладой. Абавязкі свата на ўсёй тэрыторыі нашага краю адны і тыя ж — гэта вартавы бездакорнасці адвечных абрадаў, разам з тым упраўляючы і поўны гаспадар вяселля.

Усе мужчыны, якія ўваходзяць у склад вясельнай дружыны, для адрознення маюць прышпіленыя да боку шапак пучкі зялёна засушанага гарошку (ляды) з чырвонымі стужкамі (жычка).

У канцы напомню, што маладога перад шлюбам называюць *дзецюком*, што азначае юнак, хлопец; пасля ж яго называюць *маладым;* у песнях тутэйшых старон ён часцей за ўсё выступае пад назвай *сужонка*, г. зн., што быў ён для маладой суджаны ці прызначаны ад бога.

*Нядзеля. Прыезд маладога. Маладую садзяць на пасад. Застрыганне. Выезд да вянца. Абед пасля вянчання.*

Малады пасля таго як яго завядуць на пасад і паблагаславяць, з самага ранку са сваёй дружынай вырушае да хаты маладой. Прыбыўшы да вясельнай хаты, малады, якога апярэджвае сват, што нясе кветку, і скрыпач, што выцінае вясёлага марша, крочыць у сенцы, дзе разам з дружкам затрымліваецца на нейкі час. Тым часам сват, увайшоўшы ў хату, вітае ўсіх звычайным: «Нех бэндзе похвалёны Езус Хрыстус!» Пасля ставіць на стале абрадавую кветку, а сам пачынае размову з гаспадаром, які садзіць яго на покуці і частуе панастаўлянымі на стале ядой і пітвом. Калі ў хаце шумны рух жанчын перамешваецца з музыкай і галоснай размовай гасцей, якія ўвесь час прыбываюць, за сенцамі ў каморы дзяўчаты, спяваючы, памагаюць дружцы ўбіраць у шлюбныя шаты маладую. Убіранне скончана. Брат маладой, увайшоўшы ў хату, паведамляе пра гэта свату.

Тады сват, узяўшы аберуч кветку, тут жа з *заводчыкам* і музыкам, які падыгрывае, ідзе па маладую ў камору. З каморы яны выходзяць у такім парадку: *сват*, несучы кветку, за ім скрыпач, пасля *заводчык* з маладою, трымаючыся за абодва канцы ручніка, нарэшце дружка і сяброўкі замыкаюць шэсце. Дайшоўшы да парога, сват затрымлівае ўсіх, а сам уваходзіць унутр хаты. Увайшоўшы, зачыняе за сабою дзверы і вітае ўсіх сабраных: «Нех бэндзе похвалёны Езус Хрыстус!» На гэта яму ўсе ўдзельнікі бяседы адказваюць: «На векі векув!» Наступае на хвіліну цішыня. Сват, адкашляўшыся, зычным голасам кажа: «Я прысланы ад пана бога і ад маладое прасіці, ці можна яе на пасад пасадзіці?» На гэта ўсе ў адзін голас: «Пазваляем, няхай сядае шчасліве!»

Тады сват: «Прыходжу другім разам за боскім расказам прасіці пана ойца, пані маткі, сясцёр, братоў, суседзяў і прыяцелёў, ці можна панну маладую на пасад пасадзіці?» «Пазваляем!» — адказваюць усе.

Сват: «Прыходжу і трэйцім разам за боскім расказам прасіці пана ойца, пані маткі, сясцёр, братоў, сусядоў і прыяцелёў, ці можна панну маладую на пасад пасадзіці? А такжа прашу ўсіх добрых людзей благаславіць».

На гэта ўся дружына: «Пазваляем і благаславімо! Няхай яе бог благаславіць, шчасце і долю плодзіць!» Тады сват, адчыніўшы дзверы, уводзіць у хату маладую (маладыя ўсё яшчэ стаіць у сенях). Трымаючыся з заводчыкам за супрацьлеглыя канцы ручніка, яна тры разы за сватам, які нясе кветку, абыходзіць вакол стала, кланяючыся і цалуючы кожнага *. Пасля гэтага садзіцца на пасадзе, г. зн. на падушцы, якой накрыты каравай.

З а ў в а г а. Такім самым чынам і малады, перш чым выехаць са свае хаты, быў пасаджаны на пасад.

Калі маладая нарадзіла ў дзявоцтве дзіця, звычаёвае права ў такім выпадку класці каравай пад падушку забараняе. Калі ж за нейкі час перад шлюбам дзяўчына стане цяжарнай, або страціць нявіннасць і пра гэта ніхто не ведае, у такім выпадку павінна сама папрасіць, каб каравай вынялі, бо ў адваротным выпадку ўсё жыццё ёй будзе пагражаць страта боскай ласкі і людская па-

---

* Старэйшым цалуе рукі. Удовы, выходзячы замуж, дзецям сваім, калі іх маюць, паклонаў не аддаюць. Звычай гэты распаўсюджваецца і на перадшлюбных дзяцей.

гарда, што ў сто разоў горш, чым перанесці хвілінны сорам. Звычай гэты ў роўнай ступені распаўсюджваецца і на маладога, а пра парушэнне яго мне ніколі не даводзілася чуць.

Па некаторых вёсках, размешчаных бліжэй да Дварца, маладую, ведучы на пасад, заводчык абводзіць тры разы па лавах, якія стаяць уздоўж сцен усёй хаты. Калі маладая сядзе на пасадзе, маючы з левага боку заводчыка, тады старшы брат, прыступаючы да расплятання касы, тры разы пытаецца: «Пытаюся першым (другім, трэйцім) разам за боскім расказам, ці ест у гэтаго дзіцяці ойцец і маці, і ці пазволяць русу касу расплятаці?»

На што бацькі за кожным разам адказваюць: «Пазваляем і благаславімо!» Расплёўшы касу, брат садзіцца з правага боку, а сваха або матка грамнічнаю свечкаю прыпальвае валасы ў чатырох месцах, г. зн. над ілбом, на патыліцы і над скронямі, пасля абразае кончыкі касаў, што называецца *застрыганем.* Толькі цяпер сват уводзіць з сяней маладога і ад яго імені надорвае маладую парай чаравікаў, а таксама параю шарсцяных панчохаў і двума локцямі чырвонай *жычкі* (лента) на падвязкі. Усе гэтыя рэчы, якія сват падае на бізуне, прымае дружка. Пакуль маладая занята абуваннем, сват таргуецца за месца з братам маладое і заводчыкам, якія, атрымаўшы па некалькі сярэбраных манет, уступаюць месца маладому. З гэтага часу маладыя да канца вяселля разам ходзяць і садзяцца, трымаючыся за два супрацьлеглыя канцы доўгага ручніка. Як толькі адспяваны песні, якія разам з іншымі я падаю пры канцы гэтага апісання, маладыя разам з усёй дружынай устаюць са сваіх месцаў, а атрымаўшы адпаведнае благаславенне, выходзяць на панадворак, дзе іх ужо чакаюць запрэжаныя вазы. За хвіліну да ад'езду бацька, трымаючы на талерцы гарэлку і хлеб, тры разы абходзіць кругом і частуе дружыну, якая ўжо сядзіць на вазах; матка ж, ідучы за ім з поўным вядром вады, аблівае ўсіх коней, якія павінны павезці вясельную дружыну ў божы дом.

Пасля шлюбу маладажоны ў гэтых краях звычайна заязджаюць на абед не ў карчму, як гэта робіцца ў іншых ваколіцах, а да аднаго са сваякоў, які папярэдне на такую ўрачыстасць запрашае маладых з усёй іх дружынай. Скончыўшы абед, малады са сватам, дружкам і скрыпачом адпраўляецца да сваіх бацькоў.

*Панядзелак. Спавіванне. Надорванне маладой яе раднёй і гасцямі. Пераносіны. Надорванне свёкрай супоні-*

*цамі. Ачэпіны. Маладая надорвае мужыкоў род. Надорванне маладога. Вясельныя госці ў дварэ. Танцы. Прыбыццё маладажонаў з куццёю да бацькоў маладой.*

Звычайна якраз з усходам сонца малады прыязджае да свае жонкі. З яго прыбыццём пачынаюцца танцы, спевы і вясельныя забавы, якія з невялікімі перапынкамі цягнуцца да самага вечара. Калі пачынае змяркацца, маладую садзяць на покуці і прыступаюць да т. зв. *спавіяня*. Амаль на ўсёй тэрыторыі Літоўскай Русі маладую ў гэты час звычайна ачапляюць у доме яе бацькоў. Тут гэты абрад мае месца ноччу з панядзелка на аўторак, пасля таго, як яе перавязуць у мужыкоў дом. Дык для *спавіяня* садзяць *маладуху* на лаве, сваха здымае з яе галавы гірлянду з вяночкам і накрывае яе распасцёртай белай хусткай, якую завязвае пад барадою на вузел; верх галавы, што хвіліну назад быў аздоблены гербам дзявочай красы, цяпер па версе хусткі перавязаны чырвонай *жычкай*, або такога ж колеру не вельмі шырокай стужкай. Пасля сканчэння толькі што апісанага абраду сват заклікае ўсю радню і ўсіх прытомных гасцей дарыць маладую, якая сядзіць усё на тым жа самым месцы. Прымаючы падарункі (палатно, лён, інвентар, грошы), сват ад імя маладой кожнаму асобна дзякуе такімі словамі: «Дзякую табе! Няхай гэты дары будуць тваім дзецям аддарованы».

Позным вечарам або ноччу маладуху з яе пасагам, які месціцца ў замыканых кублах, перавозяць у дом бацькоў яе мужыка. Перад самым ад'ездам сват пакідае бацькам каравай маладога, на яго ж месца бярэ з сабою каравай маладой *.

*Свякрухна* прымае нявестку ля парогу хаты, маючы на сабе вывернуты кажух, хлеб з соллю на талерцы трымае ў руцэ. Калі ўжо кублы з адзеннем унясуць у сені, на вачах усёй дружыны старэйшы брат *маладухі* ўносіць века, прысутныя пры гэтым бацькі маладога кладуць у той кубел два руны воўны: *свёкар* заўсёды дае ад сябе белае руно, а *свякрухна* паводле звычаю павінна даць чорнае. Тады *маладуха* абоім свёкрам кланяецца і, цалуючы рукі, дае кожнаму з іх па кашулі, пашытай ёю з тонкага палатна. Кашулі тыя завуцца *супоні-*

* Звычай замяняць караваі ў Ваўкавыскім (павеце) мае месца ў суботу вечарам. Калі ж малады з другой вёскі, у такім выпадку замена караваяў адбываецца ў нядзелю перад выездам да вянца.

*цамі (супоніца)*. Увайшоўшы ў хату, *маладуха,* перад якою сват нясе кветку, садзіцца на *покуці,* сваха ж прыступае да ачэпінаў. Яна надзяе на галаву маладой вялікі чапец звычайна з чырвонай матэрыі з цюлевымі *брыжамі,* якія ў Літве (Беларусі.— **Я. С.**) называюць *шапкай.*

Надыходзяць спевы і танцы, якія распачынае *маладуха,* кружачыся па тры разы з кожным членам мужыковай радні. Потым перад кожным, хто з ёю танцаваў, *маладуха* нізка кланяецца і абвязвае яго самаробным узорыстым поясам, адначасова трохлокцевым кавалкам даволі тонкага палатна. У час гэтага надорвання сват гукае: «Такжэ дажы пані-млода NN (*дзевера, залвіцу* і г. д.) падаркам, велькім кавалкам. Не ту робёно, у Варданьску (ці не ў Гданьску?): прошэ носіць слічне, по паньску».

Маршалак або *дружко* ад імя таго, хто падарунак прымае, за кожным разам дзякуе так: «Дзенькуе панімлодэй, пану-млодэму і тэму светнему колу, цо седзі коло столу, хоць невыборне, то вшысткім вацпаньству пакорне»*.

Вяселле ў гэты дзень канчаецца абдорваннем маладога ўсім яго родам і шматлікімі гасцямі. Назаўтра, г. зн. у аўторак, маладыя з усёй вясельнай дружынай, якую ўзначальвае сват, што нясе кветку, адпраўляюцца ў двор, дзе маладая падносіць падаркі панам (каравай, палатно, самаробны пояс). Гулянне з танцамі, абдорванне *маладухі* грашыма і пачастунак усёй дружыны заканчваюць гэты абрад. Тут варта зазначыць, што, нягледзячы на розныя грамадскія перамены, тутэйшыя памешчыкі зусім не ўхіляюцца ад прыняцця вясельнай дружыны ў дварэ. Па некаторых вёсках падобныя падарункі складаюцца і арандарам. З танцаў, у якіх жыва і дзёрзка выконваюць павароты, заслугоўваюць увагі: казак, кукаўка, круцёлка, полькі і перш за ўсё шнуравы танец, у якім прымаюць удзел з паўтара дзесяткі

---

* Звяртаю ўвагу на тое, што на ўсёй Літоўскай Русі падчас абрадаў вясельных, пахавальных, сельскагаспадарчых, і таксама гадавых святаў такіх, як Вялікдзень, Юр'я, Купала і г. д., усялякія арацыі выказваюцца ў большай частцы па-польску. Гэта несумненны ўплыў адвечнай польскай цывілізацыі, якая разам са звычаем прыносіла вымову, знакаміта выробленую ў публічным жыцці даўняй Рэчы Паспалітай.

асоб і які завецца *Петухом.* Танец гэты, відаць, такі старажытны, як і тыя абрады, якія ён суправаджае, бо выкананнем нагадвае часы дружыннага жыцця, якое пры выглядзе гэтага танца з-за імглы стагоддзяў у квяцістых уборах выступае перад гледачом. На заканчэнне варта ўспомніць, што ў найпершае свята каляд паводле прынятага звычаю малады разам з жонкаю накіроўваюцца ў дом яе бацькоў, везучы з сабою пачастунак: місу куцці, пару каўбас, бохан хлеба і гарнец гарэлкі. Маладажонам звычайна ўвесь святочны час праходзіць у гэтай гасціне.

Да вышэй пададзенага апісання адносяцца наступныя песні:

*Запоіны*

Каціўсе крышталь па сенажаці,
Задумаў сужонко дзеваньку ўзяці.
Ой, ты, дзеванько, ой ты, лілея,
Маё сэрданько да цібе млея.
Ой, сужонко, ружовы цвеце,
Такого другого німа ў цэлум свеце.

Сужонко з канём на двор,
Ён з конічка не зсядае,
З стрэм'я ножак не вымае
І з конічкам размаўляе:
Конік мой вараненькі,
Я твой пан маладзенькі,
Усюды табою свет выездзіў,
Нідзе воды непахожые,
Нідзе дзеўке нехарошые.
Анно ў маего цесцюхна
Да калодзесь на дварэ,
Ведзёрко на тыне,
Ведзёрко кленавое,
Весёлко шэлкавое,
Там вада да пахожая,
Его дачка да харошая.

Кудраўчэ малойчэ, чаму на двор заезджаеш,
Ці ты мае маткі не знаеш?
Пазнаеш да маю матку
Да ў таргу, да на рыначку,
П'ючы м'ёд да гарэлачку.
Мяне маладзеньку ў таночку,
Да ў руцьвяненьком вяночку.

Ой, пі(й), матко, ой, пі(й), матко,
Горкую гарэліцу!
Прап'еш дачку, як маліначку,
За адную вечарыначку.
Выйдзяш, матко, ў чыстае поле
Буйнае жыто жаць,

Займеш постаць да шыроку,
Да не з кім пажынаць.
Нажнеш жменькоў да гусцюссенько,
Да некаму павезаць,
Накладзеш снапкоў да часцюссенько,
Да некаму панасіці.
Накладзеш сцірты да шырокіе,
Да некаму завяршыці,
Прыдзяш да дому, сядзеш ля печы,
Да за некім сапачыці.

Ой, зора, зора, асвеці поле,
Дзе мая невеста пшаніцу поле;
Ой, поле, поле, перабірае,
Да куколь, імбрыцу вон выкідае.
Перабор пшаніцу на загон саджае,
Да куколь, імбрыцу да курам клеваці,
Перабор пшаніца шышкі гібаці,
Да куколь, імбрыца, плынь ты з вадою,
Перабор пшаніца, едзь ты са мною.

### *Субота*

У суботу вечарам, калі ў маладога або ў дзяўчыны бацькі паўміралі, спяваюць такім чынам:

Стукнулі вароцейка, бразнулі зашчэпачкі
Азірніся, дзеванька (малойча), ці не матухна
(бацько) ідзе,
Ці не каравайначкі ведзе?
Ой, дзіўные вы людзі,
Да тры дні ў званы білі,
Мае маткі (маго бацька, маіх бацькоў) не збудзілі.
Мая матка (мой бацько, мае бацькі) за трыма замкамі:
Першы замочак — зелёны дзерночак,
Другі замочак — жоўты песочак,
Трэйці замочак — цесовы дамочак.
Зелёны дзерночак дажджэ палівалі,
А жоўты песочак грабары капалі,
Цесовы дамочак цесляры будавалі.

Сіротам спяваюць таксама:

А хто ў лесі зціха памаленьку гукае?
Красна дзеванька (красны дзяцюк,
дзяцінка) свае (сваго, сваі) маткі
(бацька, бацькоў) шукае.

Ой, ідзі, пайдзі, мая матко (мой бацьку), да дому,
Да будзем меці добрую раду з табою.
Ой, не пайду, маё дзецятко, не пайду,
Да калі ж бо я да галованькі не здыму,
Да белых ручак не здзержу.
Прыбіты ножкі да цесовай дошкі — не ўстану,
Згорняны ручкі к шчыраму сэрцу — не зніму,
Спечатаваны очкі к беламу ліцу — не гляну.
Збудавалі два цеслярове новы дом,
Да не пусцілі ні аконанька, ні дзверцоў,
Не прамоўлю, маё дзецятко, ні слоўца.

*Песні каравайныя*

Перад мяшэннем:

Караваічу, караваічу,
Каравайнычак кліча:
Ой, дзе яны да падзелісе,
Ці на меду да папілісе,
Ці на леду да пабілісе,
Аб караваю да забылісе?

Прыступаючы мясіць цеста:

Да вайдзі, божа, да уступі, божа,
К нашаму да пачатачку,
Што мы его да пачыналі,
Што мы цебе, божа, да звелічалі.

Месячы:

Да ў саду гальё вісіць,
Сам госпад каравай месіць,
Два анёлы да воду носяць,
Дзеваньцы да долю просяць.

Да бору, малайцы, да бору,
Наберэце з сабою тапароў!
Да стаяла сосанка кілька лет,
Да зрубалі ее на загнет.
Каб наш загнецік ясён быў,
Каб наш каравайчык красён быў.

Замясіўшы:

Старшая каравайніца паехала ў лес па дрова,
Да тупою да сакераю,
Да слепою да кабылаю,
За пень зачапілася,
На калоду прабілася.

Не ўленкайся, дзеванька,
Твой каравай да падыходзіць,
З дзежы веко падымае,
Твая доля прыбывае.

Папытайцеся ў перапечы
Ці далёка сцежка да печы?
Зарасла сцежка муравою,
Шэлкавою травою.

Мы хлопчыкоў прыпросім,
Тую траву пакосім;
Мы дзевачок прынаймём,
Тую траву паграбём.

Калі гаспадар частуе каравайніц гарэлкай:

У нашага гаспадара
Кудравая галава,
Ён кудзеркамі патрасе,
Нам гарэліцу прынясе.

Ему несці маркотне,
А нам піці ахвотне,
Да ён несе маркоцішца,
А мы п'емо, нам хочацца.

Як каравай у печ саджаюць:

Старша каравайначка
Сама сабе да беду шчоўпла,
На прыпячку да трыбух спякла.

Старша каравайначка
Да па полю гарцавала,
З зайчыкамі танцавала
І птушачкі цалавала.

*Нядзеля*

У хаце маладога перад ад'ездам да маладой:

Да ў недзеляньку рано
Два конікі да воду пілі,
Самі сабе гаварылі:
Сегодняка да наша паша,
А ў заўтра да ў дарожаньку
Да кралеўнаго двара,
Па пакорнае дзіця.
Чаму ж ено пакорнае,
Чаму ж ено спакойнае?
Русая каса да да пояса,
Сукенка да дадольная,
Тым ено супакойнае.

У хаце маладой перад прыбыццем маладога:

Петухі пають, як у бубны б'юць,
Наша дзевачка не часалася,

На каго яна спадзевалася:
Ці на сестрыцу да маленькую,
Ці на матку да старэнькую,
Ці на кралевіча маладого?
Ой, не на сестрыцу маленькую
І не на матку старэнькую,
Да на кралевіча маладого,
Нашуй дзеваньцы сужонаго.
Чаму дзеванька на пасад не йдзеш, чаго жджэш?
Дзіўные людзі, да ці так пайду як стаю?
Засцілайце шэўком кары я і пайду,
Забагласі, мой ойчанько, [redacted] і сяду.

Ой, лецелі да белые гускі серэз сад,
Клікнулі краснае дзеванькі на пасад.
Што вам да, белые гускі, да таго,
Ой, ест у мене родная матка да таго.

Ведучы сірату на пасад:

Станавецесе шляхта, баяр'е ў адзін рад,
Да будзе ісці серотанька на пасад,
Да будзе шукаць роднаі маткі міжы вас.
Альбо ж міне з пасаданьку зведзеце,
Альбо ж мне родну матаньку знайдзеце.
Пайдзі, дзеванька, да па новых сенях пахадзі,
На белуй ложы свае маткі пагледзі.
Дзіўные людзі, да ні раз, ні два я перайшла,
А роднуй маткі на белой ложы не знашла.

Да чыя (чый) гэто матко (бацька, бацькі)
Да перад госпадам стаіць,
На крыж ручанькі дзержыць,
Госпада бога харашо просіць?
Да спусці міне, божа,
Да з небёс на падолье,
Ясным соненькам да на застолье
Паглядзеці сваго дзіцяці
Ці харашэ да нарэнджоно,
Ці на пасадзі да пасаджоно?
Да чужая матка да его рэндзіла,
На пасадзі да садзіла.
Нарэнджона да ў жалобаньцы,
Пасаджэна да ў слёзаньцы *.

* І маладому, калі ён сірата, перад выездам да маладой, ведучы маладога на пасад, спяваюць.

Калі маладая, седзячы на пасадзе, абувае чаравікі, падараваныя ёй маладым:

Папытайце ў жабкі
Ці памерзлі лапкі
Кале вады ходзячы?
Папытайце ў дзеванькі,
Ці ў час чаравічкі?
Ці ў час, ці не ў час,
То буду насіці,
Сваго мілаго буду любіці.

Ад'язджаючы да вянца:

Паедзеш да да шлюбу
Не станавісе пасерод касцёла,
Стань, маладзенька, у касцелі пры сцені
Тудэмо ісціме да божая матка,
Ена ісціме да долю несціме,
Да будзе пытаці, што за долю даці
Да ці даці долю грашавую,
Да ці даці долю хлебавую?
Да давай, матко, уселяку.

Дзеванька ойчанька просіць
Ойчэнько мой родненькі,
Выпраўляй, да не забаўляй,
Там жа нас нажыдаюць,
Аўтары засцілаюць,
Ясные свечы да запаляюць.

Ліхіе людзі зыдзеце,
Добрыя людзі, глядзеце.
Куды маё дзіця й паедзе,
Паедзе да за гору крутую,
У тую цэркаўку святую.

Падчас прыпальвання свечкаю і астрыгання валасоў спяваюць наступныя, т. зв. застрыгальныя песні:

Да бадай сванька марне прапала,
Як ты мае коскі сцерла і змяла,
Да і свечаю спаліла,
А тыя нідагаркі ў чэпчык улажыла.

Вяртаючыся з касцёла (сванька):

Да хвала ж да табе, божа,
Што я сваё дзело зрабіла,
Да з цеста да перапёлачку,
А з дзеўкі малодачку.
З цеста да беленькую,
З дзеўкі маладзенькую.

Да хвала да табе, божа,
Што мы ксендза ашукалі,
Нідораго за шлюб далі.

Паглянь, матко, на аконцо,
Едзе тваё дзіця, як сонцо;
Паглянь, матко, ў другое,
Едуць твае дзеткі абое;
Паглянь, матко, ў трэйцяе,
Ужэ твае дзіця звенчано.

Перад парогам хаты:

Выбачай, да мая матко,
Што [illegible] малада спазнілася,
Бо не было ксендза (папа) ў дому.
Ездзіў ксёндз да Альбова
Пшанічэньку прадаваць,
Ключыкі купаваць,
Цэркаўку адмыкаць,
Ясны свецы да запальваць,
Двое дзетак да павенчаць.

*Панядзелак*

Раніцай, калі малады выязджае да свае жонкі, перад дарогай світа, якая яго суправаджае, спявае яму:

Вышай, вышай, малады месяц над намі,
Да далей, далей вараныя коні пад намі,
Яшчэ ж ехаць да чатэры мілі барамі
І пяту крэмяністымі гарамі,
А шосту да залезнымі мастамі,
А сёму ў цесця на дварэ пастаяць.
Пастанем усе радком
Пад цесцёвым тынком,
Ой, выб'емо крэмяную сценку тым венком,
Ой, знайдзем красну дзеваньку пад замком.

Ліхіе людзі, зыдзеце,
Добрые людзі, глядзеце,
Куды маё дзіця й паедзе,
Паедзе да за гору крутую,
У тую цэркоўку святую.

Калі маладую ўпаўюць, як толькі яе мужык уваходзіць у хату, спяваюць:

Увайдзі, сужонко, паглядзі
Ці не бабаньку спавілі?
Калі бабаньку, кінь пад печ,
Калі дзеваньку, вядзі ў клець,
Калі бабанька, падсунь нам,
Калі дзеваньку, пацалуй сам.

Калі малады цалуе жонку:

Скочыў сужонко з караваці,
Забыўсе дзеванькі цалаваці:
Пастой, дзеванька, пацалую,
Залаты персцянь падарую!

Як малады вось-вось займе месца каля свае жонкі, можна пачуць такую песню:

Не садзісе блізко міне,
Не кладзі рукі на міне;
Твая рука да цяжэнька,
Горш верма да турэцкаго,
Бо я роду шляхецкаго.

Як дараць:

Спамажы, ойчаньку (матко, браце і г. д.),
Да белы таляр на талерцы палажы.
Да нехай цібе, маё дзецятко, бог спаможа,
Добрым бытам, буйным жытам запаможа.

Падчас пераносін:

Цераз гору да дарожанька трайчаста,
Да бывай, бывай да, мая матко, у міне часто.
Ой, як жа мне да, маё дзецятко, бываці,
Да калі тая да дарожанька зарасла,
Чырвонаю да калінаю завісла.
Да калі будзяш, да мая матко, бываці,

То я кажу тую вербу зрубаці,
Чырвоную да каліну зламаці.

Ці я табе, матко, не з душы,
Што ты міне аддаеш не зросшы?
Ці я табе кашулькі не мыла,
Ці я табе пасцелькі не слала?
Слала я табе пасцельку мякенько
І мыла я табе кашулю бяленько.

Ой, ці я табе, матко, не міла,
Што я ў цібе цэло лецейко рабіла?
Не хадзіла я ні к ерматку, ні к святу,
Прыпадаць будзеш, мая матко, да к майму следку.
А як ты выедзеш за вароцейка, следок знаць:
Да нідзе ж маго мілаго дзіцяці не відаць,
Як той следок да расіцаю западзе,
Ой, так маё мілаё дзіця марне прападзе.

Ой, ў лесі, ў лесі медзведзь рыкае,
Знаці, дзеванька, свекроў ліхая?
Да ніхай рыкае, да ніхай ліхая,
Я медзведзю саладзін падкіну,
Сваю свякруху пярынаю накрыю.
Ніхай медзведзь саладзінкі смокча,
А мая свекруха ў перынах квокча,
Ена будзе гаварыць, а я буду наравіць,
Ена будзе бурчаць, а я буду маўчаць.

Ад'язджаючы:

Да не месяц свеціць,
Да не зора зіяе,
Красна дзеванька
Да з двара з'ежджае.
Да ее матка
Ключыкоў пытае:
Да дзіця мілое,
Дзе ключы падзела?
Павесіла ў каморы
На залатом прабоі,
Павесіла высоко,
Паеду далёко.
Кінула ад сібе,
Паеду ад цебе.

Сванька на возе:
Азірнецесе жэначке,
Да ці ўсе вашы дзевачке?
Да адна ў міне ў возі,
На шчаслівуй дарозі.
Каля загарады свёкра:
Адчыняйце вароцечка,
Едзе вам багатырачка;
Повен воз дабра везе,
Повен хлеў быдла жэне:
Кароўкі да целячые,
Авечкі да ягнячые.
На панадворку:
Да хвала да табе, божа,
Да хоць я знебыласе,
Да калі я спамагласе,
Хоць я ночкі не даспала,
Семяніна дастала.
Уваходзячы ў хату:
Свёкар невесты да жадом жадае,
Па ўсіх дарогах стаpажэ стаўляе,
А дзе невесце ехаць, то і сам там стае.
Ой, невеста, невеста, да дзіця мілое,
Да не будзь ты гарда,
Да не будзь ты пышна,
Будзь ты лыслiва,
Будзь ты шчаслiва!
Разсей сваю долю
Да па маём полю,
А прыдолейку
Да па застолейку.
Як маладая займе месца на лаве каля стала:
У нашаго NN за сталом
Чырвона рожа зацвіла,
Зацвіла цветам чырвоным,
Пахне яблычкам садовым.

Церэз шчырые бары кунаю лецела,
Церэз быстрые рэкі лодкаю плыла,
У чысценьком полю калінаю села,
У свёкра на дварэ імглою упала,
У новые сені пчалою ўлецела,
У свёкра за сталом паняю села.
Не ведае свекратко, як міне зваці;
Ці зваці паняю, да ці невестаю?

Не зві міне, свекратко, паняю,
Да зві міне, свекратко, невестаю.

А ты сваце, баламуце, нашто лгаў?
Салгаў матцы, што ў гэтуй хатцы свёкра німа,
Анно свёкар ходзіць да па новых сенях па нізу,
Пастой, невесто, да [redacted] галованьку нагрызу!

Насмешлівыя і жартоўныя песні, якія ў гэты дзень спяваюць падчас забавы і танцаў:

Наш свацейко да разумную жонку мае,
Як выпраўляла, так навучала:
Будзь, мужу, да разумненькі,
Прыстаў драбінкі, да украдзі сланінкі;
Прыстаў сані, нарабі славы;
Прадзеры стрэху, нарабі смеху.
Будзь, мужу, да разумненькі,
Скінь ганавіцы, скачы па паліцы.

Да ўсе гаруць, барануюць,
Сват сваньцы хвартух шые,
Шые ніткаю, трасе лыткаю,
Шые воласам, плача голасам.

Ой, ты сваце, як тут, так тут,
А хто ў цібе дома?
Сабака ў ўезі, сабака на прызьбі —
То ж мая дамаўніца.
Кошка на паліцы шые ганавіцы —
То ж мае дамаўніцы.

Сват сваньку раззуваў,
Андарак разадраў,
Падняў ножку, пазіраў.
Наша сванька Ганупя
Да ў пазычанум кажусі.
Наша сванька падпіла,
Да ў саломі спаць легла,
Па саломі мышкі шалелі,
Сваньчын кажух паелі.
Стала сванька плакаць,
Што нечым кажуха латаць.
Пашоў сватко жабраваць,
Кажурынкоў даставаць.
Годзі, сванько, плакаць,
Будзям кажух латаць.

Наш дружчатко велькі перабой,
Палажыў дружачку пасерод дарогі,
Каб ена нагамі перабоі біла,
Каб ена рукамі землю месіла,
Каб ена ачыма да зоры лічыла.

Седзіць дружко на лаўцы,
Спусціў булаўку пад лаўку.
Да прыбег курмяўко,
Да ўхапіў дружкаву булаўку.
Да «кыцы, кыцы» курмяўку,
Аддай маю булаўку,
Дам табе мяса дзелянку.

Наш дружчатко вельмі харошы,
Бо ў его доўгі нос.
На патыліцы боб малаціць,
На пераносі цэп павесіць.

Наш дружчатко, наш маладзенькі,
Ён па-баярску убраны:
Боты новые, пяты голые,
Порткі новые, калені голые.
Да на ём жупан,
Што кінуў за плот пан,
Да на ём кажушак
З рыжых целушак,
Да на ём каўпак
З чорных сабак.
Шапка новая,
Патыліца голая.
Его рукавіцы кашэчые.
Кажушком махне, целушка рыкне,
Каўпаком махне, сабака брахне,
Рукою сціснe, каток пісне.

На табе, дружчатко, перапёлку з макам,
Было не хадзіці да дружачкі ракам,
Перапёлка з макам у печы пячэцца,
Дружко ад дружкі ракам валачэцца.

Наша дружка Варэня
Украла ў суседа курэня,
Пад цыцкаю задушыла,
Перад дружком палажыла.
Дружко кажа: сырое,
Да будзем есці абое.

Дружко кажа: з касцямі,
Да будзем есці з гасцямі.

Наш брацейко не мыўсе,
Да за мясам ганіўсе,
Ён думаў, што дзелянка,
Анно ж жаба балацянка.
А лучыначка патушыласе,
Парася ў місу ўваліласе,
А брацейко не дбае,
Парася за хвост цягае.

Наш брацейко не стары,
Не прыпірайсе да сцены,
Бо нашы дзеўкі юрлівы,
Праз сцену дзіру круцілі,
Да брацейка збудзілі.

Студзераўшчына, д. 21 лютага 1881 г. Федароўскі.

Серыя V

Ваколіцы Слоніма,
Дзятлава і Дварца

Раздзел 2

Абрады

ДАДАТКІ

в. ВЯСЕЛЬНЫЯ АБРАДЫ

## ВАРАЖБА НА ЗАМУЖЖА

Апошні вечар года, які канчаецца (Шчодрыкі), як і ў іншых ваколіцах Літвы, так і тут, у Слонімскім (павеце) бывае прысвечаны разнастайнай варажбе, якой у найвялікшай таямніцы займаюцца дзяўчаты, што мараць пра замужжа. Вельмі многія гаданні, што выступаюць тут у гэты вечар, як сведчаць шматлікія апісанні, вядомыя не толькі на Літоўскай Русі, але і на ўсім абшары даўняй Рэчы Паспалітай. З гэтай уласна прычыны я прыводжу ніжэй апісанне толькі тых, якія, здаецца, уласцівыя толькі тутэйшым ваколіцам.

Вось некаторыя, што найчасцей у гэты дзень практыкуюцца:

Не заўважаная нікім дзяўчына позным вечарам, выскачыўшы паціхенечку з хаты, кленчыць (голымі каленьмі) на прызьбе і хрысцячыся гаворыць напоўголаса: «Малады маладзік, барані міне ад зубоў баленя, ад агня паленя, ад людзей мавеня». Пасля шэптам гаворыць «Ойча наш» і «Здровась, Марыя». Дагаварыўшы апошнія словы пацераў, хрысціцца і адразу правай рукою з-пад правага калена бярэ з прызьбы поўную жменю пяску. Пясок гэты, загорнуты ў анучку, ідучы спаць, кладзе пад галаву, пераконаная, што яе прышлы кавалер з'явіцца ёй у сне.

А вось другая, крыху падобная да першай:

У гэты самы дзень падчас вячэры (т. зв. багатай куцці) дзяўчына з як найвялікшым маўчаннем і загневанай мінай (што з'яўляецца абавязковым) кожнай густой яды перш чым паднесці да вуснаў, адкладае па лыжцы на бок. Загарнуўшы гэта ў анучку, кладзе пад падушку, верачы, што ў гэтую ж ноч прысніцца ёй суджаны (сужоны, сужонко) таварыш жыцця.

Або зноў дзве сяброўкі ў найвялікшай таямніцы са скручаных у некалькі столак нітак пры дапамозе воску робяць свечкі (сточкі), устанаўляюць іх на картах, пасля, запаліўшы, становяцца насупраць і кожная паасобку пускае свечку на ваду (у вядрэ) (адна свечка павінна абазначаць мілага сэрцу хлопца, другая — дзяўчыну). Калі свечкі падплывуць адна да аднае, гэта лічыцца верным знакам, што маладая пара незадоўга будзе злучана. Таксама пастаўлены на зямлі перпендыкулярна кій у які бок пахіліцца і ўпадзе, калі ад яго адняць руку, указвае дзяўчатам, што цікавяцца сваёй будучыняй, старану, з якой прыбудуць сваты.

Нарэшце не варта абмінаць яшчэ адной:

Перад самай вячэрай (у той самы дзень) бацькі, выправіўшы пад абы-якой зачэпкай сваю дзяўчыну з хаты, пад міскі са стравамі, што стаяць на стале, падкладаюць: пярсцёнак пад адну, шчотку пад другую, а пад трэцюю грэбень. Дык вось, калі дзяўчына, сеўшы вячэраць, выме з-пад міскі адразу пярсцёнак, гэта пэўны знак, што выйдзе за кавалера, калі ж шчотку — удавец будзе прасіць яе рукі, грэбень жа варожыць, што да самай смерці суджана ёй сеяць рутку. Тут трэба дадаць, што такая варажба робіцца толькі раз, калі дзяўчына пачынае семнаццаты год жыцця.

Пусканне на ваду шкарлупак з арэхаў з запаленымі ў іх кавалкамі сточка і тут таксама па некаторых вёс-

ках вядомае ад веку (Vid. «Obchody weselne» Żygmunta Glogera (Pruskiego), s. 51).

*Час вяселляў. Запыты. Сваты*

Наступная песенька ясна тлумачыць, якую пару паводле адвечнага звычаю народ лічыць найлепшай для вяселляў:

Во лес, еліна,
Харошая паша.
Чакай, дзеўка, *да восені,*
Та(г)ды будзеш наша.

У Слонімскім (павеце) на *запыты* адпраўляецца звычайна адна толькі кабета. Як прыдуць сваты, і тут, як мы гэта ўжо бачылі ў Ваўкавыскім, дзяўчына, калі ім рада, з хаты ўцякае.

*Дзявічы вечар. Саджэнне на пасад. Выезд да вянцу*

Сяброўкі маладой у апошні перадшлюбны вечар спяваюць між іншым такую песню:

Не плач, дзеванько,
За мене ідучы.
Наплачашсе, маладзенька,
Са мною жывучы.
У міне сені, хата
Да пілованая.
Будзеш слезьмі паліваці
Па ёй ходзячы.
Будзе нагайка да ўгары летаці,
Шалкова кашуля к целу прыліпаці.
Буду твае русые косы вырываці.
Каб мая доля добрая была б,
То б нагайка пад акном лежала б,
Шалкова кашуля к целу не ўліпала б.

Маладая ў тутэйшых мясцінах садзіцца на табурэтцы, накрытай падушкай, пад якую, калі яна дастойная таго, кладуць каравайчык.

Малады ў ваколіцах Слоніма выкупляе сваю абранніцу ў нядзелю, незадоўга перад выездам да вянцу.

Калі ўжо набліжаецца пара выезду да касцёла, маладая падыходзіць па чарзе да ўсіх і, цалуючыся з кожным, просіць благаславіць. Старэйшых звычай наказвае цалаваць у абедзве рукі, двойчы кланяючыся (у Ваўкавыскім, як мы ўжо бачылі, маладая цалуе толькі родных). Толькі цяпер маладая садзіцца на пасад.

## *Вянец. Вяртанне дадому. Спавіванне*

У часе самога шлюбнага акту маладая звычайна стараецца злёгку, нібыта не хочучы, наступіць свайму абранніку на ногу. Гэта для таго, каб мужык быў ёй ва ўсім пакладзісты. Калі вяртаюцца дадому, напэўна не па іншай прычыне памятае таксама пра тое, каб яе рука ўвесь час ляжала на яго руцэ. Прыехаўшы пад вясельны дом, дружкі спяваюць:

Наша дзевачка злотначка
Скочыла з ручнічка.
Да скочыўшы ўсю праўданьку сказала:
Ужо ж, матанько, я не служанька твая,
Свайму міламу белу ручаньку прыдала.

У Слонімскіх ваколіцах пасля абеду, які дае найчасцей хто-небудзь з роду, маладыя раз'язджаюцца па сваіх хатах.

## *Спавіванне*

Пасля таго як здымуць вянок з галавы маладой, яе маці, зачарпнуўшы *апалонікам* вады з вядра, набліжаецца да покуця і, дастаючы рукой над сталом дачку, якая сядзіць з супрацьлеглага боку на лаве, засланай падушкай, палівае ёй галаву ў двух месцах над самымі вушамі. Як толькі матка прараобіць толькі што апісаны абрад, сват накіроўваецца ў сені, адкуль праз хвіліну вяртаецца, несучы на драўлянай талерцы або такой жа місцы срэбраны грошык, прысланы маладым, які, як вядома, увесь час, як ідзе гэты абрад, стаіць за дзвярамі ў сенях. Далей сванька, прыняўшы грош з рук свата, кладзе яго на кавалак добра намазанага маслам хлеба, які прыклейвае маладой да валасоў на самым цемені. Затым з найвялікшай павагаю гэта ж сванька кладзе на маладую чэпчык (сетачку з шэрых ніцей) і толькі тады абкручвае ўсю галаву белай хусткаю. Тут трэба дадаць, што хлеб з галавы маладой здымаюць толькі пасля пераносін, у час абраду надзявання *шапкі* (ачэпін).

У Слонімскім (павеце), апрача *свёкра*, свякрухі, *залвіцы, дзевера, швагроў* і *ятроўкі*, нявеста далейшых мужыковых сваякоў называе *сватамі* і, наадварот, муж яе, за выключэннем *цесця, цешчы, швагроў* і *швагерак*, увесь род свае жонкі называе тым самым іменем.

Косін, д. 15 верасня (новага стылю) 1885 г. Федароўскі.

## ШНІПОЎСКАЯ ШОПКА[3]

## (Ваўкавыскі павет, парафія Шылавічы)

### *Адам і Ева*

З раю пенкнэго мяста } 2 разы
Выгнана ест невяста }
Для ябка скушонэго
Пшэз вэнжа поданэго.
Фора, Адаме, фора
З небескего двора,
Фора, Эво, з раю
Юж це ту добжэ знаён.

(Падымаецца заслона: 2 локці даўжыні, вышыні $2^1/_2$, шырыні 1 локаць.) Спяваюць: «Буг се з панны нарo-дзіл...»

### *Пастушкі*

Прыбеглі ў Бэтлеем пастушкі. Падыходзяць, кланяюцца, пасля адыходзяць і вітаюцца:

— Ну, што, Вінцэнты, пашоў і ні агленешсе. Здароў чы жыў? Нават ні хочаш і прывітацца? Як відно набраўся фанабэрыі, чы што?

— Якой фанабэрыі? Як ты маяссяся, жонка твая чы здарова, дзеці ці гадуюцца?

— А хвала богу здаровы-жывы, дзякуй за памяць.

— Але я да цібе маю прэтэнсію, Петжэ.

— Якую?

— А такую, што ў цібе овец відно статка парадашна, а ў міне по сіроці і то ты воўкі насылаяш на мою остатню і ўжэ праз тваю ласку ў міне дзесяць овец воўкі з'елі.

— Як то праз маю ласку?

— А праз тваю, бо як только воўк выдзе до твоіх овец, то ты напалохаеш, нажэнеш і воўк з горачы выбежыць з-за гары і ўжэ ці ганяй, ці ні ганяй ухопіць оўцу і понесе. Я даўно хацеў дабрацца до цібе, але ўсё ні пападало до сегодняшняго дня, а сегодня на цібе раз, на цібе два. (Б'е.)

— Ето ўсё?
— Усё.
— Ну, то на цібе, браце, за моё і за твоё (б'е, а той крычыць):
— А-ей-ей! Людкове, ратуйце, бо заб'е! Ты за што міне так крыўдзіш?
— Як то за што? За тое, што ты вінават. Трэ бало міне не зачэпаць.
— Як то я вінават? Пойдзем на суд, пагледзімо, хто з нас вінават.
— Куды, да рабіна?
— Не, ўжэ рабіна забываймасё, але да гэтаго бога, што сегодня нарадзіўсё; пойдзем, і я буду бажыцца, што я ні вінават.
— Ты раз пабожысся, а я два разы, і пагледзімо, хто будзе вінават.
— Ну, то годзі. Як відно, то сегодня з тобою толку німа, ты, мусі, п'яны. Я ўжэ пойду дахаты. Бог з табою, жыві здароў, пакрыўдзіў ты міне за німа ніц. Бог з табою, усё тобе дарую, сегодня такі дзень, каб адзін одному выбачалі.
(Выходзяць тры каралі.)

*Тры каралі*

Тшэй крулёве манархове
З сходніх строн пшыбываён,
Зсерэт офяры з тшэма дары
Богу чэсць, хвала даён.
(Пасля паклону на адыход марш вясельны.)
(Уваходзіць з казой.)

*Каза*

Взелам коза на паўроза,
Провадза до пана
І так собе выспевуя
Дана мая, дана!
Антон казу ведзёт,
Каза не ідзёт,
Антон казу то за рогі, то за ногі,
Абы бліжай да дарогі.
Э, каза, э каза, каза, каза.
(Выходзіць баба.)

*Баба* (таўчэ ў ступе куццю і гаворыць)

Казалі, што сегодня якоесьці швято. Хрыстус нарадзіўся, ушэ людцы швяткуюць. Добро тому швяткаваць, хто акраш прыбраўшя, а я ешчэ куці ні натоўкла. (Таўчэ. Анёл выходзіць і гаворыць.)

*Анёл*

Ах ты, бабо пшэклента,
Нема тобе ні недзелі, ні свента.

*Баба*

Табе швято, то ты швяткуй, аліганчік. Добро табе швяткаваць, як ты ўжэ выаліганатаваўся, а я ешчэ нічого ні прыбрала, кішэлю ні намалола, кучі ні натоўкла, бо людзі ўсё гаворач, што ето швято кіселёво, куцёво, ■ я шама ні ведаю, што ето за швято мая быць.

*Анёл* (паўтарае з другога боку)

Ах ты, бабо пшэклента,
Нема тобе ні недзелі, ні свента.

*Баба*

Атхілішя, бо очы выпару! Я раз табе казала: табе швято, то ты швяткуй, а да міне ні ўчапляйся без прычыны.

*Д'ябал* (пакажацца, захрапе і схаваецца)

*Баба*

А гэто што жа ліхо. Як відно, то шэгодня мне ні дадуч куці натаўчы. Якіешчы аліганты, то штрашаць, то палохаюч.

*Д'ябал* (з другога боку паказваецца і храпе)

*Баба* (глядзіць і гаворыць)

Ета ты, кумок, хадзі, хадзі, куме, памажы куці тоўчы.
*Д'ябал* (падыходзіць, памагае таўчы, а пасля храпе і нясе яе)

*Баба*

Памаленькуй, памаленькуй, хуштку раздзерэш. (Паяўляецца кароль Гэрад з маршалкам. Маршалак становіцца збоку трона з мячом у руцэ.)

*Кароль Гэрад*

Ото я естэм круль Гэрод з поколеня Давідовэго, з роду Юдзкего. Пшышэдлэм одведзець Бэтлеем Хрыстусовэго, засядам на свуй трон мілы од жаднэго чловека душы не мінэ. Естэм стану пышнэго, ніхт не сме замувіць слова пшэдэмно жаднэго.

*Д'ябал*

Крулю, крулю, ты спіш, а ў твоей земі новы круль народзіў.

*Гэрад*

Чы то мі се сніло, чы то мі се здало, жэ в моей земі новы круль народзіў. Чы ж то можа быць праўда, кеды я естэм круль Гэрод, пэлнэй моцы владзы земі своей. Заволаць мне жыська коханэго Лейбуська, нех он мой сэн ростлумачы і мое сумене заспокоі.

*Лейба*

Чэго хцэце, мосці крулік?

*Гэрад*

Но, слухай, Лейба! Сам повем. Чы мі се сніло, чы мі се здало, жэ в моей земі новы круль народзіўсе, чы ж то можэ быць праўда, кеды я естэм круль Гэрод, пэлны моцы владзы земі своей, жэбысь ты муй сэн ростлумачыл і мое сумене заспокоіл.

*Лейба*

Зараз, мосці крулік. Я могэ вшыстко ведзець, оповедзець, цо було, цо бэндзе, цо на тэн свят, цо на тамтэн свят, я вшыстко могэ ведзець, оповедзець, трэба только

богу памаліцца. Мое панове, нема кропелькі воды. (Моліцца, адышоўшы ўбок. Становіцца перад каралём.) Ах, мосці крулік, як я свої бібліі едно слово выколупе, то пойдзе запах по цалы покої. Юш то седм месенцы мінэло, як то дзецёнтко народзіло, а то дзецёнтко бэндзе над дзецёнткамі, а мосці крулік бэндзе лежал под его ногамі. Кто я і як собе хцэце, абы я свое бібліі выколупал.

*Кароль*

Ха-ха-ха! Ешчэ тэго не было. Заволаць мне гетмана як бытнэго пана!

*Гетман з дзідай*

Ото станэлам на розказ круля!

*Кароль*

Ото маш гетмане моё бяло бэрло, пуйдзь до Бэтлеему, вытній вшыстке хлопчэнта і навэт мэму сыну гловэ зэтній і мне на показ пшынесь.

*Гетман*

Слухам крулевскей мосці
Як бы дзвонэк своей повінносці.
Кто сме стомпіць на крулевске ложэ,
Мам піка остра, натыхмяст го положэ.

*Каралева з дзіцем*

Ах, крулю Гэродзе,
Стары ты незбэнднiку,
Зацента твоя душа,
Закаменяло твое сэрцо.
Мялэсь едынэго сына
І тэго осондзілэсь на смерць.
І тэго казалэсь казаку пшэбіць.
Ах, крулю, злітуйсе над німі,
Одпусць тэ ценжке плёгі і віны.

*Кароль*

Ідзь прэч. Бо дам ці тшаско ляско і вон выпэндзэ. Я вем, жэ ці шкода дзеці, а мне трона, люб корона.

*Каралева*

Ах, крулю, цо се дзее? В Бэтлееме плач маткі по своіх дзяткі. Крулю, злітуйсе над німі, одпусць тэ ценжке плёгі і віны. Гетман, ах божэ, чэму ты ні опаментассе, чэму твоё сэрцо ні зменкчэе.

*Кароль*

Пшэбій то дзецко, жэбы оно не жыло годзіны, момэнту тэго. (Гетман дзіця забіў і панёс. Каралева абамлела.)

*Кароль*

Гетман! Но вруцьсе, выжуць то баба, жэбы она пшэдэмно ні лежала, мне сэрца ні выедала. Ні еднэй ей жаль дзецка, жаль і мне, але цо зробіць, мусялэм то выконаць. Жуць ей там.

*Анёл* (прылятае і спявае)

Хцялэсь трапіць на Хрыстуса, сына божэго. Але ж тэго не выкожэніш, боць небо его. Ото ж заслужылэсь, крулю Гэродзе, за злэ свое помысленя, а ідзь ты на вечнэ потэмпене.

*Смерць* (выходзіць і гаворыць)

Ходзілам, блондзілам
Мало ні змарзлам.
Ледве цебе, крулю Гэродзе,
В твоім палацы зналязлам.

*Кароль*

О божэ, одвруць та машкарэ,
Нашлій яка інна кара.

*Смерць*

Дужо дзеці страцілэсь
Ото і тобе маш. (Сцінае Гэраду галаву. Казак адыходзіць, яўрэй прыходзіць.)

*Казак* (крычыць на яўрэя)

Ты зачэм, ты чаго, вон. (Яўрэй уцякае, а пасля прыходзіць і плача.)

*Яўрэй*

Мосці крулік, мосці крулік,
Вашы салдаткі нашы жыдкі попехалі.
Мосці крулік шлов (нюхае караля і гаворыць)
Я думаў, што мосці крулік шпіць,
Наш мосці крулік даўно ўжэ шмердзіць.
Ага! Сабака я,
Хоць адзін раз прыждаў на цібе.
Сора! Кумергер. А-а, наш каролік падохес.
Шей, шей! Ага, сабака ты.
А ты з нас браў,
А ты з нас драў:
Маставое, брукавое.
А пагалоўшчына, а батраччына,
А драў, а браў,
Каб на той свет
На табе чорт скурачка драў.
Сора, ком шпіль, танц.
Шэйнэ, мэйнэ маёхэс,
Наш каролік падохэс.
А ты, Сора, ні дзівуй,
Вышэй ногі подэймуй,
А ты, Юдко, скачы хутко.
(Д'ябал іх выганяе, яны крычаць: Гівалт!
Д'ябал бярэ караля, храпе і цягне ў пекла.) *

* На гэтым абрываецца цэльная карціна данай батлейкі, яе тэкст. Далей ідзе толькі схема гэтага спектакля, накіданая М. Федароўскім алоўкам. Тэкст батлейкі запісаны ў 1893 г.

# ЗАЎВАГІ

## Уступ

[1] «Zbornik za narodni život i običaje južnih slavena». Na svijet izdaje Jugoslav. Akademija znanosti i umjetnosti. Svezak II. U Zagrebu, 1897, s. 470 (Рэц. А. Радзіча); «Kwartalnik historyczny», t. XIII. Lwòw, 1899, s. 303—304 (Рэц. А. Брукнера); «Этнографическое обозрение», 1899, № 4, кн. XLIII, стар. 137—140 (Рэц. А. Грыгор'ева); «Известия отд. рус. яз. и словесности имп. АН». Спб., 1899, т. IV, кн. I, стар. 349—353 (Рэц. Я. Ф. Карскага); «Записки наукового товариства імени Шевченка». Львов, 1899, т. XXVII, кн. I, рік VIII, стор. 44—48 (Рэц. У. Гнацюка); «Narodopisny sbornik československy», 1899, sesit 4/5 (Рэц. І. Поліўкі); «Książka», R. II. Warszawa, 1902, s. 146—147 (Рэц. С. Здзярскага); «Журнал Министерства нар. просвещения». Спб., 1902, ч. CCCXXXXIII, № 10 (октябрь), стр. 426—433 (Рэц. Я. Карскага); «Этнографическое обозрение», 1902, № 3, кн. LIV, стр. 153—155 (Рэц. Вл. Б.); «Książka», R. III. Warszawa, 1903, s. 236—237 (Рэц. Л. Кшывіцкага); «Известия отд. рус. яз. и словесности имп. АН». Спб., 1903, т. VIII, кн. 3, стр. 340—362 (Рэц. І. Поліўкі, на чэшскай мове); «Archiv für slawische Philologie», Bd. XXV. Berlin, 1903, S. 99 (Рэц. А. Брукнера); «Zeitschrift des Vereins für Volkskunde». Berlin, 1903, S. 233 (Рэц. А. Брукнера); «Przegląd powszechny», R. 21, т. LXXXI (styczeń—marzec). Kraków, 1904, s. 473—474 (Рэц. С. Здзярскага); «Lud», t. 10. Kraków, 1904, s. 227—228 (Рэц. С. Здзярскага); «Archiv für slawische Philologie», Bd. XXIX. Berlin, 1907, S. 445—454 (Рэц. І. Поліўкі).

[2] У 1935 г. у IV т. «Люду беларускага» была змешчана аўтабіяграфія М. Федароўскага і ўступны артыкул праф. С. Панятоўскага.

[3] «Slavia Orientalis», 1957, R. 6, s. 212—232.

[4] «Etnografia Polska», VI, 1962, s. 281—290.

[5] «Zeszyty Etnograficzne Muzeum Kultury i Sztuki ludowej», t. III, 1963, s. 133—150.

[6] Prof. *A. Obrębska-Jabłońska.* Prace redakcyjne nad rękopisami Michała Federowskiego. «Literatura ludowa». 1964, R. VIII, № 4—6, s. 48—52; Warsztat naukowy M. Fe-

derowskiego w świetle jego listów. «Slavia Orientalis», 1967, R. VI, № 4, s. 437—448; The Rough Copies of Byelorussian Songs in the Federowski Collektion. To Honor Roman Jakobson: Essays on the Occasion of His Seventieth Birthday, 11 October 1966. Mouton, The Hague/Paris, t. II.

[7] *З. И. Власова.* М. Федеровский как фольклорист. «Русский фольклор», вып. XI. М.— Л., 1968.

[8] *В. Ялатаў.* Каштоўная работа польскага этнографа. «Літаратура і мастацтва» ад 17 чэрвеня 1959 г.

[9] *Ул. Дубоўка.* Збіральнікі жэмчугу. «Полымя», 1959, № 7, стар. 174—176.

[10] *В. Елатов, К. Кабашников.* Собрание песен белорусского народа. «Советская этнография», 1963, № 5.

[11] *С. Александровіч.* Старонкі братняй дружбы. Мн., 1960, стар. 205.

[12] *В. К. Бандарчык.* Гісторыя беларускай этнаграфіі XIX ст. Мн., 1964, стар. 270—272; *яго ж.* Гісторыя беларускай этнаграфіі. Пачатак XX ст. Мн., 1970, стар. 116—117.

[13] *К. Кабашнікаў.* Казкі і легенды роднага краю. Мн., 1960; *яго ж.* Нарысы па беларускаму фальклору. Мн., 1963.

[14] *Ф. М. Янкоўскі.* Беларускія народныя прыказкі і прымаўкі. Мн., 1957; *яго ж.* Беларускія прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы. Мн., 1962.

[15] *Л. Р. Бараг.* Беларуская казка. Мн., 1969.

[16] *Н. С. Гілевіч.* З клопатам пра песні народа. Мн., 1970, стар. 93—98.

[17] *А. Жураўскі.* Этнограф Міхаіл Федароўскі. «Беларусь», 1959, № 12, стар. 29.

[18] *Ф. Янкоўскі.* Фразеалагізмы ў томе IV «Ludu białoruskiego» Міхала Федароўскага. «Slavia Orientalis», 1968, R. XVII, № 3, s. 325—327.

[19] *Н. Янголь.* Да пытання аб збіранні і вывучэнні беларускіх прыказак і прымавак. «Весці АН БССР», серыя грамадскіх навук, 1968, № 3, стар. 70.

### Жыццёвы шлях і навуковая дзейнасць

[1] *M. Federowski.* Lud białoruski, t. IV. Warszawa, 1935, s. V.

[2] Перасылаючы Яну Карловічу польскія прыказкі для папаўнення «Кнігі польскіх прыказак» С. Адальберга, М. Федароўскі паведамляў у прадмове да свайго збору, напісанай 21 лютага 1897 г.: «Ёсць тут і сталыя выразы

(фразеалагізмы.— **Я. С.**), запісаныя яшчэ ў 6-ым дзесятку б(ягучага) ст(агоддзя) ў Варшаве, у раёне яе старога горада...» Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Літоўскай ССР (Вільнюс), ф. 1135, воп. 10, адз. зах. 165, арк. 1. Далей будзе: ЦДзГА ЛССР, ф. ...

[3] *У. І. Ленін.* Творы, т. 20. Мн., 1950, стар. 407.

[4] *Towasz Weiss.* Przełom antypozytywistyczny w Polsce w latach 1880—1890 (Przemiany postaw światopoglądowych i teorii artystycznych). «Zeszyty naukowe uniwersytetu Jagiellońskiego», CXXVI. Prace historycznoliterackie, zesz. 10. Kraków, 1966, s. 8—9.

[5] Рукапісны аддзел бібліятэкі Варшаўскага універсітэта, сігнатура 126-IV. Далей будзе: Рукап. аддз. БВУ.

[6] *M. Federowski.* Wspomnienia moje o Michale Poleskim i o Włodowicach. Warszawa, 1917.

[7] У архіве Федароўскага захаваўся фрагмент яго «Zielnika litewskiego», дзе ёсць засушаныя расліны з ваколіц Слоніма і Ваўкавыска з апісаннем іх уласцівасцей лацінскімі і мясцовымі беларускімі назвамі.

[8] Рукап. аддз. БВУ, сігн. 140-II, арк. 1—62.

[9] *Там жа,* сігн. 129-IV, арк. 9—10.

[10] *Jan Karłowicz.* Poradnik dla zbierających rzeczy ludowe. Warszawa, 1871.

[11] Рукап. аддз. БВУ, сігн. 129-IV, арк. 31—32.

[12] *Там жа,* сігн. 132-II (Рукапіс недрукаванай прадмовы да працы М. Федароўскага «Люд ваколіц Жарак, Севежа і Пііцы»).

[13] *Там жа.*

[14] *Там жа,* сігн. 137-IV, т. I, вокл. 5, арк. 4. Чарнавік ліста да З. Глогера. Без даты, мяркуючы па змесце, з 1878 г.

[15] *Там жа,* сігн. 135-IV, т. I, вокл. 5, стар. 119—247; вокл. 6, стар. 39—42.

[16] *Е. Р. Романов.* Белорусский сборник. Вильна, 1912, вып. VIII, стр. 6.

[17] Ужо ў 1881 г. М. Федароўскі рабіў археалагічныя раскопкі ў Слонімскім павеце. Гэту яго працу асвятляў у друку З. Глогер: «Przegląd Bibljograficzno-Archeologiczny», t. II. Warszawa, 1881, № 13—14, s. 87; № 17, s. 229—231; Notatki archeologiczne Michała Federowskiego z okolic Słonima. Kurhany pod Wiszowem przez Zygmunta Glogera. «Pamiętnik fizjograficzny», t. II, 1882, s. 491—492. У рукапісным аддзеле БВУ (Сігн. 135-IV, т. II, вокл. 5) зберагаюцца археалагічныя нататкі Федароўскага пра курганы, урочышчы, могільнікі Ваўкавыскага,

Слуцкага, Ігуменскага, Гродзенскага, Слонімскага, Лідскага і Навагрудскага паветаў, некаторыя матэрыялы яго археалагічных раскопак у Ваўкавыскім павеце.

[18] ЦДзГА ЛССР, ф. 1135, воп. 10, адз. зах. 96, арк. 30. Ліст З. Глогера да Я.Карловіча ад 5 мая 1889 г.

[19] Życie i prace Jana Karłowicza. Warszawa, 1904, s. 68.

[20] Фальварак Косін у Ваўкавыскім павеце Міхал Федароўскі арандаваў з 1884 да 1895 г. У лісце да Рамана Завілінскага ад 15 красавіка 1895 г. ён пісаў: «Косін пасля больш чым дзесяцігадовага побыту хутка ўжо пакідаю; 27-га ж красавіка н. ст. пераношу адсюль мае шаты і пенаты ў Слонімскія краі, дзе нядаўна я ўзяў у арэнду на 12 гадоў багаты лугамі, лясамі і пашамі маёнтак Падоль, размешчаны над р. Шчарай, недалёка ад м. Дзятлава». Рукап. аддз. Ягелонскай бібліятэкі ў Кракаве, сігн. 6445-I, арк. 81.

[21] *M. Federowski.* Z. nad Niemna. W. ks.: Życie i prace Jana Karłowicza. Warszawa, 1904, s. 70.

[22] Рукап. аддз. БВУ, сігн. 129-IV, арк. 39—43. Трэці рэферат М. Федароўскага. Да 1914 г. І. Трачык працаваў інжынерам на нафтавых промыслах у Модрычы каля Драгабыча. У час першай сусветнай вайны жыў у Барыславе.

[23] Археалагічныя экспанаты М. Федароўскі дасылаў З. Глогеру ў Яжэва 15 гадоў (1877—1892). Рукап. аддз. Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве, сігн. 2942, арк. 1—4. Ліст да В. Шукевіча ад 13 ліпеня 1902 г.

[24] Як намі высветлена, у час Айчыннай вайны гэтыя матэрыялы ў Львове, на жаль, загінулі.

[25] Рукап. аддз. БВУ, сігн. 127-IV, арк. 18 і 20.

[26] Рукап. аддз. Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве, сігн. 2942.

[27] Рукап. аддз. БВУ, сігн. 127-IV, арк. 126—133.

[28] «Slavia Orientalis», 1957, R. VI, s. 219.

[29] М. Федароўскаму была прапанавана пасада супрацоўніка Этнаграфічнага музея ў Варшаве, але ён ад яе адмовіўся. З. Глогер пісаў Я. Карловічу 3 красавіка 1888 г.: «П(ан) Федароўскі станоўча прыняць вядомай пасады цяпер не можа. Але ці паведаміў пра гэта пану Камінскаму, я не ведаю. Мне ж ён тэлеграфаваў толькі пра гэта (г. зн. пра адмаўленне ад пасады.— **Я. С.**) і, відаць, лічыў, што я пабачуся з п. Камінскім. Я ж, атрымаўшы гэту дэпешу перад самым выездам з Варшавы, ужо не мог спаткацца асабіста з п. Камінскім і разлічваў, што п. Ф(едароўскі), які непасрэдна перапісваецца

з п. К(амінскім), не адкладваючы паведаміць і яму, як мецэнату гэтага месца. Што так сталася, гэта вялікая шкода для этнаграфічнай установы, і сам Федароўскі потым будзе аб гэтым шкадаваць і, напэўна, праз які-небудзь год, калі пераканаецца, што гаспадарка — не яго прызванне, захоча выправіць сваю памылку, калі гэта будзе магчыма, у чым даводзіцца сумнявацца». ЦДзГА ЛССР, ф. 1135, воп. 10, адз. зах. 96, арк. 24—25.

[30] «Wisła», t. III, 1889, s. 277.

[31] Навуковы архіў Польскага этнаграфічнага таварыства (Вроцлаў). Сігн. 1378. Канверт «Stroje. Ubiory».

[32] Гл. наш артыкул «Батлейкі, запісаныя М. Федароўскім». «Літаратура і мастацтва» ад 25 сакавіка 1966 г.

[33] *M. Federowski.* Imieniny Chodźki. O lekkomyślnem niszczeniu starych dokumentów. W. ks.: Księga pamiątkowa na uczczenie setnej rocznicy urodzin Adama Mickiewicza (1798—1898), t. II. [Warszawa], [1898], s. 12—19.

[34] Рукап. аддз. БВУ, сігн. 126-IV, арк. 18. Паведамленне Львоўскага этнаграфічнага таварыства пра абранне 1 чэрвеня 1896 г. М. Федароўскага ганаровым членам таварыства.

[35] *M. Federowski.* Lud białoruski, t. IV, s. VII.

[36] У лісце з Падоля 25 сакавіка 1898 г. М. Федароўскі пісаў Р. Завілінскаму пра трагічныя дні свайго жыцця: «Трохмесячная хвароба адразу чацвярых дзяцей, якая скончылася смерцю дзвёх найлюбімейшых дачак, шпіталь у доме, пастаянны неспакой, пахаванні, роспач, адрантвенне...» Рукап. аддз. Ягелонскай бібліятэкі ў Кракаве, сігн. 6445-1, арк. 97. Як паведаміў нам сын этнографа Мечыслаў, у Падолі памерлі дочкі Федароўскага Альдона і Данута і сын Адам.

[37] Ю. Такаржэвіч пісаў Я. Карловічу з Падоля 4/III 1903 г.: «Падоль пакіну ў пачатку красавіка, гэта значыць праз месяц. Да прычын расстацца з слаўным Міхалам Федароўскім далучылася толькі што галоўная: ён сышоўся з жонкаю. Тыдзень таму назад я заглядаў... у Кватары, маёнтак Гліндзічаў (пад Бераставіцаю, Палескай чыгункі), дзе д-р Адольф Бітнер далей развівае сваю цудатворную хірургічную практыку, якую так бліскуча пачаў дваццаць гадоў таму назад у Свіслачы (чарнарускай ці тышкевічаўскай). Сястрой д-ра Бітнера і ёсць пані Федароўская. Шчырая бескарыслівая размова са сваякамі памагла вырашыць галоўнейшыя непаразуменні, якія чатыры гады трымалі ў разлуцы пасвараных му-

жа і жонку». ЦДзГА ЛССР, ф. 1135, воп. 10, адз. зах. 111, арк. 270—271.

[38] Гл.: *Васіль Белаказовіч.* Юзаф Такаржэвіч. «Ніва» (Беласток), 1963, № 2-4.

[39] Рукап. аддз. бібліятэкі Польскай Акадэміі навук (ПАН) у Кракаве, сігн. 2269, арк. 226—227.

[40] *Там жа,* арк. 231. У гэтай жа паштоўцы ад 24/XI 1903 г. аўтар паведамляе Г. Лапацінскаму, што яго збор нататак пра Беларусь «запаўняе па берагі 15 глыбокіх шуфляд».

[41] Рукап. аддз. бібліятэкі ПАН у Кракаве, сігн. 2269, арк. 235. Ліст да Г. Лапацінскага ад 4 студзеня 1904 г.

[42] «Slavia Orientalis», 1957, R. VI, s. 220.

[43] ЦДзГА ЛССР, ф. 1135, воп. 10, адз. зах. 104, арк. 347—348.

[44] Рукап. аддз. БВУ, сігн. 129-IV. Трэці рэферат М. Федароўскага, стар. II—IV.

[45] «Записки наукового товариства імени Шевченка». Львов, 1899, т. XXVII, кн. I, рік VIII, стор. 44—48.

[46] *Е. Карский.* Новый польский труд по белорусской этнографии. «Известия ОРЯС», 1899, IV, стр. 352.

[47] Вядомы польскі мовазнавец Ян Развадоўскі, які быў рэдактарам II тома «Люду беларускага», пісаў Яну Карловічу 16 сакавіка 1902 г.: «Пачалі мы друкаваць Федароўскага», а 6 снежня 1902 г. паведамляў: «Другі том Федароўскага ўжо гатовы». ЦДзГА ЛССР, ф. 1135, воп. 10, адз. зах. 109, арк. 555 і 559.

[48] Archiv für slawische Philologie. Berlin, 1907, Bd. XXIX, S. 445—454.

[49] *Е. Карский.* Два новых сборника белорусских сказок. «Журнал Министерства народного просвещения». Спб., 1902, ч. CCCXXXXIII, № 10 (октябрь), стр. 426—433.

[50] Рукап. аддз. БВУ, сігн. 137-IV, т. I, вокл. 3, арк. 80.

[51] Гл. «Полымя», 1967, № 1, стар. 242—247.

[52] *Jan Michalski.* 55 lat wśród książek. Wrocław, 1950, s. 80—81.

[53] *Там жа,* стар. 80.

[54] *M. Federowski.* Zbiory graficzne Dominika Wittke-Jeżewskiego. Warszawa, 1913.

[55] У лісце ў Львоў да Цэцыліі Снягоцкай (снежань 1908 г.) М. Федароўскі просіць прысылаць яму «кніжачкі, якія датычацца Русі Літоўскай (культура, веразнаўства), этнагр(афія), антрап(алогія), геагр(афія), ста-

тыст(ыка)». Рукап. аддз. бібліятэкі імя Асалінскіх у Вроцлаве, сігн. 7194-II.

[56] 23 мая 1907 г. Федароўскі паведамляў Аляксандру Чалоўскаму: «Перыяд часу ад 20 чэрвеня да 15 ліст(апада) правяду здаля ад Варшавы, на Літве (Беларусі.— **Я. С.**)». А 17 верасня 1907 г. пісаў таму ж адрасату, што «на днях вярнуўся з летняга адпачынку на Літве». Рукап. аддз. Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве, сігн. 2775, арк. 44—45. К. Пшыбыслаўскаму Федароўскі паведамляў 2/XI 1913 г., што быў на Беларусі: «Побыт на Літве як дасюль не прынёс мне ніякіх матэрыяльных прыбыткаў. Прагляд двух вялікіх бібліятэк (Лісоўскіх і Керсноўскіх) забраў у мяне дужа часу, а для Тышкевічаў яны аказаліся цалкам непрыдатныя... Прывёз толькі адну-адзіную пачку з выкапанымі на застрэшшах дакументамі і звыш дзесятка новых падручнікаў для майго збору. Акрамя таго, некалькі соцень нататак пераважна звычаёвага зместу, якія, калі бог дасць жыць, будуць выкарыстаныя». Рукап. аддз. БВУ, сігн. 128-IV, арк. 333—335.

[57] *Там жа,* сігн. 126-IV, арк. 77.

[58] *Там жа,* сігн. 127-IV, арк. 54.

[59] Цэнтральны дзярж. архіў літаратуры і мастацтва БССР, ф. 3.

[60] *Там жа.*

[61] Рукап. аддз. БВУ, сігн. 127-IV, арк. 37. Ліст М. Янчука да М. Федароўскага ад 13 лістапада 1909 г. Як успамінае сын Федароўскага Мечыслаў, бацька вельмі радаваўся той высокай ацэнцы, якую даў яго працы Янчук. Хоць Г. Казэрская сцвярджае, што Федароўскі ўдзяляў Янчуку рукапісныя матэрыялы (гл. «Slavia Orientalis», 1957, R. VI, s. 220), дакументальна гэта пакуль што не пацверджана. У архівах Масквы, дзе захоўваецца спадчына Янчука, намі гэтыя матэрыялы не выяўлены.

[62] Рукап. аддз. БВУ, сігн. 127-IV, арк. 40—41, 62 і інш.

[63] ЦДзГА ЛССР, ф. 1135. Лісты М. Федароўскага да Уладыслава Загорскага.

[64] Рукап. аддз. Цэнтральнай бібліятэкі АН Літоўскай ССР, F 151—314.

[65] Рукап. аддз. бібліятэкі ПАН у Кракаве, сігн. 2269, арк. 244.

[66] Z galeryi typów i oryginałów litewskich. 1. Archeolog zaściankowy Imć pan Wińcza. «Ziemia», t. II, 1911, s. 800—801; Prużana i jej okolice, s. 766—767; Zygmunt Gloger,

s. 714—715, 730—731, 746—747, 762—763, 778—779,794—796, 818—820, 834—840; Witebsk i Witebszczyzna, t. III, 1912, s. 454—456, 473—475, 492—493, 516—518, 538—539, 558—559, 588—591, 602—604, 629—631, 659—662, 685—687, 700—701, 716—718, 749—750, 763—765, 795—797; Mickiewicze na zaścianku. Z galeryi typów i oryginałów litewskich, s. 10—12, 26—28, 42—44; Zamek w Dowspudzie (Dwory, zamki i pałace), s. 56—57; Zbiory graficzne Dom. Wittke-Jeżewskiego w Głębokiem, s. 452—453, 468—469, 483—485, 500—502, 521—523, 563—564, 581—583, 599—601, 616—619, 644—647, 676—679, 692—694, 746—748; Z nad napoleońskiego szlaku. Powiat Lepelski. «Wieś i Dwór», 1912, z. 10, s. 5—8; Leon hr. Potocki, jego życie i prace literackie. «Kwartalnik litewski», t. VI, 1911, s. 119—160.

67 Ліст Ю. Талька-Грынцэвіча да М. Федароўскага ад 29 красавіка 1912 г. Рукап. аддз. Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве, сігн. 2678, арк. 10—11.

68 Рукап. аддз. БВУ, сігн. 135-IV, т. II, вокл. 11.

69 У студзені 1922 г. Федароўскі пісаў арыенталісту Я. Гжэгажэўскаму: «З 1-га верасня мінулага года я працую штатным службоўцам Мін(істэрства) асветы ў Антрапалаг(ічным) інстытуце Варш(аўскага) навук(овага) тав(арыства) ў аддзеле беларускай этнаграфіі. Таварыства абавязалася выдаваць штогод па два тамы мае «Русі Літоўскай». Мне тут болей чым добра, словам, адчуваю сябе як у раі. Відаць, гэта ўжо апошні этап майго жыцця. Бібліятэку і ўвогуле ўсе свае зборы я ахвяраваў Таварыству». Рукап. аддз. бібліятэкі ПАН у Кракаве, сігн. 4608.

70 *M. Federowski.* Panowie i ich poddani na Rusi litewskiej. «Ziemia», t. VII. Warszawa, 1922, s. 177—185.

71 Рукап. аддз. БВУ, сігн. 129-IV. Восьмы рэферат М. Федароўскага.

72 Мар'ян Абрамовіч (1871—1925) нарадзіўся ў Цверы, вучыўся ў гімназіі і універсітэце ў Маскве. Некалькі разоў нелегальна пераходзіў граніцу, выдаваў кнігі на польскай мове за мяжою; сядзеў у Пецярбургскай турме, быў у ссылцы ў Верхаянску. Некаторы час жыў на Навагрудчыне. У 1892 г. надрукаваў беларускую гутарку «Дзядзька Антон», добра ведаў беларускую мову, быў шчырым сябрам Федароўскага. Падрабязней пра яго гл.: «Przegląd Wileński», 1925, № 1, стар. 5—6; *С. Александровіч.* Гісторыя з «Дзядзькам Антонам». «Літаратура і мастацтва» ад 4 жніўня 1961 г.; БелСЭ, т. I, стар. 35.

[1] Рукап. аддз. БВУ, сігн. 133-IV.

[2] «Я прысутнічаў на некалькіх вяселлях»,— зазначаў М. Федароўскі ў нататках да беларускіх вясельных абрадаў. Рукап. аддз. БВУ, сігн. 135-IV, т. I, вокл. 6, арк. 43.

[3] *Там жа,* сігн. 129-IV. Чацвёрты рэферат М. Федароўскага, арк. 2.

[4] *Там жа,* арк. 2 (адварот).

[5] *Там жа,* арк. 4.

[6] *Там жа,* сігн. 133-IV, т. I, арк. 3, стар. 4.

[7] У лісце з Вішава 22 жніўня 1894 г. К. Гнаінскі паведамляў: «З прыемнасцю чакаю ласкавага прыбыцця; спявачка, думаю, таксама знойдзецца». Рукап. аддз. БВУ, сігн. 127-IV, арк. 144. У гэтай жа сігнатуры (арк. 145) знаходзіцца ліст Пятра Гнаінскага, відаць, брата Канстанціна, які таксама запрашае Федароўскага прыязджаць. «Што ж датычыцца спявачак,— піша П. Гнаінскі,— то хоць і не ведаю ніводнай, якая б добра і многа спявала, але думаю, што знойдуцца некалькі дзяўчат, якія змогуць што-кольвечы заспяваць, хоць з жалем магу паведаміць, што з кожным годам народныя песні знікаюць, а на іх месца паяўляюцца песенькі салдацкія». *Там жа*, арк. 176—177. Мешчанін з Зеляневіч каля Поразава К. Перашчака 24 жніўня 1903 г. паведамляў, што ахвотна будзе збіраць у сялян тканіны і, каб не перасылаць поштаю, даставіць у Падсль сам. Праз тры месяцы, 21 лістапада 1903 г., ён піша этнографу, што перасылае люльку, прывезеную з Севастопальскай вайны, камень і 17 кавалкаў розных тканін мясцовага вырабу і гаворыць, што калі трэба, то дастане яшчэ, бо збіранне тканін у сялян не патрабуе «ніякай навуковай дасведчанасці». *Там жа*, арк. 178—179.

[8] Рукап. аддз. БВУ, сігн. 135-IV, т. II, вокл. 9.

[9] *Там жа.*

[10] Гл. напрыклад, *В. К. Бандарчык.* Еўдакім Раманавіч Раманаў. Мн., 1961, стар. 38; *яго ж.* Гісторыя беларускай этнаграфіі XIX ст. Мн., **1964, стар. 272.**

[11] Гл. у «Людзе беларускім»: навелістычна-сатырычную казку «Як лёкай пана абшукаў» (т. 3, № 227, стар. 127—128); анекдатычную казку, дзе высмейваецца махлярства ксяндза «Як кошка святому духу голаў ад'ела» (т. 3, № 324, стар. 173); сатырычную казку «Ксёндз заміж д'ябла» (т. 3, № 329, стар. 175—176), анекдот «Споведзь

